# ПОЛЫМЯ

# 9

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(899)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

2004

верасень

Галоўны рэдактар
Мікола МЯТЛІЦКІ

Рэдакцыйны савет:

Уладзімір МАРУК,
намеснік галоўнага рэдактара

Андрэй ФЕДАРЭНКА,
загадчык аддзела прозы

Вадзім СПРЫНЧАН,
загадчык аддзела паэзіі

Казімір КАМЕЙША,
загадчык аддзела крытыкі і літаратуразнаўства

РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2004

## ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**© «Полымя», 2004**



ТАМАРА КРУЧЭНКА

# ЯК СВЕДКА СІВОЙ ДАЎНІНЫ

Сёлетняй вясною, у красавіку, зноў наведала Тураў. Была чарговая камандзіроўка на Палессе падчас візіту ў Жыткавіцкі раён Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Пераязджаючы мост цераз Прыпяць, з якога адкрываецца цудоўная панарама, мы з калегамі, журналістамі Гомельскага тэлебачання, не маглі не прыпыніцца, не палюбавацца прыгожым разлівам вялікай ракі. Блакітныя яе воды было не акінуць вокам, і так стасавала да іх зяляніна вербалозаў. Удалечыні бачыліся абрысы самога пасёлка — радзімы епіскапа Кірылы Тураўскага, аўтара шматлікіх павучэнняў і малітваў, знакамітага паэта і філосафа, прапаведніка, кананізаванага пасля смерці. І дух захоплівала ад адчування гістарычнай важкасці гэтага куточка Палесся, дзе і сапраўды ў сівую даўніну быў магутны падмурак нашай дзяржаўнасці, духоўнасці, цэнтр хрысціянства, зараджэння пісьменства і летапісання. Едучы вуліцамі пасёлка, мы радаваліся прыкметам яго абнаўлення: добраўпарадкаваным вуліцам, сімпатычным агароджам, пафарбаваным фасадам будынкаў. Адчувалася, што Тураў няспешна, як сапраўдны гаспадар, рыхтуецца да агульнарэспубліканскага свята — Дня беларускага пісьменства, што пройдзе тут 5 верасня. Такім чынам, зноў будзе аддадзена належнае сталіцы колішняга Тураўскага княства, якая ўпамінаецца ў старажытным летапісным зводзе «Повесть временных лет» яшчэ ў 980 годзе.

Тураў, на думку некаторых даследчыкаў, узнік як эканамічны і культурны цэнтр дрыгавічоў. У канцы першага тысячагоддзя новай эры стаўся эканамічным і культурна-рэгіянальным цэнтрам Тураўскага княства. Першым летапісным князем з'яўляецца Тур, а першым верагодным — Святаполк Акаянны (988—1015), пасля яго Яраслаў Мудры ўключае княства ў склад Кіеўскай Русі. У 1052 годзе княства аддадзена Ізяславу Яраславічу, у 1073 годзе перайшло да Усевалада Яраславіча, у 1076 годзе зноў пераходзіць да Ізяслава, а з 1078 года да яго сына Яраполка.

У бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ёсць выдатны дакумент — Тураўскае Евангелле, якое сведчыць, што ў Тураве ў X—XI стагоддзях вялося перапісванне царкоўных кніг.

Златавуст зямлі беларускай, Кірыла Тураўскі, калісь пісаў: «Салодка мядзвяны сот, і добра цукар, абодвух лепей кніжныя веды: таму што яны — скарбонка жыцця».

Сёння землякі выдатнага асветніка сваёй творчасцю пацвярджаюць спаконвечную шчодрасць гэтай зямлі на таленты. З пачатку XIV стагоддзя Тураў знаходзіцца ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У XV стагоддзі ва ўладанні князя Свідрыгайлы, а пасля яго смерці перайшоў да князёў Астрожскіх. У сярэдзіне XVI стагоддзя адышоў да каронных уладанняў у складзе Трокскага, а пазней Берасцейскага ваяводстваў.

Гарадзішча старажытнага Турава месціцца на выспе пры ўпадзенні ракі Язды ў пратоку Прыпяці — Струмень, мае форму трохкутніка. Умацавана равамі і валамі. Вал падзяляе гарадзішча на дзядзінец і вакольны горад.

Тураўская зямля — радзіма паэта Паўла Шруба і кампазітара Уладзіміра Будніка. Менавіта Тураву прысвяціў У.Буднік песню, якую напісаў на вершы свайго земляка. Песня гэта, урачыстая і ўзнёслая, неаднойчы гучала над хвалямі Прыпяці і сталася своеасаблівым гімнам старажытнага горада.

Заўсёды з вялікай прыязнасцю згадваю рэдактара жыткавіцкай раёнкі, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Гаўрыловіча. Яго па-палеску ўзважаная, вывераная проза ад зямлі. Сюжэты — з аповедаў дзядулі, землякоў, уласнымі вачыма бачанага і перажытага. Таму і такая непадробная цікавасць да твораў У. Гаўрыловіча з боку землякоў: у героях кніг пісьменніка людзі пазнаюць сябе, сваё жыццё, мову свайго краю. Вось і да Дня беларускага пісьменства У. Гаўрыловіч рыхтуе падарунак, кнігу тураўскіх легенд і паданняў. Да таго ж, Уладзімір шмат робіць для падтрымкі іншых таленавітых землякоў як на старонках раённай газеты, так і пішучы прадмовы да іх першых кніжак.

А да зборніка паэзіі тураўчан Кацярыны Паповай і Віктара Папка «Дрэва вернасці», што выйшла ў 2003 годзе, Гаўрыловіч напісаў сардэчнае, прачулае слова. «Кацярына Папова і Віктар Папок (яна — вырасла тут, у недалёчкай ад Турава Верасніцы, ён — выхоўваўся з малых гадоў у жыткавіцкай частцы раёна, у вёсцы Вятчын за Князьвозерам, але ўсё адно, лічы, нарадзіліся і дагэтуль жывуць у адным куточку) перакананы: шчасце можна знайсці і ў краях «заморскіх», аднак сапраўднае шчасце — толькі на бацькоўскай зямлі. Гэта якраз і ёсць тое, галоўнае, што аб'ядноўвае іх не толькі ў гэтым паэтычным зборніку, але і ў жыцці. Сумесным жыцці, якое пачалося немаладзёнамі, калі абодва прайшлі праз немалыя жыццёвыя выпрабаванні. Відаць, так было трэба, каб Бог звёў пад адным дахам двух паэтаў, паяднаў іх душы і сэрцы...»

Родны Тураў — вельмі часта згадваецца ў вершах Кацярыны Паповай:

Над Прыпяццю мілай,
Над Тураўскім краем,
Як птах белакрылы,
Песня ўзлятае.

І гэтая істотная, непаказная любоў да Бацькаўшчыны паклікала Кацярыну Папову ў час прыезду Прэзідэнта нашай краіны А. Р. Лукашэнкі ў Тураў на сустрэчу з ім на цэнтральнай плошчы гарадскога пасёлка. Слухаючы выступленні некаторых сваіх землякоў, якія выказ-

валіся наконт саліднай дзяржаўнай падтрымкі аднаўлення Турава, паэтэса не стрывала, папрасіла слова. І сказала, што многае тураўцы здатныя зрабіць самі, трэба толькі пазбыцца настрою заспакоенасці, зімовай спячкі, трэба памятаць пра адказнасць перад славутымі землякамі.

Кіраўнік дзяржавы тады ўпершыню наведаў Тураў і быў узрушаны велічнасцю Замкавай гары, усклаў кветкі да помніка Кірылу Тураўскаму, цікавіўся, якія яшчэ скарбы ўтойвае гэта зямля. Загадчыца аддзела абласнога краязнаўчага музея Таццяна Літвінава пазнаёміла Прэзідэнта з макетам збудаванняў і ўмацаванняў старажытнага горада, расказала, што на гарадзішчы, якое ўнесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, ёсць рэшткі праваслаўнага храма XII стагоддзя. Тут будуць падоўжаны археалагічныя раскопкі. А ў самім пасёлку знаходзяцца Барысаглебская царква XX стагоддзя, Усясвяцкая царква XIX стагоддзя, гісторыка-краязнаўчы музей.

А. Р. Лукашэнка ў час той красавіцкай сустрэчы падтрымаў ідэю старшыні Гомельскага аблвыканкама Аляксандра Серафімавіча Якабсона пра стварэнне ў Тураве культурна-турыстычнай зоны, якая стане адным са звенняў «Залатога кальца Гомельшчыны». Ужо сёння шматлікія рэлігійныя паломнікі прыязджаюць у пасёлак, каб дакрануцца да каменных тураўскіх крыжоў (старажылы сцвярджаюць, што на Барысаглебскіх могілках пад такім крыжам і знайшоў спачын вялікі Кірыла Тураўскі). З году ў год пашыраецца цікавасць і да Нацыянальнага парку «Прыпяцкі» — прыхільнікі экалагічнага турызму з далёкага замежжа аблюбавалі гэты запаведны куточак Палесся.

Тураўскі народны хор — жамчужына спеўнай культуры Тураўшчыны — вітаў на Замкавай гары Прэзідэнта краіны. Далёка над прасторамі Прыпяці гучалі словы землякоў:

З пяшчотай вецер хвалі ўдаль
качаў,
Кірыла шлях у жыццё тут пачынаў...
І словам мудрым, цёплым, як зямля,
Жыві, красуй ты, Беларусь мая!

У наступным годзе калектыў адзначыць сваё 60-годдзе. Дарэчы, слынны Тураў і вядомым далёка адсюль народным ансамблем танца «Прыпяць», якому ўжо сорак гадоў. Няўрымслівы яго стваральнік і кіраўнік Мікола Кананавіч Котаў часта наведваецца на радзіму са сталіцы. Цяпер — з клопатам пра чарговы Дзень беларускага пісьменства, жаданнем зрабіць новыя пастаноўкі танцаў, правесці рэпетыцыі дзіцячага тэатра «Дрыгавічы» пры СШ № 2.

«Палессе — пупавіна нашай зямлі, тут сапраўдныя беларусы нараджаюцца», — падкрэсліў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка ў час шмат-дзённага візіту на Гомельшчыну. Як з гэтым не пагадзіцца!



▸ ТАІСА БОНДАР

# «НЕБА ЗЗЯЕ ВА ЎСМЕШЦЫ ДУШЫ...»

* * *

Хвалі ветру на хвалях лістоты
Абганяюць натомлены дзень,
Пакідаючы ззаду самоту.
Толькі цені вакол... Толькі цень!

Так, бы ноч і чакала на ўзгорку
Першых ціхіх уздыхаў галін,
Каб замесці сляды адвячорка
І ў аблоках, і тут, на зямлі.

Ні святлінкі ўгары, між аблокаў,
Ні агеньчыка ў цёмным акне,
Што не чуе ні хваляў, ні крокаў,
Ні ўспамінаў, давераных мне.

Хвалі ветру — высока над намі,
Паміж намі — сцяна цішыні...
Што́ ўспаміны душы ці прызнанні,
Як такія кароткія дні?

Сонца ўзыдзе — і ноч на парозе,
Дзень міне — а ці ўзновіцца рух?
Зноў гукаю былому, ў трывозе
Не за круг, а за ўвязнены дух.

* * *

Палотнішча неба скамечана ветрам —
Ніводнага знаку не ўгледзець з зямлі,
З дарогі, застылай на тым кіламетры,
Дзе ранак тугу па Бязмежжы разліў.

Тугу, ці трывогу... Пад тоўшчай аблокаў
Не ноч пахавана, а зорны абшар.
Дажджыць і дажджыць...
А да дома далёка.
І дзе ён, той дом, які помніць душа?

Каб знак угары, на палотнішчы шэрым!
Каб след на пяску ці на мокрай траве!
А я ўсё тапчуся па згубленай веры
У стрэчу са светам, дзе радасць жыве.

Прадказана стрэча — я ведала гэта
Калісьці даўно, шмат стагоддзяў назад,
І, значыцца, марна спрачаецца з ветрам
Дарога ўспаміну праз восеньскі сад.

* * *

Губляе сілу слова — і душа
Пакутуе ад горкага бяссілля
Прад тым, хто змалку воляй спакушаў,
Увёўшы ў зман і адабраўшы крылле.

Што ж, сатана на тое й сатана,
Каб спакушаць, падманваць і смяяцца.
Ён знае: ёсць сцяна, і ёсць цана
За кожнага пакутніка й паяца.

Пакутнік мкнецца разламаць сцяну,
Паяц высмейвае яго работу,
Але ні першы, ні другі цану
Не вызначае ні ў жыцці, ні потым...

І ўсё ж душа вышэй за гэты торг,
Не сёння і не з ёю распачаты,
Калі не словы, а Любоў і Бог —
У ёй, гатовай да любое страты.

Любоў і Бог... У горычы жыцця
Знікае не Святло, а промнік веры,
Слабой, каб выткаць сонечны працяг
І, акрыліўшы шлях, прагнаць хімеры.

* * *

Госпадзе, не пакідай мяне
У маім жаданні ўзвесці хорам —
Храм Любві! — дзе Сонцам у акне
Воблік Твой высвечвае прастора.

Не ў акне, канечне ж, — у Святле
Дня ці ночы, вечара ці золку:
Ні адзін праменьчык не сатлеў,
Ціха разгараючыся ў зорку.

Ні адзін не ўмёрз у небасхіл
Цяжка перажытае пакуты,
Ні адзін не знік сярод магіл,
Да былога спомінам прыкуты...

Зазірну ў душу: усе як ёсць
Ззяюць, выпраменьваючы сілу, —
Што ж так роспачна страчаю злосць
Тых нябогаў, за каго прасіла?

Госпадзе, не абмінай і іх
У дасюль не зжытай імі злосці:
Не ўяўляю Храм Твой і на міг
Апусцелым, цёмным для кагосьці!

* * *

Згадка пра шчасце — кропля нектару
Беднаму сэрцу...
Больш не пужае цёмная хмара
Вогненным веццем.

Больш не плюецца вецер у вокны
Лісцем намоклым.
Сэрца гукае сцежцы далёкай,
Зоркам далёкім.

Там яно, шчасце, за небакраем,
За навальніцай,
Трэба гукаць, покуль цем выгарае,
Трэба маліцца.

І адгукнецца Неба на кліч мой,
Выкаціць поўню,
Тысячы поўняў — хто іх падлічваў?
Хто іх запомніў?

Помню нямнога: зорак мігценне,
Пространь самоты,
Рух (ці палёт?) праз яе летуценні,
Шчасце палёту.

Шчасце!..

* * *

Крокі смерці... Крокі Перамогі...
Век, зламаны папалам, мінуў.
Не мінулі зжытыя трывогі,
Не прышэрхлі ўзгадкі пра вайну.

І цяпер то ў сненні, то ў гаворку
Урываюцца гуканні тых,
Хто й па смерці, хоць фанернай зоркай,
Мкнулі ў высь, і ў песні маладых.

Песні не змаўкалі, не змаўкаюць!
Дзынкне абарваная струна —
І балюча адгукнецца памяць:
Там вайна... там страшная вайна...

* * *

Золак вогнішча падварушыў?
Сон ізноў заблудзіўся між зорак?
Неба ззяе ва ўсмешцы душы,
Амываючы ззяннем прастору.

І прастора ўсплывае, плыве,
Не знікаючы ў далечы цёмнай, —
Незнаёмы, загадкавы свет
Паўстае спаконвечна знаёмым.

Не Зямля і не Неба, а сад —
Зорны сад! — закалыхвае Вечнасць.
Светла там, дзе бруіцца пагляд,
Светла там, дзе палае сінеча.

І, здаецца, спявае агонь,
І, здаецца, танцуюць аблокі
(Ці Анёлы?) ў адбітках яго,
І да шчасця зусім недалёка.

Міг-другі — і на ўскрайку цішы
Я прадоўжу іх сонечны танец:
Сонца ззяе ва ўсмешцы душы,
Залiваючы ззяннем чаканне.

* * *

Вялікдзень... Радуецца сэрца
Яшчэ адной спадзеўцы дня
На шлях, з якім не размінецца,
На шлях і добрага каня.

Імчыць той, Сонцам асядланы
І горды вершнікам сваім,
З вясны ў вясну, і крыж драўляны —
Як крылы пространі над ім.

Хрыстос ускрэс! — і гэтаява.
Сцінаецца ва ўзмаху ўздых.
І Сонца — ўсе Яго выявы —
На ўсплёсках крылаў залатых.

* * *

Восень зноў прыўзняла паранджу,
Атрасаючы шэрань і слоту, —
Зазіхцелі, зіхцяць пазалотай
Цені клёнаў у лужах дажджу.

Зазіхцелі, цвітуць аблачыны
На сцяблінах-струменях святла,
На лісці, што віхор распатлаў
І развеяў над волкай лагчынай.

Дзень-другі — і прышэрхне лісцё
Пад нагамі ў старой гаспадыні:
Неба ззяе, а сінь ужо стыне,
Клён гарыць — а галлё, як асцё.

Ды не хочацца думаць пра тое,
Што азвецца праз некалькі дзён:
Думкі ціха пагойдвае звон
Залатога, як ранак, спакою.

* * *

Ні пекла не знаем, ні раю,
А верым, што мы — не рабы,
Хоць веры той век не спрыяе,
І гэты наш век, і любы!

Якая ў тым воля, каб прагна
Глядзецца ў люстэрка быцця,
А з побыту дзён, нібы з багны,
Не выцягнуць сцежку жыцця?

Якая ў тым вера, каб сэрцам
Пад гнётам трывог ачарсцвець?
Хто плача, хто п'е, хто смяецца,
Страчаючы ўласную смерць.

І не, каб нарэшце даўмецца,
Што вольны адно толькі дух,

Адкрыты і смерці й бяссмерцю,
Пакуль не завершаны круг.

Завершыцца ж круг —
і Бясконцасць
Яго разарве, як ланцуг,
Каб ззяць мірыядамі сонцаў
У высі, дзе прастрань і дух.

* * *

Час Антыхрыста не праміне?
Скрозь і кожнаму з ім сутыкнуцца?
Знаю, знаю: даверуся думцы —
Гэта думка раздушыць мяне.

І таму ўдзень і ўночы малюся,
Як умею: без слоў і без слёз.
Толькі б збыўся не вырак, а лёс,
Толькі б Сонца заззяла над Руссю!

Не Расіі ж спазнаць, а Русі
Гонар лідэрства ў свеце і ў духу —
Тут і радасць спадзеўкі, і скруха
Тых стагоддзяў, што час накасіў.

Што мы выберам? Скруху? Спадзеўку?
Смерць ад новай якойсьці чумы?
Важна памятаць: выберам — мы!
Насупор бездухоўнаму веку!

* * *

Вечарэе ў душы. І касцёр
Не раскласці, каб неяк сагрэцца
У даўно абязлюдзелым свеце
Успамінаў і вымерзлых зор.

Вечарэе... Ужо не паспець
Здзейсніць тое, што здолела б здзейсніць,
Абмяняўшы жыццё не на смерць,
А на волю і вольную песню.

Хоць пра што я? І час яшчэ ёсць,
І на песню няма забароны,
І душа на Зямлі толькі госць,
Не староннні, і ўсё-ткі староннні.

Ёй няўтульна, бо помніць прастор
Наднябеснай — духоўнай! — Айчыны

І маркоціцца не без прычыны
Тут, між згадак і вымерзлых зор.

* * *

Клубок людскіх няшчасцяў
У кожнага ў руках:
Шал бессаромнай жарсці
Змяняе ліпкі страх.

Нязжыты страх бяссонне
Выпальвае датла,
Каб дзень яго не ўспомніў
Пад ператок святла.

Ды дню — страчацца з ноччу,
Святлу ўмярзаць у змрок...
Хто з нас, бяздумных, хоча
Засвойваць гэты ўрок?

Хутчэй ужо заплацім
Спакоем, сном — жыццём! —
За прагу да багацця,
За гульні з пачуццём.

Каму ў жыцці прапасці,
Каму не зжыць нягод...
Клубок людскіх няшчасцяў
Цяжэе з году ў год.

* * *

Пасвечаных у таямніцу свету —
Адзінкі на працягу ўсіх часоў,
Жыццё ж ідзе і, згодна запаветам,
Не выракаецца сваіх асноў.

І зноў гукае да сябе адважных,
І зноў расквечвае спадзеўкай рух.
Ці варта жалкаваць аб недасяжным,
Як хараство ва ўсім, ва ўсім наўкруг?

Цвітуць нябёсы, студзяць бег дарогі,
Струменяць вецер, гушкаюць буслоў...
Хай з году ў год не менее трывогі,
Не менее і цудадзейных сноў.

І сноў, і слоў, з якіх спадзеўка тчэцца,
Ярчэючы шторанак пакрысе.
І верац не трывозе, а спадзеўцы,
Спадзеўцы светлай, як вядзецца, ўсе.



**АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ**

# ТЫПОГРАФ ГРЭЧАСКІ І СЛАВЯНСКІ

***Гістарычная драма***

Час падзей 1536—1583 гг.
Месца падзей: Вільня, Масква, Заблудаў, Львоў, Астрог, Дрэздэн.

**Дзейныя асобы:**

Скарына Францішак — асветнік і друкар усходнееўрапейскі.
Хведаровіч Іван — тыпограф грэчаскі і славянскі.
Аскліада — яго жонка.
Іванка — іх сын.
Мсціславец Пётра — паплечнік Скарыны і Хведаровіча.
Жыгімонт Аўгуст — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага.
Аўгуст — курфюрст саксонскі.
Астрожскі Васіль Канстанцін — князь, ваявода кіеўскі.
Хадкевіч Рыгор — князь, гетман найвышэйшы Вялікага княства Літоўскага.
Курбскі Андрэй — князь, ваенны і палітычны дзеяч Масковіі.
Будны Сымон — асветнік, гуманіст, кнігавыдавец.
Цяпінскі Васіль — асветнік, гуманіст, кнігавыдавец.
Арцемій — манах.
Рымша Андрэй — ваяр і паэт.
Сямён Каленікавіч (Сямён Сядляр) — купец.
Даніла Кеніг — галоўны гарматчык Львова.
Цырымоніймайстар.

## ПРАЛОГ

Вільня, 1536 г.

Заслона адкрываецца.
На суперзаслоне выява сілуэта Вільні і дата. *(Такія ж суперзаслоны з выявамі месца і часу дзеі даюцца перад кожнай з дзевяці карцін.)*

Паўпустое памяшканне. Дзверы злева. Вокны справа. Насупраць сцяна з выхаднымі дзвярамі на другую палавіну памяшкання. Каля сцяны шырокая лаўка. На ёй вузлы, клункі, стосы звязаных кніг, падрыхтаваных у дарогу. Паміж вокнамі моцны стол. На ім Францішак Скарына (яму 46 гадоў) сартыруе і перавязвае тонкай вяроўкаю стосы кніг. Уваходзіць Пётра Мсціславец (яму 32 гады).

Мсціславец. Ён ужо тут... з жонкаю.

Скарына (*здзіўлена*). Ты ж казаў, што ён да мяне з дзелавой размовай... Якая яшчэ жонка?

Мсціславец. Ягоная... і дужа прыгожая... Кажа, толькі ўчора павянчаліся. Відаць, баіцца, каб нехта не ўкраў прыгажуню, з сабой узяў...

Скарына (*не адрываючыся ад занятку з кнігамі*). Мог бы папытацца, што яму трэба. Сам бачыш, не ўсё яшчэ падрыхтавана ў дарогу.

Мсціславец. А то я не пытаўся? Нават даць хацеў ад варот паварот, а ён кажа: скажы доктару, што ў нас з ім адна альмаматэр... Ну і жонку не хацелася крыўдзіць.

Скарына. З гэтага б і пачынаў. Кліч! Яны мне не перашкодзяць...

Мсцілавец выходзіць і вяртаецца з Хведаровічам і Аскліадай (яму 26 гадоў, ёй 16).

Хведаровіч (*крыху разгублена*). Добрага ранку слаўнаму доктару... І даруйце, што мы...

Скарына. Не губляйце часу на цырымоніі. Я вітаю вас... і будзем знаёміцца...

Хведаровіч. Іван, або Янка Хведаровіч... А гэта мая жонка...

Аскліада. Аскліада.

Скарына. Імя рэдкае, прыгожае, біблейскае. А вы, паважаны жаніх, маеце не толькі добры густ, але і вельмі пекную спадарожніцу жыцця. Сябра мой Пётра кажа, што вы да нас амаль не з-пад вянца, так што віншуем і жадаем любові і шчасця на многія гады.

Аскліада. Дзякую, доктар!

Хведаровіч. Шчыра дзякуем!

Скарына. Сядайце і да справы... Перад дарогаю я, як бачыце. (*Паказвае на вузлы, клункі, кнігі.*) Дальняй дарогай... А пра Ягелонскі універсітэт успомнім. Шчаслівыя гады... Які факультэт канчалі? Калі?

Хведаровіч. Багаслоўскі. У 1532-м.

Скарына. Святар? Ксёндз? Паляк ці ліцьвін?

Скарына. І не святар, і не ксёндз. Ліцьвін... з Петкавічаў, што пад Наваградкам. Пасля сканчэння універсітэта падарожнічаў па Еўропе. Вывучаў кніжную справу, сам друкаваць вучыўся, літары ліць ды іншае.

Скарына. У каго вучыліся?

Хведаровіч. Спачатку ў Фларыяна Унглера ў Кракаве, потым у друкарні Мацея Шарфенбергера, Іераніма Віетора.

Скарына. Не дрэнныя майстары. Не дрэнныя.

Хведаровіч. Мне асабліва пашэнціла ў друкарні Унглера — яе фундатарам і апекуном паэтаў і вучоных на той час быў кракаўскі ваявода Пётра Кміта. У нас з ім аказаўся адзін шляхецкі герб «Шранява».

Скарына (*крыху здзіўлена*). Малады чалавек з роду Пятра Кміты?

Хведаровіч. Не, я з роду Рагозаў герба «Шранява».

Скарына. Чуў пра слаўны род Рагозаў... Чуў... І пра поспехі друкарні Унглера ведаю... У Нямеччыне, Італіі ўдалося пабыць?..

Хведаровіч. Удалося. Але я там больш займаўся лацінаю і грэчаскай мовай. З літаратурай духоўнай і свецкай, асабліва славянскай, знаёміўся. Добра ведаю вашы кнігі. Ва ўсіх еўрапейскіх кніжных зборах яны ёсць.

Скарына. Выдаўцу прыемна чуць гэта.

Хведаровіч. А нам надзвычай прыемна пазнаёміцца са знакамітым друкаром і асветнікам.

Скарына (*смяецца*). О, як гучна... Але ж вы, відаць, хацелі мяне бачыць не толькі дзеля таго, каб камплімент сказаць?..

Асклiада. Так, так, слаўны доктар! Нам вельмі трэба ваша парада, каб не нарабіць глупства. Але ты лепш сам, Яначка...

Хведаровіч. Справа ў тым, доктар, што я рашыў стаць першадрукаром у Масковіі, як вы сталі ў нашай Літваніі.

Асклiада. І ваша думка для нас будзе вырашальнай, хоць сам ён перакананы, што лепш быць першым у мястэчку, чым апошнім у горадзе.

Скарына (*весела смяецца*). Сапраўды, далібог, сапраўды.

Хведаровіч. І ў вас пад нагамі блытацца не хочацца.

Асклiада. Ваша тут дзялянка, шаноўны доктар, вам яе і ўрабляць.

Скарына. Ну, гэта калі смехам-жартам, а калі ўсур'ёз, бакалаўр Хведаровіч, чаму раптам Масковія?..

Хведаровіч. Бо проста дзіўна, каб такая дзяржава, якая сябе царствам назвала, да гэтага часу сваёй друкаванай кнігі не мела.

Скарына. Многія дзяржавы, княствы, каралеўствы іх яшчэ, на вялікі жаль, не маюць.

Хведаровіч. Масковія — асобы выпадак. Ад яе цемнаты і неасвечанасці і нашай дзяржаве адны беды і напасці.

Асклiада. Яначка лічыць, і я з ім згодная, што мелі б маскалі, і людзі простыя, і цар з баярамі кнігі добрыя і разумныя, а найперш святыя, і самі б паразумнелі, падабрэлі і, можа б, не ваявалі нас бесперапынна ды яшчэ ў хаўрусе з татарамі, не чынілі б такіх нялюдскіх злачынстваў на нашай зямлі.

Скарына. Калі я раскажу вам пра свой друкарскі досвед пра Маскву, то, баюся, адмовіцеся вы ад сваёй задумы...

Асклiада. Вы яго яшчэ не ведаеце...

Хведаровіч (*строга*). Асклiада!..

Асклiада (*вінавата*). Даруйце...

Скарына. Справу вы задумалі настолькі сур'ёзную, наколькі і небяспечную ды яшчэ і неабходную. А цяпер пра мой досвед, каб вы мяне толькі паслухалі, а рашэнне самі прынялі.

Гадоў дзесяць таму паехаў я на Маскву з друкарскім начыннем, станком, папераю ды кнігамі, якія ўжо меў. Кнігі меркаваў прадаць, і тым часам друкарскую справу распачаць. Але кнігі мае там адразу былі аб'яўлены «герэтычнымі» і разам з друкарняй спалены. Спалілі б ці ўтапілі і самога, каб не збег я цёмнай ноччу, усё кінуўшы. Не паслухаў разумнага чалавека, з якім сустрэўся да гэтага ў Іосіфа-Валакаламскім манастыры, прыкутага ланцугом да сцяны келлі. Гаворка пра філосафа, асветніка, перакладчыка Максіма Грэка. Пазнаёміліся мы з ім у Фларэнцыі, калі ён збіраўся ў Маскву ехаць Святое Пісьмо з грэчаскай мовы на царкоўнаславянскую перакладаць, а я сваю Біблію ў Празе друкаваў.

Нямала здзівіўся Максім майму патаемнаму з'яўленню ў манастыры, а як даведаўся куды і з якімі намерамі я еду, сказаў прыкладна наступнае. Цёмныя абрысы майго часу, Францыск. Свет маёй ісціны для вачэй, зацемненых невуцтвам, аказаўся вельмі рэзкім. І вось я тут, на ланцугу пасля прысуду Сабора. Усе скаргі мае і пратэсты трапляюць

да мітрапаліта, а той адпісвае, што «ўзы твоя целуемъ, яко единого отъ святых, пособити же тебе не можемъ». Згубіў надзею на выратаванне і сустрэчу з Радзімай. Пацвердзіліся словы, што на Маскве гінуць за адзіную літару «аз». І мяне адсюль не выпусцяць хоць бы з тае прычыны, каб не раскрыў я перад праваслаўным светам невуцтва і забабоннасць цемнаты і маскоўскага духавенства, і вялікакняжацкага двара. А табе, раней чым на Маскву ехаць, тое-сёе пра яе норавы трэба было б ведаць. А норавы тут іншыя, чым у Венецыі ці Празе, у Кракаве ці Вільні. З гэтае прычыны мушу засцерагчы, бо само асяроддзе Маскоўшчыны, якая ледзь паспела вылузацца з татарскага ярма, нямала ататарыўшыся праз яго, рызыкоўнае і небяспечнае для чужынца, асабліва, калі ён яшчэ чалавек у нечым дасведчаны. Край гэты пакуль пазбаўлены ўсякае асветы і асяродкаў яе. Тутэйшыя духоўнікі і дзяржаўцы перакананы, што асвета тут не толькі не патрэбная, але можа і пашкодзіць. Дзяржава бытуе пакуль па-за еўрапейскім духоўным светам. У кожнай галіне свайго бытавання пануюць звычкі, перанятыя ад татарскага мыслення і складу жыцця. Тут яшчэ ніколі не пахла і сёння не пахне талеранцыяй, верацярпімасцю. Тут нязменна пакуль пануюць дагматызм і нязноснасць. Ні ідэя крытыкі, ні ідэя духоўнага хрысціянства недаступныя ні двару, ні духоўнікам, я ўжо не кажу пра іншых. Для аграмаднай большасці пасяленцаў славяна-татарскай дзяржавы ідэі гэтыя проста незразумелыя. Друкарства, бітая кніга тут найвялікшая «ерась». Тут шукаюць «хулу» і гэту самую «ерась» у кожнай дробязі. Ты проста не ўпішашся ў рамкі артадаксальнага маскоўскага дагматызму і жорсткага дэспатызму маскоўскага самадзяржаўя.

Я заўважыў, што быў бы рады, каб ён, Максім, памыліўся. А ён адказаў у скрусе, што не абяцае ўцешыць.

Не думаю, што на Маскве нешта змянілася за дзесяць гадоў, што прайшлі. І філосаф Максім усё яшчэ на тым жа ланцугу, толькі цяпер у Цвярскім астрог-манастыры, куды быў пераведзены пасля Сабора 1531 года, які засудзіў яго пажыццёва. Даходзілі да Вялікага княства навіны і пра тое, што траіх «ерэтыкоў» пасадзілі ў драўляную клетку і разам з ёю спалілі на лёдзе Масквы-ракі.

Аскліада (*у страху*). Які жах!..

Усталёўваецца доўгая, прыкрая паўза.

Хведаровіч (*вусцішна*). А я думаў, вы мяне падтрымаеце...

Скарына. А я яшчэ не сказаў, што не падтрымаю.

Аскліада (*умольна*). А можа, лепш не трэба падтрымліваць?!

Хведаровіч (*узвысіўшы голас*). Памаўчы, Аскліада!..

Скарына. Не ўзвышай голас на жанчыну, грозны муж... Лёс друкара-асветніка і яго блізкіх, на жаль, незайздросны. Пра сябе колькі слоў скажу вам. Вывучыў латынь, іўрыт, грэчаскую і некалькі славянскіх моў, у навуках вольных і лекарскіх стаў доктарам. Мог бы людзей лячыць, мастацтвамі, пісьменствам ці філасофіяй займацца, а больш за паўжыцця аддаў друкарству. А меў ці маю што? Двое дзетак-сірот. Пабыў у Лютэра ў «гасцях», а ён заклаў мяне сваім ворагам, а тыя перад спаленнем цягнулі з мяне жылы на дыбе як з ерэтыка. І выцягнулі б, і спалілі б, каб не шчаслівы выпадак-паратунак, да якога

мае адносіны мой паплечнік Пётра Мсціславец. А на Масковіі праслыў як «герэтык»-лютэранін. А тут, у Вільні, друкарню спалілі, жонку любую інтрыгамі і судамі няправеднымі ўсмерцілі. За даўгі, якія я не пазычаў, паўгода ў турме познаньскай пратрымалі. Кароль заступіўся за доктара Скарыну, калі гэта стала яму зусім непатрэбным. І вымушаны я з'ехаць з любай Бацькаўшчыны на чужыну... у самавыгнанне.

Хведаровіч. Тады навошта доктар Скарына ўсё жыццё рабіў кнігі нягледзячы ні на што?..

Скарына. Я верыў і веру, што кнігі пераверпуць свет. Зробяць людзей ці, лепш сказаць, вернуць людзей да вобліку Божага. Людзі стануць мудрымі і міласэрнымі, як анёлы. Іх лютасць і агрэсіўнасць да падобнага на сябе пераменяцца на дабрыню, спагаду і любоў да бліжняга свайго. Кніга, веды, асвета, навука і навучанне прынясуць мір і спакой на грэшную зямлю. Людзі стануць жыць не па звярыных звычках, а па запаветах Божых. Роўна пяцьсот гадоў таму мудры аўтар «Аповесці мінулых гадоў» зазначыў:

«Велика бо бываеть польза от ученья книжного; книгами бо кажеми и учити есмы пути покаянью, мудрость бо обретаем и въздержанье от словес книжных.

Се бо суть реки, напаяюще вселеную, се суть исходяща мудрости; книгам бо есть неищетная глубина: сими бо в печали утешаеми есмы; си суть узда въздержанью.

Мудрость бо велика есть…»

Хведаровіч. А мяне палохаеце Масквою і сваімі няшчасцямі?!

Скарына. Я не палохаў. Я толькі хацеў пераканацца, ці зробіце вы свой выбар самастойна, каб паслужыць кнізе і, можа, у той жа Маскве.

Хведаровіч. Я зрабіў свой выбар на Маскве. Дзякуй, доктар, што вы яго падтрымалі.

Скарына. А друкар упэўнены, што жонка яго падтрымае?

Хведаровіч чакае адказу Аскліады.

Аскліада. Гаспадар — іголка, гаспадыня — нітка. Куды іголка, туды і нітка.

Хведаровіч (*тулячы Аскліаду да сябе*). Я доўга шукаў не толькі прыгожую, але і разумную жонку...

Скарына. Я ўцешаны вашым рашэннем. Ад надзеі на лепшае мне будзе цяплей на чужыне... Мы наўрад ці сустрэнемся, і я падару вам на добры ўспамін свае кнігі. *(Бярэ са стала па адной кнізе і перадае іх Хведаровічу, называючы кожную.)* Трымай, Іване! Пражскія — Псалтыр, кнігі «Царстваў», «Іоў», «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць Божая», «Царствы», «Ісус Навін», «Юдзіф», «Суддзі», «Быццё», «Выхад», «Левіт», «Лічбы», «Другі закон», «Руф», «Эсфір», «Плач Ераміі», «Прарок Данііл».

Стары Запавет маеце, а Новы мне выдаць не ўдалося, хоць пераклад я зрабіў. *(Аскліадзе.)* А то кніжка падарожная. Яна вам будзе дарэчы. У яе ўвайшлі: Псалтыр, «Часасловец», «Акафіст архангелу Міхаілу», «Канон архангелу Міхаілу», «Акафіст Іаану Прадцечы», «Канон Іаану Прадцечы», «Акафіст Багародзіцы», «Канон Багародзіцы», «Акафіст святым Пятру і Паўлу», «Акафіст Святому Міколе», «Акафіст крыжу гасподняму», «Канон крыжу гасподняму», «Акафіст Ісу-

су», «Канон Ісусу», «Шасцідневец», «Канон пакаяльны». «Канон на ютрані», «Саборнік». І ў дадатак — Апостал!.. А цяпер бласлаўляю вас на падарожжа ў жыццё, і няхай яно будзе такім жа шчаслівым, як і доўгім. *(Хрысціць Хведаровіча, а потым Асклiаду.)*

Хведаровіч. Дзякуй, доктар!

Асклiада. Шчаслівай вам дарогі!

Скарына. Вам таксама... І прыміце адну маю параду: ужывайцеся ў Масковію з асцярожнасцю, умельствам друкаваць кнігі на пачатку не выхваляйцеся. У вас ёсць магчымасць прыйсці да яго праз святарства. Прыйсці сваім, бо чужых яны не прымуць, чужым не давераць. Такая краіна... Ну, з Богам!..

Хведаровіч і Асклiада схіляюць галовы ва ўдзячнасці, потым выходзяць. Мсціславец доўга глядзіць у акно.

Мсціславец. Настаўнік, а ці не блаславілі б вы і мяне?.. З імі... Расстанне наша ўсё роўна непазбежнае... Што мне тут аднаму заставацца?.. А за імі і прыгледжу, і дапамагу, як час выспее...

Скарына маўчыць у задуменні, а Мсціславец чакае ў надзеі. Сцэна зацямняецца.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Масква, 1564 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта Масквы паднімаецца. Такі ж пакой, як і ў пралозе, толькі абжыты. Каля глухой сцяны палаці, засланыя коўдрай. Злева за шырмаю ўгадваецца печ. Стол справа на покуці. Над сталом бажніца з лампадаю за вышываным ручніком. Шырокая лава пад вокнамі.

Асклiада (ёй 44 гады). Падмятае падлогу. Прыбягае ўзрушаны, радасны Іванка (яму 14 гадоў).

Іванка (*з парога*). Матуля, тата прасіў, каб ты на стол сабрала, як на Раство Хрыстова!

Асклiада. Якое раство, Іваначка, Масленіца на двары. Як на Масленіцу і стол будзе.

Іванка (*настойліва*). Кажу ж, прасіў, як на Раство!

Асклiада. А што, уласна, здарылася?..

Іванка. Кніга нарадзілася, вось што! Тата так і сказаў: накажы матулі, што ён з дзядзькам Пётрам нарэшце нарадзілі кнігу Святога Пісьма. Апостала нарадзілі, разумееш?! І толькі што ў вокладку адзелі. Прыгажосці невымоўнай! Цуд, а не кніга!..

Венік выпадае з рук Асклiады.

Асклiада (*хрысціцца*). Збылáся! Божа літасцівы, здейснілася воля твая!..

Іванка. А я пра што?! (*Цягне стол з покуці на сярэдзіну пакоя.*) Матуля, не стой! Яны зараз будуць тут!

Аскліада. Хадзі за мною, сынок, возьмеш блінцы, а я яечню...

Выходзяць праз унутраныя дзверы і вяртаюцца са стравамі, ставяць на стол.

Я па масла і медавуху, а ты кубкі нясі... на ўсіх.

Выходзяць і вяртаюцца з маслам, глякам медавухі і кубкамі.

Іванка. А хлеб, а яблыкі мочаныя?!

Аскліада. А як жа? І яблыкі, і хлеб будзе. (*Выходзіць і вяртаецца з міскай яблыкаў і боханам хлеба. Хрысціць стол са стравамі.*)

Чуваць галасы за дзвярамі.

Іванка (*згараючы ад нецярпення*). Зараз пабачыш!.. (*Адчыняе дзверы.*)

Уваходзіць Хведаровіч (яму 54 гады), урачыста несучы «Апостал» на белым ручніку. За ім ідзе Мсціславец (яму 60 гадоў).

Аскліада (*вельмі ўзрушана*). Слава табе, Божа! Слава табе! (*Хрысціцца.*)

Мсціславец. Малітву! Малітву, дыякан, на заканчэнне святой справы!

Хведаровіч (*распеўна, урачыста, у поўны голас*). Исполнение всех благих Ти еси Христе мой, исполни радости и светлыя душу наши и спаси ны, яко Един многомилостив, Господи, слава Тебе. Яко Твое есть царство и сила и слава, Отца и Сына и Святаго Духа, ныне и присно и во веки веков. Аминь!

Усе хрысцяцца.

Спаси Господи и помилуй раб твоих: Петра, Асклиаду, Иванку и Ивана и всех православных христиан, и даруй им здравие душевное и телесное.

Адзін за другім Мсціславец, Аскліада, Іванка, а потым Хведаровіч прыкладаюцца з пацалункам да святой кнігі. Пасля гэтага Хведаровіч кладзе яе на паліцу пад абразамі і запальвае лампадку. Усе любуюцца на кнігу.

Мсціславец. Колькі ж мы ішлі да гэтага свята, Іване?!

Хведаровіч. Намнога даўжэй, дружа, чым нам хацелася ды думалася... (*Зморана садзіцца на лаву.*)

Аскліада. Калі лічыць ад таго, як на Маскве з'явіліся, то ўсіх дваццаць восем гадкоў будзе...

Мсціславец. І ўсё адно, мы першыя! І ніхто да нас зрабіць такога не здолеў! (*Да Хведаровіча.*) А ты яшчэ і подпіс свой адціснуў, каб усякі ведаў: «Іван Фёдараў сын Масквіцін». Ведай нашых!.. Бы з самім Францішкам Скарынам уровень...

Хведаровіч. Ад Масквіціна мне радасць невялікая... Схаваўся, бы баязлівец які...

Мсціславец. А ты наогул радавацца не ўмееш... Іншы на руках, на галаве прайшоўся б, у прысядкі кінуўся, а ты, чым бліжэй было да сканчэння працы, тым больш хмурнеў ды маўчаў зацята...

Хведаровіч (*пахмурна*). Ты ў нас гаваркі ды вясёлы без меры... Чым яшчэ ўсё скончыцца? «Апостал» з-пад прэса, сырым яшчэ разнеслі і цару, і патрыярху, і іншым высокім служкам Божым.

Мсціславец. Ну і дзякуй Богу!

Хведаровіч. Дзякуй... Там жа не толькі міласнікі друкарскай кнігі і нашы добразычліўцы. І выпраўленняў у Святое Пісанне мы ўнеслі не менш, чым Максім Грэк у свае пераклады. А заступнікі нашы сам ведаеш дзе. (*Хрысціцца.*)

Хрысцяцца і Аскліада з Мсціслаўцам. Прыціх Іванка, насцярожыўся.

Адзін князь Курбскі з усіх жывы пакуль застаўся...

Аскліада. Хай Бог сцеражэ і крые!..

Мсціславец (*садзіцца да стала, папярэдне павярнуўшы лаўку ад сцяны*). Кінь дурное, чалавек: ад чарцей адхрысцімся, анёлам-ахоўнікам памолімся, медавухі возьмем, колькі душа прыме. (*Налівае медавуху ў кубкі.*) Расправім плечы, разагнём спіны, уздыхнём з палёгкай, і няхай наша доля нас не цураецца. Сядайма ўсе са мною на лаву. (*Запявае.*) Сем нядзель посту на тым баку мосту... Масленіца! Масленіца!

Іванка (*прыхінуўшыся да бацькі*). Сапраўды, тата, сядай. І яешня стыне, і блінцы ў рот самі просяцца...

Мсціславец. Правільна, Іванка! Блінцы мазаным бокам да языка!

Хведаровіч. Рукі няхай спаласне перад малітваю, а тады ўжо мазаным да языка.

Усе адзін за другім мыюць рукі каля дзвярэй з-пад конаўкі, з якой палівае Аскліада. Затым ідуць да стала. Хведаровіч прамаўляе малітву.

Очи всех на Тя, Господи, уповают, и Ты даеши им пищу во благовремении, отверзаеши Ты щедрую руку Твою и исполняеши всякое животно благоволения.

Усе садзяцца да стала.

Мсціславец. Першы кубак за скончаную справу, за першую кніжку маскоўскую і да дна!..

Мужчыны (дарослыя) выпіваюць да дна, Аскліада толькі прыгубляе. Усе прымаюцца за вячэру.

Хведаровіч. А другі кубак за цябе будзе, Аскліада.

Аскліада. А я тут пры чым?

Мсціславец. Ты, гаспадынька, пры ўсім. Без цябе мы ў гэтым краі адзічэлі б, ваўкамі завылі. Ты ў гэтай хаце ўсяму галава. І муж, і я, бабыль, табою накормлены, дагледжаны, абмыты, абшыты. Толькі і ведаем да ўсходу сонца сысці ды прыцемна вярнуцца. Усё на табе, мурашачка. Іван, пэўна, не адразу і заўважыў, як сын такім малайцом вырас. І хоць друкаром яшчэ не стаў, а ў пераплётных справах не апошняй рукі майстра.

Аскліада. Дзякуй, Пётра, на добрым слове. І табе, Яначка, за ўсё, за ўсё. А кубкі паднімем за ўпакой душы і вечную памяць слаўнага Францішка Скарыны — у навуках вольных і лекарстве доктара.

Усе ўстаюць і моўчкі адпіваюць медавухі, садзяцца.

Хведаровіч. Дажыві асветнік да нашага часу, і з намі, за нас парадаваўся б нямала...

Мсціславец. Мы яшчэ, Іване, парадуем яго бессмяротную душу і самі парадуемся. Ліха-бяда — пачатак. А ў нас «Апостал» перапле-цены, «Часасловец» аддрукаваны, дасць Бог, і за поўную Біблію возьмемся. Можа, цар пра гэта толькі і марыць, бо перад светам сорам...

Хведаровіч. Не ведаем мы, пра што ён марыць, і лепш не казаць «гоп». Адно з двух Масковію чакае: ці вялікая замятня і бязладдзе, ці разам з гэтым яшчэ і вынішчэнне лепшых людзей. Сатана сатанее з кожным Божым днём.

Аскліада. Гасподзь з табой, Іван! І сам ты нешта не свой, і дзіця палохаеш.

Хведаровіч. Да ўсяго трэба быць гатовымі... І дзіця ўжо не дзіця.

Мсціславец. Такі сапсуе свята!

Іванка. Расказаў бы лепш, з чаго і як усё пачыналася. Самі ж кажаце, дваццаць восем гадоў сённяшняга дня чакалі. А я нічога не ведаю. Не проста ж сядзелі і чакалі?!

Хведаровіч. Не проста. Зусім не проста, сынок.

Іванка. А мы на Маскве заўсёды жылі?

Хведаровіч. Ты ўсе чатырнаццаць гадкоў, а мы ў два разы даўжэй.

Іванка. І ўвесь час кнігі рабілі?

Хведаровіч. Не, я спачатку людвісарскай справай займаўся, званы, гарматы, пішчалі адліваў, па срэбры рэзаў. А потым прымеціў мяне пратапоп крамлёўскай царквы Благавешчання Сільвестр — чалавек пры маладым цару Іване Васільевічу надзвычай уплывовы, бо розуму быў высокага і ў пісьменстве здольнасцяў рэдкіх. Сам «Дамастрой» напісаў. Пра яго тады казалі, што «Сільвестр правіць рускую зямлю за адзін». Не хто іншы, як менавіта ён стварыў пры цару «Избранную раду» з людзей палёту высокага, сакалінага і розуму растаропнага. Найперш у раду ўвайшлі князь Аляксей Адашаў — пераможца царства Казанскага і Астраханскага, сам мітрапаліт Макарый, думны дзяк Віскаваты, князь Андрэй Курбскі — сваяк цара і вучань найвучонейшага Максіма Грэка. І хоць галоўным у радзе лічыўся Адашаў, кіраваў ёю Сільвестр. Ён і параіў пратапопу крамлёўскага храма Міколы Густунскага ўзяць мяне дыяканам. Голас у мяне быў адмысловы, і на галаву сваю я не скардзіўся. Не апошняй была галава. У «Избе каля Благавешчання», адкуль пратапоп Сільвестр з Адашавым «правили русскую землю», меўся скрыпторый, дзе перапісваліся кнігі, а таксама маляваліся абразы і рабілася рэзь па срэбры,— Сільвестр адказваў за аздабленне царскіх палат і крамлёўскіх храмаў. У гэтай «избе» мы і згаварыліся з пратапопам наладзіць штабню, каб не перапісваць, а на друкарскім варштаце ціснуць ці, як яшчэ кажуць, біць кнігі. Справа гэта для мяне была не столькі складаная, колькі небяспечная, бо большыня царкоўнага кліру і манастыры Масковіі былі супраць «д'ябальскай» задумы. Але к гэтаму часу храм Міколы Густунскага, які ўзначаліў пратапоп Амос, блізкі да мітрапаліта Макарыя і «Избраннай рады», пачаў адыгрываць важную ролю ў маскоўскіх царкоўных справах і падтрымаў друкарскую справу. Падтрымалі яе і ўсе радцы «Избранной рады».

Мсціславец. Нават Максім Грэк і блізкі да яго ігумен Троіца-Сергіевага манастыра Арцемій былі вызвалены з затачэння і горача падтрымалі нашу задуму ціснуць кнігі.

А цар пра друкарскія кнігі так сказаў: «В них же мали обретошеся потребны, прочии же (ад рукі, значыцца, пісаныя) вси растлени от переписующих ненаученых сущих и не искусных в розуме».

Хведаровіч. І ўсё ж, як мне здаецца, вырашальную ролю ў дазволе друкарскай кнігі адыграў не цар, а мітрапаліт Макарый. Пратапоп Амос пазнаёміў мяне з яго Праасвяшчэнствам, а яго Праасвяшчэнства прадставіла мяне цару ўсяе Русі Івану Васільевічу.

Іванка. Ух ты!.. Тады і пабачыў цара першы раз... зблізу?..

Хведаровіч. Першы раз і зблізу я яго пабачыў больш за дзесяць гадоў таму на хрышчэнні казанскага цара Едыгея Магмета. Быў на цырымоніі і цар з братамі, і ўвесь Сабор — архімандрыты, ігумены, пратапопы і мноства баяр. Быў і я як дыякан, службу служыў.

А кнігі, якія мы з дзядзькам Пётрам ды іншымі майстрамі ў Сільвестравай друкарні ціснулі, няхай ён табе і пералічыць, каб не пакрыўдзіўся, што я яго славу забіраю. Таварышуем мы з ім, працуем поплеч і жывём пад адным дахам усе дваццаць восем гадоў. (*Адпівае медавухі.*)

Мсціславец. Не так шмат, але ж і ў Сільвестравай «избе» тоесёе зрабіць удалося. Калі лічыць з 1553 года, то найперш было «Чацвераевангелле», потым «Трыодзь посная», «Трыодзь каляровая», за імі зноў «Чацвераевангелле» і апошняй кнігай быў «Псалтыр». Гэта калі лічыць кнігі недатаваныя і безыменныя.

Хведаровіч. А потым, як ужо ўбярэцца цар у пер'е і ў сілу ўвойдзе, найперш разгоніць «Избранную раду», западозрыўшы яе ў памкненнях нібыта абмежаваць яго царскую ўладу. Князя Адашава заморыць у Юр'еўскай турме. Затым перад царом будуць агавораны і абылганы сваімі ворагамі пратапоп Сільвестр і старац Арцемій. Першы памрэ ў затачэнні, другі будзе сасланы ў Салавецкі манастыр з забаронай чытаць, пісаць і нават размаўляць з кім бы там ні было.

Мсціславец. А «изба» Сільвестрава разам з друкарняй будзе спалена і з зямлёю зраўняна. А ўсю справу друкарскую грозны цар возьме ў свае моцныя рукі.

Хведаровіч. Тады, сынок, і з'явіцца ўказ, якім цар «павеле сустроити дом от своея царския казны, иде же печатному делу стоитися, и нещадно даяше от своих царских сокровищ делателем Николы Густунского диакону Ивану Фёдорову да Петру Тимофееву Мстиславцу на составление печатному делу и к их упокоению дондже и на совершение дело их изыде».

Мсціславец. Так мы «Апостал» наш датавалі 1564 годам ад Раства Хрыстовага ды сваімі подпісамі засведчылі, а ў пасляслоўі пазначылі: «Повелением благочестивого царя и великого князя Ивана Васильевича и благославением преосвященного митрополита Макария».

Хведаровіч. Ад гэтага часу і назаўсёды наш «Апостал» стане першай не ананімнай кнігай Масковіі, як ахвяра наша Госпаду і доўг брату нашаму Францішку Скарыне, пра якога мы табе, Іванка, абавязкова і падрабязна раскажам, як толькі ты ўзмужнееш целам і розумам. За тваё здароўе, сынок!

Усе бяруць кубкі, чокаюцца імі.
Адкрываюцца знянацку дзверы. На парозе з'яўляецца князь Андрэй Курбскі ў манаскай вопратцы (яму 36 гадоў).

(*Здзіўлена, устрывожана.*) Князь Андрэй?!

Курбскі. Як бачыце... (*Глядзіць на Аскліаду.*) Мне трэба застацца толькі з Іванам!

Хведаровіч. Князь, што яны, што я — адно. Даверцеся.

Іванка выходзіць у суседні пакой.

Курбскі (*пасля паўзы*). Нада мною навіс царскі меч. Я знікаю з Масквы, і надоўга. Зараз жа... Калі меч павісне і над вамі, мае людзі ў Маскве зробяць усё магчымае, каб вывесці вас у Вялікае княства Літоўскае да таго, як меч апусціцца. Запісу царскага аб забароне выезду за мяжу не чакайце. Будзьце гатовы да ад'езду кожную ноч. Пастарайцеся прыхапіць з друкарскага рыштунку ўсё, што зможаце. Блаславіце мяне сваім «Апосталам» і дайце мне кнігу ў дарогу.

Хведаровіч бярэ «Апостал», блаславяе ім Курбскага, той цалуе кнігу і хавае пад манаскую вопратку, апускае капюшон.

Аскліада. Мы будзем маліцца за вас, князь.

Курбскі. Беражы вас Бог! (*Выходзіць.*)

Хведаровіч (*напаўголаса прамаўляе малітву*). Господи Иисусе Христе Боже наш, смиренно молим Тя, Владыко Пресвятый, и рабом Твоим князем Андреем Твоею благодатию спутешествуй. И якоже рабу Твоему Товии, Ангела хранителя и наставника посли, сохраняюща и избавляюща князя Андрея от всякого злого обстояния видимых и невидимых врагов, и ко исполнению заповедей Твоих наставляюща, мирно же благополучно и здраво перепровождающа, и паки цело и безмятежно возвращающа; и даждь им все благое свое намерение ко благоугождению Твоему благополучно во славу твою исполнити. Твое бо есть еже миловати и спасати нас, и Тебе славу возсылаем со Безначальным Твоим Отцем и со Пресвятым и Благим и Животворящим Твоим Духом, ныне и присно и во веки веков. Аминь.

Усе хрысцяцца, у дзвярах з'яўляецца Іванка.

Іванка. Я ўсё чуў...

Хведаровіч. А калі чуў, то запомні: словы князя Курбскага нельга паўтарыць ні на дыбе, ні на вогнішчы, ні пры іншых катаваннях. Інакш усім нам смерць заўчасная і страшная.

Іванка. Ты што, за мужчыну мяне не лічыш?

Хведаровіч. Каб не лічыў, то такога не казаў бы.

Сцэна зацямняецца.

## Карціна другая

Вільня, 1566 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта Вільні паднімаецца. Прасторны пакой. Старадаўняя мэбля: стол, крэслы, канапа. Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт Аўгуст у чаканні (яму 46 гадоў). Уваходзіць Цырымоніймайстар.

Цырымоніймайстар. Ваша светласць, з аўдыенцыяй князь Андрэй Курбскі, князь Рыгор Хадкевіч, наш рэфарматар Сымон Будны і друкары маскоўскія Іван Хведаровіч і Пётра Мсціславец.

Жыгімонт. Праваслаўны артадокс Курбскі і пратэстант Будны ў чубы адзін аднаму не ўчэпяцца?..

Цырымоніймайстар. Будны папярэджаны, ваша светласць.

Жыгімонт. Кліч, часу небагата.

Цырымоніймайстар выходзіць. Уваходзяць і кланяюцца: Курбскі (яму 38 гадоў), Хадкевіч (яму 56 гадоў), Будны (яму 40 гадоў), Хведаровіч (яму 56 гадоў), Мсціславец (яму 62 гады).

Рады ўсіх вас бачыць у добрым здравіі. Сядайце, дзе хто пажадае. У нагах праўды няма, як у нас кажуць.

Усе рассаджваюцца.

Курбскі. Я, яснавяльможны князь, сумняваюся, ці ёсць яна наогул гэта праўда...

Жыгімонт. Калі б не было, то такой прыемнай кампаніяй мы наўрад ці сустрэліся б. А патрэба параіцца наспела. Маю намер вітаць на вялікім сойме нашых беглых друкароў, ды й за працу! Усе беглыя ад грознага цара ў нас і прывечаны, і абагрэты, і да справы прыстаўлены. А сярод іх і вядомы ваявода Вішнявецкі, і знатныя дваране, і баяры Всеволж-Забалоцкія, Вельямінавы-Варанцовы, Квашніны, Белаутавы. Той жа Касой, Сырахозін і дзесяткі іншых. Да прыкладу, шаноўны князь Андрэй Міхайлавіч Курбскі ў нас не толькі сябра каралеўскай рады, але і водца адной з армій супраць цара Івана Васільевіча. Ды й пісьмамі дапякае дэспата не горш, чым гарматамі. А вядомы старац-кніжнік Арцемій у палеміцы з рэфарматарам Будным так дастае апошняга, што бедны Сымоне паратунку не знаходзіць.

Хведаровіч і Мсціславец пераглядаюцца.

Будны. Старац Арцемій паленіст моцны...

Хведаровіч (*вельмі здзіўлена*). Арцемій жывы?!

Жыгімонт. Дзякаваць Богу. Збег ваш абаронца з далёкіх Салаўкоў, жыве ў замку Юрыя Слуцкага і неблага сябе адчувае. Пры справе і іншыя. Знойдзем і вам занятак, знатныя друкары. Пра гэта найперш паруціцца наш слаўны князь Рыгор Хадкевіч. Мы яму потым дадзім магчымасць выказацца на гэты конт. А зараз хацелася б пачуць, што прымусіла друкароў, мякка кажучы, пакінуць Маскву...

Хведаровіч. Як жа было не пакінуць, ваша светласць, калі знайшліся людзі, якія захацелі дабро ў зло ператварыць і Божую справу загубіць і на нас дзеля зайздрасці многія ерасі ўмышлялі, як гэта звычайна бывае ў людзей зламысных, цёмных, неадукаваных, што не толькі не маюць дасведчанасці ў граматычных тонкасцях, але і духоўным розумам не надзелены.

Мсціславец. Колькі галоў, ваша светласць, столькі і меркаванняў пра кнігі друкарскія: адны пра тое, што яны «диавольское наваждение», другія — што «отправлять по ним божественные службы — дело богопротивное», трэція пра тое, што сама друкарская справа «иноверными геретиками измыслена».

Жыгімонт. Толькі ўсяго і страху?..

Хведаровіч. Правіў я і рэдагаваў «Апостал», як і Максім Грэк некалі...

Жыгімонт. І што, цар супраць гэтага?

Хведаровіч. Цар не супраць, але ж усе тыя, хто падтрымліваў друкарскую справу, у апале зараз... Вось іх супраціўнікі і падпявалы царскія на нас бочкі і пакацілі.

Мсціславец. Не цар, а начальнікі царскія і асабліва свяшчэнна-начальнікі і асатанелі супраць друкароў.

Курбскі (*са здзекам*). Гасудар добры, слугі подлыя...

Хведаровіч. Вядома. На Маскве спрадвеку так было!

Курбскі. Не юлі! Не круціся, як вуж на патэльні! Перад вялікім князем слова трымаеш! Ці следам за думскім дзякам Іванам Цімафеевым лічыш, што «сего ради неправедно о царствующем худым многословити, ниже без муки, иже аще что порочно; лепотее бо есть царское безобразие жития молчанием покрыти, якоже ризою»?!

Хведаровіч. Гасудар перад намі невінаваты, што ж мы будзем...

Курбскі. Які яркі прыклад, ваша светласць, усе дурныя і злачынныя дзеянні ўладароў сучаснікі прыпісваюць яго набліжаным. І наадварот, валадары царстваў стараюцца абяліць сябе перад Богам і нашчадкамі, самі перакладаюць адказнасць за зробленае зло на сваіх кліўрэтаў. Абагаўляць крывавых валадароў перад вачыма двара і чэрні. Але цар Іван не настолькі дурны, каб не асэнсоўваць небяспеку для сябе нашых думак, дзеянняў і паводзін.

Жыгімонт. А мне, валадару, больш па душы якраз вобраз думак і паводзін друкароў, чым князя.

Курбскі. Мяне апраўдвае і ўроўнівае з імі толькі тое, што нам давялося ратавацца разам ад аднаго і таго ж дэспата, а не ад яго чэлядзі.

Жыгімонт. Князя, як мне здаецца, апраўдвае тое, што ён, як між іншым і яны, прыбег да ворага свайго ворага і знайшоў сябра, як у маёй асобе валадара Княства, так і Каралеўства.

Курбскі (*дзёрзка*). Калі б я на гэта не разлічваў, то мог бы збегчы і да нейкага ворага вашай светласці.

Жыгімонт (*незадаволена*). Мне не падабаецца паварот нашай гаворкі ад справы, па якой мы сустрэліся.

Курбскі. Няхай вялікі князь даруе мне, а друкары як на духу распавядуць пра маскоўскія навіны, не выгароджваючы цара-жывадзёра. Так што не таіся, Іван!..

Хведаровіч. Што мне таіцца, калі сам князь супраць цара, як супраць ражна...

Мсціславец. Ражон — ражном. А мы, у адрозненне ад князя, не з дому, а дамоў, на Бацькаўшыну збеглі.

Курбскі. Вось як?! Здзівіў ты мяне, друкар!..

Мсціславец. Нічога дзіўнага. Яшчэ Францішак Скарына сказаў: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя, птицы, летающие по воздуху, ведають гнёзда своя, рыбы, плавающие по морю и в реках, чують вири своя; пчолы и тым подобныя боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

Курбскі. Да вашага Скарыны мы яшчэ дабяромся...

Мсціславец. Тады давай навіны, Іване... бо хто лепш за нас іх на сваёй скуры адчуў, на свае вочы пабачыў.

Хведаровіч. Навіны сапраўды невясёлыя, ваша светласць. Адным словам — апрычніна. Апала на княжат і баяраў, незадаволенасць

знаці, кіраўнікоў прыказаў і вышэйшага духавенства. Ад смуты і бязладдзя да вялікай замятні адзін крок. Са страху ці амбітнасці цар спачатку з'ехаў з Масквы ў Аляксандраўскую слабаду. Там у «гневе» на духавенства аб'явіў аб адрачэнні ад прастола. І ў той жа час пачаў ствараць асобае апрычнае войска, нікому не падпарадкаванае, а толькі яму самому. Верхаводзяць сабакагаловымі баярын татарын Басманаў, князь Вяземскі, Малюта Скуратаў ды іншыя. Вынішчаюць пад корань супраціўнікаў цара. Гінуць лепшыя, разумныя людзі царства, а іх маёмасць і землі пераходзяць апрычнікам.

Мсціславец. Даносы ахапілі царства, не раўнуючы, як чума.

Хведаровіч. Хто на каго першы хулу ўзвядзе, той і ў выйгрышы.

Мсціславец. На земскім Саборы некалькі дваранаў падалі чалабітную аб адмене апрычніны. Усе чалабітнікі паплаціліся горлам. З гэтае прычыны мітрапаліт Афанасій пакінуў святы прастол. А людзі знікаюць немаведама куды...

Хведаровіч. Дзяржава раскалолася на апрычніну і земшчыну.

Жыгімонт (*задаволена*). Шмат добрых навін і ў нашым княстве. У пазамінулым 1564 годзе вялікакняжацкае войска перамагло маскальскае пад Улай, што на Полаччыне. Дарэчы, у жорсткай сечы вылучыўся храбрасцю і ўмельствам наш гетман найвышэйшы князь Рыгор Хадкевіч. Адбілі набег татараў на Валынь і Падолле. Дапрацавалі і прынялі другі Статут княства. Кажуць, роўнага яму няма ў Еўропе. У мінулым годзе шляхта наша на чале з Радзівілам Чорным выступіла ў абарону свабод ліцьвінаў. Сёлета далучылі Лівонію да свайго княства. Але ўсяго добрага не перакажаш, дык лепш паслухаем дасведчанага чалавека, як ён знаходзіць «Апостал», надрукаваны нашымі землякамі, бо я яго яшчэ не паспеў прачытаць, а Сымон Будны, спадзяюся, управіўся.

Курбскі. Кажуць, Будны ні адну кнігу ў сваім жыцці яшчэ не пахваліў.

Будны. Якраз я вельмі рады за нашых землякоў. І першае маскоўскае датаванае не ананімнае выданне, зробленае рупнасцю і талентам Івана Хведаровіча і Пётры Мсціслаўца, мне вельмі падабаецца. У друкарскім майстэрстве сказана дужа важкае слова. Іх «Апостал» — гэта не толькі духоўная кніга. Гэта яшчэ і выдатны твор мастацтва. Заўважце — 48 заставак. І якіх! 22 буквіцы і іншыя друкарскія аздабленні сведчаць аб тым, што стваральнікі яго маюць густ і не толькі цудоўна валодаюць традыцыямі арнаментальнага ўбранства старажытнарускіх рукапісных кніг, а і паспяхова развіваюць іх далей. Гэта красамоўна выявілася ў тым, што старыя прыёмы былі ўдасканалены, а ў выніку з'явіўся сапраўдны старажытнарускі стыль, які можа яшчэ будзе называцца хведароўскім.

Такой жа высокай ацэнкі заслугоўвае і другое выданне майстроў — «Часоўнік».

Жыгімонт. Будзем лічыць, што ў мастацкай годнасці кніг кніжнік Будны нас пераканаў, але ж ні слова не сказаў пра дасканаласць зместу кніг.

Будны. Змоўчаў, ваша мосць, толькі таму, што дасканалых кніг наогул не бывае.

Курбскі (*узрадавана*). А я што казаў, ваша светласць?!

Будны. Тым не менш заўважу, што ў асобе Івана Хведаровіча, не прыніжаючы майстэрства Пётры Мсціслаўца, я бачу не проста друка-

ра-рамесніка, а сапраўднага асветніка, пісьменніка, рэдактара і мастака̀, які ўпоравень са Скарынам засведчыў свае лінгвістычныя і тэхнічныя таленты. А калі яго светласць вялікі князь меў на ўвазе нейкія хібы, «порчы» ці недакладнасці ў перакладах богаслужэбных кніг, то не па маскоўскіх перакладах, калі іх рабіў нават Максім Грэк ці старац Арцемій, іх правяраць трэба. І мала для гэтага разумных галоў Івана Хведаровіча і Пётры Мсціслаўца. Ужо тысячы перакладчыкаў ва ўсім свеце сотні гадоў б'юцца над тлумачэннем Святога Пісання і яго зверкай з першаасновай.

Курбскі. У іншы час і ў іншым месцы адносна перакладаў Максіма Грэка і лютэраніна Скарыны я дам вам рашучы бой.

Будны. З годнасцю падніму княскую пальчатку.

Жыгімонт. Ну і дзякуй Богу. Што ты нам паабяцаеш, князь Рыгор?

Хадкевіч. Я, ваша светласць, ствару ўсе неабходныя ўмовы дзеля дабратворнай і плённай працы друкарні ў сваім заблудаўскім замку, які даўно ўжо мае славу фарпоста праваслаўя і ліцьвінскай вольнасці на Падляшшы.

Жыгімонт (*да Буднага*). Чуеш, рэфарматар каталіцызму княства?! Давядзецца табе пакруціцца, каб абараніць свой пратэстантызм, да якога мы ставімся гэтак жа талерантна, як і да грэчаскай, рымскай, мусульманскай, іудзейскай ці якой іншай веры.

Курбскі (*у жаху*). Як можна, ваша светласць?!

Жыгімонт. Можна. У нашым княстве можна... Што яшчэ, панове князі, друкары і рэфарматары?..

Хадкевіч. Хацелася б з удзелам вялікага князя вызначыць, на якой мове будзем рабіць кнігі ў маёй друкарні?

Жыгімонт. Даруй, князь, але не вялікакняжацкая гэта справа...

Курбскі (*да Жыгімонта*). Дарэчы, кнігі Скарыны наша духавенства гадоў трыццаць таму па загадзе гасудара на кастры спаліла.

Жыгімонт. Няма чым хваліцца, князь. Паліць кнігі — варварства і дзікунства.

Будны. Больш не паляць. Мой «Катэхізіс», да прыкладу, захоўваецца на Маскоўскім друкарскім двары з надпісам: «кніга «Катэхізіс» печатный Люцерскі на славянскай мове, у ім жа многія ерасі Люцерскія і царкве супраціўныя напісаны... Сія кніга ўсякаму хрысціяніну чытаці забаронена, а тут яна ляжыць для «обличения» люцерскіх ерасяў, каб ведаць пра іх».

Курбскі. Я даўно прыняў рашэнне выдаваць кнігі выключна богаслужэбныя і выключна па-царкоўнаславянску.

Хадкевіч. У сваёй друкарні, князь, толькі я вольны прымаць рашэнні!

Курбскі. У друкарні шаноўнага князя будуць працаваць мае друкары...

Хадкевіч. У сябе дома друкары будуць мець магчымасць трымаць сябе вольна, нікому не належачы асабіста.

Жыгімонт. У нашым краі друкарства справа не дзяржаўная, а прыватная, вольная.

Курбскі. Дарэчы, друкары! З якое прычыны вы, жывучы ў Маскве, маўчалі пра сваё сапраўднае паходжанне і падданства?!

Мсціславец. Са сціпласці, ваша мосць. Выключна са сціпласці...

Уваходзіць Цырымоніймайстар.

Цырымоніймайстар. Сойм у зборы, ваша светласць!
Жыгімонт. Аўдыенцыя закончана, панове!..

Сцэна зацямняецца.

## Карціна трэцяя

Заблудаў, 1566 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта заблудаўскага замка паднімаецца. Неабжыты пакой, падобны на той, дзе ў пралогу Скарына прымаў Івана Хведаровіча. Толькі стол стаіць бліжэй да рампы, а вакол яго сем зэдлікаў. Лава каля сцяны, што насупраць.

Уваходзяць Хадкевіч, за ім — Хведаровіч і Мсціславец.

Хадкевіч. Вось тут пакуль і створым друкарню. А з цягам часу пабудуем адмысловы «Друкарскі двор»!.. Што-небудзь з маскоўскага друкарскага начыння з сабой прыхапілі?

Хведаровіч. Не толькі што-небудзь, а ўсё, што тут згадзіцца: шрыфты, гравіраваныя дошкі, буквіцы, пераплётны прэс, металічныя часткі для станка друкарскага. Калі знойдзецца ў князя добры сталяр, варштат адновім за два-тры тыдні.

Хадкевіч. Ёсць і сталяры, і кавалі, калі спатрэбяцца. Якой, колькі і ў каго паперы купіць, скажыце. Купцы ў мяне растаропныя. Даедуць і да немцаў, і да французаў, а калі ў палякаў ёсць тое, што нам трэба, тым больш і тым лепш. Шкуры на вокладкі тут, у Заблудаве і навакольных кушняроў, вырабляць будзем. Шытва таксама свайго напрадзём. Карацей, вы мне — поўны пералік усяго: і колькі вам трэба, і чым найперш дапамагчы, а я вам зараз пра тое, што толькі ад мяне будзе залежаць... Сядайце, каб усё ладком абмеркаваць.

Усе садзяцца за стол.

Значыцца, так: найперш хачу запэўніць (*урачыста*), што я, князь Рыгор Хадкевіч, тут, у Заблудаве, найперш поўнасцю фундую друкарскую справу. А каб вы жылі бязбедна, дару вам вёску. А як толькі скончу будаўніцтва храма Успення Багародзіцы, якому ахвяраваў ужо тры валокі зямлі, прапаную табе, Іване, пасаду дыякана, каб ты не забыўся пасля Масквы, як імшу правіць. Святаром у храме будзе твой стрыечны брат Афанасій Грыгарэвіч. (*На здзіўленне Хведаровіча.*) Так, так, мы яго знайшлі, і ён даў згоду, як даведаўся, што ты ў мяне. А яшчэ прашу вас абодвух узяць да сябе на вывучку друкарскаму майстэрству маіх сыноў Андрэя і Аляксандра, за што ўзнагарода ад мяне будзе адмысловая і не малая.

Мсціславец (*смяецца*). Чаму ж не ўзяць... і сыноў, і ўзнагароду. А навука ім на карысць пойдзе, ды і нам адным не ўправіцца.

Хадкевіч. І яшчэ скажу, каб вам ведаць, што друкарня наша не будзе дабрачыннай, бо друкарства справа не танная, а грошы любяць лік. Кнігамі на сваёй мове можна будзе гандляваць у княстве і за яго межамі. І вазьміце, друкары, пад увагу, што ў мяне пры царкве і касцёле будуць адкрыты школы для дзяцей паспалітых. Так што падручнікі давядзецца друкаваць.

Уваходзіць Андрэй Рымша ў вайсковай афіцэрскай форме (яму гадоў 19).

Рымша. Ваша мосць гетман найвышэйшы, пярэдняя стража падала знакі, што першы экіпаж у суправаджэнні коннай аховы набліжаецца да замка.

Хадкевіч. Як прыедуць, даложыш.

Рымша. Слухаю! (*Паварочваецца, каб выйсці.*)

Хадкевіч. Не спяшайся. (*Да Хведаровіча і Мсціслаўца.*) Мой ад'ютант Андрэй Рымша. Выхаванец школы князя Канстанціна Васіля Астрожскага, адважны воін і, між іншым, твой зямляк, Іване, з Пянчына, што пад Навагародкам.

Хведаровіч (*падае руку*). Вельмі рады знаёмству. І Пянчын памятаю, і пра род Рымшаў чуў.

Мсціславец (*падае руку*). Пётра Мсціславец, Івану сябра.

Рымша (*да Хадкевіча*). Гасцей адразу ў банкетовую залу... ці...

Хадкевіч. Сюды вядзі! Зробім справу, пра ўсё дамовімся, а тады ўжо і пабанкетуем.

Рымша казырае і выходзіць.

Дарэчы пра бітву, у якой мой ад'ютант Рымша вызначыўся. Думаю, вам цікава будзе. Тым больш, што і цар Іван, і ваявода яго князь Сярэбраны на Маскве наўрад ці пахваляліся сваёй ганебнай паразай. А нам перамогай чаму не пахваліцца. (*Паднімаецца з-за стала, ходзіць вакол яго і па хаце.*) Перабіўшы і патапіўшы ў Дзвіне палачанаў, Іван Жахлівы (а мы вашага былога цара толькі так мянуем) выправіў свае пасольства да караля Польшчы Жыгімонта Старога, якое паведала, што ён, гасудар усяе Русі, жадае ваяваць у землях Рэчы Паспалітай абодвух народаў і абяцае спустошыць іх агнём і мячом. Шуйскі з 20-тысячным войскам выступіў з Полацка і меўся на друцкіх землях бліжэй да Воршы злучыцца з падмацаваннем, якое выйшла са Смаленска, Пскова, Ноўгарада, Таржка і Луцка. Сюды ж з Вязьмы ішло 50 тысяч вояў князя Сярэбранага. Пасля злучэння яны павінны былі ісці на Менск, Навагародак і Вільню. Праз свайго ваяводу Мікалая Радзівіла Рудога я атрымаў данясенне, што Шуйскі наважыўся ісці праз Улу. У гэты час Радзівіл са сваім войскам стаяў каля Лепеля, які знаходзіцца на адлегласці сямі міль ад Улы. Было вырашана, што мы твар у твар сустрэнем ворага паблізу Улы, на рацэ. І мы яго не толькі стрэлі, а і разграмілі ўшчэнт, дазвання. Самога Шуйскага і рэшту яго войска Радзівіл праследаваў міль пяць-шэсць, а можа, і болей. Уся гэта прастора была завалена целамі забітых. Загінула іх тысяч дзесяць, і не менш. На полі сечы застаўся абоз у пяць тысяч вазоў. І калі ноч апусцілася на зямлю, маскавіты, хаваючыся ў цемры, кінуліся наўцёкі. Прыклад паказаў сам Шуйскі, але так і не выратаваўся. За ім гналіся Андрэй Рымша і нейкі селянін. Ён і засек ваяводу сякераю, але сам загінуў. Князь Сярэбраны, даведаўшыся пра паразу войска і смерць Шуйскага, пачаў адступаць са сваім войскам да Смаленска. Маскавіты былі настолькі напалоханы, што невялікі атрад Філона Кміты і земляка твайго, Пётра, Мсціслаўскага ваяводы Юрыя Осціка, якія праследавалі іх, прынялі за асноўныя вялікакняжацкія сілы і са страху кінулі на Смаленскай дарозе 25 тысяч вазоў з харчам і зброяй.

Пасля гэтага цару, відаць, і пачалі мроіцца змовы і здрады. І паляцелі галовы вінаватых і невінаватых. Са страху прыбег да нас і князь Курбскі ды іншыя. І выходзіць, што сваім вяртаннем на Радзіму абавязаны вы мне, грэшнаму, ды Радзівілу Рудому. А калі ўсур'ёз, то паведаў я вам усё гэта дзеля таго, каб вы з першых вуснаў пачулі і зразумелі, што перад ульскай перамогай Вялікае княства наша было пастаўлена царом маскоўскім і каралём польскім перад ганебным выбарам: ці прыняць вечную тыранію маскоўскую ці няволю польскую. Перамога ж навалы пад Улаю не толькі адагнала ад Вялікага княства арду маскоўскую, але і сарвала планы польскія «ўцеліць», уключыць, закабаліць княства ў каралеўства пад страхам і навалы ад Масковіі і яе жахлівага цара. А наша вольная і незалежная дзяржава не стала шукаць паратунку ў Польшчы, а ўзяла яго ў бітве.

Мы з Мікалаем Радзівілам успрынялі ў свой чорны час падзенне і дзікую расправу з Полацкам як асабістую абразу і ганьбу. Ульская перамога дала нам права з годнасцю глядзець у вочы суайчыннікам.

Уваходзіць Рымша.

Рымша. Дазвольце, гетман найвышэйшы...

Хадкевіч. Пачакай... Але Андрэй Рымша не толькі здзейсніў свой ратны подзвіг, ён яшчэ як паэт уславіў подзвіг Мікалая Радзівіла Рудога ў сваёй паэме «Радзівіліада». Ёсць там і кліч польнага гетмана да сваіх ваяроў:

Вунь вораг. Вось цяпер тое, да чаго вы так імкнуліся,
Чаго так жадалі ў сваіх маленнях — тут.
Дык правай рукой, а не языком услаўляйце Марса.
Цяпер кожны няхай згадае подзвігі бацькоў,
Згадае няхай Радзіму, дзяцей і ласкавую жонку.
Вось поле славы, цяпер трэба ўжыць сілы!

(*Да Рымшы.*) Дакладвай!..

Рымша. Госці апаласнулі твары, размялі ногі з дарогі...

Хадкевіч. Як размялі, то вядзі іх сюды! Няхай разамнуць языкі.

Рымша. Слухаю! (*Выходзіць.*)

Хадкевіч. А цяпер пра тое, што ў караля на аўдыенцыі я гаварыць не мог, тым больш пры князю Курбскім, якога я лічу здраднікам, хоць ён і здрадзіў майму ворагу, але ж аднаго яны поля ягады... Мы пачнём друкарскую справу не на пустым месцы. Небяспека наступу Польшчы на нашы землі, пагроза апалячвання ліцьвінаў-беларусцаў спрадвеку выклікала неабходнасць рыхтавацца да сур'ёзнай барацьбы за Айчыну, за Бацькаўшчыну. Першае, што зрабіў мой бацька князь Аляксандр Хадкевіч — заснаваў яшчэ ў 1498 годзе праваслаўны манастыр на рацэ Супрасль тут побач з замкам. І хоць пазней ён перамясціўся ў Блудаўскую пушчу, як месца больш зацішнае, першаназву Супрасльскі захаваў. За нейкіх 30—40 гадоў мы з бацькам пераватварылі манастыр у Лаўру і зрабілі магутным культурна-асветным праваслаўным асяродкам не толькі Вялікага княства, але і ўсёй усходняй Еўропы. І не дзе-небудзь, а тут, на заходніх межах, на самым Падляшшы. У манастыры, а затым у Лаўры склалася моцная літаратурная школа. Сёння ёй належыць права лічыцца адным з моцных кніжных асяродкаў праваслаўнага свету. Сёння тут працуюць выдатныя

знаўцы Святога Пісання і наогул кніжнасці: мніхі-даследчыкі, літаратары, перакладчыкі, рэдактары, летапісцы, жывапісцы. Сёння гэты цэнтр праваслаўя на крайнім захадзе княства, на мяжы каталіцкай, а цяпер і пратэстанцкай Еўропы і агрэсіўнай да нас Польшчы, якая спіць і бачыць, як бы «ўцеліць» княства ў каралеўства, карыстаючыся нашымі варожымі адносінамі з Масковіяй і тымі пасткамі, якія нам ставяць і цар, і кароль, і папскі прастол.

У лаўры створана, сабрана багатая бібліятэка, выхаваны моцныя палемісты супраць каталіцкіх і рэфармацыйных місіянераў. Напісаны Супрасльскі летапіс і «Кніжка на лаціну». Тут жа выспела ідэя стварэння моцнага друкарскага асяродка. Склалася і ўласная школа «книжного строения», як на Маскве кажуць. У праваслаўнае супольства Падляшша ўваходзяць не толькі многія магнаты і ўрадаўцы, прадстаўнікі чорнага і белага духавенства, шляхціцы, мяшчане, але і адзінаверцы, што маюць немалую вагу і аўтарытэт у княстве. Да прыкладу, князі Астрожскія, Слуцкія, падканцлер Яўстафій Валовіч, пісар каралеўскі Міхайла Гарабурда, пратапоп Падляшша Нестар, усе Хадкевічы, а іх нямала змагаецца за вольнае княства і з царом, і з каралём. І паверце майму слову, яны добра ведаюць, якія кнігі найперш падаць на друкарскі варштат.

Архімандрыт Лаўры дапрацоўвае пераклад Бібліі на нашу дзяржаўную мову. У нас сабраны грэчаскія, лацінскія і славянскія пісаныя і ціснутыя кнігі Святога Пісьма, а таксама вялікая колькасць рукапісаў на пергаментах, у тым ліку поўны збор славянскіх біблейскіх кніг, не кажучы ўжо пра богаслужэбныя кнігі, чэцці, статуты, правілы, каноны ды іншае. Нашы мніхі, а сярод іх ёсць і такія, што прыйшлі са святога Афона, здольныя стварыць такія рукапісы і столькі, каб даў толькі вам Бог перавесці іх у кнігі ціснутыя.

Уваходзяць Будны і Цяпінскі, за імі — Рымша. Цяпінскаму 36 гадоў.

Будны. Добрага дня добрым людзям у хату!..

Хадкевіч. Рады бачыць чаканых гасцей. (*Устае, паціскае руку Буднаму.*)

Будны. Знаёмцеся, панове! Я прывёз з сабою свайго сябра і апанента Васіля Цяпінскага — выдатнага літаратара, перакладчыка і друкара.

Хадкевіч (*Хведаровічу і Мсціслаўцу*). Васіль яшчэ і мой малодшы афіцэр па вайне ў Лівоніі. А потым ён служыў у таго самага Філона Кміты, які са сваёй ротай так напалохаў князя Сярэбранага на Смаленскай дарозе.

Хведаровіч, Мсціславец і Хадкевіч рукаюцца з Цяпінскім.

Рымша. Гетман найвышэйшы, і другі экіпаж у замку.

Хадкевіч. Вельмі добра, што не позняцца. Гасцей вядзі сюды, а гаспадыні скажы, каб несла добры гляк медавухі.

Рымша. Ёсць прынесці медавухі! (*Выходзіць.*)

Хадкевіч. Прашу ўсіх прысесці з дарогі.

Усе размяшчаюцца вакол стала.

(*Да Цяпінскага.*) У каго зараз служым, Васіль?..

Цяпінскі. У падканцлера Астафія Валовіча.

Хадкевіч. А я яго толькі што ўспамінаў, як аднадумца свайго... Значыцца, ваяваць больш не будзем?..

Цяпінскі. Чаму ж не будзем? Як давядзецца, то зменім пёркі на дзіды ці шаблі.

Хадкевіч. Сёння і табе, і Сымону жорсткай схваткі не пазбегнуць, але не на шаблях і не на дзідах...

Уваходзяць князь Курбскі і старац Арцемій у манаскай расе (яму гадоў 70).

Арцемій. Мір дому вашаму!

Хадкевіч. З мірам прымаем, шаноўны ойча Арцемій.

Арцемій абдымае Хведаровіча, потым Мсціслаўца.

Арцемій. Жывы, здаровы...

Хведаровіч. Дзякаваць Богу, ойча. Дзякаваць Богу.

Хадкевіч. Знаёмцеся, ойча, са службоўцам падканцлера Валовіча, перакладчыкам і літаратарам Васілём Цяпінскім.

Арцемій стрымана кланяецца. Цяпінскі адказвае паклонам.

Курбскі (*кіўнуўшы на Буднага і Цяпінскага*). Гетман найвышэйшы паклікаў падмогу?..

Хадкевіч (*добразычліва*). Толькі пасля таго, як князь пры каралі паабяцаў нам жорсткі бой...

Уваходзяць Іванка, Аскліада і Рымша. Іванка ставіць на стол прыгожы кошык з яблыкамі, Аскліада расстаўляе кубкі, Рымша напаўняе іх медавухай з гляка. Аскліада і Іванка падыходзяць да Арцемія. Ён благаслаўляе іх, яны цалуюць яму руку. Арцемій туліць да сябе Іванку, усаджвае побач з сабою за стол.

Курбскі. Князь падрыхтаваўся да бойкі, а ставіць медавуху.

Хадкевіч. Я за мірныя перамовы, а медавуха і ахалоджвае, і супакойвае... Запрашаю ўсіх і да медавухі, і да добрай размовы. Справа агульная, дзяліць няма чаго... (*Садзіцца да стала, да яго далучаюцца іншыя.*)

Месцы на лаве каля сцяны займаюць Рымша і Аскліада.

Курбскі *(кідае вокам на Рымшу і Аскліаду)*. Ці не занадта князь Рыгор пашырыў склад перамоўшчыкаў?..

Хадкевіч. Калі шаноўны князь Андрэй мае на ўвазе афіцэра і жанчыну, то я прашу прабачыць, што не сказаў раней: афіцэр — мой ад'ютант, а жанчына — жонка і кампаньён Івана Хведаровіча ў друкарскіх справах, а юны друкар няхай набіраецца розуму ад мудрасці старэйшых. Безумоўна, я рызыкую, сабраўшы за адзін стол тых, хто лічыць, што Масква — трэці Рым, а чацвёртаму не бываць, з тымі, хто стаіць за рэфармацыю хрысціянскай царквы наогул, ды яшчэ з тымі, хто хоча даць люду простаму паспалітаму кнігі на яго роднай мове.

Але ж тым не менш гаворку неяк трэба распачаць, бо, як кажуць, абедня вартая свечак, калі мы разумеем значэнне друкаванай кнігі і для кліру, і для паствы.

Будны. Каб з першых слоў, шаноўны князь, надаць нашай гаворцы дзелавы характар і пазбегнуць непаразумення, здаецца мне, што на самым пачатку неабходна зразумець становішча ў царкве і наогул у грамадстве. А яно, на жаль, такое, што і каталіцкія, і праваслаўныя іерархі не толькі не схільныя навучаць паству слову Божаму, але і самі мала Божай праўды ведаюць.

Курбскі. Гэта яшчэ вельмі мякка сказана. У вас святары невукі, прастакі, у Святым Пісанні несвядомыя. Ёсць епіскапы, якія не ўмеюць чытаць. І наогул клір прабывае ў прастаце і глыбокім няўмельстве ў данясенні да люду слова Божага.

Будны. Гэта вельмі добра, што князь так глыбока ўнік у незайздроснае становішча нашай царквы і цемнату яе служак. Праўду сказаць, яны і ў Масковіі за нашых не святлейшыя. І я рызыкнуў бы сказаць, што прычына гэтага незайздроснага з'явішча як у нас, у княстве, так і ў вас, у царстве, у разбурэнні адзінства, сплаву, сінтэзу веры і розуму як асноўнай крыніцы веры. І разбурэнне гэта прывяло да абсурднай забароны на якія б там ні было дыскурсіўныя развагі, што тычацца веры і царквы, багаслоўскай думкі ці пропаведзі. У выніку такіх адносінаў да розуму, да імперычных ведаў з'явілася «небрежение», а потым і ўпадак адукацыі як у нас, так і ў вас, шаноўны князь. І ў прыватнасці не толькі свецкай, але і багаслоўскай, той самай грэка-візантыйскай адукаванасці і культурнасці, якімі славіліся хрысціянскія багасловы першых вякоў пасля Раства Хрыстовага. Што ў нас у княстве, што ў вас у царстве даходзіць да таго, што малапісьменныя і малакультурныя епіскапы-абскуранты заяўляюць: «Грэх, маўляў, простым людзям чытаць «Апостал» і «Евангелле».

Арцемій. Возлюбленый брате мой, не я ли первый на Москве возопил: от учения книжного бо разум прилагается, якоже в святых людях глаголется, еже и досмерти учитися подобает!

Будны. І слава Богу! І слава Усявышняму, святы ойча! Але ж і ў нас у княстве, і ў вас у царстве склалася сітуацыя, вобразна вызначаная як «веру, таму што не магу ведаць». У заходнім жа хрысціянстве наадварот намецілася тэндэнцыя к замяшчэнню ці нават падмене жывой веры разумнымі ўказаннямі ці нават патрабаваннямі. Дапушчэнне розуму ў сферу веры (пры кіруючым становішчы апошняй) — было абсалютызавана і па прычыне гэтага скрыўлена, перакручана схаластыкай, што і прывяло да другога абсурду — выключнага становішча розуму ў адносінах да веры: «веру, таму што ведаю», або «веру настолькі, наколькі ведаю».

Курбскі. Супрацьпаставіўшы розум чалавечы розуму Царквы тут, на Захадзе, і прыйшлі да супрацьпастаўлення чалавека Царкве, да супрацьпастаўлення часткі цэламу, а стварэння Тварцу.

Арцемій. Ісцінна глаголіш!

Курбскі. А гэта і прывяло ў выніку да адступлення ад Бога.

Арцемій. Святая праўда!

Курбскі. Пачаўшы па ўласнаму «измышлению», самадумству тлумачэнне Святога Пісання, ты бессаромна тлумачыш і выкладаеш, яко сам бачыш. Узвышаеш розум і зніжаеш святасць «Откровения»!

Будны. Князь, даражэнькі! Я не пра сябе, а пра тэндэнцыю, пра становішча, якое нам ігнараваць ці не лічыцца з якім не дазволена, калі мы ўжо наважыліся духоўныя кнігі рабіць.

Арцемій (*даволі агрэсіўна*). А ў грахоўным «Катэхізісе» сваім ці не ты, любы брат мой, «токо убо перины мякги велии послал есте; мусит же поломати кости възлегший на них, рекше — мужество душевное погубити и, вместо ревнителя добрым делом, бездельна и нетверда и расслаблена кекако устроити. А яже, посих, под тою мякгостию и ножа остры уготовите, не телесе заколюща, но душа злым учением вечной смерти предающе».

Будны. Ратуй мяне, Божа, класці вам у пасцель гостры нож у выглядзе майго «Катэхізіса», у якім я толькі даследаваў і канстатаваў стан Царквы і рэлігіі як усходняй, так і заходняй. І сёння толькі і хацеў падкрэсліць тое, што паспрыяла б знайсці адзіную мову з братамі маімі хрысціянамі, ды тое, што вельмі небяспечна абсалютызаваць як розум, так і веру. Абедзве крайнасці небяспечныя як для веры, так і для розуму: як «чыстая» вера, не ахоўваемая розумам, рана ці позна псуецца і гіне, ператвараючыся ў забабоны, прымхі і ідалапаклонства, так і «чысты» розум, некіруемы верай, у рэшце рэшт безнадзейна заблудзіцца і таксама згіне.

Арцемій. Умышлением и промышлением греховны слова твои, геретик!

Будны. Не разумею я, ойча, то «возлюбленным братам» у пісьмах і пасланнях называеш мяне, то раптам «герэтык» я апошні...

Арцемій. Брата же нарицаем для общего человеком прироження. Зловерия же ради лжеименитого разума, егоже приемлете на отвръжение благочестивых догмат святые съборныя апостолскиа церкви, не лет есть тако именовати.

Будны. Я гэта разумею, ойча, і ў сённяшняй бяседзе стаўлю за мэту толькі звярнуць увагу шаноўных апанентаў на тую акалічнасць, што ў рэлігійнай культуры як у вялікім княстве, так і ў вялікім царстве сутыкнуліся дзве крайнія формы раз'яднанасці веры і розуму. З'яднаць жа іх можа дасканала і дакладна перакладзеная Біблія, служба ў царкве і навука кніжная наогул на мове зразумелай і роднай кожнаму народу. Кожны народ павінен вывучаць Святое Пісанне на сваёй мове, каб на ёй жа размаўляць з Богам. Інакш навошта тады Бог даў народам розныя мовы?..

Курбскі. Царкоўнаславянская мова — мова Божая і ўсім славянам даступная.

Будны. Даступная яшчэ не азначае, што зразумелая. І ці не таму многія славенскія і не толькі славенскія народы ўжо маюць Біблii на сваёй мове, а не на іўрыце.

Арцемій. То герэтыкі лацінскай веры. І няхай яны ў сваіх касцёлах хоць на галаве ходзяць.

Курбскі. Усе пераклады, апроч царкоўнаславянскіх, сапсаваныя і маюць безліч недакладнасцей і хібаў.

Цяпінскі. Апроч перакладаў Максіма Грэка, як вы лічыце?..

Арцемій. Так! Так, мілы брат мой!

Цяпінскі. Цікава, хто іх убярог ад псавання і недакладнасцей?

Курбскі. Нашы непісьменныя пісцы недатыкальна перанеслі іх змест з пергаментаў на паперу.

Цяпінскі. Ну, калі гэта прыняць за аргумент, тады нам з вамі няма патрэбы дзіды ламаць. Нашы пісьменныя і адукаваныя перакладчыкі, пісцы і друкары ніякіх хібаў і псавання не дапусцяць. А вернікі на сваёй простай мове ўсё зразумеюць лепшым чынам.

Будны. Паверце мне, шаноўныя апаненты, як чалавеку дасведчанаму, што заўсёды і да гэтага часу былі і застаюцца толькі тры шляхі хібаў у Слове Божым: неадукаванасць перапісчыкаў, хітрасць і выдумкі «герэтыкоў», а таксама недакладнасці перакладу, якія, на жаль, пакуль трапляюць ва ўсе пераклады ўсіх часоў і народаў.

Курбскі. Дык на якую халеру нам рызыкаваць яшчэ і з вашай, так званай «простой молвой»?!

Цяпінскі. Па-першае, шаноўны князь, «молва» наша не такая ўжо і простая, як некаторым недасведчаным здаецца, па-другое, мы спадзяёмся на сваіх дасведчаных у мовах перакладчыкаў, а пры вашых, а цяпер і нашых выдатных друкарах-рэдактарах будзем мець такія Божыя і іншыя кнігі, па якіх навучацца розуму не толькі іерархі царкоўнага кліру, але і людзі простыя паспалітыя, дзякуючы якім «молва» наша стала мовaю дзяржавы і велікакняжацкай канцылярыі, мовай, на якой напісаны нашы летапісы, пішацца метрыка Вялікага княства, створаны Статуты і паасобны збор законаў, на ёй каралі, цары і імператары звяртаюцца да нашага князя і не толькі да вялікага, дзеля гэтага трымаюць пры сабе перакладчыкаў на нашу «молву», як вы кажаце.

Хадкевіч. Словам, настаў час, каб стаць нашай мове моваю святых кніг і царкоўнай службы, мовай жа навучання дзетак паспалітых яна стала з часоў з'яўлення Скарынавых кніг. Ён, Францішак Скарына, дае нам прыклад дзеля нашага подзвігу.

Будны. І дужа прыкра, калі ў эпоху асветы і адраджэння культуры чуеш, што знаходзяцца яшчэ дзяржаўцы і тэолагі, што аб'яўляюць анафему ці пазбаўляюць жыцця тых, хто хоць нешта робіць, каб наладзіць кніжную справу. Вашы ўцёкі, шаноўны князь Андрэй Міхайлавіч і ойча Арцемій, толькі пацвярджаюць мае словы. І вы як вучні Максіма Філосафа не настойваеце на тым, каб выдаваць кнігі ў Заблудаве выключна на царкоўнаславянскай мове.

Курбскі. Даруйце, але я буду не толькі настойваць, але лічу сваім святым абавязкам змагацца за тое, каб менавіта ў Заблудаве выданне кніг здзяйснялася выключна на «языке» царквы. І слаўны князь Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч павінен зразумець, што царква наша ў Масковіі яшчэ не мае выдання поўнай Бібліі.

Хадкевіч. Гэта ваш галаўны боль, князь... А я нікому нічога не вінен. І на якой падставе князь Курбскі наважыўся змагацца, каб не даць нам магчымасці мець поўную Біблію на сваёй мове ў перакладзе хоць паважанага Сымона Буднага, хоць Супрасльскіх мніхаў, што пераклалі яе пад наглядам архімандрыта Лаўры Сяргея Кімбара, хоць Васіля Цяпінскага, у якога пераклад на нашу мову даецца паралельна з царкоўнаславянскім тэкстам. Урэшце, мы маем выдатны пераклад Старога Запавету Францішка Скарыны, зроблены...

Курбскі (*перапыняе Хадкевіча*). Значыцца, князь цвёрда рашыў ісці за Скарынам?..

Арцемій (*перапалохана хрысціцца*). Свят, свят, свят!..

Хадкевіч. А чаму б і не?..

Арцемій. А хоць бы і таму, што кнігі Скарынавы перакладзены з сапсаваных кніг жыдоўскіх!..

Хадкевіч. Пачакайце, ойча, а што, хіба апроч Бібліі жыдоўскай ёсць яшчэ якая-небудзь?..

Курбскі. Не падмяняйце паняцці, пан Будны! Лютэр перапісаў на нямецкую мову з сапсаваных жыдоўскіх, а Скарына з двойчы сапсаваных Лютэравых.

Будны. Так бестактоўна да генія Скарынавага і яго кніг могуць ставіцца толькі тыя людзі, якія ніколі не чыталі ні Скарынавай, ні Лютэравай Бібліі і карыстаюцца абсурднымі паклёпніцкімі сцвярджэннямі.

Курбскі. Можа, князь Рыгор абароніць нас ад такіх абражальных наскокаў гэтага герэтыка?!

Хадкевіч. Магу прапанаваць свае паслугі толькі ў якасці секунданта.

Курбскі. Многа гонару для шляхціца Буднага...

Арцемій. Скажу сумленна, каб быць далей ад граху, я сапраўды не толькі не чытаў, але і не дакранаўся да богаадступных кніг Скарыны, але тваіх, шаноўны і любы брат мой Сымоне, начытаўся вось так *(праводзіць далонню па шыі)* і мушу сказаць у вочы, што для святой справы на нашых землях дзедзічаў і спадчынных ты найнебяспечнейшы грэшнік.

Хадкевіч. Пра якія землі дзедзічаў і спадчынныя гаворка? Мы што, калі-небудзь у Масковіі зямлю ў арэнду бралі?! Ці вы ўявілі, што, абвясціўшы сябе спадкаемцамі Канстанцінопаля, у нас сваю спадчыну займелі?

Курбскі. Мы яе тут займелі ў спадчыну яшчэ ад праваслаўнай Русі Кіеўскай!

Хадкевіч. Князь, спусціцеся з нябёсаў...

Рымша. Памятаю, паланёны намі пад Улай адзін баярын усё крычаў, што Масковія там, дзе маскавіцкі вой зрабіў вялікую патрэбу.

Хадкевіч. Наш вялікі князь Альгерд некалі аб вароты крамлёўскія сваю дзіду зламаў, але ж мы, яго нашчадкі, Масковію сваёй вотчынай і дзедзінай не аб'яўляем. І ў бежанства да яе не просімся.

Курбскі (*прымірэнча*). Князь Рыгор, ці варта нам сёння акцэнтаваць увагу на тым, у чым мы разыходзімся, а не на тым, што нас аб'ядноўвае, збліжае. Кожны абараняе свой гонар так, як можа ці лічыць патрэбным.

Хадкевіч (*мякка*). Сапраўды, каб не перасварыцца годнасць абараняючы, падвядзём рысу згоды на тым, што зямля і мова наша ад вольных прашчураў нам у спадчыну дасталася. І мы вольныя зямлёй сваёй карыстацца і на мове сваёй гаварыць, пісаць і кнігі друкаваць.

Цяпінскі. І чаму б нам менавіта наконт Скарыны не прыйсці да згоды? Якраз ён, рэнесансны пісьменнік, асветнік, мысляр, быў вышэй канфесійных спрэчак паміж рознымі формамі хрысціянства, прыйшоў да высновы, што Біблія — чалавечая, хоць і «боговдохновенная» кніга.

Арцемій (*хрысціцца*). Свят! Свят! Свят!

Цяпінскі. Што ён, Скарына, а не хто іншы, ураўняў нашу мову са «свяшчэннымі» мовамі — габрэйскай, грэчаскай, лацінскай і той жа царкоўнаславяншчынай. І ў гэтым няма яго граху, а ёсць подзвіг

тытана духу, які сам падняўся і падняў годнасць і гонар свайго народа і яго мовы да годнасці народаў старажытнейшых цывілізацый.

Курбскі. Не хто іншы, як лютэранін Скарына падрыхтаваў раскольны пратэстантызм антытрынітарскага кшталту.

Цяпінскі. Пры чым тут гэта? Мы ж гаворым пра мову і адукацыю люду простага, а вы кажаце пра адукацыю царкоўнага кліру. Мы ж пра адно і тое ж рупімся. І чаму не абаперціся на традыцыю Скарыны, калі не вам, дык хоць нам, калі менавіта ён бачыць у Бібліі універсальны дапаможнік «Богу ко чти, а людем посполитым к доброму научению» «философии добронравные», маральнасці і навукам? У Бібліі Скарына бачыць «прирожденое мудрости зачало и конець», «вси законы и правы», якімі людзі кіруюцца, «лекарства, душевные и телесные», крыніцу «семи свободных искусств», калі мы ўжо пра невуцтва кліру загаварылі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі і нават навук вайсковых. Няўжо, панове, гэта неперакананаўча і людзям простым пашкодзіць?..

Курбскі. Мы не адступім ад «языка» Кірылы і Мяфодзія.

Арцемій. Не адступім!

Цяпінскі. Але ж якраз мова Кірылы і Мяфода нам намнога бліжэйшая, чым маскавітам ці каму іншаму са славянаў.

Курбскі. Гэта нешта, даруйце, ужо зусім новае?!

Цяпінскі. Прашу прабачыць, шаноўны князь, але гэта якраз старое, нават старажытнае. Белая, а не якая іншая Русь — непасрэдны этнічны спадкаемца апошняй славянскай праайчыны. Адсюль і літаратурная мова пазнейшых ліцьвінаў-беларусцаў не што іншае, як старажытны яе варыянт.

Курбскі. Малады чалавек сказаў дзёрзкасць, якая аніяк не пацвярджае, што ваша «простая молва» ёсць паўнавартасны сродак зносін, а тым больш сродак духоўнай культуры ў зносінах з самім Усявышнім.

Цяпінскі. Гэта вам, князь, так толькі здаецца па прычыне недасведчанасці. Вазьміце любы царкоўнаславянскі лексікон і прасачыце літаральна па альфабэту старажытную ідэнтыфікацыю нашай мовы, і вы пераканаецеся ў яе непасрэдным сваяцтве з мовай македонскіх другавітаў, гэта значыць з мовай салунскіх братоў Кірылы і Мяфода. Гэта пра іх гаварыў візантыйскі цэсар Міхаіл, пасылаючы з пропаведдзю да мароўскіх славянаў: «Вы салуняне, а салуняне чыста гавораць па-славянску».

Курбскі. Ну і што з таго? Хіба гэта адказ?!

Будны (*да Цяпінскага*). Дазволь... Асаблівасці нашай мовы, князь, упершыню зафіксаваны ў VII стагоддзі. І звязана гэта з тым, што частка племя дрыгавічоў нашага Палесся ў эпоху вялікага перасялення народаў прыбілася на балканскі паўвостраў і пасялілася вакол Салонік. Грэкі назвалі іх другавітамі. Дарэчы, яны і цяпер там жывуць. Пра іх і цэсар Міхаіл гаварыў, што яны чыста гавораць па-славянску.

Цяпінскі. Кніжная мова Кірылы і Мяфода — мова палескіх дрыгавічоў-другавітаў. На яе яны і пераклалі Святое Пісанне з грэчаскай мовы, бо разлічвалі на ўсіх славянаў.

Курбскі. Так можна сцвярджаць, што на ваша Палессе якраз і прыйшлі з Балканскага паўвострава тыя самыя другавіты, названыя тут дрыгавічамі.

Цяпінскі. Я і хацеў, каб князь гэта сам сказаў. І калі б гэта пацвердзілася, то не змяніла б у прынцыпе маё сцверджанне, як і сцверджанне цэсара Міхаіла пра тое, што салуняне, або другавіты, гавораць па-славянску. І не мела б значэння, хто да каго прыйшоў. Галоўнае, што мова другавітаў-дрыгавічоў была моваю салунскіх братоў роўнаапостальных Кірылы і Мяфода.

Хадкевіч. Брава, Васіль! Брава, Сымон!

Цяпінскі. І зусім невыпадкова гістарычны перыяд нашага пісьменства называецца «царкоўнаславяншчынай»! А чарнарызец Храбр, што жыў у XI стагоддзі і быў непасрэдным сведкам асветнага ўздзеяння салунскіх братоў і ўзбагачэння мовы славянскіх народаў біблейскай словатворчасцю, вызначыў трапным афарызмам: «Так брація, даў Бог славянам розум».

Будны. І ці не таму так заканамерна тое, што на падставе, на аснове, на грунце мараўскай рэдакцыі перакладу салунскіх братоў папярэдзе ноўгарадскага генадзіеўскага перакладу Бібліі ў нас ужо ў 1502—1514 гадах склаўся наш рукапісны звод Бібліі Матфея Дзесятага і Фёдара Янушэвіча, які, відаць, саслужыў не апошнюю службу пры перакладзе Скарынам Бібліі лацінскай, грэчаскай, чэшскай ды іншых моў на літаратурны стыль мовы простай «ко чти и добраму научению».

Хадкевіч. Я вельмі хацеў бы, каб нашы апаненты зразумелі, што пакуль у нас ёсць наша зямля і мова, мы — народ, дзяржава, мы праваслаўная сцяна паміж Польшчай і Масковіяй. Не будзе гэтай сцяны, не будзе нашага Вялікага княства, Польшча не спыніцца перад Смаленскам, як і Масковія не спыніцца перад Полацкам і Воршай. Нас будуць правакаваць як з аднаго, так і з другога боку для таго, каб калі не далучыць да сябе поўнасцю, то разарваць на дзве часткі. Яшчэ ў 1562 годзе Польшча правакавала Віцебскую шляхту, каб тая патрабавала ад Вялікага князя заключыць унію з каралеўствам. А ўжо ў 1564 годзе на Варшаўскім сойме абмяркоўвалася магчымасць «уцялення» княства ў каралеўства. Унія — гэта адна дзяржава і адна мова і толькі польская, як і вера толькі каталіцкая, а з ёю і падлегласць Рыму.

Усталёўваецца працяглая паўза.

Мсціславец. Калі ты, Іван, і надалей будзеш адмоўчвацца, то я скажу адразу: друкаваць кнігі ў сябе дома на нейкай іншай мове, акрамя сваёй, я не стану. (*Устае з-за стала.*) А за абразу светлай памяці апостала нашага краю Францішка Скарыны я выклікаў бы князя Курбскага на кулачны бой, як на Маскве. Калі ён, вядома, не збаіцца.

Курбскі (*крычыць ускіпеўшы*). Як ты смееш, халоп!..

Мсціславец. Вучань Скарыны Пётр Цімафееў Мсціславец у самога цара халопам не быў! (*Пакідае пакой, грымнуўшы дзвярамі.*)

Сцэна зацямняецца.
Заслона закрываецца.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Заслона адкрываецца.

### Карціна чацвёртая

Заблудаў, 1570 г.

Суперзаслона з выявай і сілуэтам заблудаўскага замка паднімаецца.
Той жа пакой, што і ў трэцяй карціне, толькі абсталяваны пад друкарню: на стале стаіць наборная каса, каля сцяны, што насупраць, стосы паперы і кніг. Друкарскі варштат прыкрыты посцілкай.
Хведаровіч працуе з наборам за касаю, Іванка складае аддрукаваныя аркушы. Працуюць спора, засяроджана. Асклiада прыбірае падлогу ад абрэзкаў паперы, потым выходзіць у суседні пакой.
Хведаровічу 60 гадоў, Аскліадзе 50, Іванку 20.
Уваходзіць Мсціславец (яму 66 гадоў). Ён усё такі ж бадзёры і жвавы, толькі барада і валасы пабялелі.

Мсціславец. Мір дому твайму, Іване!

Хведаровіч не адказвае на прывітанне.

Між іншым, Іване, ты не адказаў на маё прывітанне.

Хведаровіч. Прымаю з мірам, але без павагі. (*Некаторы час працуе моўчкі.*)

Мсціславец. Мы з табою за 33 гады столькі солі з'елі, што і каня такога не знойдзеш, каб воз той з месца скрануў, а ты глядзіш на мяне воўкам.

Хведаровіч. Дараваць я не магу табе. З Курбскім цапнуўся, а мне, справе нашай здрадзіў. Пасярод дарогі кінуў і збег у Вільню, як злодзей. Я толькі зразумець не магу, чаму, з якіх меркаванняў, з якое вялікае выгоды?!

Мсціславец. І не здагадаешся. Але здраднікам мяне не лічы, а тым больш злодзеем. Мне гэта крыўдна і балюча. Ні сябра, ні паплечніка, ні аднадумца не было ў мяне такога, як ты, Іване.

Хведаровіч. Кім быў я табе, мне вядома. А ты мне кім быў, калі з'еўшы тую соль збег, спаслаўшыся на вельмі непераканаўчую прычыну. Ды і не я таму віною, што адзін князь пераканаў другога князя не выдаваць кнігі на нашай мове, а ўсё ж на царкоўнаславянскай. Яна ж і царкоўнаславянская праваслаўнаму не чужая. А ты забыў запавет Скарыны несці кнігу Масковіі, каб асветліць розум маскалёў і татараў амаскаленых. Ды і князь той сёння тут, а заўтра памірыцца з царом ці сам царом стане. Князь Хадкевіч таксама не бяссрэбранік. Трацячы грошы на кнігі, рупіўся, дзе іх прадаць і даражэй — толькі ў княстве ці ў княстве і царстве адразу, адначасова. І глядзеў, між іншым, далёка. Пасля падпісання Люблінскай уніі і падпарадкавання княства Кароне не дадуць палякі ходу не тое што кнігам на нашай мове, але і з царкоўнаславянскай будзе цяжка. Адзіная дзяржава, адзіны народ... польскі, яго і мова... Так што...

Мсціславец (*перапыняе*). Ты мне ўжо і слова ўставіць не даеш!

Хведаровіч (*спахапіўшыся з надзеяй*). Даруй, братка... Я цябе прабіраю, а ты, можа, якраз і вярнуўся як той блудны сын да свайго старога сябра, паплечніка і аднадумца? Калі так, то выбачай...

Мсціславец. Не, не так, Іване... Не вярнуўся я, у тым і бяда мая...

Хведаровіч (*з жалем*). Вось бачыш... а я быў падумаў. *(Злосна, здзіўлена.)* І чаго табе з намі не хапала?!

Мсціславец. Іване, дружа мой верны і адзіны, мне з вамі было аж занадта...

Дзверы прыадкрывае і заглядвае Асклiада, але не заходзіць і знікае.

Хведаровіч. Тады з якое трасцы з друга, кампаньёна, можна сказаць, сем'яніна ператварыўся ў майго канкурэнта?! І цяпер у кніжным майстэрстве мы з табой як ворагі — хто каго?

Мсціславец. Гэта бяда, Іване, не самая вялікая. І яна якраз пойдзе на карысць і твайму, і майму майстэрству. Кніжкі нашы ад гэтага не стануць горшымі. Бяда ў другім. І наогул, тры бяды. Але пакінуў я вас з-за трэцяй. А можа, і выкарыстаў яе, каб збегчы...

Хведаровіч. Не мямлі. Выкладвай па парадку ўсе тры. Ведаць хачу!

Мсціславец у разгубленасці замаўкае.

Мсціславец. Першая, канешне, — гэта мова, гэта ўжо мой прынцып і ўступаць было Курбскаму і табе... Не па мне, словам, было, таму і закусіў цуглі. Другая — прыкра мне было ўсё жыццё быць толькі тваім ценем. Хоць на гэта можна было і рукою махнуць. Нехта першы, нехта другі, каб той і бяды. Трэцяя бяда мяне і даканала, дык я яе і выкарыстаў, каб разлучыцца-разысціся хоць на трыццаць чацвёртым годзе маёй бабыльскай жыткі. А згрызота не праходзіць, бо ведаў, што вы з Асклiадай пра мяне думаеце, — прыйшоў табе прызнацца... Ды зноў баюся, што звалю свае пакуты з хворай галавы на здаровую. Ані перад Богам, ані перад табою не вінен, можа, толькі перад Асклiадай. Але ж і сам не спакусіўся і іншых у грэх не ўвёў. (*Хрысціцца.*)

Хведаровіч (*насцярожана*). Ты думаеш, што я хоць нешта зразумеў?..

Мсціславец. Ён не зразумеў!.. А ты думаеш, я зразумеў... што гэта за таямніца такая каханне, якога нельга было ні ўтаймаваць, ні спыніць, ні адрачыся. Ахапіла ўсю істоту на дзесяцігоддзі...

Хведаровіч. Чыю істоту? Чыё каханне?..

Мсціславец. Маё, а чыё ж яшчэ?..

Хведаровіч. Сівізна ў бараду, чорт у рабрыну. А я табе яшчэ калі казаў: жаніся бабыль, бо некалі пашкадуеш сваёй цноты.

Мсціславец. Я нічога не шкадую. Я завітаў толькі сказаць, што не здрадзіў ні табе, ні сваім пачуццям. Больш за трыццаць гадоў я кахаю Асклiаду, тваю Асклiаду, Іване!..

Хведаровічу адымае мову.

Не спяшайся мяне задушыць. Яна пра гэта не ведае, нават не здагадваецца, і ты ёй — ні слова!..

Дзверы адчыняюцца. Уваходзіць Асклiада.

Асклiада. Ты думаеш, Пётра, што на свеце ёсць хоць адна жанчына, якая не здагадваецца, што нехта яе кахае таемна, асабліва, калі гэты нехта дзесяткі гадоў жыве побач, пад адным дахам?!

Хведаровіч (*хрыплым голасам*). Сядзь, Аскліада...

Аскліада садзіцца побач з Хведаровічам.

Мсціславец. Я так лічыў, таму і пакінуў вас абаіх. Каб вы былі яшчэ шчаслівейшыя.

Хведаровіч (*няўпэўнена*). Пётра, так не бывае...

Мсціславец. Бывае, Янка. Я гэта лепш ведаю.

Хведаровіч. Тады дзе і калі гэтая немач да цябе прычапілася?

Мсціславец. Шчасце-няшчасце напаткала мяне там, у Вільні, пры нашым першым спатканні ў Скарыны. Цяпер здаецца, што я і ў Масковію з вамі ехаць напрасіўся толькі таму, што ўбачыў прыгажуню Аскліаду. Убачыў і... прапаў... Прапаў, як некалі прапаў Францішак Скарына, убачыўшы жонку свайго фундатара Багдана Онкава Маргарыту.

Хведаровіч (*ачомаўшыся*). Табе што, чалавек, незамужніх жанчын ці дзевак не было?!

Мсціславец (*вінавата*). Яны некуды ўсе адразу зніклі і да гэтага часу не вяртаюцца. Аскліада хутчэй за ўсё была адна ў свеце, але Бог аддаў яе табе.

Хведаровіч. Што ж ты супраць самога Бога?..

Мсціславец. Я маліўся і суцяшаў сябе толькі тым, што Бог ёсць любоў, а любоў ёсць сам Бог. Пры вас мне было нялёгка, без вас стала яшчэ горш.

Хведаровіч. А ты не хворы, Пётра? Ты часам не захварэў на галаву?.. Не цюкнуўся цемечкам?..

Мсціславец. Адкуль мне ведаць. А ты можаш і так думаць.

Хведаровіч. І як ты ўстрымаўся, каб не забіць, не задушыць ці атруціць мяне?..

Мсціславец. Ты мяне ўжо і за божую істоту не лічыш...

Аскліада. Вы такія... абодва, якія ёсць. І дай вам Бог шчасця. Бывае і зусім не рэдка, што ён любіць яе, а яна любіць іншага...

Хведаровіч. Каго гэта яшчэ іншага?!

Аскліада. Што ж тут далёка за прыкладам хадзіць. Я вельмі даўно моцна і назаўсёды пакахала цябе, мой любы Яначка (*цалуе мужа*), а перад Пётрам сёння схіляюся ў нізкім паклоне ўдзячнасці за яго чыстае і светлае каханне, за цнатлівасць і цярплівасць, асабліва ж за шчырасць у прызнанні нам абаім. (*Устае і кланяецца Пётру ў пояс.*) А цяпер пагаварыце аб справах. Колькі год не бачыліся... А я тым часам вячэру прыгатую.

Хведаровіч. Ну, дык што там у друкарні багацеяў Мамонічаў, сапернік?

Мсціславец. Не кпі з мяне, Іване. Я ж не дзеля гэтага вам адкрыўся. А ў друкарні, як у друкарні. Ёсць задумы і нават напрацоўкі да выдання некалькіх кніг і рэлігійных і свецкіх. Зараз робім «Евангелле напрастольнае», а ў далейшым зраблю ўсё магчымае, каб адрадзіць у Вільні скарынінскую традыцыю кірыліцкага выдання славянскіх кніг на патрэбу асветы люду паспалітага. Браты Мамонічы купцы заўзятыя і багатыя, але, дзякаваць Богу, значэнне кнігі разумеюць.

Хведаровіч. Рады за цябе... калі жонку ў мяне не звядзеш... Гэта ж трэба, га?!

Мсціславец. Няхай Бог сцеражэ вас на многія гады і разам. А я пакіну Заблудаў з палёгкай на душы і ўдзячнасцю вам абаім за разуменне.

Хведаровіч. Я табе, вядома, за шчырасць і адкрытасць удзячны, але спакою ты мяне пазбавіў на старасці гадоў.

Мсціславец. Браце Іване, усведамляю ўсю абсурднасць свайго прызнання, але жыць з таўром здрадніка не мог, бо дужа было цяжка. Цяпер адлягло.

Хведаровіч. Яму адлягло! Яму палягчэла! А як я раптам не паверу ў твае анёльскія паводзіны, ці ўяўлю Асклiаду ў блізкасці з табою, ці мала што мне прымроіцца?! Пра гэта ты падумаў?!

Мсціславец. Перахрысціся! І няхай ахаваюць цябе анёлы ад дурных думак. Раскажы лепш, як вы тут у новага гаспадара? Як праца, што зрабіў, над чым працуеш? Памятаю, як князь Рыгор абяцаў нам залатыя горы...

Хведаровіч. Абяцанні засталіся цацанкамі дурням на радасць. А паколькі я тут нікому ў дурні не ўшываўся, то адчуваю сябе — не пазайздросціш. То князь на вайне, то доўга хварэў пасля ранення, акаломы яго ці па сваёй скупасці, ці з княскае парады грашыма не трэслі, а потым і наогул друкарскую справу фундаваць перасталі. Што свайго было на чорны дзень, спусціў на кнігі і застаўся зараз ні з чым. *(Бярэ кнігу са стала.)* «Евангелле вучыцельнае» — вазьмі на добры ўспамін. У параўнанні з тым, што мы разам рабілі, тут многа новага, табе цікава будзе.

Мсціславец (*аглядае, гартае*). Цудоўная кніга! Віншую! Вельмі рады за цябе!..

Хведаровіч. Заканчваю «Псалтыр з Часаслоўцам». А што і дзе рабіцьме, калі і ведае, то адзін князь Рыгор. Вярнуўся дамоў зусім хворы. Праз ад'ютанта Рымшу паведаміў, што сёння мяне наведае. Але ад сустрэчы гэтае нічога добрага не чакаю. Не той настаў час. Няма больш самастойнага княства. Люблінская унія раскалола грамадства, і расколіна прайшла ад макушкі да каранёў. Вось у чым усе нашы няшчасці будуць. На вуліцы мароз, у душы холад і беспрытульнасць. Вяршэнства ўсяго і ўся цяпер у Рэчы Паспалітай аднаго, а не абодвух народаў, як раней было.

Уваходзіць падросшы, узмужнелы Іванка (яму ужо 20 гадоў).
З'яўляецца і Асклiада.

Іванка (*радасна*). Дзядзька Пётра!

Мсціславец абдымае Іванку.

Мсціславец (*адхіліўшы ад сябе Іванку, але трымаючы яго за плечы*). Падрос! Узмужнеў! Сапраўдны мужчына і спадкаемца сапраўднага майстра-тыпографа...

Асклiада. Сёння хлопцу 20 гадкоў. Гасцей на вечар запрасілі. Дык ты, Пётра, з ад'ездам не спяшайся. Падзялі з намі радасць паўналецця мужчыны...

Уваходзіць Рымша, такі ж малады, стройны і прыгожы афіцэр, якім быў і чатыры гады таму.

Рымша. Князь Рыгор!..

З'яўляецца Хадкевічу цывільным, вельмі пастарэлы і, відаць, што зусім хворы. Рымша адразу падае яму зэдлік. Той цяжка садзіцца, абапёршыся на кавеньку абедзвюма рукамі, аглядае прысутных.

Хадкевіч. Вітаю вас, добрыя людзі. Рады, што вы ўсе разам. Прысядзьце, будзем рашаць нашы справы супольна... як і некалі. Хоць і цяжкавата цяпер нешта рашаць і вырашаць былому гетману найвышэйшаму.

Хведаровіч. Як былому, ваша мосць?!

Хадкевіч. Аддаў булаву вялікую. Вялікаму княству князь Хадкевіч не патрэбны, а каралю служыць сам не жадае. Скрышыла мяне клятая унія, ды так, што няўмольна і няўхільна зыходжу з гэтага тлумнага і несправядлівага свету ў лепшы, калі ён ёсць... Прыйшоў прасіць даравання за ўсе мае правіны перад вамі. Не выключаю, друкары-асветнікі, што вы зараз князя Рыгора Хадкевіча і за балбатуна лічыце, які ў гэтай штабне сказаў і табе, Іван, і табе, Пётра, што «я такоже и впредь працы накладу майго шкадаваць не буду и многия книги друкаваць дам», а ты, Іван, паверыў мне і словы тыя, што не спраўдзіліся, у прадмову да «Псалтыра з Часаслоўцам» упісаў. І выходзіць на справе, што хлусню княжацкую на стагоддзі ўвекавечыў. Хоць віны маёй нібыта і няма, што гаварыў я нібыта праўду, а ты запісаў дакладна. Наважыўся быў цвёрда стаяць на тым, каб кнігі выдаваць на сваёй мове, але не ўстаяў. Усё перайначыла, ўсё перавярнула люблінская здрада, што зліквідавала нашу дзяржаву і сцвердзіла прадажнасць большасці ўрадоўцаў і магнатаў Вялікага княства. Цяпер яны засядаюць у польскім сойме, а не ў нашым. Якая ўжо тут свая мова?! Адна ў нас цяпер мова — польская, адна дзяржава — каралеўская, і адна рэлігія, відаць, будзе рымская. Усё чужое, усё не сваё. Якая цяпер асвета, якая друкарня, якія кнігі, калі мы згубілі асноўнае, вызначальнае. «Эліта» дзяржавы нашай амаль уся скурвілася і прадалася з усімі сваімі вантробамі. Адчуваю сябе старым, хворым, нямоглым і абкрадзеным. Да таго дайшло, што пазычыў у Мікольска-Пустынскага манастыра 200 коп літоўскіх грошаў, а аддаць змог толькі 20, дзесятую частку. Недарод хлеба, уціск новай чужой улады, ва ўсіх былых нашых старонах і краях такі магутны голас-плач і крык да неба збяднелых падданых, што даводзіцца думаць не пра тое, што яны цябе карміць будуць, а пра тое, як бы іх саміх пракарміць ды ад галоднай смерці ўратаваць...

То мая сумная споведзь перад вамі, друкары. Адпусціце мае грахі, то дзякуй, а як не адпусціце, то не пакрыўджуся. І толькі маліцца за вас буду, як некалі згарэўшы да ніткі радца віленскі Якуб Бабіч маліўся за Францішка Скарыну, што вымушаны быў з'ехаць з Айчыны.

Асяродак барацьбы за выхад княства з уніі і супрацьстаяння пальшчызне і каталіцызму хутчэй за ўсё змесціцца з нашага Падляшша на Валынь, а дакладней да Астрогу і князя Канстанціна Васіля Астрожскага. Больш няма куды і няма да каго. Яго шлях духоўных пошукаў шчасліва ці нешчасліва, але супаў са шляхам духоўных пошукаў нашага народа, і нават не толькі аднаго народа, а цэлага этнасу ўсходніх славянаў. Туды, на Валынь, вам і трэба цягнуць. У Львоў я

напішу Сямёну Сядляру — гэта самы адукаваны купец на ўсю Львоўшчыну. А ў Астрог напішу князю Канстанціну Васілю Астрожскаму — па багацці ён другі ў княстве пасля Гаштольдаў. І даўно марыць выдаць поўную славянскую Біблію. І калі гэта яму ўдасца разам з вамі, ведайце: грандыёзная задума ўсяго ўсходнеславянскага свету выспела тут, на Падляшшы, пад непасрэдным патранатам роду князёў Хадкевічаў. Коней, ахову на чале з маім ад'ютантам Андрэем і грошай на дарогу нашкрабу па засеках.

Калі гэтая прапанова не падыходзіць, а край наш яшчэ не дарос да дзяржаўнасці, волі і асветы, не пазбавіўся такой немачы, як самапрыніжэнне, хцівасць і здрада святому, то пакіньце кніжную справу, сядзьце на зямлю, я вам яе дам, колькі захочаце ўзяць, засявайце ніву і ралам рабіце хлеб свой надзённы. (*Абводзіць усіх вачыма, доўга чакае адказу.*)

Хведаровіч (*устае з-за стала*). Не з рукі мне, Івану Хведаровічу, ні ралам, ні сеяннем насення жытнёвага жыццё сваё ўкарочваць, бо маем у руках замест рала майстэрства кніжнае, а замест жытнёвага насення насенне духоўнае, яго і будзем па свету рассейваць і ўсім па чыне раздаваць духоўны пажытак наш для людскога розуму...

Сцэна зацямняецца.

## Карціна пятая

Львоў, 1572 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта горада Львова паднімаецца.
У пакоі стол, вакол яго зэдлікі, два ложкі і шырокая лаўка.
Перад абразамі на покуці моліцца Асклiада.

Асклiада. Господи Иисусе Христе, Единородный Сыне Безначального Отца! Ты рекл еси пречистыми твоими усты, яко без Мне не можете творити ничегоже. Сего ради припадая к Твоей благости, просим и молим Тя: рабу Твоему Ивану и всем зде предстоящим и молящимся Тебе помози во всех благих их делах, начинаниях и намерениях. Яко Твоя держава, царство и сила, от Тебе помощь вси приемлем, на Тя уповаем и Тебе славу возсылаем, со Отцом и Сыном и Святым Духом, ныне и присно и во веки веков. Аминь. (*Хрысціцца тройчы.*)

Уваходзіць зморaны, прыгнечаны Хведаровіч з сынам Іванкам, садзяцца на зэдлікі каля стала. Асклiада паднімаецца з падлогі.

Асклiада. Зноў, бачу, ні з чым. Ні надзеі, ні радасці ў аблiччах.

Іванка. Змарыліся...

Асклiада. Малачка прынясу. (*Да Іванкі.*) Хадзем, кварты возьмеш, хлеб... (*Выходзіць разам з Іванкам.*)

Асклiада вяртаецца з гарлачом, Іванка з хлебам і квартамі. Асклiада напаўняе кубкі, Іванка наразае хлеб. Бацька і сын перакусваюць, Асклiада спачувальна назірае за імі.

Хведаровіч. Не ў добры час мы заявіліся ў гэты Львоў. Відаць, толькі львам ды ваўкам тут і добра. Хоць крычы як у немым лесе ці пустыні, хоць памірай сярод дарогі, нікому ты тут не патрэбны. Прыніжаюся як апошні ўбогі і перад высакароднымі і багатымі, перад слаўнымі і няслаўнымі, перад іерархамі і вернікамі... Бы глухія і сляпыя пасяліліся ў гэтым вялікім горадзе. Ногі іх слязамі abліваю, і не міласціну прашу, а ў пазыку, на кнігі, а яны і не чуюць, і не бачаць. Не толькі ў мясцовага люду спачування не знаходжу, але і ў наезджых, якіх тут, здаецца, больш чым аседлых. Грэк-багацей, які палац сабе будуе, нават у двор не пусціў. Толькі і дамовіўся з некаторымі іерэйскімі чынамі, каб у цэрквах і саборах аб'явілі аб прыездзе ў горад друкара, які просіць у пазыку пад будучыя кнігі.

Аскліада. А можа, не хадзіць, не апастыляцца, пакуль Сядляр гэты не вернецца ды пісьмо ад князя Рыгора не прачытае...

Хведаровіч (*безнадзейна махае рукой*). Ат...

Аскліада. Ну чаму ж?.. І без гаспадара, а далі прытулак нам. Куток гэты далі, не горшы княскага ў Заблудаве. А іншым, можа, і не да нас. Такі пажар у горадзе быў. Адны выгарышчы ды асмолкі, як вокам кінуць. Адбудоўваюцца людзі, кожны грош на ўліку. Трэба пацярпець, пачакаць...

Хведаровіч. Ну і чаго ты дачакаешся?.. Пад ляжачы камень і вада не цячэ...

Аскліада. Глядзіце, як самі ведаеце, а я вячэру гатаваць. Што вам, выбегаўшыся, малако гэта... (*Выходзіць.*)

Іванка. Памятаеш, тата, калі мы зайшлі да галоўнага гарматчыка горада, ён хоць нічога і не даў, але папытаўся, што ты яшчэ рабіць умееш. А як ты сказаў, што ўмееш яшчэ званы, гарматы і пішчалі ліць, ён на цябе вельмі пільна паглядзеў...

Хведаровіч. Відаць, табе так толькі здалося.

Іванка. А навошта тады папытаўся, у каго мы спыніліся. А як ты адказаў, ён заўважыў: Сямён Сядляр абы каго на пастой не бярэ... А ты не развучыўся гарматы адліваць? Я нешта не памятаю, каб ты гэтым у Маскве займаўся.

Хведаровіч. Літары ж я сам адліваю.

Іванка. Гарматы не літары...

Хведаровіч. Я, сынок, не тое што ліццю развучыўся, а пакуль мы сюды ехалі ды з-за халеры на Валыні ў дарозе зімавалі, думаў... І дадумаўся да прынцыпова новага віду зброі — магутнай гарматы для дальняга бою і ручной марціры для бою бліжняга, абарончага. Засталося толькі разлікі зрабіць ды адліць. Усё бачу да драбніцы. Але гэта пакуль наш сакрэт. Нават для сябе маляваць пакуль не хачу... А гарматчык нас знойдзе. Абавязкова знойдзе!

Іванка. Чаму ты так упэўнена гаворыш?

Хведаровіч. Я яго зацікавіў. На друкарскую справу яму напляваць. А на гарматную ён нам грошы дасць абавязкова. Ад іх мы на друкарскую і адарвём. Гэта той выпадак, калі фанат трапляе на фаната.

Іванка. Ты фанат артылерыі?

Хведаровіч. Я фанат абставінаў. Усю дарогу распрацоўваючы свае задумы, я прыйшоў да высновы, што мая зброя не жартачкі. Калі не ўдасца найперш стварыць друкарню, я займуся артылерыяй. А калі

ўдасца стварыць друкарню, то артылерыю не кіну. Жыццё мяне пераканала, што займацца ў наш час друкарствам можна толькі маючы пабочны занятак і пабочны заробак, і прытым не малы. Друкарства патрабуе многа грошай. Толькі яны, грошы, забяспечаць свабоду і незалежнасць ад князёў, купцоў, магнатаў. Артылерыя ці проста зброя, якая б несла велізарную разбуральную і забойную сілу, можа даць вялікія грошы. Свет не хоча кніг, цары і каралі з'ехалі з глузду і патрабуюць магутныя сродкі разбурэння і вынішчэння. Я рашыў даць ім такую зброю. Няхай пацешацца!

З'яўляецца Даніла Кеніг — дзелавы, імклівы, напорысты (яму гадоў пад 50).

Даніла Кеніг. Вітаю вас, панове! Даніла Кеніг — чалавек справы і не любіць адкладваць на паслязаўтра тое, пра што можна дамовіцца сёння на заўтра. Як галоўны гарматчык Львова маю вялікі заказ на выраб гармат. А гэты тавар бяды не чыніць, і чым яго болей, тым спакайней не толькі Данілу, але і ўсяму гораду. А таму бярыся за справу, друкар! І не будзеш пабірацца...

Хведаровіч. Я толькі што сказаў сыну, а сын са мною пагадзіўся, што Даніла Кеніг чалавек сур'ёзны і мы з ім знойдзем агульную мову.

Даніла Кеніг. У разумнага бацькі разумны сын. І гэта пераконвае гарматчыка, што ў асобе друкара ён знойдзе надзейнага кампаньёна, які выкарыстае свае здольнасці ў ліцейнай справе, не нашкодзіўшы справе друкарскай, за якую, відаць, учэпіцца Сямён Сядляр — не меншы кніжнік, чым купец. І слава Богу! Лішніх грошай ніколі не бывае. Карацей, каб не стаць нам канкурэнтамі ў гарматнай справе, а затым і ворагамі, прапаную ўступіць у мой цэх і застацца мне сябрам. А я сябраваць умею.

Хведаровіч. Пан Даніла ўпэўнены, што не рызыкуе, прапаноўваючы мне дзелавы хаўрус і сяброўства без папярэдняга выпрабавання ліцейных здольнасцей магчымага кампаньёна?

Даніла Кеніг. Законнае пытанне чэснага майстра! Але Даніла Кеніг не толькі даўно і добра ведае Сямёна Седляра, у якога спыніўся знакаміты друкар, але і сябруе з ім. Сямён Сядляр абы з кім не водзіцца, на гэта ў яго хапае і розуму і спрыту. Пан Іван Хведаровіч цікавіць яго як друкар, ну і на здароўе. Тут ён мне не канкурэнт, бо мяне цікавіць той, хто сур'ёзна цікавіцца такой справай, як ліццё гармат, пішчаляў ці тых жа званоў. Чым жыць паасобку і ў нястачы, лепш купкавацца, жыць на траіх і рабіць чэсныя грошы на богаўгодных справах, якімі ёсць друкарства і ліццё гармат... найперш.

Хадкевіч. Найперш я хацеў бы прапанаваць шаноўнаму пану галоўнаму гарматчыку слаўнага горада Львова свае паслугі не ў якасці ліцейшчыка гармат і пішчаляў, а ў якасці стваральніка новай зброі. І калі б нам удалося адліць хоць па адным ўзорным экземпляры таго, што я прыдумаў, гэта магло б стаць сігналам для перавароту ва ўсёй гарматнай справе, а абарончая ручная марціра і магутная асадная артылерыя маглі б стаць Богам вайны.

Даніла Кеніг ашаломлены пачутым.

Даніла Кеніг. Даніла Кеніг дажыў да свайго зорнага часу! Але дзе ты быў дагэтуль?!

Хведаровіч. Пераадольваючы халеру, Іван Хведаровіч два гады ехаў насустрач Данілу Кенігу.

Даніла Кеніг. Дамову аб намерах сцвердзім сёння поціскам рук, узнагароджанне за адкрыццё таямніцы выплачваю заўтра. *(Падае руку Хведаровічу.)*

Хведаровіч. Разбі рукі, сынок!

Даніла Кеніг. Не пазбаўляй мяне сну, Іван, скажы хоць два словы: у чым навізна прыдумкі?!

Уваходзяць Сямён Каленікавіч і Асклiада.
Іванка разбівае рукі.

Сямён Каленікавіч. Даніла Кеніг і ў маім доме мяне ў нечым апярэдзіў.

Даніла Кеніг. Апярэдзіць — гэта не тое, што дарогу перабегчы ці падседзець. *(Падае руку Сямёну Каленікавічу.)* Забег, каб пераканацца, што ёсць у нас у трох (ківае на Хведаровіча) усе падставы, каб сябраваць на чацвярых...

Сямён Каленікавіч. Даруй, не зразумеў.

Даніла Кеніг. У адной асобе твайго пастаяльца два таленты — друкарскі і пушкарскі. Мяне цікавіць толькі апошні. Табе застаецца першы... Будзьце здаровы! У Данілы Кеніга ні хвіліны вольнага часу і гармат кот наплакаў. А нападу можна чакаць хоць ад туркаў з Турэччыны, хоць ад татараў з Крыма, а то і разам. *(Выходзіць.)*

Сямён Каленікавіч. Ціпун табе на язык!.. Ну, з прыездам, кніжны цудадзей! *(Паціскае руку Хведаровічу.)* Сямён Каленікавіч.

Хведаровіч. Іван Хведаровіч.

Сямён Каленікавіч (*на Іванку*). А добры малойца не сын будзе?

Хведаровіч. Сынок Іванка.

Сямён Каленікавіч. Здароў быў, Іван Іваноў. (*Паціскае руку, да Хведаровіча.*) Калі сын бацьку кампаньён, то гаворка будзе на траіх.

Хведаровіч. І сын у мяне пераплётчык і жонка кампаньён.

Сямён Каленікавіч. Значыць, на чацвярых і пагаворым.

Усе садзяцца вакол стала.

Гарматы мяне сапраўды не цікавяць — тавар сезонны, а перад кнігамі і іх вытворцамі схіляю галаву. Калі нешта і зменіць гэты цёмны і жорсткі свет, то не гармата, а кніга. А таму зраблю ўсё магчымае, каб слаўны наш Львоў стаў сапраўдным горадам кнігі, асветы і культуры наогул. Быць толькі ўдачлівым купцом-крэдыторам, а некаторыя мяне і ліхвяром лічаць, Сямёну Седляру мала. Я некалі пачынаў у Львове седляром, шыў сёдлы, збрую, з таго часу ніхто Каленікавічам і не заве. Сямён Сядляр, і ўсё тут. А я і не ў крыўдзе. Бо за Сямёна Седляра мне не сорамна. Не сорамна і за наш Львоў, дзе Сядляр асоба не апошняя. І да людзей разумных і знакамітых мяне вывелі не грошы, а кнігі. Іншай асалоды ў вольны час ці ў дальняй дарозе і не ведаю, як з кнігай адзін на адзін пабыць. Знаюся з князем Астрожскім і яго разум-

ным атачэннем, сябрую з князямі Хадкевічам і Курбскім, сустракаюся па справах з пісарам караля Гарабурдай ды ці мала з кім яшчэ. Ну, і гандлюю Львову на славу, а сабе на прыбытак. Грошы, вядома ж, маю, але і тое добра ведаю, што з сабою ў лепшы свет іх не вазьму.

Пісьмо князя Рыгора Хадкевіча прачытаў. Аб мытарствах вашых у дарозе ад жонкі і маці вашай толькі што даведаўся. (*Глядзіць на Асклíаду.*) Пра тое, што Вялікае княства наша дзяржаўнасць і волю згубіла пагаворым у другі раз, бо выйсце з гэтага няшчасця трэба шукаць. А тое, што вы разам з князем Рыгорам Львоў выбралі, думаю, не памыліліся. У Львове ёсць многае, чым ён можа ганарыцца, а друкарні не было. Цяпер яна будзе. Я, Сямён Сядляр, гэта рашыў цвёрда! Львоў — горад старых, добрых і багатых традыцый. А найперш традыцыі вольнасці, непадлегласці ніякаму чужынцу, хоць ён з Поўдня, хоць з Заходу ці з Усходу. Сам па сабе наш Львоў. І не дзіва — фарпост на Поўдні Вялікага княства! Горад купцоў і майстроў. Перакрыжаванне гандлёвых шляхоў, што вядуць з Атаманскай імперыі і Крыма, паўднёваславянскіх земляў у Польшчу, Вялікае княства, Масковію.

Нядаўна горад выгараў і моцна, але той, што будуецца на папялішчы, будзе лепшы, прыгажэйшы і багацейшы за той, што згарэў. Тут жывуць не толькі патомныя, вольналюбівыя ўкраінцы, але і палякі, і немцы, і армяне, татары, яўрэі, грэкі і Бог ведае хто яшчэ. І, дзякаваць Богу, ужываюцца. Аб майстрах-рамесніках і будаўніках можна меркаваць па замках, саборах, камяніцах.

Калі, скажам, тая ж Масковія яшчэ каснела ў татара-мангольскім рабстве, Львоў жыў па магдэбурскім праве, меў самакіраванне і магістрат. Гэта надало яму еўрапейскасць, выхад у людзі. Асноўны занятак гараджан — рамяство, будаўніцтва, гандаль. Ледзьве не ўся Польшча заказвае тут зброю, збрую і тыя ж сёдлы. Цэхі аб'ядноўваюць майстроў самых розных прафесій. Як друкары знайдзіце сярод іх сабе ў памочнікі, хто спатрэбіцца, а найперш мастакоў, рэзчыкаў па металу, чаканшчыкаў, пераплётчыкаў і іншых.

Львоў і Сямён Сядляр падрыхтаваліся, выспелі дзеля таго, каб рабіць і з размахам гандляваць кнігамі. У нас і цяпер шмат прывазных кніг, а хочацца мець свае і не рукапісныя, а ціснутыя, як у Еўропе. Даю вам на распачатак 700 залатых у польскай манеце. (*Перадае разгубленаму ад шчасця Хведаровічу капшук з золатам.*) Па нашых мерках гэта немалыя грошы. Карова ў нас каштуе два залатых, бык — чатыры. Але ж і за адну кнігу будзем мець не аднаго быка, не кажучы пра карову.

Абжывайцеся, пачынайце справу. Сямён Сядляр з сядла пачынаў, а ў цябе, Іван сын Хведара, за плячыма колькі ўжо кніг выдадзеных? Амаль усе маю з ласкі князя Рыгора, але і табе нізкі паклон мой. З вяртаннем доўгу прыспешваць не буду, але ў яго забеспячэнне закладзеш мне (намінальна) друкарню з усімі прычындаламі.

Калі пярэчанняў няма — у добры час. А час — грошы! Гэта Сядляр добра засвоіў, чаго і вам усім жадаю.

Аскліада *(вельмі ўзрушана).* Ад усяго, што здарылася, можна анямець!..

Сямён Каленікавіч. Я вельмі добра памятаю адчуванне, якое перажыў, атрымаўшы першыя грошы за першае сядло. А ў вас

кнігі!.. Як падшукаеце сабе жытло, тут можаце паставіць друкарскі варштат ды ўсё іншае, што для справы патрэбна будзе. Хачу, каб Львоў загаварыў, што друкарня створана не дзе-небудзь і не ў каго-небудзь, а ў Сямёна Седляра.

Жадаю!.. (*З усімі развітваецца за руку і выходзіць.*)

Нямая сцэна. Толькі Хведаровіч узважвае капшук на руцэ. Сцэна зацямняецца.

## Карціна шостая

Львоў, 1575 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта горада Львова паднімаецца. Той жа пакой, што быў у папярэдняй пятай карціне, толькі ператвораны ў друкарню. Хведаровіч за сталом абточвае шрыфты, Іванка пераплятае кнігу. Уваходзіць Аскліада, а за ёю — Рымша. Хведаровічу 65 гадоў, Іванку — 25, Аскліадзе — 55, Рымшу — 28 гадоў.

Аскліада. Іваны, кідайце работу, сустракайце дарагога госця!

Хведаровіч (*абдымае Рымшу*). Рады, вельмі рады!..

Рымша паціскае руку Іванку.

(*Жартаўліва.*) Не прайшло і трох гадоў, як госць вярнуўся. Абяцаў жа тыдні праз два...

Рымша. Даруйце. Як толькі даехаў да Астрога, пакінуўшы вас у Львове, і сустрэўся з князем Канстанцінам Васілём, каб перадаць пісьмо за вас ад князя Рыгора, даведаўся, што князь Рыгор Аляксандравіч на Божай пасцелі. Заспеў яшчэ жывым. А потым пахавалі мы гетмана найвышэйшага.

Усе хрысцяцца.

Хведаровіч. Светлая яму памяць і зямелька пухам.

Рымша. Цяпер зноў прыехаў у Астрог і, відаць, надоўга.

Аскліада. Ну і дзякуй Богу. Мы да цябе, Андрэйка, як да сына прывыклі, пакуль да Львова даехалі.

Рымша. Цяпер будзем часцей бачыцца. Яшчэ раз у Астрозе павучыцца рашыў, тым больш што князь Канстанцінператварае сваю знакамітую школу ў Акадэмію «трыязычную», дзе я наважыўся вывучаць высакародныя мастацтвы.

Хведаровіч. Віншую! Вучоба яшчэ нікому не пашкодзіла, а вучыцца ніколі не позна... Так што нясі медавуху, маці!..

Рымша. Не спяшайцеся. Праз мінуту-другую тут будзе князь Астрожскі з вашым фундатарам Сямёнам Седляром. У князя да вас справа вельмі пільная, і на вайну з крымчакамі спяшаемся. Зноў на Валынь паперлі...

Аскліада. А божухна! (*Хрысціцца.*)

Уваходзіць князь Астрожскі, за ім — Сямён Каленікавіч.

Астрожскі. (*Каленікавічу пра Хведаровіча.*) Вось ён які, друкар першай маскоўскай кнігі! А Украіну, Львоў чым парадаваў?

Хведаровіч. Першай украінскай кнігай, ваша мосць.

Астрожскі (*бярэ са стала кнігу, якую пераплятаў Іванка*). «Апостал». Адціснута 15 лютага 1574 года... Якая ж яна першая ўкраінская, калі гэта паўтор маскоўскае?

Хведаровіч. Першай украінскай я лічу іншую кнігу. «Апостал» жа — мая спроба зрабіць кнігу дробнага шрыфту перад друкаваннем кніг вялікіх і аб'ёмных, тоўстых.

Астрожскі. Якіх, калі не сакрэт?

Хведаровіч. А хоць бы сабе і поўнай славянскай Бібліі — Старыя і Новы Запавет пад адной вокладкай...

Астрожскі (*гартаючы «Апостал»*). А чаму, менавіта, дробным шрыфтам, калі буйны чытаць лягчэй?

Хведаровіч. Калі надрукаваць поўную Біблію нашым звычайным шрыфтам, яна атрымаецца таўшчынёй у аршын і вагой у паўтара пуда.

Астрожскі. Прасвяціў, дзякуй. Мы да гэтага вернемся... (*Гартае «Апостал», чытае.*) «Сия убо повесть изъявляет откуду начался и како съвершися друкарня сия». (*Гартае.*) Герб гетмана Хадкевіча?..

Хведаровіч. У падзяку і памяць слаўнаму князю і міласніку кнігі.

Астрожскі. Разумею. А чаму побач з гербам Львова герб «Шранява»?..

Хведаровіч. Гэта родавы герб Рагозаў-Хведаровічаў, ваша мосць.

Астрожскі (*прыемна здзіўлены*). Прыемная нечаканасць! Мы, выходзіць, землякі-ліцьвіны?!

Хведаровіч. Выходзіць, што так.

Астрожскі. Ну, а цяпер прызнайцеся ўсё ж, чым Украіну — Валынь — Львоўшчыну ашчаслівілі?!

Хведаровіч (*бярэ са стоса кнігу*). «Азбукай».

Астрожскі (*здзіўлена*). «Азбукай»?

Хведаровіч. Так, ваша мосць.

Астрожскі (*забірае кнігу з рук Хведаровіча*). Пракаментуй, а то па часе чытаць мне зараз аніяк не выпадае.

Хведаровіч. Звычайная азбука, буквар-падручнік дзецям да навучання. (*Цытуе.*) «Сия азбука от книги осмочастная, сиречь граматики». Сабраны тут прыклады дзеясловаў, размешчаных па альфабэту па першых літарах. Наступны раздзел названы «по прозадии аще двашчи въ единых лежащее, се есть повелительная и сказательная». Матэрыял гэты павінен дапамагчы навучэнцам авалодаць складанай сістэмай націскаў і так званых «прыдыханняў». Раздзел па артаграфіі знаёміць вучняў з назоўнікамі, прыметнікамі і адначасна з правапісам слоў пад цітламі. Задача наступных раздзелаў «Азбукі» — даць навучэнцам тэксты замацавання і развіцця ўмельства чытання і пісьма. Далей даюцца тэксты больш простых, даступных дзецям малітваў, спецыяльна падабраных так, каб яны складалі парады для бацькоў, настаўнікаў і саміх вучняў. Падбор традыцыйных біблейскіх тэкстаў як бы ператварае іх у мэтанакіраваную гуманістычную праграму пачатковай школьнай адукацыі. Заклікі да асветы, да навучання: «прыкладзі сэрца тваё да навучання», «не сатвары насілля ўбогаму», «не датыкайся межаў чужых і на поле сіраты не ступай» і іншыя.

Астрожскі (*да Рымшы*). Прачытай мне, Андрэй, пасляслоўе. Люблю словы высокія на слых браць. (*Перадае кнігу.*)

Рымша (*чытае ўзнёсла, урачыста*). «Възлюбленный честный християнский руский народе греческого закона! Сие еже писах вам, не от себе, но от божественных апостол и богоносных святых отец учения, и преподобного отца нашего Иоанна Дамаскина от граматики мало нечто. Ради скорого младенческого научения въмале съкратив сложных. И аще сии труды моя благоугодны будут ваши любви, приимите сия с любовию. А як о иных писаниях благоугодных с вожделением потрудитися хощу, аще благоволит Бог, вашими светлыми молитвами. Аминь».

Астрожскі. Паважаны майстра, я ведаю ўсе твае кнігі — і маскоўскія, і заблудаўскія, але львоўскія мяне канчаткова пераканалі, што ты той чалавек, які можа, а значыць павінен дарабіць тытанічную працу Францішка Скарыны і выдаць нарэшце поўную славянскую Біблію кірылаўскага пісьма. А каб яна менавалася «Астрожскай Бібліяй», я цябе і запрашаю пераехаць у мой Астрог.

Хведаровіч. Шаноўны князь, можа б, я і пераехаў, можа б, і ўцешыў вашу мосць сваёй работай, але я столькі вінен паважанаму Сямёну Каленікавічу, што ён палічыць мой адʼезд са Львова, як уцёкі ад крэдытора.

Астрожскі. Я думаю, што мы з Сямёнам Каленікавічам неяк паладзім.

Сямён Каленікавіч. Воля яснавяльможнага ваяводы для мяне не толькі закон, але і вялікі гонар. Я адпускаю друкара, а ён пакідае мне друкарню і ўсё, што пры ёй.

Астрожскі. І друкар становіцца тваім крэдыторам! Што прасцей яшчэ можна прыдумаць.

Сямён Каленікавіч. Без жартаў, Іван. Старая дамова застаецца ў сіле, а я не буду спяшацца распрадаваць закладзенае.

Хведаровіч. Калі шаноўны князь рызыкнуў, я таксама рызыкну. Але работа будзе такая складаная і дарагая, што...

Астрожскі (*перапыняе*). Не лічы, друкар, мае кошты, а гавары свае ўмовы.

Хведаровіч. Адначасова з друкарняй, ваша мосць, трэба ствараць сталеліцейню, закупіць паперу і скураныя вырабы, клей і шытво, медзь на гравюры, фарбы і іншае. Поўная Біблія будзе мець не менш за тры мільёны знакаў. А шрыфты вельмі зношваюцца, на гэта ідзе шмат металу.

Астрожскі (*нецярпліва*). Што яшчэ?..

Хведаровіч. Друкары, наборшчыкі, гравёры, рэзчыкі па дрэве, мастакі, пераплётчыкі. Ёсць пакуль толькі здольны гравёр, але яго трэба хоць бы год-паўтара павучыць у Вільні. Там выдатныя майстры.

Астрожскі. Арганізацыяй і закупкай усяго пералічанага ты з сынам і зоймешся. А ў дадатак я прызначаю цябе ахономам Дзерманскага манастыра. Там табе сумаваць не давядзецца. Сустрэнемся ў Астрозе, як толькі я паб'ю татараў. Давідзэня, як кажуць палякі.

Хведаровіч. Я, ваша мосць, не паспеў папытацца пра рукапіс, наборны тэкст Бібліі.

Астрожскі. Гэтым займаюцца і даўно вельмі дасведчаныя людзі... Найперш надрукуеш паўторам «Азбуку», «Псалтыр», «Новы

Запавет» і тое, што сам прапануеш. І пажадана, каб новым малым шрыфтам. Гэта і будзе падрыхтоўкай да асноўнай работы — «Астрожскай Бібліі». Бывайце! І памаліцеся за нас. *(Дакранаецца да пляча Рымшы і выходзіць.)*

Асклiада. Беражы вас Бог, яснавяльможны княжа...

Сямён Каленікавіч выходзіць следам за Астрожскім.

Рымша. Скажы, зямляк, навошта табе менавіта сталеплавільня? Ці ты думаеш, што князь Астрожскі не разбярэцца, у якіх плавільнях і з якога металу літары адліваюць?

Хведаровiч. Уперамежку з літарамі менавіта ў сталеплавільні я буду адліваць паасобныя часткі гармат і марцір, каб пасля збіраць іх і тым самым мацаваць свае тылы ды не мяняць чацвёртую друкарню.

Рымша. Тыя самыя гарматы і марціры, пра якія расказваў мне па дарозе з Заблудава ў Львоў?

Хведаровiч. Тыя самыя...

Рымша. Неблагая ідэя, але трымай вуха востра... Ну, шчаслiва заставацца ды ўладкавацца. (*Выходзіць.*)

Асклiада. Куды ж ты, Андрэйка?!

Рымша. На вайну...

Аскліада хрысціць Рымшу.

Асклiада. Памолімся Георгію Пабеданосцу за раб божых Канстанціна і Андрэя.

Хведаровiч (*прамаўляе малітву нараспеў*). Святый, славный и всех вольный великомучениче Георгие! Паки, припадающие, молим тя, Святый победоносче: укрепи данною тебе благодатию во бранех православное воинство, разруши силы восстающих врагов, да постыдятся и посрамятся, и дерзость их да сокрушится, и да уведят, яко мы имамы Божественную помощь, и всем скорби и обстоянии сущим многомощное яви свое заступление... Аминь.

Усе хрысцяцца.
Сцэна зацямняецца.

## Карціна сёмая

Астрог, 1581 г.

У крэсле перад суперзаслонай з выявай сілуэта горада Астрога князь Астрожскі чытае кнігу (яму 54 гады). Другое крэсла, што стаіць праз невялічкі столік з букетам кветак, свабоднае.

Уваходзіць Рымша (яму 34 гады).

Рымша. Яснавяльможны князь, з аўдыенцыяй князь Курбскі Андрэй Міхайлавіч.

Астрожскi (*кладзе кнігу на столік*). Зачасціў князь. Але ж прасі. Хоць чужы, а князь...

Рымша выходзіць. Уваходзіць Курбскі (яму 53 гады). Астрожскі ўстае з крэсла, ідзе насустрач госцю, вельмі фармальна трохразова лікуецца з ім.

Курбскі. Жадаю здравія слаўнаму князю!

Астрожскі (*стрымана*). Рады бачыць шаноўнага князя ў добрым здароўі.

Курбскі. Іншага выйсця ў нас няма, як быць здаровымі.

Астрожскі (*запрашае госця сесці*). Князя нешта засмучае?

Садзяцца ў крэслы.

Курбскі. З усходам сонейка Бог дае як радасць, так і засмучэнне. А ўсякае засмучэнне псуе не толькі настрой, а іншы раз і само жыццё. Удалыя ўцёкі ад цара-дэспата — радасць. Служба ў каралеўскім войску, што ваюе супраць тваёй Айчыны, — засмучэнне і больш за тое. Шчадроты караля ў выглядзе шматлюднага горада Ковеля і маёнткаў на Валыні і Белай Русі — радасць. А ўспаміны пра сваю Божую зямлю ды суседзяў тут, на чужыне, — больш чым засмучэнне, бо апошнія зело не чалавекалюбныя, стропатныя, суровыя і крывёй маёю насыціцца хацелі б.

Астрожскі. Мяркую я, што гэта не ад лютасці і крыважэрнасці людзей нашых, а вашых суседзяў. А найперш ад таго, што будучы адвечнымі ваярамі-рыцарамі, што няўпынна б'юцца з чужынцамі находнікамі-набежнікамі за землі нашы, яны найвышэйшым грахом перад Богам і Бацькаўшчынай лічаць здраду нават дэспату, а кожнага маскаля трымаюць за ворага. Бо даліся яны нам у знакі. Так што давядзецца цярпець. Грахі бацькоў кладуцца на нашчадкаў.

Курбскі (*з крыўдаю, нават дзёрзка*). Я ж не кожны, а як-ніяк родзіч самому цару, хоць і дэспату.

Астрожскі. Дык жа і князя не кожны за ворага лічыць, хоць князь, на вялікі жаль, забіў ліцьвіна не ў святой бітве за Айчыну, а па суседстве. А што да мяне асабіста, то я адношуся да князя Курбскага як да вялікага чалавека, што заслугоўвае павагі. Па-першае, вялікім па сваім паходжанні; па-другое, вялікім па пасадзе як былы найвышэйшы военачальнік Масковіі, за якім цэлы шэраг бліскучых перамог; па-трэцяе, па сваім шчаслівым лёсе — яго, выгнанніка і ўцекача, з такім ушанаваннем і даверам прыняў сам кароль Рэчы Паспалітай. І можна толькі захапляцца літаратурнай і перакладчыцкай працавітасцю і тым, што ўжо не ў маладых гадах князь авалодаў грэчаскай мовай. Ад перакладу ж з лаціны тлумачэння Златавустага на пасланне апостала Паўла я ў захапленні, як і ад іншых прац літаратурных і пісем палемічных.

Курбскі. Я вельмі рады, князь Канстанцін, што праца над падрыхтоўкай да друку «Астрожскай Бібліі» па-сапраўднаму зблізіла нас у гэтым Боскім подзвігу.

Астрожскі. Сапраўды, Біблія сабрала і з'яднала магутную вучоную дружыну. На яе аснове і вырасла Астрожская славяна-грэка-лацінская акадэмія. А яна ў сваю чаргу падрыхтавала да друку тэкст поўнай Бібліі. А якіх разумнікаў і сапраўдных працаўнікоў сабрала Боская талака! Найперш сапраўдны падзвіжнік Іван Хведаровіч, яго друг і паплечнік Цімафей Аніч, духоўны пісьменнік Герасім Смат-

рыцкі, перакладчыкі Цімафей Міхайлавіч, браты Дзям'ян і Ігнацы Налівайкі, першы паэт беларусцаў Андрэй Рымша, пісьменнік і перакладчык Васіль Суражскі... Усіх і не пералічыць.

Курбскі. Я б яшчэ дадаў старца Арцемія і аднадумца майго Марка Сарыхозіна.

Астрожскі. А я — купца Сямёна Каленікавіча.

Курбскі. А неўгамонны каралеўскі пісар Гарабурда, што дабыў Наўгародскі Генадзіеўскі спіс Бібліі.

Астрожскі. Нельга не ўпамянуць усіх неўгамонных добразычліўцаў і памагатых, што здабылі ў розных краінах Бібліі розных моў і пісьмёнаў як пісаныя, так і ціснутыя на друкарскіх варштатах. Не ўсе ведаюць, што давялося пасылаць просьбы ў розныя краіны ды манастыры сербскія, балгарскія і іншыя, а таксама да ўсяленскага патрыярха, каб мець новыя, самыя выверaныя спісы Бібліі. А прасілі ж не толькі кнігі, але і людзей — знаўцаў Святога Пісання як славянскага, так грэчаскага. І ўсе тэксты параўналі, выверылі ды выправілі, у тым ліку і па грэчаскай Селтуагінце, і па таму ж Генадзіеўскаму спісу. Яшчэ нейкі самы невялікі час, і мы будзем мець «Астрожскую Біблію».

Курбскі (*выхвальна*). І я шчаслівы, што перамог у свой час князя Хадкевіча і іншых герэтыкоў, якія хацелі выдаць Святое Пісанне на «простой молве» беларусцаў.

Астрожскі (*холадна*). Ці варта выхваляцца перамогай над нябожчыкам. І тым больш, што гэта перамога часовая. Прыйдзе пара, калі і беларусцы, і ўкраінцы, і маскоўцы будуць мець Святое Пісанне на сваіх мовах, як яго маюць ужо і славянскія і неславянскія народы іншых краін і веравызнанняў.

Курбскі. Як артадокс праваслаўя, я павінен заўважыць шаноўнаму князю, што варварская, грубая «барбара» польская, як «простая молва» беларусцаў і ўкраінцаў — гэта адно і тое ж і сведчыць толькі пра недасведчанасць і невуцтва. Я супрацьпастаўляю царкоўнаславянскую мову гэтым і ўсім іншым мовам не толькі як свяшчэнныя глаголы людскай гаворцы, але і як мову навукі «молве» прафанскай. І мяне, скажу прама, здзіўляе і бянтэжыць ваша стаўленне да свяшчэннай мовы, на якой, дарэчы, выдаецца ваша «Астрожская Біблія».

Астрожскі. Гэта толькі таму, што я не адношу сябе да артадоксаў, а шаноўны князь не вызначаецца талерантнасцю і верацярпімасцю. І ў дзейнасці вашай праяўляецца не столькі палеміст, колькі палітык чыста маскоўскі.

Курбскі. А чыім жа яшчэ палітыкам мне быць?!

Астрожскі (*працягвае гаворку*). Я ж наадварот для дасягнення жаданага іду на кампраміс, не скуплюся на абяцанні, выкарыстоўваю супрацоўніцтва з каталіцкімі, пратэстанцкімі, езуіцкімі коламі, калі ад таго бачу карысць маім бліжэйшым ці дальнім мэтам. Мы тут — Еўропа, князь. У нас і кароль не дэспат, бо мы яго выбіраем і замяняць можам, калі патрэба ўзнікае. Нам ад дэспатызму бегчы няма куды. У Азіі нас не прымуць.

Курбскі. Удзячны князю за шчырасць, а то ніяк не мог зразумець, чаму гэта сам Астрожскі падтрымаў Люблінскую унію на «ўцяленне» княства ў каралеўства і не патрабуе больш ад ліберальнага ка-

раля вяртання захопленай Валыні ды іншых земляў Вялікага княства, анексаваных Польшчай.

Астрожскі. Зорны час Вялікага княства наперадзе. І ён бы наступіў намнога раней, каб маскоўская дэспатыя не трымала свой нож пад нашым падбародкам. Абставіны склаліся так, што княства аддало перавагу часовай уніі з каралеўствам перад вечнай няволяй царскай дэспатыі.

Уваходзіць Рымша.

Рымша. Даруйце, яснавяльможныя князі, але ў друкара Івана Хведаровіча і яго сына надзвычай пільная патрэба...

Астрожскі (*незадаволена перапыняе*). Што там яшчэ за спешка такая?..

Рымша. Акрамя прыемнага сюрпрызу, нічога больш, ваша мосць.

Астрожскі. Тады кліч друкароў і сам заходзь.

Рымша выходзіць і адразу ж вяртаецца з Хведаровічам і Іванкам. У руках Хведаровіча фаліянт «Астрожскай Бібліі», у Іванкі — стос іншых кніг. Астрожскі, а за'ім і Курбскі ўстаюць з крэслаў. Хведаровіч і Іванка кланяюцца князям.

Хведаровіч (*прамаўляе малітву голасам дыякана*). Исполнение всех благих Ты еси Христе наш, исполни радости и веселия души наша и спаси нас, яко Един Многомилостив, Господи, слава Тебе». (*Прамаўляе па памяці выхадныя даныя «Астрожскай Бібліі».*) «Изволение Отца и съпоспешением Сына, и съвершением Святаго Духа повелением благочестивого князя Василия Констановича Острозъского, воеводы Киевского, маршалка земли Волынския, старосты Владимиръскаго Библия, еже есть Ветхий и Новый Завет в богоспасаемом граде его отчизны Острозе многогрешным и недостойным рабом Иваном Фёдоровым сыном в лето от создания миру 7088, а от воплощения Господа Бога и спаса нашего Исуса Христа 1581 месяца августа 12 дня». (*Перадае кнігу Астрожскаму.*)

Астрожскі (*у захапленні*). Споўнілася, спраўдзілася, адбылося! (*Адгортвае вокладку, чытае з прадмовы.*) «Вам же, о Христе избранным прежде век по предуведению вечного Бога в народе руском сыном Церкве восточныя и всем согласующимся языку славенскому и соединяющимся тояжде Церкве православию, всякого чина христоименитым людем аз Константин, благодатею княжа Острожское... братии возлюбленной не точию еже по плоти, но и по Христу святыя всем повсюду православным с любовию се возвещаю, яко благоволением, щедротами и человеколюбием Божиим сподобихся нагало положити и совершение ведети дела сего чесного и вся превосходящего. Тем же вожделением желах прежде даже не отиду Вашему благочестию некое дарование духовное оставляти, в немже Царствие Божие и правду его хотяще обрясти возможете». (*Хрысціцца.*)

Хрысцяцца Курбскі, Хведаровіч і Іванка. Астрожскі перадае Біблію Курбскаму.

Патрымай, княжа!

Курбскі цалуе Святое Пісанне.

Гэта працяг і заканчэнне працы вялікага асветніка зямлі нашай Францішка Скарыны ўсяму славянству ўсходняму на доўгія вякі. (*Да Іванкі.*) А чым парадуе нас малодшы друкар?

Іванка. Працай рук і душы нашай у друкарні астрожскай, ваша мосць.

Хведаровіч бярэ са стоса кніг, які трымае Іванка, па адной і перадае Астрожскаму.

Хведаровіч. «Азбука»... «Псалтыр» і «Новы запавет»... «Собрание вещей нужнейших»... «Храналогія» Андрэя Рымшы...

Астрожскі. Віншую і дзякую... але далейшае выданне кніг прыпынім гады на... два-тры, каб не пайсці князю з торбаю па свеце... Івана старэйшага, аднак, пакідаю ў Астрозе слугою вяльможнага ваяводы кіеўскага Канстанціна. Заняткі знойдуцца...

Хведаровіч і Іванка атарапела доўга стаяць, потым кланяюцца і выходзяць.
Сцэна зацямняецца.

## Карціна восьмая

Львоў, 1583 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта горада Львова паднімаецца. Друкарня. Дэкарацыі карціны пятай.
Вокны размаляваў мароз. Аскліада адхуквае шкло, каб паглядзець на вуліцу. Без справы сядзіць за сталом Іванка.

Аскліада. На двары халадэча. На душы вусцішнасць... А чым усё скончыцца, аднаму Богу ведама... Каляды мінаюцца. Да Раства Хрыстовага абяцаў вярнуцца, а ад самога ні слыху, ні дыху. І што яму ў тым Кракаве?! Не маладзён жа па свеце гойсаць...

Іванка. Чаму па свеце! Чаму гойсаць? Паехаў майстра людвісарскай справы да самога караля Рэчы Паспалітай.

Аскліада. Яго справа кнігі друкаваць, а не гарматы прадаваць...

Іванка. І не адзін, з паважаным чалавекам паехаў...

Аскліада. Якраз чалавек гэты мне і не падабаецца. Звадыяш нейкі. Сам страціў розум на гэтых гарматах і бацьку з тропу збівае. Да караля! За блізкі свет! А за морам цяля — паўрубля... А язда ў такія маразы ў што можа абысціся?..

Іванка. Не выматвай мне душу, маці! Ты думаеш запусціць сваю друкарню так проста і лёгка, як у цябе ні злотага, ні дуката, ні талера. І князь Астрожскі, бач ты, збяднеў, растраціўся да ніткі?!.

Аскліада. А я пра што?! Працавалі-працавалі як праклятыя і яшчэ ў даўгах засталіся. Аднаму Седляру 700 залатых! А думалася ж, што нейкая капейчына будзе за вашыя подзвігі ў Астрозе, а тут на табе, маеш! Сваю друкарню няма за што выкупіць.

Іванка. Князі... гаспадары... дабрадзеі... Добра, што хоць майстроў сапраўдных цяпер не асляпляюць, як у даўнія часы. Зрабіў цару

ці князю рэч адмысловую, а ён табе вочы вон, каб ты яшчэ каму такі цуд не зрабіў...

Аскліада. Добра табе, сынок, Божым угоднікам косці перамываць. Князь ёсць князь, як бы і той кароль. А ты перад ім «мнагагрэшны і недастойны раб».

Іванка. Добра дык добра. Тады і гаворку пачынаць не трэба было. От будзем жыць, як набяжыць. Некаму ж яшчэ спатрэбімся, каб з нас пот выціскаць ды кроў смактаць...

Аскліада. Сказала — хопіць. І бацька гэтага не любіць!

З марозу ў штабню ўвальваюцца Даніла Кеніг і Хведаровіч. Бароды прыпудраныя шэранню, самі зледзянелыя, схаладзелыя. Аскліада і Іванка кідаюцца да прыезджых, распранаюць, разуваюць. Вітанне, абдымкі, слёзы радасці Аскліады.

Хведаровіч. А слёзы ні да чаго! Жывыя ж, здаровыя з вялікага, і дома, дзякаваць Богу, як і абяцаў.

Аскліада. Хіба толькі, што жывыя! У такую далячынь! Пад Каляды!..

Даніла Кеніг. І не кажы. За сем міль па аўсяны блін.

Іванка. Выходзіць, нічога не выездзілі?

Даніла Кеніг (*ухіліўшыся ад адказу*). Адагравайце бацьку, а я Седляра паклічу, каб усім усё і адразу распавесці. *(Выходзіць.)*

Аскліада таксама выходзіць і тут жа вяртаецца з пляшкай, кубкамі і глякам.

Аскліада (*налівае ў кубак*). Вазьмі слязіну, гэта табе не медавуха, адразу ў жар кіне. А я нечага гарачага прыгатую. (*Выходзіць.*)

Хведаровіч (*выпіўшы з кубка і крактануўшы*). Бяда, сынок, як не адтэрмінуе Сядляр доўг наш. Згубім і гэту друкарню — вось тады сапраўды з торбай давядзецца...

Іванка. Ну, не бяры ты ўжо самае горшае. Ёсць жа ў людзей хоць нейкая спагада да чужой бяды.

Хведаровіч. Куды ўжо большая спагада — дзесяць гадоў доўг не аддаём, а ён церпіць і друкарню не прадае.

Іванка. А навошта прадаваць? Ён яе без нас запусціць...

Уваходзіць Сямён Каленікавіч, за ім — Даніла Кеніг.

Сямён Каленікавіч. З прыездам, падарожнік! (*Абдымае Хведаровіча, потым разлівае гарэлку па кубках.*) Бярэм за сустрэчу і садзімся вакол стала, бо ў мяне ні хвіліны часу, а ўдачу ўпускаць не хочацца. (*Чокаюцца ўчацвярых, выпіваюць.*) Удача, яна як рыбка. Клюнула — падсякай, а то хвосцікам вільне, толькі ты яе і бачыў.

Даніла Кеніг. Іванава рыбка якраз і вільнула... Будзь другам, Сямён, аднясі яго доўг хоць на паўгода. У хуткім часе, здаецца, ён падсячэ добрага сома.

Сямён Каленікавіч. Значыць, у караля Батуры нічога не выгарала?

Хведаровіч. Не трэба яму ні мае гарматы, ні мае марціры...

Даніла Keнiг. І самае цікавае, што ён, здаецца, збіраецца ваяваць...

Хведаровіч. На дарожныя адваліў аж 45 залатых, на ліццё малой марціры — яшчэ 70 і на медзь 50 дынараў.

Даніла Кеніг. Я рашыў падфарціць перад каралём і нашкроб Івану 208 залатых і два пярсцёнкі коштам 10 дынараў.

Хведаровіч. Усё гэта я магу аддаць зараз, а больш — хоць зарэж.

Сямён Каленікавіч. У цябе ніколі не будзе грошай, калі будзеш аддаваць даўгі часткамі. Пабагацееш — аддасі адразу 700.

Даніла Кеніг. Ён мог бы стаць багацеем яшчэ ў Кракаве, каб пагадзіўся ўзначаліць там адну друкарню.

Сямён Каленікавіч. У чым жа справа?

Даніла Кеніг. Збаяўся, каб ад гэтай навіны яснавяльможнага князя Астрожскага кадук не скруціў. (*Праз паўзу.*) Друкарня папская і выпускае, вядома ж, каталіцкія кнігі, але на славянскай мове і кірыліцай. З душком прыманка для праваслаўных...

Сямён Каленікавіч. А наогул, калі за гэта і не брацца, то папалохаць яснавяльможнага можна ды яшчэ як...

Хведаровіч. Не столькі шкада князя, колькі свайго імя. Я ўсё ж Іван Хведаровіч з роду Рагозаў. Так што еду і неадкладна прадаваць сваю артылерыю іншым каралям ці імператарам.

Сямён Каленікавіч. Ты думаеш, што князя гэта менш напалохае за тое, калі б ты ўсучыў сваю артылерыю якому-небудзь ворагу Стэфана Баторыя?

Хведаровіч. Там будзе відаць. Але некаму ж усучу...

Сямён Каленікавіч. Будзеш ад'язджаць, паклічаш на праводзіны. На «чапковэго» возьмем, і я табе падарожных пазычу.

Хведаровіч. Дамовіліся!..

Сямён Каленікавіч і Даніла Кеніг пацiскаюць Хведаровічу руку і выходзяць.

Аскліада. Зноў у дарогу?

Хведаровіч. У дарогу.

Аскліада. З кім?

Хведаровіч. З гарматамі... Вярнуся ці са шчытом, ці на шчыце...

Уваходзіць Курбскі.

Курбскі. Слаўная сямейка, дзякаваць Богу, у зборы, але, на жаль, размова ў мяне толькі з гаспадаром і з вока на вока...

Хведаровіч. Зразумела... Сын пабудзе праз сцяну, а жонка толькі прынясе другую місу, каб я мог падзяліцца з князем яешняй. Князь з дарогі?

Курбскі. Так.

Хведаровіч. Тым больш. І ў пляшцы яшчэ пялешчацца. (*Разлівае гарэлку ў два кубкі.*) Што, князь Андрэй, зноў некуды бегчы трэба, калі размова таемная? Але ж мне гэта ўжо без патрэбы, ды і няма куды бегчы. Набегаўся друкар, аж дыхавіца...

Аскліада прыносіць місу, хлеб, квашаную капусту і мочаныя яблыкі. Ставіць на стол і выходзіць. Хведаровіч дзеліць яешню на дваіх. Паднімае кубак, чокаецца з кубкам Курбскага.

За таямніцу...

Курбскі. Я цябе дужа добра разумею, друкар, і цікаўлюся ў прыватнасці: ці была ў цябе калі-небудзь даўно ці нядаўна гаворка з князем Астрожскім, у якой бы ён папярэджваў ці проста паведамляў, што пашле ў адну далёкую паездку... (*Пачынае есці.*) І ці папытаўся ты, куды і да каго гэта паездка?

Хведаровіч. Я таксама мог бы паслаць князя далёка... але ён не сказаў, куды і да каго наважваецца мяне паслаць, так і я змоўчаў. Я слуга князя. Мая справа цялячая. (*Перакусвае.*)

Курбскі. Ты за што-небудзь патрымайся, а я табе скажу, куды ён цябе пашле ў самы блізкі час.

Хведаровіч. Я трымаюся, ваша мосць, за лыжку і хлеб і даволі моцна, бо галодны з дарогі, як сабака.

Курбскі. У Рым паедзеш, да папы. (*Перакусвае.*)

Хведаровіч (*папярхнуўшыся*). Да якога яшчэ папы?..

Курбскі. Намесніка Бога на зямлі Папы Рымскага Грыгорыя XIII.

Хведаровіч (*доўга пражоўвае ежу*). А вось гэта мне зусім без патрэбы. Я цяпер маю справу толькі з каралямі і імператарамі.

Курбскі. Твая сустрэча з Папай, здаецца, вельмі патрэбна князю...

Хведаровіч. Хацеў бы ведаць, на якую халеру? (*Адразае сабе кавалак хлеба.*)

Курбскі (*паклаўшы лыжку ў місу*). Валынскі магнат і ваявода кіеўскі спадзяецца стварыць у Астрозе праваслаўную патрыярхію, каб затым распаўсюдзіць яе ўплыў не толькі на Украіну і Белую Русь, але і на Маскоўскую дзяржаву.

Хведаровіч (*падкрэслена абыякава*). Ну і што? І ці варта нам перажываць за Маскоўскую дзяржаву, як мы, проша пана, у Жэчы Паспалітай мешкаем?

Курбскі. Пакінь яешню і ўнікні, друкар, бо я лічу цябе не такім дурным, як ты прыкідваешся. Справа ў тым, што гэту авантуру князь Васіль Канстанцін хоча правярнуць з грэчаскім архіепіскапам Дзіанісіем Палеалогам, якому паабяцаны сан патрыярха і каму даручана рабіць гэта з блаславення рымскай курыі і самога пантыфіка Грыгорыя XIII.

Хведаровіч. Даруй, князь, але гэта нешта такое, у што паверыць немагчыма.

Курбскі. Паверыш, толькі не перапыняй мяне. Мяркую, што літаральна днямі князь Астрожскі пашле цябе да папы, але ты не спяшайся пасылаць яго да мамы...

Хведаровіч. За якія заслугі перад князем і пантыфікам мне такі гонар?..

Курбскі. Пры чым тут твой гонар? Ты ім проста падыходзіш. І «заслугі» твае наперадзе. Спачатку сустрэнешся з Папай. Ён даручыць табе зрабіць кірылаўскі шрыфт для папскай друкарні. Ім яны і будуць друкаваць каталіцкую атруту для Русі Малой і Белай, а таксама і для Масковіі.

Хведаровіч. Пры чым тут я і мой шрыфт? Што, ім мала іншых кірыліцкіх шрыфтоў?!

Курбскі. Еш моўчкі і слухай! З табой князь Курбскі гаворыць і вельмі даверліва... Яны ўжо выдалі некалькі правакацыйных кніг, але іх кірыліца аказалася мала падобнай на тваю і праваслаўныя вернікі як Масковіі, так і былога Вялікага княства іх не прызналі, не прынялі ці прынялі як падробку. Таму з парады князя Васіля Канстанціна Папа і хоча, каб ты іх шрыфты выправіў пад свае ці зрабіў новыя... «Астрожскую Біблію» для параўнання шрыфтоў Дзіанісій Палеалог ужо завёз у Рым і перадаў Папе.

Хведаровіч (*рэзка адсунуўшы ад сябе патэльню з яешняй*). Доказы! Ці я не паверу ні аднаму слову князя...

Курбскі вынімае з кішэні складзены аркуш, працягвае яго Хведаровічу.

Курбскі. Чытай! Уголас чытай... Гэта копія таго, што нунцый Беланьеці піша кардыналу Галі.

Хведаровіч (*разгортвае аркуш, чытае*). «Шэсць дзён назад з адным італьянцам, які паехаў у Венецыю, я паслаў Вашаму Праасвяшчэнству рускую Біблію, якую мне перадаў князь Канстанцін Астрожскі старэйшы. Князь прасіў мяне паведаміць мансеньёру яго думку пра тое, што літары рускага шрыфту гэтай кнігі моцна адрозніваюцца ад звычайна выкарыстоўваемых у Рыме. Князь прадаставіць у распараджэнне Яго Свяцейшаства вельмі дасведчанага тыпографа, каб аказаць яму ў гэтай справе дапамогу, падобна таму, як сам ён атрымаў ад Яго Свяцейшаства дапамогу ў надрукаванні гэтай Бібліі...» (*Да Курбскага.*) Папа Рымскі дапамагаў Астрожскаму друкаваць Біблію?!.

Курбскі. Чытай далей!

Хведаровіч. «Ведаючы, якім чынам можна было б устанавіць тую розніцу ў літарах, пра якую гаварыў князь, я палічыў неабходным паслаць Біблію Яго Свяцейшаству. Прападобны ойча Пасевіна, які ў гэтай прыватнай, як і ва ўсёй сваёй дзейнасці па асвеце схізматыкаў, праявіў найвялікшую праніклівасць, сказаў мне, што быў бы рады даведацца, хто менавіта гэты тыпограф, якога князь прышле ў распараджэнне Папы».

Хведаровіч (*ашаломлена*). Гэта нейкі дурны сон!..

Курбскі. Не выключана, як я думаю, што пасля таго, як ты ўсё зробіш у Рыме, там яны і пакінуць цябе да скону, як некалі Васіль III пакінуў у Маскве Максіма Грэка. У лепшым выпадку яны зробяць усё магчымае і немагчымае, каб Іван Хведаровіч узначаліў папскую друкарню ў Кракаве ці яшчэ дзе-небудзь.

Хведаровіч. Я не магу зразумець, навошта ўсё гэта князю Астрожскаму, зацятаму абаронцу праваслаўнай веры? Сам жа кажаш, княжа, што ён наважыўся ўтварыць Астрожскую епархію на ўсю Малую, Белую ды Вялікую Русь?! Пры чым жа тут Папа Рымскі?!

Курбскі. Каб гэта зразумець, трэба добра ведаць натуру кіеўскага ваяводы і валынскага магната. Я, здаецца, раскусіў яго... Васіль Канстанцін чалавек не толькі надзвычай багаты, але і бязмерна амбітны, ганарысты, пыхлівы і фанабэрысты. З гэтых прычын ён нават імя сваё па хрышчэнні Васіль замяніў на больш гучнае і такое, каб выклікала асацыяцыі з аднаго боку з візантыйскім імператарам Канстанцінам, а з другога — з асветнікам Канстанцінам-Кірылам Філоса-

фам, з трэцяга боку з бацькавым імем, які атрымаў гучную перамогу над Іванам III пад Воршай.

Хведаровіч. І навошта ўсё гэта чалавеку пры яго багаццях і месцы ў Рэчы Паспалітай?!

Курбскі. Такому чалавеку, як князь Васіль, гэтага мала... І ты на яго не здзіўляйся. Вялікі магнат гуляе ў вялікую палітыку.

Хведаровіч. А што, князь Андрэй, як ты проста не любіш Васіля Канстанціна? Вось не любіш, і ўсё тут...

Курбскі. А за што мне яго любіць... такога?! За палітыканства?..

Хведаровіч. Якая ж гэта палітыка, калі выходзіць, што прававерны, праваслаўны хрысціянін проста прадае веру, і каму?!

Курбскі. Наконт прававернасці і праваслаўнасці князя Астрожскага ў зман сябе не ўводзь. Чалавек ён больш чым багаты, і ў Рэчы Паспалітай, як і раней у Вялікім княстве, больш чым уплывовы. І адзін Бог святы ведае, што ў яго ў думках-намерах. Пад яго дзясніцай 100 гарадоў, 1300 сёлаў і мястэчак, 10 манастыроў з зямельнай плошчай каля двух мільёнаў моргаў. Багацце, знатнасць роду і характар дазваляюць яму праводзіць адносна незалежную ад польскага двара палітыку, асабліва ў рэлігіі. І чакаць ад яго можна чаго хочаш. Князь яшчэ спадзяецца на зорны час Вялікага княства. А гэта можа закрануць і вельмі інтарэсы нашага царства на заходніх землях праваслаўных. Паводзіны і погляды гэтага небяспечнага для нас чалавека былі і застаюцца супярэчлівымі, непрадказальнымі. Ён ніколі не быў перакананым і паслядоўным барацьбітом супраць каталіцызму і Польшчы. Прыняў унію дзяржаўную, а можа прыняць і унію царкоўную. Ён і цяпер заігрывае не толькі з папскім прастолам, але і з пратэстантамі, і з езуітамі. Быў і ёсць зусім не такім, якім яго хочуць бачыць сучаснікі. Выхаваны ў духу рэлігійнага індыферэнтызму «эпохі» Жыгімонта Аўгуста, Васіль Канстанцін не пакутуе на праваслаўны фанатызм і нацыянальную абмежаванасць. Жонцы Зофіі Тарнаўскай ён прадаставіў поўную свабоду ў пытаннях веры. Сына Януша выхаваў у каталіцкай веры. Адна дачка выйшла замуж за Крыштофа Радзівіла, кальвініста, а другая — за Яна Кішку, апекуна гератыкоў-сацыян. Князь перапісваецца з Папам Рымскім і патрыярхам Канстанцінопальскім. З папскім легатам Пасевіна абмяркоўвае пытанні ўз'яднання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Езуіт Скарга прысвячае Астрожскаму палемічную працу «Аб адзінстве царквы Божай пад адным пастарам»...

Хведаровіч. А навошта шаноўны князь усё гэта мне расказвае?..

Курбскі. Каб знакаміты і дасведчаны друкар вызначыўся, па якой дарозе яму далей ехаць...

Хведаровіч. Так трэба было адразу і сказаць. Я ж паеду па той, якую выберу і якая будзе карацей за ўсё да друкарскага варштата.

Курбскі. Будзь здароў. Да твайго ад'езду яшчэ пабачымся. Я цяпер тут недалёка на Валыні. І ты ў мяне на воку. (*Выходзіць.*)

Хведаровіч з размаху б'е аб падлогу гляк з медавухай. Прыбягаюць Асклiада і Іванка.
Сцэна зацямняецца.

## Карціна дзевятая

Дрэздэн, 1583 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта горада Дрэздэна паднімаецца. Рэзідэнцыя саксонскага курфюрста Аўгуста. Уваходзіць Цырымоніймайстар.

Цырымоніймайстар. Ваша вялікасць, з аўдыенцыяй тыпограф грэчаскі і славянскі Іван Хведаровіч масквіцін.

Аўгуст, які прахаджваецца па пакоі, ківае ў знак згоды. Цырымоніймайстар выходзіць. Уваходзіць Хведаровіч. Аўгуст з цікавасцю разглядае яго.

Аўгуст. Чым абавязаны курфюрст саксонскі тыпографу грэчаскаму і славянскаму?.. Мы друкуем кнігі і даўно, але на сваёй мове...

Хведаровіч. Ваша вялікасць, многія выдатныя знаўцы вайсковага майстэрства як практыкі, так і тэарэтыкі, свяшчэннейшы і магутнейшы электар Свяшчэннай Рымскай імперыі, добразычлівым угаворам схілілі мяне да таго, каб я асмеліўся звярнуцца да вашай святлейшай вялікасці...

Аўгуст. Як вы ўжо тут, выкладвайце, да чаго яны вас там схілілі!..

Хведаровіч. Пагалоскі сведчаць, што ваша святлейшая вялікасць велікадушны ў сваёй дабрасхільнасці не толькі да тых, хто стварыў асновы вайсковага майстэрства, але таксама і да тых, хто добра валодае гэтым майстэрствам.

Аўгуст (*здзіўлена*). Тыпограф хоча сказаць, што валодае гэтым майстэрствам?..

Хведаровіч. З Божай дапамогаю я доўгія гады і шмат займаўся такой вайсковай практыкай, а таму рашыў дадзеныя мне Богам дары і ў гэтай галіне выкласці перад вашай святлейшай вялікасцю не на словах, а на справе і самой справай. І няхай вольна мне будзе прызнацца, што, падумаўшы і не ашчаджаючы сіл сваіх... я прыбыў з далёкага краю ў Дрэздэн, каб прадаставіць спосаб практычнага выкарыстання вынаходніцтва, якога да гэтага ніхто з людзей не бачыў, хоць некаторыя ўводзілі мяне ў зман аднымі толькі абяцаннямі і адной толькі надзеяй на выгаду, ніякай платы-ўзнагароды не абяцаючы, але тым часам стараліся падглядзець і раскрыць маё вынаходства.

Аўгуст. І майстра-вынаходнік рашыў паказаць яго мне?

Хведаровіч. Я рашыў, што за лепшае будзе мне вярнуцца дамоў, чымся такое важнае для кожнай правінцыі і кожнай дзяржавы вынаходніцтва выявіць усім, без усялякай для гэтага асабістай карысці... акрамя вашай вялікасці, вядома.

Аўгуст. Не думаў, што тыпографы такія дзелавыя і практычныя людзі.

Хведаровіч. Гэта сапраўды так, ваша вялікасць.

Аўгуст. Калі дзелавітасць вынаходцы акажацца авантурай, з чым мы нярэдка сутыкаемся, я не дарую авантурысту аднятага ў мяне часу.

Хведаровіч. Мяркую і спадзяюся, што нашы сур'ёзныя перамовы з вашай вялікасцю пакажуць, хто ёсць хто.

Аўгуст. Я папярэдзіў, цяпер можна выкладваць, які цуд мне прапаноўваецца.

Хведаровіч. Маё вынаходніцтва дазваляе з паасобных частак складаць гарматы, якія разбураюць і знішчаюць самыя вялікія крэпасці і ўмацаванні пасяленняў, а меншыя цэлі разносяць ушчэнт і зруйноўваюць з зямлёй. Я ўжо маю такую складзеную з паасобных частак гармату, зробленую за ўласныя грошы. Узор гэтай гарматы бачыла ў дзеянні яго імператарская вялікасць, а таксама эрцгерцагі, і вельмі хвалілі. Калі ж яны хацелі выведаць сакрэт абыходжання з гарматай і сутнасць яе дзеяння, я быў гатовы адкрыць ім сакрэт майго вынаходства і паставіў пэўныя ўмовы, яны з імі не пагадзіліся. Тады я і накіраваўся да вашай вялікасці.

Я далажу, а вашай вялікасці вырашаць... Прынцып складной, зборнай гарматы заключаецца ў тым — я не буду займаць часу пералічэннем падрабязнасцей,— што кожную такую гармату, практычнае прызначэнне якой залежыць ад яе памераў, можна разбіраць на асобныя, строга вызначаныя складныя часткі, а менавіта на пяць-дзесяць, і нават, калі спатрэбіцца, на дзвесце частак, у залежнасці ад устаноўленай велічыні і калібру кожнай гарматы.

Каб такога кшталту гарматы збіраць і манціраваць у бяспечным і прыдатным месцы, і калі войска будзе мець іх з сабой у паходзе, каб разбураць ці ўзяць нейкую цвержу, ці заваяваць дзяржаву, то часткі-складнікі такой гарматы, гатовай да стральбы, можна сабраць-скласці за тры дні і тры ночы. А калі б, аднак, такая гармата па нейкай нечаканай прычыне разарвалася, то толькі адна яе частка можа быць папсавана, а не ўся гармата. І такую малую частку можна замяніць адразу, калі ёсць для гэтага неабходны вопыт і веды.

Пасля перамогі над ворагам можна такія гарматы разабраць на часткі і перавозіць любым транспартам.

Пры ўсім сказаным, міласцівы князь, я вынайшаў яшчэ і зрабіў ручную шматствольную бамбарду-марціру. З яе можна паліць адзіночнымі стрэламі, беглым агнём і залпам заўчасна падрыхтаванымі зарадамі. Сто маіх бамбард-марцір могуць прычыніць непрыяцелю столькі ж шкоды, колькі чатырыста старога ўзору. Я магу даказаць гэта на вопыце вашай святлейшай вялікасці. І ваша вялікасць можа пакарыстацца маімі паслугамі, разгледзець іх і вывучыць, пакуль я не прапанаваў іх іншым імператарам, царам і каралям за кошт, якога яны вартыя.

Аўгуст. А чаму б майстру-вынаходніку не прапанаваць сваю гармату, скажам, цару Івану IV?

Хведаровіч. Іван IV можа выкарыстаць такія грозныя гарматы ў захопніцкай вайне супраць Вялікага княства Літоўскага, і гэта было б маёй здрадай перад Бацькаўшчынай, дзе я цяпер жыву.

Аўгуст. Тады падмацуйце сваімі гарматамі і марцірамі караля Стэфана Баторыя супраць цара Івана IV.

Хведаровіч. І зноў не выпадае, ваша вялікасць, бо было б здрадаю. Я падданы цара Івана IV.

Аўгуст. Лагічна і высакародна.

Хведаровіч. Я ўсё ўлічыў і прапаную зброю вашай вялікасці. Мне трэба грошы на кнігі і па-за здрадай. А што да бамбард-марцір, то я прадам іх любому жадаючаму як зброю абарончую, і гэта не будзе здрадаю перад абодвума маімі гасударамі.

Аўгуст. Здаецца, мы з табою паладзім, тыпограф...

Сцэна зацямняецца.

# ЭПІЛОГ

Львоў, 1583 г.

Суперзаслона з выявай сілуэта горада Львова.

Праз залу на прасцэніум вельмі цяжка паднімаецца Хведаровіч з кіем і торбай на ім. Насустрач яму выбягаюць Аскліада і Іванка.

Хведаровіч. Вось я і вярнуўся... з вялікімі грашыма, але... на шчыце... (*Паволі падае да долу.*)

Іванка падхоплівае на рукі мёртвага бацьку.

Суперзаслона апускаецца.

**Выкарыстаная літаратура:**

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.— Мн., 1993—2003.
Беларуская савецкая энцыклапедыя.— Мн., Т. 4, 1971.
Большая советская энциклопедия.— М., Т. 14, 15, 27. 1973—1977.
Русское православие: вехи истории.— М., 1989.
Чаропка Вітаўт. Уладары Вялікага княства.— Мн., 1994.
Немировский Е. А. Иван Федоров.— М., 1985.
Саверчанка І. В. Сымон Будны.— Мн., 1993.
Довнар-Запольский М. В. История Белоруссии.— Мн., 2003.
Яскевич А. С. Библия: переводы, язык.— Мн., 1999.
Яскевіч Алена. Падзвіжнікі і іх святыні.— Мн., 2001.
Благоверный князь Острожский. Вестник белорусского экзархата. Альманах.— Мн., Т. 1, 1998.

***15 снежня 2003 — 25 сакавіка 2004 гг.***





ЮРАСЬ СВІРКА

## НА БЯСКОНЦАЙ ДАРОЗЕ

Нехта злізвае дні.
Нехта тыдні глытае.
Нехта месяц за месяцам
Як скарачае.
І гады хтось штурхае:
З паскарэннем знікаюць.
Нельга іх затрымаць,
Нельга ў іх запытаць,
Куды шлях свой трымаюць...
Задуменны стаю, як нябога.
А яны ўсё —
Наперад бясконцай дарогай.

## СПЛЫВАЛА НОЧ НАД ПАЛІКОМ

Хінуўся месяц да ляска,
Мінуўшы бераг лазняковы.
І бліскаў ён, нібы луска
Ляшчоў і плотак паліковых.

Ракі не бачна берагоў:
Яна разліта, як пагроза.
І толькі тут у бок Брадоў
І прарываецца Бяроза.

Агонь сігнальны пагасаў,
То ўсхліпваў мігатлівай сілай:
На востраў кладкі перапраў
Раць партызанская масціла.

І гэта вабнае святло
Над багунамі, чаратамі
Збавеннем для жыцця было —
Лес і дрыгва перад вачамі.

Як пасткай сціснуты яны
Блакадным мінным пераплётам.
Цягнула з месіва вайны
Выратавальнае балота...

Бяроза ў мроіве цішком
Сплыла, як некалі навала.
І цішыня над Паліком
Туманным полагам драмала.

## УДОВЫ ВАЕННАЙ ПАРЫ

***Сястры Кацярыне***

— Удовам, якія не выходзілі замуж, даплачваюць 9 мая.
— Няўжо за вернасць... гору, бядзе?

***З дыялога***

А яны не такімі былі,
Рукі ўдоў не пазналі пяшчоты.
Пры зямлі яны ўсё, пры зямлі.
Перароблена процьма работы!

І сваёй, і мужчынскай, цяжкой,
Дзе сякера, каса і лапата,
А яшчэ працаднёвай-пустой...
І цяпер у Дзень даты святой
За іх Вернасць прыходзіць даплата.

Ёсць нашчадкі і ў іхніх сыноў.
А бабулек жыццё прытаміла.
Іх мужчыны з айчынных краёў
Па Еўропе — у брацкіх магілах.

Колькі ўдоў засталося ў жывых?
Хто лічыў? І яны — ветэраны.
І Дзевятае мая без іх
З несыходнай журбой паяднана.

Песень, помнікаў варты яны,
Слоў, якія для сэрца — шчымота.
Шэсцьдзесят — як жыццё без вайны,
І Яны... без мужоў... Адзінота...

## НЕ ЗАБЫВАЮ ЛІПЕНЬ ТОЙ

Ён вызваленне нёс у нашы хаты,
Хаця ўсе хаты спалены былі.
Адплаты ўсім хацелася, адплаты,
Каб вораг нашай не таптаў зямлі.

Выходзілі аброслыя з блакады,
Выходзілі галодныя з балот.
Ішлі пад грукат новай кананады,
Пад жорсткі і крывавы абмалот.

Для нас, малых, той ліпень — вызваленне.
Вайна ўжо заставалася былой.
А ўсіх мужчын ён вёў у наступленне,
Нестраявых — у строй стаўляў, у строй!

Яны былі зусім не навабранцы,
Не даваенны — палявы прызыў:
«Даволі тут, у лесе, ацірацца».
І нехта ўсхліпваў, нехта галасіў.

Прывыклі заглядаць у вочы праўдзе
І не схіляць ад страху галавы,
І ў строй яны пасталі па камандзе,
Хаця не кожны з іх быў страявы.

Усхліпвалі жанчыны. У адчаі,
Прытульваючы, гладзілі малых.
І сувязь, што іх з любымі злучала,
Цяпер ужо трымалася на іх...

Ніхто не мог нічога перайначыць.
Ішлі да абгарэлых каміноў.
І енчыў вецер сіратлівым плачам,
Хістаўся, не знаходзячы вуглоў.

Ліпнёвы вецер нам здаваўся стылым,
Прапахлы горкім порахам, крывёй.
Перадавая гаманіла з тылам,
І адгукаўся тыл перадавой.

## БАЛАДА АБЯЗЛЮДЗЕЛАЙ ВЁСКІ

У былой вёсцы бусел пасяліўся на калодзежным жураўлі.

***З газет***

Былая сяліба наводзіць пахмурасць:
Калодзеж ды печышча, сад ды падмурак.
Застыў журавель — сірата без вядра.
Не выйдзе ніхто ні на двор, ні з двара.
І вочап не рыпне зрэдчас, як тады
Зачэрпнуць не можа гаючай вады.
Вясной ляцеў бусел з паўднёвых зямель.
Яму прыглянуўся садок, журавель...
Пачаў на дубовым слупе вілаватым

Гняздо сабе ладзіць, нібыта над хатай.
Цяпер журавель выглядаў не пустым,
Хаця на сялібе даўно не курлыча.
Калі ж жураўлі пралятаюць над ім, —
Убачаць, пакружацца, быццам паклічуць...
Сяліба ўваскрэсла з крылатай душой.
Цяпер яна бачыцца нават здаля,
А бусел прылётны клякоча над ёй,
Як блізкі, жаданы сваяк жураўля.

* * *

Нібы назвозілі сюды
Ці навыкочвалі на бераг,
А можа, тут былі заўжды
Каменні і да нашай эры.

Яны скаціліся ў раку.
Услана імі пераправа.
Ляжаць каменні на пяску,
Як непрынятыя да сплаву.

А можа, потым млын шумеў
І на двары было завозна.
Жарон не ўсё змалоць сумеў,
А мо пачаўся час трывожны?

І непадняты груз цяжкі
Ляжыць на выгане, — не дома,
Як збожжа поўныя мяшкі
Ці копы злеглыя саломы.

## НА ВЫРУБЦЫ

Ні птушак, ні рэха лясного.
Жаўцее пясок баравы.
Не свеціць лясная дарога.
Адбегся блакіт сінявы.

Жылі тут куніцы, вавёркі...
Бруіста крыніцы жылі.
І пні на ўзараных пагорках
Гаючай смалой заплылі.

Без лесу майго адзінока,
Які апяваў я і сніў.
Зачалі нашчадкам далёкім
Грыбны і птушыны масіў.

Лаўжы дагарэлі скрозь чыста.
Не чуецца гоман сасны...
І стыне душа аптыміста,
Дзе рэквіем чуцен лясны.

## ПЕРАД ВАДАСПАДАМ

Я думаў: алмазная стужка блішчыць,
З вяршыні спаўзае ніжэй — у цясніну.
А гэта — паток у даліну бяжыць
І скача на скалах, не знае спачыну.

Ён з радасцю бурнай, з-пад самых аблок,
Дзе гнёздаў арліных не ўбачыш высока,
Узнёс над далінай паднебны рывок,
І ўсё над прадоннем —
З падскокам, з падскокам.

Нішто і не страшыць яго ў гэты міг:
Ні скалы, ні вецер, ні гром навальніцы.
Ён з лёду ўваскрэс, не вядомы для іх.
Ім выклік кідае з вяршыняў сівых.
Вось-вось разаб'ецца, а ў пырсках — ірдзіцца!

## БАЛАДА ВЕРНАСЦІ

Ой, чаму ж ты, стары, да не жэнішся.
***Народная песня***

З народнай мудрасцю згадзіцца,
Як паўтараць жыцця азы:
«Не дай Бог два разы жаніцца
І дом узводзіць два разы».

«Жаніся» — чуў я напаміны.
Сваё прызнанне не таю:
Я думаў, здраджваю адзінай,
Той,
Што шаптаў: «Не разлюблю».

Калі капа гадоў зляглася,
Не да сыходжання старым.
І Той,
Што з памяццю злілася
І на тым свеце засталася,
Не назаву сябе былым.

Адзіная мая, здаецца,
Глядзіць з нябыту, дзіва з дзіў.

Душою да мяне хінецца —
Я адчуваю, б'ецца сэрца:
«Не разлюбіў, не разлюбіў».

## МАТЧЫНЫ ПЕСНІ

Увесь век свой са спевам яна пражыла
Над калыскай, за пражай і ў полі.
Пра зязюльку, зялёны дубочак вяла...
І пра долю, жаночую долю.

Не было прадчування ніякай бяды.
Ды ўсё ж блізкае гукі данеслі.
Пахінуліся леты мае ўжо туды,
Дзе заземлены матчыны песні.

Уяўляю магільны зляжалы грудок.
Май жыццю дорыць гукі і сокі.
Спеў матулі маёй трапяткім жаўруком
Прарастае ў блакіце высокім...

Ён, здаецца, і сёння журліва гучыць
Пра зязюльку, ракіту, пра Яся.
Тыя песні на плёнцы не змог зберагчы:
Прадказаць канец спеву баяўся.

Запісаць бы той спеў весялейшай парой,
Ды не змог, не згаджалася сэрца:
Быццам гэткім заняткам нагадваў бы Ёй,
Што нядоўга спяваць давядзецца.

## УЗРОСТАВЫ БЕГ

У свой век мне — тры крокі,
Не імкнуся туды.
Ці далёка? — Далёка
Маладыя гады.

Да паўвеку не верыў
Іхняй спешнай хадзе.
Хто разнасцежыў дзверы,
Хто ён, той дабрадзей?

Яны ўсё, што захочуць,
Ціха зробяць са мной.
І нікуды не збочыць
Ад пагоні такой.

Ім не ведаць супыну
І мяне не мінаць.
А да краю сцяжыны
Падпускаць, прыціскаць.

Будуць бегчы са мною, —
Перадых бы адчуць, —
Каб над прорвай крутою
Ад сябе... адпіхнуць.

* * *

Нада мною праплыў жураўліны клінок,
Як навостраны ў вырай далёкі.
Ён забраў мой чарговы даспелы гадок
І на крылах узняў пад аблокі.

З-пад рукі паглядаў я на клін жураўлёў,
І закралася ў сэрца трывога:
Ён нікому з далёкіх паўднёвых краёў
У замен не прыносіць нічога.





▸ ВАЛЕРЫ САМАХВАЛАЎ

# ВОЛАХАЎСКІЯ КЛАДКІ

## *АПОВЕСЦЬ*

Прачнулася Ганна, як звычайна, рана. Выйшла на двор. Сонца ўжо крыху паднялося над вербамі, што раслі на поплаве, і малінавым святлом зіхацела на спакойнай плыні Прыпяці. За ракой, над азёрамі, курыўся туман. «Хутка ўжо і восень, — падумала Ганна, — а лета, хаця і выдалася гарачым, як быццам і не было. А ўсё — з-за іх...»

Яна намерылася ўжо ісці назад у хату, да Іванькі, як раптам да яе слыху данесліся нейкія незвычайныя гукі. «Што гэта? — страпянулася Ганна і застыла ў трывозе. Нешта цяжкае нібы павісла ў паветры, непадобнае на прывычныя вясковыя гукі. Бразгаценне вёдраў, рыпенне калодзежных жураўлёў, працяжны крык пеўняў, рэдкі ўзбрэх сабак быццам прыціхлі, а замест іх чуўся нейкі гул.

Ён нарастаў. Вось з таго боку, адкуль далятаў, ужо бачны і пыл, што ўзнімаўся над шляхам. «Немцы!» Ганна сарвалася з месца. Ускочыла ў хату. Схапіла соннага Іваньку, хуценька закруціла ў коўдрачку. Выскачыла на ганак. Насустрач з хлява з даёнкай у руцэ ішла маці.

— Ты чаго? — спытала яна.

— Мамо! — чамусьці шэптам, нібы баючыся, што яе пачуюць, адказала Ганна. — Немцы! Па мяне едуць!

Яна кінулася з двара. Падгор'ем пабегла па хмызняку. Росная цяжкая трава секла ногі, дубцы сілегі моцна сцябалі па твары, па руках...

Ля Касога рова спынілася. Прыслухалася. У нізіне, над ракой, рокат матораў, здавалася, быў яшчэ гучнейшы... «Гоняцца!» Чэзлым алешнікам Ганна кінулася да лесу.

Не хапала дыхання. Сэрца шалёна калацілася, гатовае выскачыць з грудзей, але Ганна баялася спыніцца і перадыхнуць.

Толькі ў лесе яна сцішыла бег. Пайшла павольна, адчуваючы цяжар соннага Іванькі на руках, але раз-пораз крок зрываўся на падбег — хутчэй, хутчэй... Яна кіравалася да смалакурні, дзе раней быў будан, — там калісьці навасёлкаўскія мужчыны гналі дзёгаць.

Да смалакурні было ўжо недалёка. Раптам Ганна сцяміла, што сюды вядзе дарога, па якой таксама могуць праехаць і немцы... У лясным шуме ёй ужо чуўся грукат матацыклаў...

Закрактаў і заварочаўся Іванька. Ганна ўся вымакла ад расы, а яму ў коўдрачцы было суха і цёпла. «Мабыць, есці захацеў», — падумала Ганна, адчуваючы цяжар у нагрубелых грудзях. Села пад хвою, прытуліўшыся да яе спінай. Расхутала Іванькаў тварык. Расшпіліла гузікі сукенкі. Паказытала саском сынавы вусначкі — ён адразу сцяміў, што трэба рабіць: злавіў бяззубым ротам цыцку і стаў прагна смактаць.

Закалыханы пагойдваннем на матчыных руках, сагрэты яе цяплом, ён праспаў свой звычайны час кармлення і цяпер смактаў прагна, не паспяваючы глытаць усё малако. Яно збягала з вуснаў і капала на мокрую Ганніну спадніцу. «Не спяшайся, дурненькі, — замілавана глядзела на сына Ганна. — Еж на здароўечка...»

Пасядзеўшы пад старой разгалістай сасной, Ганна крыху астыла. Адчула, што змарылася. Халодная мокрая сукенка прыліпла да цела. Хацелася есці і спаць...

Але заставацца тут Ганна баялася. «А калі немцы — з сабакамі? Яны ж па слядах знойдуць мяне!..»

Неўпрыкметку хмары зацягнулі сонца. Неба стала падобнае на палатняны ручнік — шэрае і аднастайнае. «Хаця б дажджу не было, — падумала Ганна. — Іваньку прамочыць...» Але тут жа супакойвала сябе: «Дык і не павінна быць — раса вунь якая. Дагэтуль спадніца не высахла...»

Заблудзіцца ў лесе Ганна не баялася. Колькі разоў хадзіла з бацькам па грыбы, у чарніцы, рэзаць дровы! Ён не вельмі любіў браць з сабой маці — гаварыў, што ад яе мітусні і ляманту ў лесе ціха не бывае... А Ганна — іншая справа: і яму дарогу не перабягае, заскокваючы наперад, дзе самыя лепшыя грыбы растуць, і сама не зломак — ведае, што дзе расце... І цяпер, мінаючы адну знаёмую мясціну за другой, згадвала, чым памятныя прагаліны, паляны. «Тут, — згадала, — апенькаў набралі два кашы, ледзьве ады-шліся адсюль, яшчэ знайшлі грыбоў. І яшчэ больш — давялося бацьку кашулю скідваць і ў яе рэзаць апенькі. Ледзь тады данеслі дадому... Ды і камары аб'елі бацьку так, што апух, нібы ад пчол... А за той выспай, дзе лес пераходзіць на балота, такія прыгожыя абабкі раслі ў імху!.. А тутака ваўнушкі збіралі з Міцем... Ох, Міця, Міця!... Дзе ты цепер? Няма ад цябе ні пісьма, ніякай іншай вестачкі!..»

Пазнаёміліся яны два гады таму ў Горках, у тэхнікуме. Міця ўжо быў на апошнім курсе, а Ганна толькі прыехала на вучобу. За навуку яна ўзялася моцна — дзяўчаты з групы колькі разоў па вечарах звалі з сабой на танцы, аднак Ганна заставалася ў інтэрнаце або ў бібліятэцы. Ды і ў вёсцы яна не вельмі любіла хадзіць на танцы, а калі і выбіралася, то ненадоўга. І праводзіць сябе дадому не дазваляла нікому...

Толькі аднаго разу яна згадзілася схадзіць на вечарынку, якую арганізавалі ў тэхнікуме з нагоды Дажынак. І хаця студэнты яшчэ толькі вучыліся і фактычна не мелі дачынення ні да сяўбы, ні да Дажынак, свае адносіны да сельскай гаспадаркі яны — будучыя аграномы і заатэхнікі — вырашылі выказаць менавіта на гэтым вечары. Тут Ганна і звярнула ўвагу на высокага, чарнявага Міцю. Ён заўсёды быў акружаны хлопцамі і дзяўчатамі, але ў той вечар, калі ён запрасіў Ганну на кадрыль, яны ўжо не адыходзілі адно ад аднаго...

А праз паўгода пажаніліся. Было гэта 21 чэрвеня. Ганна смяялася на студэнцкім вяселлі: «Узяў ты мяне, Міця, замуж у самую кароткую ноч...» А назаўтра яна горка плакала — Міця пайшоў у ваенкамат і вярнуўся адтуль нейкім чужы, зусім невясёлы.

— Заўтра адпраўка на фронт, — глуха сказаў ён.

— Міцечка мой! — загаласіла Ганна. — А як жа я?..

— Ну што тут зробіш? Вайна!..

І была ў іх яшчэ адна ноч — такая ж кароткая, як і першая...

З той пары не стала ў Ганны спакою на душы. Баялася за Міцю — каб не знайшлася на яго злая куля. Баялася за Іваньку, за бацькоў, за сябе — усіх паб'юць, калі даведаюцца, што Міця — на фронце. Тым больш, што ён — партыйны. А сёння і зусім боязна стала, калі пачула грукат матораў — здалося, што матацыклы кіруюць па выгане да бацькавай хаты...

Дадому вярнулася, калі ўжо зусім звечарэла. Змарнелая, пад вачыма — цені. Аддала Іваньку матулі. Сасмяглымі вуснамі прыпала да конаўкі. Напілася, цяжка села на лаўку, прытулілася плячом да сцяны і заплюшчыла вочы. Ціха вымавіла:

— Не магу больш...

— Падышла маці:

— Можа, паясі?

— Ай, якая тут яда, калі сябе не чую!

— Лепей, маці, не чапай яе, — памяркоўна загаварыў бацька. — Няхай спачатку адаспіцца. Потым паесць, калі шчас не хоча. Накарміце чым-небудзь малога ды кладзіцеся. А я шчэ пакуру...

* * *

Раненька, ледзь толькі пачало віднець, маці прачнулася і ўбачыла, што бацькава месца пустое. «І калі толькі ўстаў?» — падумала яна. Падышла да Ганны — спіць, абняўшы малога. Узяла даёнку, лінула ў яе вады. Выйшла з хаты. Пад паветкай, дзе ўчора Пятро ўзяўся нешта майстраваць, у кутку бялела незакончанае вясло, высечанае з кляновай плашкі. «Дзе ж ён? — занепакоілася Вера. — Можа, каля лодкі?»

На беразе, пад гарой, дзе заўсёды стаяла лодка, Пятра не было. Не было і лодкі...

«Куды ж ён мог падацца? — доячы карову, думала Вера. — І не сказаў нічога!.. Во ўжо натурлівы!...» Адцадзіўшы малако ў гладышкі, зноў выйшла на бераг.

Вось-вось павінна было вызірнуць з-за туману сонца. Светлыя хмаркі паружавелі. Яны адлюстроўваліся на вадзе і драбіліся хвалямі на мноства светлых плямак, становячыся падобнымі на пер'е, якім забаўляўся лёгкі ветрык. Праз цішыню ад ракі раптам пачуліся знаёмыя гукі — хтосьці гнаў лодку ўздоўж берага. Вера насцярожана ўглядалася ў туман. Вось нехта перастаў піхаць у дно і пачаў размашыста веславаць. Кашлянуў. «Пятро!» — пазнала Вера.

Лодка даверліва тыцнулася носам у падстаўленыя далоні Веры.

— Дзе ты буў?

— На Волахаўскім балоце, — стомлена выдыхнуў Пятро.

— І што — усю ноч там буў?

— Усю.

— А чаго цябе паперла на ўсю ноч на тое Волахава?

— Трэба. Потым скажу. Каб не раззваніла каму…

— Такая я ўжо званарка! — пакрыўдзілася Вера. — Не хочаш — не гавары, — яна прысела на борт лодкі, назіраючы, як Пятро навязвае ланцуг на ўкапаны ў пясок корч. — А я ўсё роўна бачу, што ты ўжо нешта надумаў. Толькі натура ў цябе — памаўчаць. Дык маўчы. Мо што і вымаўчыш…

Пятру раптам стала няёмка за тое, што ён адлучыў жонку ад сваёй тайны. У яго быццам нешта адпусціла… Ён прысеў побач:

— Уцякаць трэба. Усім уцякаць. Бо Ганна так доўга не працягне. Ды і дзіця загубіць. Хутка ж восень наступіць, а потым і зіма. Што, і па снезе, па марозе стане так бегаць?..

— І што ты рашыў? Чаго було на балота ездзіць?

— А таго і трэба було, што я там зрабіў курэнь. Помніш, дзе буў наш стажок плюшніку?

— Ну, помню. А хату пакінеш?

— І пакінеш, — сурова вымавіў Пятро. — Не пра дабро цяперака трэба думаць. Што схаваем, што з сабою забяром. Карову, напрыклад, забяром. З ёй ужо не памром. Святое дзела! А пра астатняе — усё скажу, як і што зрабіць. А цяпер — хадзем дадому. Пакуль дзень — пры хаце будзем, каб ніякая зараза не здагадалася. А заўтра на досвітку рушым… Толькі датуль шчэ многа работы…

* * *

Клункі з адзежай сабралі хутка. Ганна намерылася ўпіхнуць у вузел свае студэнцкія ўборы, але бацька спыніў:

— А з гэтым што ты на балоце збіраешся рабіць, перад кім хварсіць? Ты лепш цёплае што кладзі — святое дзела! Невядома, колькі там давядзецца сядзець. Мо і да зімы… Тожа мне, надумала!..

Правіянту набралася добрая ношка: паўкубла леташняга сала, фунты чатыры солі, з пуд мукі, паўмяха ячневых круп. Бацька раздзяліў усё гэта ў дзве просцілкі, завязаў у ладныя кайстры, сцягнуў лейцамі.

Са зборамі корпаліся да самага вечара. Калі добра сцямнела, бацька ўзяўся капаць пад дзічкай ў гародзе яму. Зямлю выносіў пад гару і высыпаў у ваду, каб нідзе ніякага следу не засталося. Капец атрымаўся глыбокі — у поўны рост. Бацька прыкаціў і апусціў у яму на падсцеленую салому дубовую бочку. Маці з Ганнай прыполамі перанеслі сюды жыта. Урадзіла яно сёлета як ніколі — нажалі і намалацілі ўдвая больш, чым летась. А вось пасеяць не ўдалося… Бочку бацька накрыў аполкамі, паверх заслаў просцілкай. Збоку апусціў змазаны тавотам плужок, закручаны анучамі. Засыпаў зямлёй з верхам, каб, як асядзе, не атрымалася ямкі. Патрусіў над хованкай сухім бадыллем, зацерушыў смеццем.

— Ну, вось і ўсё, — сказаў ён. — Выводзь, Вера, карову.

Вобмацкам бацька налыгаў вяроўку карове на рогі, накінуўшы пятлю і на пысу — каб не ўздумала рыкаць. Павёў да лодкі.

— Сядай, Вера, са мной. Будзеш вяроўку трымаць. А ты, Ганна, калі ад'едзем ад берага, заганяй карову ў ваду. Потым насі клункі на бераг, пакуль я вярнуся і забяру і цябе з малым, і ўсё астатняе.

Ісці ў чорную ваду карова не хацела.

— От, ліха тваёй матары, — скрозь зубы лаяўся бацька, намагаючыся трымаць лодку супраць плыні. — Збегай, Ганна, дадому, знайдзі, што даць гэтай ваўкарэзіне. Толькі хутка!

Ганна прынесла ў прыполе парэзаныя кавалкі гарбуза. Бацька пасыпаў іх соллю, зняў з пысы пятлю, працягнуў пачастунак карове. Яна стала жаваць. Другі кавалак ён працягнуў, адступіўшы крок назад, да лодкі. Карова пайшла ў ваду. Бацька ўскочыў у лодку.

— Давай ёй гарбузы, толькі так, каб яна ішла за імі ў ваду!..

Але жывёліна забрыла па чэрава і спынілася. Тады Ганна, намачыўшы спадніцу, ускочыла ў ваду побач з каровай, схапіла яе за хвост і рэзка задрала яго ўверх. Ад нечаканага болю карова рванулася і... паплыла.

Двума моцнымі ўдарамі вёслаў бацька паставіў лодку насуперак плыні, трымаючы кірунак на той бок ракі. У цемры былі чуваць толькі ўсплескі вады ды шумнае дыханне каровы...

На ўсходзе пачало шарэць, калі бацька перавёз апошнім рэйсам Ганну з Іванькам. На тым беразе чакала маці, побач з ёй скубла росную траву карова. Пятро не стаў падцягваць лодку, а адагнаў у ціхую завадзіну і затапіў. Каб не ўсплыла, узяўся закідваць у яе вяслом зямлю. Аддаўшы Іваньку маці, Ганна схапіла даёнку і стала дапамагаць бацьку насыпаць у лодку пясок.

— Во малайчына, — пахваліў той. — Лодка шчэ нам самім, можа, спатрэбіцца. А пад вадой яе ніхто не знойдзе.

* * *

На тым беразе, дзе засталася вёска, пачынаўся новы дзень. Брахнуў сабака. «Васілёў ганчак, — пазнала Ганна. — Заўсёды лашчыцца, ведае, бадай, усіх суседзяў. Таму і ноччу, пакуль збіраліся, не даваў голасу. А іншы ўзняў бы вэрхал...» Закрычалі нечыя гусі. «З гэтага боку ракі гукі нейкія не такія, як там», — здзівілася яна. І адзначыла, што нехта вельмі рана забраў гусей з вострава — звычайна іх пераганялі дадому позняй восенню...

— Ну, — напаўголаса абазваўся бацька, — хопіць стаяла. Ісці трэба.

Дарога была знаёмая. На лузе Ганне заўсёды даручалі стагаваць. Стог у яе атрымліваўся, нібы яечка: ад адзёнка расшыраўся ў рост чалавека, а затым плаўна звужаўся да вяршынькі. І не было такога выпадку, каб стог, складзены Ганнай, замакаў. Суседзі заўсёды прасілі яе скласці стог і падгадвалі сваю работу так, каб да таго, як Ганна на лейцах спусціцца са свайго стога на зямлю, копы былі падцягнуты да адзёнка.

Ганна ніколі не адмаўляла, і суседзі гэта ведалі, таму навыперадкі стараліся дапамагаць Буднікам: то апоўзіны высякуць, то сена падцягнуць, то падграбуць за копамі...І Буднікі, склаўшы свой стог, браліся за наступны. Талакой справа ішла весела і хутка. Ганна станавілася на адзёнак і выводзіла стог, увішна прымаючы сена...

Пасля работы — абед у халадку, пад толькі што складзеным стогам. Прыходзілі са сваімі торбамі і тыя, хто дапамагаў, і каму дапамагалі. Раскладвалі на просцілках хлеб, вараныя яйкі, маласольныя гуркі, загорнутыя ў палатняныя анучкі брускі сала, зялёныя стрэлы цыбулі, кулькі сыру, бліны розных памераў... Калі хто даставаў бутэльку, дзялілі на ўсіх пароўну, і хаця кожнаму перападала па кропельцы, настрой у талакоўцаў быў узнёслы — не так ад гарэлкі, як ад зробленай работы.

Ганна глядзела на луг і не пазнавала — пусты, ніводнага стога. Быццам згарэлі. Няўжо мужыкі паспелі вывезці сена? Толькі калі ж гэта магло стацца? Не, тут нешта не так...

— Тато, — выгукнула Ганна. — А чаму стагоў няма шака?

— А ты не ведаеш? Немцы ўсё сена сабе забралі — коней карміць. У іх жа коней — ого-го!

— Дык тады навошта мы з сабою карову цягнем? — спытала маці. — Чым яе карміць, калі ты гаварыў, што надоўга сходзім з хаты? Мо пасвіць будзем? А калі да снегу затрымаемся тутака?

— Сціхні ты! — абарваў яе бацька. — Не лямантуй. Ёсцека ў мяне чатыры добрыя капы верхавога сена. Амаль на самым месцы. Потым перацягаем. І ўсё будзе ў парадку. Святое дзела! Улетку, калі венцяры на азёрах ставіў, знайшоў ладную грыўку і выкасіў яе. І ля кураня ўжо ёсць капа — ноччу нацягаў з адзёнкаў, што немцы пакінулі. Яны ж сена бяруць толькі зверху, а да самага нізу не здымаюць — вужак баяцца.

Іванька закрактаў, заварочаўся. Пачаў выпростваць ручкі. Ганна спытала ў бацькі:

— Далёка шчэ ісці?

— Блізка. А што?

— Малы, мабуць, есці захацеў.

— Ну, дык можна і спыніцца. Цяперака спяшацца няма куды. Ніхто, здаецца, за намі не гоніцца.

Ганна скінула з плячэй сваю паклажу. Расшпіліла сукенку. Вызваліла грудзі, да якіх прагна прыпаў сын.

Бацька, не здымаючы клункаў з каровы, распутаў на яе пысе пятлю:

— Хай пасецца. Цяперака ёй волі будзе больш. Ды і атавы такой шкада — прападзе...

— Слухай, Пятро, — паклікала маці. — Я ніяк не магу ўцяміць — як гэта ўсё будзе? Ну, мы з табой — у куранi, карова — пад кустом. А Ганна з малым? Яго ж і мыць трэба, і пялёнкі мяняць...

— Прыдумаем што-небудзь. Вады ў чыгуне сагрэем і пакупаем. Тожа мне — праблему знайшла...

— А вось і знайшла, — не супакойвалася маці. — А ваду дзе станеш браць? Мо ў раку пабяжыш з даёнкай? Дык не наносішся — далекавата!.. Кіламетраў сем, мабыць, будзе... І сабе ж трэба, і карове...

— Ды сціхні ты! — не стрымаўся бацька. — Во любіш пазвягаць, не ведаючы справы! Ёсцека там ужо вада — выкапаў учора калодзеж. Добра хоць, глыбока капаць не давялося — балота ўсё ж... Засталося толькі зруб апусціць...

— Калі гэта ты паспееў усё парабіць? — недаверліва спытала маці. — І сена нацягаць, і курэнь зрабіць, і калодзеж выкапаць... Мо хто дапамагаў?

— Ага, якраз — дапамагаў! Тады назаўтра ўся вёска ведала б, куды Буднікі зніклі. У людзей жа языкі без касцей... Асабліва ў некаторых, — упікнуў Пятро, але маці не зразумела, што апошнія словы датычацца яе.

— Ну што — пад'еў? — спытаў Пятро ва ўнука. Той шырока расцягнуў рот бяззубай усмешкай. Пятру гэта спадабалася. — Во, пазнаў!

Паказытаў пальцам бачок хлапчуку:

— Пацярпі, хутка будзем на месцы. Там пабрыкаеш нагамі ўволю...

Іванька болей не заснуў. Усё выпростваўся з коўдрачкі. Ды яшчэ намачыў яе.

— Святое дзела! — засмяяўся Пятро. Ён адчуваў у душы велізарную палёгку ад таго, што выводзіць сям'ю з-пад пагрозы, што здолеў падрыхтаваць курэнь, выкапаць калодзеж... — Малайчына, хлопец! Доўга спаў, добра паеў, цяперака можна і пасцаць!..

Пачынаўся лес. Вясною сюды па вялікай вадзе Пятро прыязджаў на лодцы. На астравах нарэзаў сухастою, каб узімку забраць яго. Не давялося — вунь ляжаць дровы ў штабелі. «Ну і добра, — меркаваў ён. — Тутака таксама спатрэбяцца, бо на балоце дроў добрых нямашака... А гэтыя — сухія, дыму менш будзе... Толькі што далекавата цягаць... Ды нічога — часу многа... Перацягаем. Мо карову запрагу — усё ж палёгка выйдзе рукам...»

Дарога непрыкметна скончылася, разбегшыся мноствам сцежак у розныя бакі. А потым і сцежкі зніклі, быццам іх хто зацерушыў апалым лісцем. Здавалася, можна было ісці куды хочаш — кірункі аднолькавыя. Як і дубы, пад шатамі якіх крочылі Буднікі, — аднолькава рас-кідзістыя, аднолькава каржакаватыя. Ва ўсіх — такая ж таўшчыня, такая ж шурпатая кара. Бадай, толькі суччa расло на кожным дрэве па-рознаму. І па іх Пятро трымаўся аднаму яму вядомага кірунку...

Раптам збоку нешта чмыхнула, і адразу затрашчала суччa. Зашамацела лісце. Між дубоў замільгалі чорныя цені. Карова рванулася, ледзь не вырвала вяроўку з рук маці.

— Дзікі! — супакоіў жанчын бацька. — Тут іх процьма. Жалуды збіраюць. Ніхто не турбуе, вось і распладзіліся. І, бач ты, не баяцца — блізка падпусцілі... А што — гэта ж іх самыя мясціны...

Хутка паміж дубоў сталі трапляцца бярозы. Потым лес змяніўся — стаў чарнейшы, на змену бярозам і дубам паўсталі алешыны.

— Ну во, — пазнаў мясціны Пятро. — Засталося зусім мала.

—А куды мы зайшлі? — спыталася маці. — Я, здаецца, тутака шчэ ніколі не была...

— Ну, дык пабудзеш, — паабяцаў Пятро. — А раней табе на Волахаве што было рабіць? Гэта мне сюды не такі ўжо далёкі край дабірацца — то дровы, то сена, то рыба... І па какоры летась сюды прызджаў вясною па разліве. Навысякаў тады іх на дзве лодкі. Шчэ ты мне дапамагала выносіць пад паветку... Не помніш?

— А я ж лічыла, што Волахава — балота. А тутака проста лес.

— Нічога, хутка лес скончыцца, пачнецца балота. Яно кіламетраў на трыццаць цягнецца.

— І што — мы ў балоце жыць будзем? — занепакоілася маці. — Як тыя дзікі?

— Ды не ў балоце, а на востраве. Як царыца будзеш, — засмяяўся бацька — яго не пакідаў добры настрой.

— А як на той востраў трапіць?

— Па кладках. Я ж па іх хадзіў. І ты пройдзеш. Іншай дарогі няма. Ні наперад, ні назад. А што нас тутака не знойдуць, можаш не сумнявацца…

Лес станавіўся ўсё радзейшы, алешыны быццам прыселі — парабіліся ніжэйшымі, чэзлымі. Пад нагамі захлюпала. Падышлі да сцяны чароту. Толькі воддаль віднеліся высокія дрэвы.

— Вунь туды будзем дабірацца. Пойдзем па кладках, а карова — побач. Тут неглыбока — ёй па чэрава. Толькі што грузка. Я пайду першы, а вы глядзіце — я сакрэт адзін зрабіў…

Дзве жэрдкі, на якія ступіў бацька, пад яго вагой патанулі ў вадзе, але толькі на пядзь — трымалі купіны. Дайшоўшы да ўторкнутай альховай галіны, бацька зрабіў крок управа.

— Цяперака, як дойдзеце дагэтуль, і вы ступайце на адзін крок управа. А калі і гэтыя жэрдкі кончацца — рабіце крок улева. Усяго такіх зігзагаў будзе пяць. На кожным калене я паставіў тычкі, не саб'ецеся.

Бацька вярнуўся, узяў у маці вяроўку. Патрапаў па шыі карову:

— Ну што, пайшлі?

Жывёліна ішла побач з Пятром спакойна, нібы разумела, што ён тут — самы галоўны, ад яго залежыць і яе жыццё… Нават калі балотная твань стала глыбей і дастала да сярэдзіны рэбраў, карова не заўпарцілася — паслухмяна прасоўвалася наперад.

— Нічога, нічога, — падбадзёрваў усіх Пятро. — Кладкі ўжо канчаюцца, хутка адпачнем…

Ганна ўспомніла, што бацька быў тут мінулай ноччу, пераадолеўшы шлях і сюды, і адсюль. Ды яшчэ курэнь будаваў, калодзеж капаў, сена цягаў… Ёй стала шкада бацьку — немалады ўжо, нага хворая… Мог бы адседзецца ў хаце… Аднак кінуў усё, каб ратаваць і яе, і ўнука. І маці пацягнуў разам, хаця ведаў, што нічога добрага нікога тут, на балоце, не чакае… Але Ганна была ўпэўнена, што бацька меней за ўсё думаў пра сябе, пра сваю бяспеку — такі ўжо ён чалавек… І калі Ганна надумала ехаць на вучобу, без ваганняў запрог каня і павёз у Петрыкаў на кірмаш прадаваць падсвінка. А тады ж толькі адзін кабанчык і быў у гаспадарцы Буднікаў на зіму…

…Ганна зрабіла чарговы крок — нага трапіла не ў ваду, а на сухі бераг. «Нарэшце!» — узрадавалася Ганна. Ёй здавалася, што гэтым кладкам не будзе канца. Пасля блуканняў па лясах і бяссонных начэй хацелася спаць. Калі-нікалі здавалася, што яна спіць на хаду, а ногі ступаюць самі па сабе… Нават нейкія абрыўкі сну мільгалі перад вачыма, накладваючыся на яву…

На руках круціўся Іванька. «Пацярпі крышачку, — угаворвала Ганна сына, — напэўна, ужо хутка будзем на месцы…» Яна і не заўважыла, як з-за кустоў лазняку паказаўся будан. Бацька, задаволены,

што нарэшце давёў сваіх да кураня, дзе можна адчуваць сябе бяспечна, нейкім урачыстым голасам вымавіў:

— Ну, з наваселлем вас! Заходзьце, будзьце як дома!

Ён адкінуў сплецены з лазовых дубцоў шчыт, які закрываў уваход у курэнь. Будыніна аказалася даволі прасторнай і нават утульнай, разгароджанай на дзве палавіны. Ганна падзівілася, што такую пабудову можна было зрабіць усяго за адну ноч: бацька сплёў сцены накшталт двайнога плота, паміж імі напіхаў асакі. Гэтакі ж быў і дах. Акрамя таго, зверху на курані тоўстым слоем — пядзі на дзве — насцелены чарот. У кутку ляжала з паўкапы сена.

— Ну, — абазваўся бацька, — годзе любаваліся. Шчэ наглядзіцеся… Лепш давайце ўладкоўвацца. Ты, маці, што-небудзь звары, а ты, Ганна, пакладзі малога на сена — хай пабрыкаецца. Ён даўно ўжо просіцца пагуляць. А сама падаі карову — яе час ужо прайшоў… А я пакуль што дроў падцягну…

Пасля броду ўсё чэрава ў каровы было ў твані. Ганна ўзяла даёнку, агледзелася — дзе набраць вады, каб памыць вымя. Убачыла свежую зямлю між дрэў, падышла. Вада ў яме ўжо крыху адстаялася, але ўсё роўна здавалася чорнай. Адганяючы донцам даёнкі лісце, што насыпалася з бярозы, Ганна паслізнулася і ўпала прама ў бузу, якая вільготнай кучай ляжала ля калодзежа. Ганна адчувала, як намакае вопратка. Але ўстаць не было моцы — нейкая сіла страсянула ўсю яе істоту. З грудзей вырваўся стогн. Ганна закалацілася, зайшлася ў плачы…

…Прачнулася яна пад коўдрай на сене ў будане. Знадворку даносілася нягучная гаворка бацькі. «Колькі я спала? — мільганула думка. — А як жа Іванька?» Яна ўстала. Няцвёрда ступаючы, выйшла з кураня.

Вогнішча ўжо дагарала. З яго раямі вылятаці іскры. Падхопленыя гарачым струменем уздымаліся ўверх і знікалі ў цемры, якая абступіла з усіх бакоў. На калодцы сядзеў бацька і трымаў на каленях Іваньку. Нібы зачараваны, малы шырока раскрытымі вачыма глядзеў на агонь. Здавалася, што ён уважліва слухаў дзеда:

— …Во, падрасцеш крыху, навучу цябе рыбу лавіць. Можна — вудкай, можна — венцярамі. А з крыгай абавязкова пойдзем — там трэ ўдваіх завіхацца. Заходзіш у завадзіну, прыціскаеш сваё крыло да дна і выграбаеш рыбу на бераг. Бывае, і добрая шчучка трапляецца, але рэдка. Во сеткай — іншая справа! Ты будзеш на грабках сядзець, лодкай кіраваць, а я стану цянёты выкідваць. Тут трэ, каб паплаўкі не перапуталіся з грузікамі, а то сетка пойдзе ў ваду вяроўкай… А потым пацягнем сетку за крылы, пакуль матня не пакажацца. Тут ужо глядзі — шчупак вельмі любіць пераскокваць цераз верх. Хітры, зараза! Але мы з табой, унучак, яго перахітрым — святое дзела! А во, — заўважыў бацька Ганну, — прачнулася?

— Ой, тато, прачнулася! — Ганна адчула ў сваім голасе бадзёрасць. — Няўжо гэта я цэлы дзень праспала?

— Шчэ як праспала! — абазвалася маці. — Ды і добра — колькі ж можна без сну?!

— А мы тутака без цябе ўсё пораліся — бацька хацеў было дроў паболей нацягаць, ды давялося яму за няньку сядзець з малым. Добра

хаця, што Іванька як паспытаў каровінага малака, дык і спадабалася. А я ўзялася клункі распакоўваць — адзежу ў адзін кут складвала, правізію — у другі. А ты што — не чула нічога?

— Слухай, маці, — перапыніў бацька. — Потым раскажаш пра свае справы. А пакуль дай чалавеку паесці.

— І то праўда, — пляснула далонямі маці. — Я ж зварыла поўны чыгун супу…

Ганна ўзяла міску і толькі цяпер адчула, як моцна прагаладалася. Гарачы малочны суп вяртаў ёй сілы. Але трывожныя думкі агортвалі нібы павуцінне: «Колькі тутака давядзецца жыць? Як будзе з сынам? Яго ж ледзь не кожны дзень купаць трэба… І карміць не толькі грудзямі. Ну, карова малако дае — будзе масла, тварог, смятана. Але ўсё роўна гэтага мала. А ў што апранаць? Пялёнкі мяняць трэ на дні па разоў дзесяць ды ноччу шчэ ледзь не столькі ж… Ну, пакуль цёпла, сохне ўсё хутка. А як замарозіць?.. І самім таксама трэба і мыцца, і адзежу мяняць…»

Нібы прачытаўшы ў вачах Ганны мноства пытанняў, бацька бадзёра вымавіў:

— Не гаруй — усё будзе добра! А заўтра, каб весялей було, прыдумаў я вам добрую работу. Няпыльную! Каб неператрудзіліся, адвяду вас у дубняк — будзеце жалуды збіраць. А сам займуся мужчынскімі справамі — годзе мне ў няньках сядзець.

— А што, — не ўтрымалася маці, — мы тыя жалуды есці станем?

— От не можаш ты, каб не пад'ялдыкнуць! — звыкла сказаў бацька. — Карова твая есці будзе, а ты — яе малако піць. А я шчэ адну хітрасць прыдумаў. Толькі пакуль не скажу — што гэта за штука такая…

— Во-во, так заўсёды, — махнула рукой маці, — скажа што, але не да канца. Ён ведае, а мне толькі думай…

— А ты і не думай. Спакайней будзе. І табе, і мне. Святое дзела…

* * *

Пакуль маці з Ганнай збіралі жалуды, бацька, кінуўшы карове сена, вярнуўся у лес. Ён не сказаў — чаго, але зразумела было, што «хітрасць», якую ён задумаў, патрабуе грунтоўнай падрыхтоўкі: Пятро ўзяў з сабою сякеру і рыдлёўку. Вярнуўся гадзіны праз тры. Агледзеў сабраныя жалуды. Насыпаў у торбу з паўпуда. І зноў пашыбаваў у лес. На гэты раз ненадоўга.

— Ну, дзеўкі, — радасна выгукнуў ён, — цяперака будзем чакаць да заўтра…

— А што будзе заўтра? — не ўстрымалася ад пытання Вера, хаця ведала, што дапытацца чаго-небудзь у Пятра, пакуль ён сам не захоча расказаць, няма ніякай надзеі. — Мы зноўку пойдзем жалуды збіраць, а ты іх назад у лес будзеш насіць?

— Амаль угадала! Але жалудоў спатрэбіцца многа — карова вунь як іх есць. І малако ад іх густое, тлустае. Жывое масла! А ці спатрэбіцца насіць жалуды назад у лес — пакажа заўтрашняя раніца… Мо і не спатрэбіцца…

Тое, што збіраць жалуды пад апалым лісцем не так ужо і лёгка, Пятро ведаў. Тым больш, справа гэтая аказалася маруднай, бо жан-

чыны па чарзе глядзелі Іваньку. Ды і насіць сабраныя жалуды было далёка — на пераходы ішло многа часу.

Дні ўжо былі кароткія, а ў клопатах яны прабягалі яшчэ хутчэй. І ўсё ж да вечара Пятро паспеў зрабіць з асінавага камля карыта. Паваліўшы дрэва, ён адсек ад яго цурку. Клінамі раскалоў уздоўж на дзве плашкі. У адной пакінуў тарцы, а сярэдзіну выбраў сякерай. Ганна сядзела з Іванькам побач і моўчкі назірала, як бацька спрытна ўвіхаецца з сякерай.

— Ну во, — задаволена ацаніў ён сваю работу, насыпаючы ў карыта жалуды, — цяперака няхай хумкае…

І дадаў загадкава:

— Можа, сёння ўначы шчэ хто-небудзь захоча паласавацца…

— Ты што — з глузду з'ехаў? — запытала Вера. — Сам есці жалуды станеш ці нас запрашаеш? І чаму ноччу?

Назаўтра, ледзь толькі пачало світаць, Пятро асцярожна, каб не пабудзіць жанчын, устаў, стараючыся не шамацець сенам. Апрануўся, выпіў учарашняга малака і пашыбаваў у дубняк. Яго падганялі нейкі маладыя азарт і спадзяванне на ўдачу. Падыходзячы да дубоў, сцішыўся. Ён пільна ўглядаўся ў ранішні паўзмрок. Вось той самы дуб, ля якога ўчора ён завіхаўся. Раптам моцнае чмыханне прымусіла Пятра ўздрыгнуць. Ён спыніўся — нідзе нічога не відаць. Зрабіў яшчэ некалькі крокаў — гук паўтарыўся. Ён ішоў знізу, нібы з-пад зямлі… Так і ёсць: яго ўчарашняя пабудова знікла, на яе месцы чарнее яма, а ў ёй варочаецца дзік! «Ото ж звяруга, — ацаніў Пятро, — аднаму мне з такім не зладзіць…»

Яшчэ хутчэй, чым ішоў сюды, Пятро вярнуўся да кураня. Пабудзіў Ганну:

— Хадзем са мной.

— Куды?

— Давай хутчэй! Бо ўцячэ…

— Ды хто ўцячэ? — спрасоння не магла ўцяміць Ганна.

— Па дарозе раскажу. Апранайся.

Пачуўшы іх гамонку, прачнулася і маці:

— Што вы тамака шэпчацеся?

— Нічога, — супакоіў яе бацька. — Пабудзь крыху з малым. Па дарозе бацька расказаў, што ўчора выкапаў яму. Зямлю з яе параскідаў навокал. А яму накрыў галлём, зацерушыў лісцем, паверх яго насыпаў жалудоў.

— Усунуўся-такі вяпрук! — радаваўся сваёй удачы бацька. — Ды шчэ які здаравенны! Каб толькі не выскачыў, бо яма не такая ўжо глыбокая…

Аднак турбаваўся ён дарэмна — звер быў у пастцы. Яму было цесна ў яме — бацька нібы ўгадаў, на якую здабычу рыхтаваў сваю пастку… Дзік варочаў даўжэзнай галавой, раз-пораз падчэпліваў лычам зямлю і са злосцю кідаў яе ў бакі…

— Бач, які сур'ёзны, — ацаніў бацька. — Сердзіцца…

— А што з ім далей будзем рабіць? — спытала Ганна.

— Што-небудзь прыдумаем. Я ж не думаў, што ён пападзецца гэткі вялікі… А як ты думаеш, Ганно, са шкваркай нам лепей будзе жыцца на Волахаве, га? А то, лічы, адно малако ды малако…

Бацька адсек даволі тоўсты кол. Прывязаў да яго папругай нож — атрымалася кап'ё. Ганна зразумела, што цяпер бацька будзе рэзаць дзіка. Раней, дома, калі надыходзіла пара свежаваць кабанчыка, яна сыходзіла як мага далей, каб не чуць перадсмяротнага віску... І цяпер яна таксама адышлася ўбок...

Праз колькі хвілін пачула бацькаў голас:

— Ганна, хадзі сюды!

Адвязваючы акрываўлены нож, бацька ўзрушана гаманіў:

— Бач ты — сваю смерць прыняў моўчкі! Не пікнуў нават! А мне ж не вельмі зручна было пароць яго зверху, давялося некалькі разоў біць... Але ж не завішчаў, не паказаў свайго страху перад чалавекам... Да апошняга зверам заставаўся... Не тое, што дамашні свінёнак... Той хутчэй ад крыку памірае...

Удваіх яны ледзь выцягнулі дзіка. І то давялося рыдлёўкай зразаць закраіны ямы, а зямлю падмошчваць пад тушу, как падняць вышэй — усе ж лягчэй даставаць.

Бацька не пераставаў гаманіць, хаця на яго гэта зусім не было падобна:

— Цяперака ў нас будуць і каўбасы, і кумпяк, і бакавіна... Як паясі свежыны, дык і цягурней становіцца...

Ганна ўпершыню ўбачыла так блізка дзіка: кароткае тулава, галава — ледзь не трэць усяго звера, бурая з сівізной поўсць, малюсенькія вочкі...

— Глянь — якая зброя, — бацька дакрануўся да падобных на нажы іклаў. — Такімі як падчэпіць...

— Не дай Бог! А як ты прыдумаў зрабіць такую пастку?

— А калі ішлі сюды, помніш — дзікі тутака жалуды збіралі? Вось тады і прыдумаў. Нам жа есці нешта трэба! А тутака на табе — свежына! Каб шчэ і чарка перапала, дык і зусім свята!

— Свята святам, — суцішыла бацькаву радасць Ганна, — а мяса шчэ трэба дадому занесці...

Сказаўшы «дадому», Ганна схамянулася: усяго адзін дзень прайшоў, а яна ўжо называе будан сваім домам... Хутка ж чалавек прывыкае... Каб толькі не забыцца, што дзесьці за ракой ёсць сапраўдны дом... Што недзе на фронце Міця ваюе...

Бацька ўзяўся знімаць скуру з вепрука. Ганна дапамагала, падтрымліваючы звера за нагу. Падумала: «Як ваўкі мы тутака — ужо і дзіка ўпалявалі...»

— Пудоў на пяць пацягне, — ацаніў бацька. — Нажыраваў сала на жалудах. Глянь — на тры пальцы будзе... Нам толькі солі хапіла б...

— А калі і не хопіць?

— Што-небудзь прыдумаем. Ужо холадна становіцца — не сапсуецца. А мо завэндзім кумпякі? На ўсю зіму хопіць... Святое дзела!

Ганне стала не па сабе: «Няўжо сапраўды давядзецца на балоце ўсю зіму сядзець? Гэтак жа і адзічэць можна!..»

— Ну што — панеслі? — бацька ўскінуў сабе на плячо кумпяк. — А ты бяры другі. За астатнім хутка вернемся. Во здзівіцца маці, як ўбачыць!..

Ля будана маці гаманіла з Іванькам. Малы, абліваючыся і пускаючы сліну, піў малако з кубка. Вера ўбачыла Пятра з Ганнай, іх груз, і ад нечаканасці ледзь не выпусціла з рук хлапчука:

— А вой, — разгублена вымавіла яна. — А дзе вы ўзялі столькі мяса?

— Злавілі! Мы такія! Ты лепей пасцялі просцілку, каб можна было складваць. Гэта ж шчэ не ўсё — тамака ў тры разы больш засталося! Астывае…

…Узрушаныя і радасныя, бацька і Ганна вярталіся да сваёй здабычы. Яны ўжо амаль падышлі да пакінутага на разасланай скуры мяса, як раптам бацька схапіў Ганну за рукаў:

— Стой!

— Чаго? — не зразумела Ганна.

— Ціха! Глянь сама — нехта варушыцца!..

Ганна ўгледзелася — нейкія шэрыя цені мітусіліся пад дубам, дзе ляжала дзічына.

— Ой, мамачка! — зусім па-дзіцячаму спужалася Ганна. — Нейкія сабакі…

— Не сабакі. Гэта ваўкі!..

Ён пастаяў у нерашучасці, назіраючы, як знікае яго здабыча… І раптам гучна крыкнуў:

— Гэй!

Мітусня пад дубам прыціхла. Але праз хвіліну ваўкі зноў сталі рваць мяса…

— Вось табе і запас на ўсю зіму, — з роспаччу вымавіў бацька. — І не баяцца ж… Во каб стрэльба была! Я б ім паказаў!.. А так давядзецца шчэ аднаго дзіка лавіць…

— Даўся табе той дзік! — Ганна пацягнула бацьку назад. — Глядзі, каб яны карову нашую не злавілі. А то і нас саміх…

— Што праўда, то праўда. Давай ходу адсюль…

Толькі цяпер, павярнуўшы назад, Ганна адчула, што ў яе пахаладзелі рукі і ногі. А ў галаве калаціліся думкі: «Нічога сабе ў нас суседзі!.. Як адвадзіць іх ад будана?»

Тыя ж клопаты турбавалі і бацьку:

— Давядзецца цяперака ўсю ноч трымаць агонь… Вакол кураня частакол пастаўлю… А карове трэ паветку рабіць. Гэта ж не жартачкі — ваўкі!..

* * *

Мінула некалькі дзён. Пасля сустрэчы з ваўкамі бацька ўсур'ёз узяўся ўмацоўваць дварышча: зрабіў пабудову для каровы, што і курэнь, выкапаў вакол будана і хлява канаву, у якую тарчма паставіў бярвенні. Каб не адрываць ад жаночых спраў маці і Ганну, ён узяў сабе ў памочнікі карову.

Тут жа, на востраве, ён стаў валіць лес. Бярвенні даўжынёй метры па тры падвязваў да збруі — пятлі з лейцаў, свабодна накінутай на шыю карове. Жывёліна нібы разумела патрэбу ў гэтай справе — тралявала бярвенні не горш за каня. Праўда, Пятро не вельмі стараўся нагружаць яе — дрэвы валіў не самыя тоўстыя.

Але ўсё ж штабель бярвенняў атрымаўся вялікі. Толькі бацька не даў ім доўга ляжаць: завастрыў бярвенні з абодвух канцоў і паставіў па чарзе ў канаву: адно — камлём уверх, другое — уніз. Так між імі не было шчылін. Потым, каб частаколіны не развальваліся, пераплёў лазовымі апоўзінамі. І толькі затым прыкапаў бярвенні. Атрымалася моцная агароджа, уваход у якую бацька зрабіў з двух бакоў — ад кладак і на востраў. На лазовых петлях змайстраваў вароты.

Маці з Ганнай у куранi наладзілі для Іванькі лазню — прынеслі гарачага вуголля, завесілі прасцілкай дзверы. І хаця мылі малога ў тых жа начоўках, з якога карова ела жалуды, усё атрымалася як след. Праўда, Ганна баялася, што ў куранi халаднавата, таму не дала сыну паплёхацца ўдосталь. А той, адчуўшы волю, лежачы голым у начоўках, пляскаў ручкамі па вадзе і абліваў усё наўкола…

Пасля мыцця Ганна вырашыла прасушыць сена, на якім адбывалася купанне. Выносіла на двор і раскладвала каля кураня. І толькі ўзяла чарговы бярэмак, як адчула — нешта доўгае і халоднае абвілося вакол рукі. Яна адкінула сена і ўбачыла здаравенную вужаку…

На крык прыбег бацька. Адным ударам рыдлёўкі забіў гада. Супакоіў:

— Не бойцеся, гэта вуж. Ён не ядавіты. Вось толькі як трапіў у сена? Можа, я яго прынёс, калі цягаў капу? Ці сам ён прыпоўз, чуючы цяпло пад нашымі бакамі?.. Ну, мабыць, усяго адзін буў — ужо прыхалодвае, яны ў такую пару не поўзаюць.

— Каб Ганна не ўзялася сена ператрушваць, дык ён, мабыць, з намі ўсю зіму жыў бы? — запыталася маці. — Вясною навёў бы вужанят…

— Ды не, — супакоіў бацька. Ён узяў на рыдлёўку ацупелага вужа і выкінуў за плот. — Тутака яму неспакойна. Ды і невядома — можа, гэта не вужыха…

— Як бы там ні было, — абазвалася Ганна, у якой ужо прайшоў жах, — давайце сёння ўсе разам возьмемся гамузам за парадак. Здэцца мне, што тутака мы надоўга…

— Ото ж праўду кажаш, — падтрымаў бацька. — Толькі ў мяне і сваіх спраў навалам. Трэ зрабіць бачолку для мяса, каб не абсыхала, а прасольвалася. А мо засолім толькі адзін кумпяк, а з другога аточыны зварым, га, дзеўкі? Мяса хоць і на дурніцу папала, а ўсё роўна шкада будзе, калі прападзе… Так што будзеце тутака самі з адзеннем і харчамі парадкаваць. А я без справы не застануся…

Бачолку, пра якую гаварыў бацька, яшчэ трэба было знайсці з чаго рабіць. Канечне, прасцей — з асіны. Яе лягчэй знайсці ў лесе, лягчэй паваліць і лягчэй выдзёўбваць. Але ж ад асінавай драўніны гарката пяройдзе ў мяса. Можна змайстраваць бачолку і з дуба, але ён сякеры паддаецца не вельмі ахвотна. Ды і цяжка будзе валачы дубовую цурку да дварышча… Таму Пятро, засунуўшы за пояс сякеру, накіраваўся ў лес.

Ён шукаў ліпы. Іх Пятро бачыў, калі гады тры таму нарыхтоўваў дровы. Ён рэзаў алешыны і бярозы — яны гараць зырка, амаль як дуб, але лягчэй пілуюцца і колюцца. Ліпа, як і асіна, на дровы не гадзіцца — пыхне, і ўсё. Адно, што добра прачышчаюць комін: уся сажа выгарае…

Там-сям на вочы трапляліся грыбы. Аднак Пятро мінаў іх — не было куды браць. Ды і ношка на зваротную дарогу важкая. «Мо, — думаў ён, — трэ было ўзяць з сабою Ганну — хай бы набрала казлякоў. Якога юшніку наварылі б. Ці насушылі — усё ж правіянт...»

* * *

Застаўшыся адны, маці з Ганнай узяліся за справу. Яны адхаласцілі насцеж дзверы будана. Вынеслі з яго ўсе клункі.

— Глянь, Ганно, — паклікала маці, паказваючы ў мяху дзірку. — А ці не мышы гэта пратачылі?

— Канечне, мышы. Мяшок цэлы буў. Трэ зашыць.

— Не бярыся за гэта — я сама зашыю. Лепей з малым пабудзь. А то ён ўсё адзін ды адзін. Яму ж хочацца старчака пастаяць. Вунь як нагамі джыгіруе. Ужо ж вялікі! Чуеш — нешта сабе швярдэкае? Хоча, каб пагаманілі з ім. Давай, нясі яго сюды, на сонейка!

Іванька радасна шчэрыў рот. Пасля каровінага малака ён стаў ленавацца смактаць матчыны грудзі. «А мо так і лепш, — думала Ганна. — Апошнія дні малако быццам прападае...»

Учора яна зварыла малому супчык: бульбіна, пястка круп. Хаця бацька і не дазваляў нават дакранацца да мяса — няхай на потым будзе, адрэзала кавалачак і ўкінула ў варыва. Іваньку яно спадабалася — еў і яшчэ роцік раскрываў. Ганна карміла яго з пальца густышом і не адразу здагадалася, што ёй трапілася цвёрдае. Спалохалася — можа, костка ад мяса адкалолася. Аднак гэта аказаўся зубік, якім малы прыціснуў матчын палец. «Во табе і на — ужо зубкі пайшлі, — узрадавалася Ганна. — Расце хлапчанё...»

І цяпер, гушкаючы сынка, яна прыкідвала, чым лепш карміць малога. «Мяса асабліва многа пакуль што даваць нельга, затое юшнік з яго не пашкодзіць. Можна і млінцы на сыроватцы замешваць, малаком запіваць...»

— Такія малыя, — абазвалася маці, — самыя камедныя — шчэ не ўмеюць шкоднічаць, а гавораць немавесьці што... І быццам разумее ўсё, што кажаш яму...

— А я, мамо, якая была малою?

— Ты? Ціхая, рахманая. Зашыешся ў якую гульню, і як няма цябе.

— Дык і Іванька, здаецца, такі ж...

— А якім жа яму быць? Ты ж — маці яго... А ад Міці ў яго будуць іншыя інтарэсы — хлапчук жа...

— Как толькі не затрымаліся мы тутака, — выказала набалелае Ганна, у якой пры ўспаміне пра Міцю зашчымела ў грудзях... — А то апранаць не будзе ў што...

— А давай зараз і пашыем: у мяне ёсцека сукенка такая, што на балоце насіць не давядзецца. Я адпару ад яе станік — замест шнуроўкі насіць можна, а спадніцу пусцім яму на штаны. Ці давай рукавы адрэжам — ужо гатовыя штаніны! Во, так і зробім! А то што за хлопец без штаноў!?. Годзе яму ў пялёнках ашушквацца!

* * *

На ўзлессі і ўбачыў Пятро ліпы. Іх было шмат — з дзесятак рознай таўшчыні. Для бачолкі гадзілася вунь тая — ледзь не ў абхват. Пад ёй Пятро прысеў, закурыў. Прыкінуў —ісці назад будзе кіламетраў пяць. «Далекавата, — падумаў ён. — Ды шчэ з грузам... Можа, і не варта было забірацца ў такую далячынь, але ж не вяртацца паражняком...»

Папляваў на далоні, размахнуўся. Сыпануліся скепкі. Ліпа секлася мякка. Лязо ўваходзіла ў драўніну нібы ў масла... І вось у сярэдзіне ліпы крактанула, стрыжань надламаўся. Дрэва пахілілася і з шумам, нібы застагнаўшы, завалілася. Пятро стаў адсякаць ад камля цурку. Аднак раптам ля самага твару дзынкнула пчала і джыганула. «Чаго гэта ты ўзлавалася? — здзівіўся Пятро. Я ж цябе не займаў!» Але пчолы сталі нападаць на яго ўсё больш люта... «Што за трасца такая? — занепакоіўся ён. — Не кідаць жа сякеру і не хавацца. Ды і схаваешся, а толку? Трэ ж работу канчаць!..» Ён стаў махаць сякерай хутчэй — каб менш перапала пчаліных укусаў...

Нарэшце цурка адскочыла ад камля. Пятро адкаціў яе ўбок. Сеў зверху і аддыхаўся. Закурыў. «Адкуль яны ўзяліся? І чаму напалі? Здэцца ж — не лета, пара ім зашывацца ў борць на зімоўку і сядзець нішчачкам, — губляўся ў здагадках Пятро. — Але ж бач ты — лётаюць. Тутака нешта не так...»

Ён ускінуў камлюк на пляча і ўжо сабраўся ісці назад, як раптам нечаканая здагадка нібы апякла: «У ліпе — дупло! А ў ім і жылі пчолы...» Падышоў бліжэй да дрэва. Так і ёсць: ля яго віліся пчолы. Яны то залятали ў дупло, то вылятали, не знаходзячы спакою...

Пакуль Пятро дабраўся да дварышча, яго твар апух так, што маці і Ганна ледзь пазналі.

— А вой, — загаласіла маці. — А хто ж цябе так?

— Ціха, не крычы. Пчолы паталаніла знайсці...

— Нічога сабе — паталаніла!.. Не пазнаць чалавека!... Ты ж ліпу пайшоў шукаць! А як ты тых пчол шчэ ўмудрыўся знайсці?

— Умудрыўся, і ўсё тутака! А заўтра зноўку туды пайду — мёд забраць. Хацеў было сёння шчэ раз абярнуцца, але так намонькаўся, што сілы нямашака. Не чую ні рук, ні ног. І галава шуміць... Паляжу крыху... А пчолы за ноч памерзнуць — заўтра будзе меней клопату з імі...

— Тато, — не ўстрымалася Ганна, — а ў Іванькі зубок прарэзаўся!

— Во добра! Хутка і астатнія вылезуць. А заўтра мы іх шчэ мядком паказычам... Святое дзела!

— Немаведама што шчэ будзе заўтра, — асадзіла яго маці. — Я з табою пайду, калі ты так ужо рашыў. А то ты зноў улезеш куды-небудзь... Будзе з мёдам, як з мясам...

— Добра, — нечакана згадзіўся бацька. — Я, праўда, хацеў сабе ў помач узяць Ганну, але, калі ты хочаш — ідзі. Толькі сёння, пакуль не сцямнела, з мясам разбярыся. Пакладзі мяты, парэчкавых галінак — яны растуць на ўзлессі. Ды толькі бяры адзін кумпяк — яго потым павэндзім. А другі на аточыны пусцім, бо малому вэнджанае, мабыць, нельга даваць...

* * *

Адпачыць да раніцы не ўдалося нікому — Іванька чагосьці ўсю ноч плакаў.

— Мо ў яго жывоцік баліць? — заклапочана пытаўся бацька.

— Можа, і жывоцік. — адказвала Ганна, прыціскаючы сына да сябе. — А можа, зубкі так цяжка лезуць.

— А чым вы яго сёння кармілі? — не супакойваўся бацька. — Малако пракіслае не давалі?

— Ды кінь ты! — узгарачылася маці. — Ты і сам такога не п'еш! Нямашака ў нас такога! Толькі свежае! Я спецыяльна недадойваю карову, каб заўсёды свежае было…

— А вось гэта ты здра так робіш — карову спорціш! — равёў размову бацька.

— Здра — не здра, а ўсё роўна запускаць трэ будзе…

— Рана шчэ запускаць! Мо і зусім не давядзецца — як будзем без малака?

Неспакойна было і ў загарадцы — карова раптам неяк глуха, падзікаму рыкнула. Бацька ўстаў, падышоў да жывёліны:

— Ну, чаго ты пужаешся?

Падкінуў у агонь дроў. Іскры снапом узвіліся ўверх. Стала святлей. Пачуўшы чалавечы голас, карова супакоілася, захрумкала жуйкай.

— Што тамака? — спытала маці, калі Пятро вярнуўся ў курэнь.

— Не ведаю. Мо ваўкі падыходзілі…

— Ці не многа на адзін дзень? — трывожна спытала Ганна. — Вужака, пчолы, ваўкі, Іванькава немач…

— Шчэ невядома, што заўтра будзе, — прамовіў бацька.

Толькі пад самую раніцу хлапчук прыціх і заснуў, пасмактаўшы матчыны грудзі, у якіх амаль нічога не было…

Паспаўшы гадзіны дзве, Пятро ўспароў Веру:

— Уставай! Ісці трэба! — шэптам паклікаў ён.

— Мо пазней пойдзем? — ледзь расплюшчыла вочы Вера.

— Ага — «пазней»! І будзе, як з мясам! Падбярэ хто…

— Ды хто цяперака па лесе валэндаецца?

Пакуль Вера апраналася, Пятро ўзяў даёнку, паклаў у кош просцілку. За пояс запіхнуў сякеру.

Моўчкі перайшлі кладкі. На тым беразе Вера папрасіла:

— Дай, можа, мне што-небудзь несці…

Пятро павярнуўся:

— На табе кош — будзеш казлякі збіраць у яго.

Вера глянула на Пятра і засмяялася:

— Ну, ты і страхапудзіла! Зарос шчаціннем, апух… Чысты ляшак!

— Няхай, — буркнуў Пятро. — Глядзі, каб ты не апухла — пчолы цябе не абмінуць…

— Слухай, Пятро, у мяне да цябе сур'ёзная гамонка ёсцека… Нешта ты Ганну ўсё нагружаеш: то адно рабі, то другое… Як у той прымаўцы — стой тамака, хадзі сюды… Ты б хаця пашкадаваў яе… А то і без таго ў яе малако прапала…

— Дык ці ж не шкадуючы я ўсё гэта гавару!?. Па мне, дык ёй пас-

ля ўсіх гэтых уцяканак і трывог лепей за ўсё заняцца чым, а не сядзець карчом…

— Ага, — не згаджалася Вера, — з малым пасядзіш… То адно трэ, то другое… А ў яе ж толькі і думак, што пра яго ды Міцю… Уся на нервах… А тутака шчэ ты: «Ганно, хадзем са мною…» Мо хай прос-та пасядзіць — здаравей будзе…

— Я ж тожа хачу, каб яна здаравей была. Толькі ў мяне іншае лячэнне — справамі. І мне тожа помач будзе якая…

— Сёння — я твая помач! Мо хоць паўдня Ганна аддыша…

— Ну, тамака пабачым — як яно будзе…

За размовай не заўважылі, як дайшлі да стараполіцы. Цяпер Пятро ведаў сюды шлях і вёў Веру напрасткі, не блукаючы па лесе. Затрымліваліся толькі каб падняць грыбы — неўпрыкметку набралі ледзь не поўны кош.

Блізка падыходзіць да паваленай ліпы Пятро Веры не дазволіў:

— Няхай ужо адзін я буду апухлы… А ты лепей здалёк пазірай…

Ён накінуў сабе на галаву просцілку. Пакінуў толькі шчылінку для вачэй. Узяў даёнку і рушыў да дупла. Як ў ўчора, тут віліся ўзрушаныя пчолы.

— От, ліха вашай матары! — вылаяўся Пятро. — Не памерзлі ўначы…

Вера здалёк крыкнула:

— Можа, не лезь?

— Ага, — буркнуў сабе Пятро, — якраз — кіну такую слодыч…

Нават скрозь просцілку пчолы джгалі бязлітасна. Але і Пятро вырашыў не адступацца. Ён засунуў руку ў дупло. Ад удара ліпы аб зямлю соты скрышыліся, зацяклі мёдам, зліпліся. Пятро адламваў пласціны і перакладваў у даёнку. Але хутка справа застопарылася: соты перамяшаліся з мёдам. Тады Пятро далонню стаў чэрпаць мёд, соты, пчол, якія трапілі ў мёд… Каб абараніць твар, ён наглуха захінуў на галаве просцілку. Пятро нічога не бачыў і ўсляпую напаўняў даёнку. У запале не заўважыў, як мёд пацёк яму на штаны — яны сталі вільготныя і клейкія… Усё, хопіць! Цяпер — уцякаць! Пчолы атакавалі з усіх бакоў, секлі праз адзежу, даставалі цераз просцілку, пяклі незакрытыя рукі…

— Веро! — крыкнуў Пятро. — Адыдзі крыху ўбок, а то і на цябе перакінуцца!..

Зрабіўшы ў просцілцы адтулінку для вачэй, ён подбегам кінуўся далей ад ліпы. Перашкаджала даёнка. Пятро здзівіўся: «Мёд такі важкі!.. Набярэш вады — і нічога, а тутака да зямлі гне… Мо пуд будзе…»

Звон пчаліных крылаў станавіўся цішэйшы. Пятро скінуў просцілку, скамячыў яе, засунуў пад паху. Твар, рукі, плечы і жывот гарэлі нібы агнём. Прыгледзеўся: дзе Вера?

Яна стаяла паблізу, назірала за Пятром і толькі ціхенька божкала. Моўчкі выхапіла просцілку і пашыбавала побач.

— Ну, здэцца, уцяклі, — Пятро гаварыў з цяжкасцю. — Далі яны мне сёння жару… Але ж і мёду здабылі — вунь колькі. Ледзьве пру…

— Памаўчы ты! Ты б на сябе цяперака глянуў… А мёд шчэ даперці трэ… Мо давай на якую палку надзенем і ўдвох панясом?

— Не, так панясу. Так уваротней па лесе ісці. А ты лепей казлякі не прапускай…

— Даліся яны табе!.. Не сёння, дык заўтра набяром…

— Заўтра мо ўжо мароз падкінецца — па начах вунь як золка становіцца… Тады ляснуць усе грыбы. А так — які-ніякі наедак будзе… Прыгадзіцца…

Вера яшчэ нешта бурчала, але грыбы падбірала. Яна хацела хутчэй дабрацца да кураня і лячыць Петра. «Перапала яму ад пчол… Вунь як апух… А шчэ ж і не слухаецца. — Вера, шкадуючы мужа, гатовая была сварыцца з ім за яго жаданне зрабіць усё за адзін дзень. — Ды толькі што яму ні кажы — сваё будзе правіць. Такі ўжо нотны!..»

Пятро ішоў моўчкі, перакідваючы даёнку з рукі ў руку. Пальцы так разнесла, што нават не гнуліся. Заплылі і вочы — амаль нічога не бачна. Падкінуўся жар. Сэрца гулка тахкала недзе ў скронях. Усё наўкола нібы плыло…

Пятро аблізваў насмяглыя, апухлыя вусны, але язык з цяжкасцю пралазіў скрозь іх… «От сіла якая ў такой маленькай пчолкі, — здзіўляўся ён. — А што — яна ж бараніла свае кубло… Я ж таксама гатоў пастаяць за сваю сям'ю… Толькі што Бог джала не даў… А то б я тых ваўкоў дастаў бы… Ды і немцаў не пашкадаваў бы…»

…Да кладак Пятро не дайшоў — асунуўся на апалае лісце, калі ўжо віднелася Волахаўскае прагалле… Губляючы прытомнасць, паспеў паставіць на зямлю даёнку… І толькі з нягнуткіх пальцаў выслізнула ручка, як ногі падагнуліся і пагасла святло…

Падбегла Вера, схапіла Пятра за рукаў. Нават праз адзежу адчуваўся жар. Яна агледзелася: «Што рабіць? Трэ несці яго да кураня, тамака Ганна дапаможа…»

Але як несці? Паспрабавала падняць — не атрымалася. Цягнуць волакам? Дык наперадзе — кладкі… Вера лягла побач, ускаціла на сябе Пятра. Спачатку ўстала на коленцы. Потым, трымаючы сваю ношку адной рукой, схапілася другой за алешыну. Адчуваючы, як усярэдзіне нешта неймаверна напялося, паднялася. «Бач ты, — мільганула думка, — хоць і схуднеў, а які цяжкі!.. Як-ніяк — мужчынская костка…»

Да кладак аказалася недалёка. Вера паспрабавала ступіць на жэрдкі, але яны пад двайным цяжарам распаўзаліся па баках… Вярнулася на сухі бераг. «Трэ пакінуць яго тутака і бегчы па Ганну — удвох мы здолеем перанесці яго на востраў», — вырашыла яна.

Калі яна вярнулася разам з Ганнай, Пятро ўжо сядзеў, абапіраючыся аб алешыну. Яго вочы, ледзьве бачныя праз апухліны, былі зусім затуманеныя.

— Дзе гэта я? — спытаў ён. — А чаго гэта вы тутака галосіце?

— Дык ты ледзь не памёр ад тых пчол! — накінулася на яго Вера. — Здаліся яны табе!..

— Ціха! — неяк вінавата папрасіў Пятро. — Не крычы. Бо і так у галаве звініць усё… А мёд дзе?

— Ты мо ўстанеш? Ці нам з Ганнай цябе несці?

— Устану. Толькі крыху ачуняю… А дзе даёнка?

— Ды сядзі ты моўчкі! Прынясу я!

Пакуль маці хадзіла па даёнку, Ганна скінула з сябе кофту, намачыла яе ў затоцы, прыклала да бацькавага лба.

— Во, як добра, донька! — пахваліў бацька. І неяк жаласліва ўздыхнуў: — Але ж ледзь не памёр… Можа, каб шчэ чуць, дык і збубневаў бы…

Вярнулася маці. Яна ледзь несла поўную з верхам даёнку.

— Божачкі, — спалохалася Ганна, — гэта ж такі груз!..

— Затое соладка будзе ўзвар які піць, — бацька яшчэ адчуваў сябе дрэнна, але не прамінуў падкрэсліць сваю ролю ў здабычы процьмы мёду. — За такую дайку ледзь дуба не даў…

— Ну і дурань, — ацаніла яго подзвіг Вера. — Вось каб здранцвеў, дык не перла б я цябе праз увесь лес на плячах, кішкі свае надрываючы… А заграбла б пад якою сукавацінай…

— Нічога, дзеўкі, я жылаваты. Паміраць шчэ мне рана. Во ўстану зараз і пойдзем. Бо шчэ хачу на Убарць схадзіць — штаны адмыць ад мёду…

— Ага, сходзіш! Якраз! — Вера была настроена рашуча. — Цяперака ты будзеш у нас за няньку і кухара!..

— Не, Веро, гэта не па мне. У мяне дух ужо не так запірае. Калі і пасяджу дома, дык не больш за дзень. А на Убарць схадзіць усё роўна трэ — паглядзець, дзе тамака можна хабошы паставіць… Мо якая рыбіна ўсунецца — яна зараз на ямы скочваецца з летняй вады…

— Гляньце вы на яго, людцы добрыя — рыбкі ён злавіць захацеў! — пляснула ў далоні Вера. — Сам сябе падцыкільвае на немавесьці што! Рыбы ён захацеў! Мёду яму ўжо мала!.. Калі хочаш свае хабошы ставіць, то тутака і стаў — вунь вада гуляе. А да Убарці адсюль перціся — мо паўдня трэ…

— Ай, супакойся! Тутака толькі жаба можа злавіцца. Ды ўюн. Але яго цяперака не возьмеш — ён толькі зімой у пельку лезе, тады і можна злавіць кашом. А малому ж трэба нешта, акрамя малака… А юшка яму — самае тое… Святое дзела!

— От жа ўпарты! Здэцца, дала б лупня, але і так цябе Бог пакараў — вунь які стаў.

Ганна і маці падхапілі яго пад рукі і паціху павялі да кладак. Па жэрдках, каб не адпускаць, ішлі бокам. Аднаго разу бацька не дацягнуўся да чарговай вілюгі і ступіў міма, ледзь не пацягнуўшы у твань сваіх павадыроў.

— От ліха тваёй матары — як п'яны!..

— Нічога, — падбадзёрвала Ганна. — Хутка ўжо дойдзем.

Іванька яшчэ спаў. Бацьку паклалі побач. Але ён папрасіў вынесці з кураня бліжэй да агню абярэмак сена і перашкандыбаў туды:

— Тутака я не буду малога турбаваць…

— Ды як ты яго патурбуеш, — адказала Ганна, — ён спіць, і ты спі…

— Пачакай, Ганно, — перапыніла маці, — спачатку давай яму лякарства дамо…

Яна вынесла гляк малака, працягнула Пятру:

— Пі! І каб да самага донца выдуў!…

— Не, — вяла адказаў Пятро. — Не падолею столькі…

— А ты пі. І не прыслухоўвайся — падолееш ці не падолееш. Пі, табе кажу!

Маці намачыла ў сыроватцы анучку і прыклала да бацькавага лба.

— От гэта добра, — адазваўся хворы. — Толькі каб пахаладней... Але і так адразу стала лягчэй...

— Чакай, я шчэ нарву ваўчковага лісця — яно добра знімае пухліны. Помніш, у Вольжынай каровы, калі яе за вымя гадзюка ўкусіла, таксама разнесла... Дык жанкі дарадзілі ёй лісцем абкладваць вымя — і дапамагло. Так што і ты хутка на ногі ўстанеш — куды дзенешся! Як ты кажаш — святое дзела! Памерці мы табе не дамо...

— Во гэта праўда, — згадзіўся бацька. — Калі смерць па-сапраўднаму прыйдзе, то ты ёй так галаву затлуміш, што тая смерць і не рада будзе...

— Ну і добра! — не пярэчыла маці. — А цяперака, хоць ты і не хочаш, пойдзем у курэнь — не будзеш жа ты тутака начаваць.

Калі Пятро лёг побач з Іванькам, малы не пазнаў дзеда: глядзеў насцярожана. Маці зарагатала:

— Во хлопцы падабраліся: ляжаць абодва ўпокат, чакаюць млінцоў з малаком!

— Праўда, — са смехам дадала Ганна. — адзін стары, другі малы! Затое абодвы — мужыкі!

— А ты пабач, — падзівіўся бацька, — як ён скасавурыўся на мяне! Ужо нешта кумекае! Дарма, што малы, а сваіх пазнае...

* * *

Доўга хварэць Пятро не збіраўся. Назаўтра, ледзь толькі маці з Ганнай і Іванькам пайшлі шукаць зараснікі ваўчкоў, ён вырашыў устаць. Тое, што цяпер сям'я была з мёдам, яго радавала, але ўзніклі новыя клопаты — даёнка занята, Вера ўчора вечарам і сёння раніцай даіла карову ў казан... Ды і з мёдам трэба нешта рабіць — у ім было шмат пчол, кавалкаў сотаў. «Трэ працадзіць, — вырашыў Пятро. — А ў што? І праз якое сіта? Мо ўзяць цадзілку для малака? Не-е, лепш не займаць, а то Вера дасць джупла — гэта яе струмант...

Пакуль разважаў, што і як рабіць, высветлілася — зніклі яго штаны.

— Во чорт! — вылаяўся ён. — Я ж не згубіў іх учора ў лесе!.. А-а, мабыць, Вера ўзяла з сабою —— памыць ад мёду...

Пятро накінуў на плечы ватоўку і выйшаў з кураня.

Над дварышчам са свістам праляцела чародка качак. Правёўшы іх доўгім позіркам, ён падумаў: «Хутка ўжо ў іх адлёт. Цяперака яны тлустыя... Вось каб прынаравіцца як ды злавіць з дзесятак...»

Праз цадзілку мёд не пайшоў — загусцеў за халодную ноч. Пятро паставіў даёнку бліжэй да агню і час ад часу паварочваў яе — каб мёд праграваўся з усіх бакоў і станавіўся больш цякучы. Аднак і цёплы мёд не хацеў цадзіцца.

Трэба было нешта прымудроўваць. Але што? І Пятро сагнуў з лазовага дубца абадок, распусціў на тонкія шнуркі плецены матузок, якім звычайна ўціскаў сена, калі пераносіў абярэмкамі. Шнуркі навязаў на абадок спачатку ўздоўж, потым — упоперак, пераплятаючы іх між сабой.

Апухлымі пальцамі не вельмі спрытна было працягваць тонкія шнуркі, але мала-памалу справа рухалася. Калі нарэшце сіта было гатовае, ачыстка мёду пайшла спорна. Казан, з якога малако пераліў ва ўсе глякі, хутка напоўніўся мёдам. «Ну, — задаволена ацэньваў сваю работу Пятро, — тутака ўжо навёў парадак. Цяперака трэ ўзяцца за мяса. А то дзеўкам няма калі, а кумпяк, чаго добрага, сапсуецца — солі яму, мабыць, малавата перапала...»

Ён зняў падвешаны на сукаватым дубе кумпяк, панюхаў. Адрэзаў кавалачак, уціснуў праз апухлыя губы ў рот. Пажаваў. «А нічога сабе! Есці можна... Але лепш за ўсё — зварыць. І сала дабавіць, а то як яго есці без хлеба?..» Парэзаў мяса на шматкі, укінуў у вядзёрны казан. Туды ж пакідаў і кавалкі сала. Паставіў на вуголле: «Хай томіцца... Каб сюды шчэ якога перчыку для духмянасці... Ды толькі дзе яго тутака ўзяць?»

* * *

Маці і Ганна з Іванькам ішлі лесам узбоч балота не толькі ў пошуках ваўчкоў — яшчэ ўвечары яны дамовіліся схадзіць да Убарці.

— Бацька казаў, — гаварыла маці, — што рэчка недалёка. Мо давай паглядзім — нам жа мыцца недзе трэба. А ў казане вады нагрэць можна толькі на малога...

— Ты што! Ужо хутка крыгі паплывуць! Гэта ўлетку можна ў рэчцы памыцца, а цяперака — не, не падбухторвай! Каб пасля такого купання якой стагноты не схапіць! — запярэчыла Ганна.

— Ну, сілком цябе ў ваду ніхто не стане піхаць. Я і сама холаду баюся. Мы проста сходзім, паглядзім. Усё роўна ваўчкі на беразе блізка ля вады растуць, а ля нашага балота іх не відно...

Лес ужо скінуў лістоту, стаў празрыстым. Толькі на дубах трымалася лісце. Ганна ўспомніла, што Міця, які добра ведаў усе прыкметы, казаў: «Калі дуб не скіне свой ліст да маразоў, дык зіма будзе суровай».

— Мусіць, — уголас сказала яна, — зіма хутка ляжа... Паветра нейкае такое — нібы настылае... Зусім непрыкметна час бяжыць...

— Хто яго ведае, — адазвалася маці, — мо нам і зімаваць на балоце давядзецца. А што — яда ёсцека, карове сена хопіць, дроў у лесе колькі хоч...

— Я не пра тое, мамо! Нам, можа, тутака і заставацца ўжо не трэба? Мы ж не ведаем — можа, вайна ўжо скончылася? Каб у вёску схадзіць... А раптам Міця вярнуўся, нас шукае?

— Ага, якраз — «кончылася»! Ты што, не чула заўчора грымот? Я ў бацькі пыталася — мо навальніца? Дык ён адказаў, што гэта ўзрывы ад бомбаў. Бо ўсе яны аднолькавыя, а пры навальніцы грукае то цішэй, то мацней. А шчэ я ўставала ноччу і бачыла недзе далёка — на той бок балота — нэшта гарэла. Зарыва відно було — аж да самага неба... І дымам смярдзела — не так, як ад нашага агню... Мо вёску якую спалілі. Яны гэта ўмеюць... Не ведаю, як на фронце, а з бабамі, старымі і дзецьмі немцы ваякі ўдалыя... Так што седзімо тутака нішчачком, пакуль бацька не скажа. Ён і сам збіраўся схадзіць у вёску, але на табе — на пчол нарваўся...

Слухаючы маці, Ганна моўчкі назірала, як Іванька забаўляецца з дубовай галінкай, на якой шамацела лісце. Ён ужо не хацеў ляжаць, а больш бавіў часу седзячы. Прыціскаючы да сябе сына, Ганна з горыччу адчувала, як надзея хутчэй убачыцца з Міцем згасае, нібы свечка на ветры... У вачах, як ад парушынкі, заказытала... Пацяклі слёзы... У горле ўстаў салёны камяк... Перехапіла дыханне...

— Ты што? — перепалохана спытала маці. — Мо плакаць сабралася? Ды ці ж слязьмі гору паможаш? Нічога не зробіш, цяперака ў нас жытка такая складваецца...

Ганна раптам рэзка сунула Іваньку маці. А сама ўпала на зямлю і забілася ў горкім нястрымным плачы... Маці адышлася — яна ведала, што ў такія хвіліны лепш за ўсё даць волю слязам. Можна і пагаласіць — потым лягчэй будзе...

Супакоіўшыся, Ганна ўстала. Абтрэсла спадніцу.

— Ну, што — парадак? — спытала маці.

— Ага, — усё яшчэ ўсхліпваючы і выціраючы слёзы, адказала Ганна. — Пайшлі цяперака мыцца!

І тут абедзвюх жанчын прыхапіў такі смех, што яны ледзь не паваліліся.

— Га-га-га! — бухала маці. — Ты першая палезеш у ваду! Га-га-га! А я пагляджу — якая ты сіняя выскачыш! Га-га-га!

— А я, — скрозь рогат выкрыквала Ганна, — не стану скідваць адзежу — так цяплей будзе!..

...З-за сцяны чароту выбліснула вада — Убарць ціха каціла свае жаўтаватыя хвалі. Бацька, калі давялося з ім ехаць у Майсевічы купляць карову, спыніў каня на беразе — каб адпачыць — і растлумачыў, што ўбарцкая вада такая таму, што цячэ праз тарфяныя балоты.

У Прыпяці вада зусім іншая — сіняватая. І чыстая-чыстая... У ёй нават сцярлядкі водзяцца — бацька лавіў іх на вудку. Цікавая рыба: на спіне радком выстраіліся шыпы, а зяпа — як у худой свінні...

Пясчаны бераг, куды выйшлі жанчыны, збягаў перакатам пад ваду. Крыху ніжэй, дзе плынь упіралася ў супрацьлеглы гліністы бераг, умацаваны каранямі дуба, гулялі віры...

На перакаце ўдарыла рыба — з вады выскачыла драбяза.

— Судак, — пазнала маці нораў рыбіны.

— От каб сюды бацьку — ён бы знайшоў як злавіць яго, — прамовіла Ганна.

— А мо мы самі зловім? Спадніцамі! — маці яшчэ не адышла ад таго вясёлага настрою, з якім яны выйшлі да ракі.

— Ага, — падхапіла Ганна, — мы трымаць будзем, а Іванька — заганяць!..

Яны ішлі па беразе, прыглядаючыся да травы — шукалі ваўчкі. Але раптам спыніліся — шлях перагардзіла вузкая пратока, якая злучала рэчку са старыцай.

— Глянь, Ганно — што тамака?

— Дзе? — не адразу перахапіла матчын позірк Ганна.

— Ды вунь — у самай гарлавіне!

— А-а! — нарэшце заўважыла Ганна. — Дык гэта ж хабошы... Ты што — не пазнала?

— Ды пазнала я! Што я — не бачыла такога дабра! А хто іх тутака мог паставіць — во ў чым штука!

Пастаўленыя вяршынямі адна да адной хабошы перакрывалі ход рыбе і той, што ішла ў ціхавод, і той, якая вярталася да ўбарцкай плыні. Скрозь мелкую ваду бачна было, як у хабошах варочаліся рыбіны.

— Мо гэта бацька ўжо дастаўся сюды? — парушыла маўчанне Ганна.

— Ды калі яму було? У яго ж і хабош тутака нямашака. Хіба што зрабіў... Але ж мы бачылі б... Ды і сказаў бы... А то ён толькі гаварыў, што хоча схадзіць на Убарць. Значыцца — не яго...

— Тады чые? — Ганна агледзелася. — Нікога не бачна. І ля вады слядоў свежых нямашака...

— А знаеш што, — маці прыцішыла голас, — давай забяром рыбу!

— Украсці? — насцярожылася Ганна. — А ці добра гэта?

— Добра-нядобра, а ў нас іншага выйсця нямашака. Пакінем рыбу тутака — сапсуецца. Нікому не дастанецца. Яна ў хабошах ужо, відаць, даўно... Ды і набілася яе нямала...

— Неяк боязна! А раптам хто назірае за намі? Шчэ надае кухталёў...

— Ну, дык стой на беразе і цікуй. А я хуценька перакідаю рыбу ў бацькавы штаны. Толькі калашыны завяжу...

Спачатку Вера даставала па адной рыбіне і кідала ў штаны. Але зразумела, што гэтак давядзецца валэндацца доўга. Развязала валочку на вяршыні хабошы, уставіла снасць шчыком у штаны і перасыпала ўсю рыбу адразу. Гэтак жа зрабіла і з другой хабошай. Падняла штаны — цяжка! Ужо хацела ісці на бераг да Ганны, але передумала — скінула з пляча груз, завязала вяршынкі хабош і паставіла снасці на тое самае месца, дзе былі раней. «Мо шчэ калі давядзецца трапіць сюды — дык будзе што несці дадому...»

Клікнула Ганну:

— Ну, як тамака?

— Усё спакойна — нікога няма!

Далёка адысці не ўдалося: ад цяжару і хуткай хады ў маці забалеў жывот. «Мусібыць, падарвалася, калі несла на плячах Пятра. Трэ будзе надсадніку знайсці і папіць адвару... Бо так Ганна хутка адна з малым застанецца: бацька прыслаб ды шчэ я занядужу...»

Успомніўшы пра Пятра, Вера схамянулася: ваўчкоў так і не знайшлі...

— Гэта ж трэба, — дакарала яна сябе. — Рыбай занялася, а пра галоўнае забыла...

— Ну, дык цяперака рыбу я панясу — я дужэйшая, а ты бяры малога і выглядай тыя ваўчкі, — сказала Ганна.

— Во гэтак заўсёды бывае, — разважала маці, — калі не трэба, самі проста пад ногі лезуць, за адзежу чапляюцца, а калі спатрэбіліся — нібы мор на іх напаў...

— А што, калі і зусім іх не знойдзем?

— Шчэ ёсцека адно зелле — капыцень завецца. Расце ў балотах. Але здабываць яго цяжка — можна ў багну ўляцець...

Вяртанне здалося больш доўгім, чым шлях да Убарці. Даводзілася часта перадыхаць. Ды яшчэ Іванька не даваў спакою. Ён не

хацеў доўга заставацца ў мокрым адзенні і гучна выказваў свой пратэст.

— Бач ты, які галасісты! — спынялася маці. — Зноў нажарыў! Лье, як той хвантан!

— Няхай лье. Высахне.

— Ды, канечне, высахне. Толькі падкладваць ужо болей няма чаго — нават маю хустку абрасіў…

— Нічога з ёй не зробіцца… Толькі б нам хутчэй дабрацца да хаты — вечарэе ўжо. Ды і малако малому скончылася…

* * *

На дварышчы нікога не было. Ля агню булькаў аточынамі казан. Лёгкі ветрык разносіў водар варыва.

— А дзе ж бацька? — разгублена спытала маці.

— Далёка не павінен быць, — адказала Ганна, — агонь шчэ не прыгаснуў…

І праўда — хутка ў варотах, што вялі ўглыб вострава, з'явіўся Пятро.

— А во, — здзівіўся ён, — калі гэта вы прыйшлі?

— Ды толькі што. А ты дзе хадзіў? — спытала маці. І, не чакаючы адказу, засмяялася:

— Ганно, ты глянь — які наш бацька прыгожы ў споднiках!

— Годзе табе! Сама штаны забрала ды шчэ й рагоча!.. Дзе гэта вы так доўга швэндаліся?

— А мы не проста швэндаліся, а справу рабілі. Ды шчэ якую! Табе толькі ў сне такое магло прыбачыцца…

— Што шчэ за справа?

— А во — глядзі, — маці адным махам высыпала са штаноў рыбу.

— Ого! — здзівіўся бацька. — Дзе гэта вы так?

— Не ўсё ж табе павінна таланіць!.. І нам таксама пашэнціла. Табе — з пчоламі, нам — з рыбай.

— Добра-добра! Ты кажы — дзе гэта вы натрапілі?

— Што — інтарэс забірае? — маці зразумела, што Пятро хутка пачне злавацца. І спытала:

— А скажы — ты не хадзіў на Убарць? Хабошы тамака не ставіў?

— Ды ты што! Калі мне було? Я ж увесь час у вас на вачах… Ды і хабошаў у мяне пакуль што нямашака… Я толькі збіраўся плясці іх, а гэта работа марудная — конусы зрабіць, уставіць меншы ў большы, замацаваць… Мо паўдня пойдзе на адну… А што — тамака нехта паставіў ужо?

— Ага, — пацвердзіла маці. — Калі не ты, значыцца, майсевіцкія мужыкі. Бо нашым туды няма патрэбы дабірацца — бліжэйшыя ёсцека затокі…

З кураня выйшла Ганна. Яна ўпарадкавала малога і збіралася мыць яго адзежу.

— Я глядзела, як маці вытрушвае рыбу і вачам сваім не верыла — каб Буднікі нешта ўкралі!? Такога зроду не було, а тутака…

— А тутака, — рашуча перабіла яе маці, — мне ніхто нічога не дасць. У мяне няхай не так многа було дабра, але дзе яно? Немцы ў

маёй хаце жывуць, спяць на маіх падушках, топчуць мае грады... А што мне застаецца? Чаму я мушу туліцца ў куранi на балоце? А мне ж шчэ і есці нешта трэба... А дзе мне ўзяць, калі ў мяне маё адабралі? Ну, і я адбяру... Праўда, не ведаю — у каго. Але мне якая справа? Мо той, хто тыя хабошы ставіў, таксама бядуе... А я ж не ведаю гэтага. І лічу, што проста знайшла тыя хабошы. Мо я сама іх ставіла — хто ведае?...

— Во разгаварылася! — Пятро дастаў нож і ўзяўся чысціць шчупачка. — А калі б за вамі хто сачыў? І ўцекці з малым не змаглі б...

— Дык мы ж агледзеліся! — уступілася Ганна за маці. — І бачна было — даўно пастаўленыя хабошы...

— А я што шчэ, дзеўкі, скажу, — Пятро адарваўся ад рыбіны. — Так болей не рабіце. Я не пра рыбу — ліха з ёй!.. А вось пра ваўкоў вы, мусібыць, забыліся...

— А што — яны і ўдзень ходзяць? — здзівілася маці.

— Ты забылася — калі яны нашае мяса з'елі? Самая раніца была... Узялі б хоць мяне для абароны...

— З цябе такі абаронщчык буў — ледзь ногі перастаўляў... Ды шчэ без штаноў!.. Мы ж казалі, што цяперака будзеш у нас кухарам — вось сядзі ды дзяры акунёў! — маці адчувала сябе крыху вінаватай за вандроўку да Убарці і перавяла гаворку:

— Шчэ й юшку будзеш варыць!.. Трэ даць Іваньку рыбацкай яды... У штаны ён добра рыбачыць — сухімі не бываюць... А мо лепей будзе засмажыць?

— Хопіць тутака і варыць, і смажыць. Толькі на чым ты будзеш смажыць? Алеяў у нас нямашака!

— А сала?

— І сала няма — я яго ў аточыны парэзаў. Яго без хлеба есці не станеш...

— Во вырабіў! Толькі ўзяўся кухарыць — і ўжо натварыў!...

— Ну, ціха! Знімеш верх з аточын — вось табе і сала!..

— Не, лепей ты, калі ўжо ачуняў, сваімі справамі займайся, а мы — сваімі. Мы ўдвох з Ганнай самі разбяромся: і насмажым, і наварым, і напячом... Пабачым — што больш малому спадабаецца...

— Думаю, што смажаная — усё ж мужчына... А можа, юшка? Хай сам выбірае. Усяго дамо паспытаць...

— А я, мамо, як ела малою?

— Ты была гаўнянай на яду. Што-небудзь упіхнуць — гэта толькі са сваркай. Бывала, і шлепака па жопе дасі... А ўсё роўна есці не хацела... Каб сама што ўзяла ці папрасіла — такога не было. Намучылася я з табою... Але потым нейк стала есці...

Бацька прыслухоўваўся да размовы і раптам спытаў:

— А што гэта ў вас, дзеўкі, толькі і гамонкі, што пра яду? Гэтак жа было перад вайной — жыта не ўрадзіла зусім, картоплі вымаклі... Лебяду елі... Макуху леташнюю варылі... Людзі пухлі з голаду... Паміралі каторыя... Дык тады толькі пра яду і гаварылі... А ў нас жа цяпер усё ёсцека: і рыба, і мёд, і аточыны, і кумпяка хутка завэндзім...

— Хлеба, тато, няма, — сумна адазвалася Ганна. — Здэцца, усё аддала б за скібку аржаніка...

— Ото ж праўду кажаш, — згадзіўся бацька. — Не пашкодзіла б… А ўспомні, які хлеб наша маці пякла — ніколі глізавы не буў… Але болей за ўсё мне падабаўся скавароднік! Хоць і з таго ж цеста, але так прапякаўся, што скарынка — такая хрусткая — була ў яго і зверху, і знізу. Малака нальеш — і са скавароднікам! Ото штука була! Святое дзела!..

— Хоць у чым пахваліў, — сказала маці. — І то добра… А ці не я мыла тваю адзежу? Ці не палола буракі і картоплі? За жывёлай не глядзела? А ў хаце порацца — думаеш, мала дзялоў?

— Во, Ганно, бач, як маці сябе ўсхваляе! Каб яна шчэ так працавала, як гаворыць…

— Не, тато, — уступілася Ганна за маці, — пры доме заўсёды знойдзецца што рабіць. Толькі справы тыя нябачныя…

— Ай, што ты яму кажаш, — пакрыўджана махнула рукой маці, — ён жа на сваім будзе стаяць… Быццам адзін усё робіць… Але і мы нешта вартыя! Вунь, нават рыбы налавілі…

— «Налавілі»! — перадражніў бацька. — Укралі, а не налавілі! От каб папаліся майсюку! Во ляцелі б!..

— Ну, хопіць, — абарвала маці. — А то нешта разгаварыўся. Адразу бачно, што цэлы дзень не было з кім плявузгаць… Давай лепей класціся…

Ледзь ляглі, як па сухім чароце на даху будана зашамацеў дробны дождж.

— Гэта надоўга, — запэўніў бацька. — Даўно не було… А я шчэ ўдзень пабачыў — здэцца, нацягваецца… Сабраўся-такі… Трэ ўстаць, мяса і рыбу ў курэнь перанесці — шкада будзе, калі соль змые… І ў агонь што ўкіну, каб не загаснуў… Заўтра мо паветку зраблю над вогнішчам, а то шчэ залье…

Калі бацька выйшаў, маці памаўчала, а потым упаўголаса — каб толькі Ганна чула — сказала:

— От жа які чалавек!.. Іншаму б усё роўна було: дождж — не дождж. Спаў бы, і ўсё тутака. А ён, бач ты, усё тупае… Высах ужо на скепку… Рукі сталі — як цэўкі…

— Мамо, дык давай самі тую паветку зробім!

— Ага, ты што — не ведаеш: зробіш, а ён скажа: «Не так!» І пасвойму пераробіць. Лепш давай падумаем, дзе пялёнкі сушыць, калі дождж надоўга зарадзіў.

— Ну, дык пад паветкай, што бацька зробіць… Ці тутака — у хаце.

— І то праўда. Толькі якая ж гэта хата?

— Ай, прывыкла ўжо да такой жыткі! Часам здэцца, што іншага нічога і не було: ні вёскі, ні тэхнікума, ні Міці… Толькі і думак, што пра Іваньку — каб не захварэў ды з'еў што лепшае…

— Ну, так тожа нельга! А то пакуль Міця вернецца, ад цябе адныя мошчы застануцца…

— Каб толькі вярнуўся!..

Дождж шамацеў па чарацяным даху ўсё мацней і мацней…

* * *

Пятро не памыліўся — задажджыла надоўга. Макраты на дварышчы развялося столькі, што бацька ўзяўся пракопваць канаўкі вакол кураня. Замест адной паветкі — над агнём — давялося будаваць яшчэ адну — над сенам. Сюды ж бацька перацягаў карчы, бярвенні, трэскі — каб дровы заставаліся сухімі…

З кураня Ганна не выходзіла зусім. Толькі падносіла сына на руках да дзвярэй — давала малому паглядзець на вольны свет. Маці, якой даводзілася вылазіць з будана то карову даглядаць, то кухарыць, смяялася:

— Мы з бацькам хаця і вымакнем, затое людзьмі застанемся, а вы з малым у кратоў ператворыцеся…

Асабліва прамакаў Пятро: яго адзежу кожны вечар выкручвалі і вешалі ля агню на прасушку. Маці турбавалася, каб Пятро не захварэў… Пасля перажытых трывог за яго здароўе, калі Пятро злёг ад пчол, яна пачала пільней да яго прыглядацца — неяк асунуўся… Ды і сама за сябе трывожылася: кожную ноч усярэдзіне нешта цягнула і тузала, а раніцай на тым месцы, дзе спала, была кроў… Жывот часамі прыхопліваў так моцна, што Вера курчылася ад болю… Аднойчы, не вытрымаўшы, яна накінула на галаву просцілку і памкнулася ўжо ісці ў лес — шукаць надсаднік. Але не паспела непрыметна выслізнуць з кураня — убачыў Пятро.

— Ты куда сабралася?

— Трэба, — коратка адказала Вера.

— Мо і трэба… Толькі хадзем удвох. А то зноў у што ўшчэмішся…

Вярнуліся яны даволі хутка. І самае галоўнае — не з пустымі рукамі. Надсадніку нарвалі шмат. Ганна і раней бачыла гэту траўку, лісцем падобную на брусьнічнік, але не ведала, што яна такая гаючая. Напарыўшы надсадніку, маці і сама піла адвар, і бацьку давала, і Ганне падносіла:

— Піце, не пашкодзіць! Ад яго ўнутр мацнейшы будзе!.. А каб бацька шчэ й курыць кінуў, дык і зусім паздаравеў бы!

— А мо і кіну — няма чаго курыць! Тое бадылле, што прыхапіў з сабою, ужо канчаецца. А чым замяніць — не ведаю. Колісь мужыкі курылі доннік з альховым лісцем, але було так едка, што кашаль перабіваў усё дыханне… Аднаго разу і я смактануў — ну, чысты смоль… Аж у вачах счарнела!.. Мо тыждзень потым адкерхацца не мог… А ў роце — адна гарката…

— От, дурныя мужыкі, — падхапіла Вера. — Забаўку сабе знайшлі!.. А потым хлопяцца… Ды шчэ гарэлкі набяруцца да паўсмерці… Добра хоць наш не гоніцца за чаркай…

— Ну, калі б наліла, — Пятро павесялеў, — дык цяпнуў бы! А што — святое дзела!.. А помніш, Веро, як на Вялікдзень ты пайшла ў царкву? А я зроду не хадзіў... Стаў тое-сёе рабіць. Хаця і грэх гэта… Чагосьці палез у кладоўку і знайшоў пляшку — ты хавала немаведама ад каго… Такая завядзёнка ў цябе ёсцека!… Ну, я і прыбраў усю. Да донца! А закусачка слабая була — пара бульбін ды цыбуліна… Ну, й забрала мяне… Паваліўся і спаў, як забіты… А назаўтра так моташна було, каб вы толькі ведалі!..

— Гэта цябе спакусіў нячысцік!.. За тое, што грашыў у святы дзень, — маці і сама не вельмі прытрымлівалася ўсіх канонаў, але ў царкву хадзіла.

— Ай, — адмахнуўся бацька. — Самы вялікі грэх — нічога не рабіць. Хоць у святы дзень, хоць у які… А таму, дзеўкі, варушыцеся! Спраў усім хопіць. Нават маломў нашаму і то дзела ёсцека — вас весяліць…

— А сёння нашага весялуна памыць трэ було б…

— Ну дык мыйце. А я пайду. Трохі падсох, можна шчэ памокнуць…

Да купання рыхтаваліся, як і раней: нагрэлі ў чыгуне вады, адгарнулі да сцяны кураня сена, забралі ў каровы начоўкі. Ганна прынесла на рыдлёўцы гарачага вуголля. Высыпала на падлогу. І не заўважыла, як адзін вугельчык адкаціўся ўбок…

Сухое сена ўспыхнула, як порах. Маці ўжо распранала Іваньку, але як толькі ўбачыла агонь, закруціла яго ў коўдрачку і выскачыла з кураня. А Ганна схапіла прасцілку, што вісела пад паветкай, і стала збіваць полымя. Але кожны ўзмах толькі ўзмацняў яго… Тады Ганна расхінула прасцілку і накрыла палаючае сена. Дзе-нідзе па краях яшчэ выбіваліся языкі агню, але з імі Ганна ўправілася хутка, збіўшы сваёй кофтай.

— Во натварылі!.. — ціха вымавіла маці.

— Гэта я вінаватая, — адазвалася Ганна.

— Ды што тутака вінаватых шукаць! Добра шчэ, што курэнь не ўшчэнт згарэў!.. А з ім — і ўсе нашыя прыпасы, і ўся нашая адзежа…

— Што бацька скажа, як вернецца?

— Што-што? Пахваліць…

Зайсці ў будан было страшна: ён прапах дымам, ад прасцілкі курыла пара…

* * *

Хаця дождж не пераставаў, Пятро высцяжыўся ў далёкую дарогу — да той самай ліпы, дзе жылі пчолы… Дакладней — на старапаліцу: там, на слупках былой агароджы, дзе-нідзе застаўся калючы дрот. «Каб ведаў, што спатрэбіцца, дакараў ён сябе, шыбуючы лесам, — дык шчэ тады забраў бы…»

Да ліпы ён блізка падыходзіць не стаў — абмінуў, зрабіўшы ладны паўкруг. Прыгледзеўся: пчол не відно… «Мо пахаваліся ад дажджу…» Пасмялеў і падышоў бліжэй. І здзівіўся: калі раней дупло было з яго галаву, то цяпер яго нехта разламаў ушчэнт... Каля ліпы зямля ўтаптаная… Там-сям, дзе не засталося нават апалага лісця, бацька пазнаў сляды дзіка… А побач — ваўчыная лапа… «Няўжо мёд і звярам падабаецца? — здзівіўся ён. — А што, хіба ж нясмачны?.. Толькі калі ў тое, што дзік яго есць, шчэ можна паверыць, то каб воўк спакусіўся — не можа быць!..»

Але тут позірк натрапіў на шматкі бурай поўсці, а крыху далей — абгрызены хрыбет… «Ага — усё ясна! Вяпрук прыходзіў сюды есці мёд, разгрыз дупло і не заўважыў, як да яго падкраўся ваўчуга… Во як у лесе: адзін з’ядае другога…»

Нейкі незразумелы жах прымусіў Пятра агледзецца. Здалося, што нехта за ім сочыць — такое адчуванне ён аднойчы ўжо зведаў…

Было гэта гадоў шэсць таму. Ён разам з суседам надвячоркам пагнаў коней на луг. Расклалі агонь. Сусед прываліўся да купіны і заснуў. А Пятро яшчэ пра нешта думаў, гледзячы на агонь. І раптам нібы хто дакрануўся да патыліцы. Азірнуўся — нікога.

Усхрапнуў жарэбчык. Коні збіліся ў табун. Пятро штурхануў суседа. Яны схапілі па галавешцы і падбеглі да коней — усе былі на месцы, але у маладой кабылкі аказаўся парваным бок, з акрываўленага чэрава звісалі кішкі… Яна яшчэ крыху пастаяла хістаючыся, а потым завалілася набок і здохла…

…Цяпер Пятро адчуваў той жа непакой, які агарнуў яго тады, у тую летнюю ноч… Ён прысеў за ліпай і сцішыўся. Вочы пільна прыглядаліся да ўсяго, што магло выдаць жывую істоту. Вось з бярозы сарваўся позні ліст і, павольна круцячыся ў паветры, апусціўся на зямлю. А вунь нейкая птушачка прыляцела на камель клёна і нешта стала дзяўбці…

Жыцця ў пустым лесе было мала, і таму позірк адразу прыкмячаў кожны рух. Раптам сярод шарызны лесу нешта бліснула… Пятро прыгледзеўся — вочы! Тое, што ён прымаў за трухлявы пень, набыло аблічча звярынай морды…

Воўк ляжаў нерухома. Толькі міргание вачэй і выдавала, што звер жывы. Паміж ваўком і чалавекам было менш як паўсотні крокаў…

Хаця ніякіх прыкмет таго, што воўк можа напасці, не заўважалася, Пятро падумаў: «От каб лягар ці жэрдка булі пад рукой!.. Я б табе паказаў, як маё мяса есці!..»

Пятро на імгненне адвёў вочы ад звера — нават якой-небудзь кульбакі паблізу не было. «Гэтак, калі ты захочаш напасці, адбіцца не будзе чым…»

Калі падняў вочы, воўк знік. Нібы растаў у шэрым лесе. Ні шуму, ні мільгання ценю — нішто не выдала яго знікнення. «Можа, — падумаў Пятро, — ён гэтак жа адчувае мой позірк, як я — ягоны?..»

…Адламваючы дрот, Пятро шкадаваў, што няма чым адшчыкнуць метал: трымаць у руцэ калючкі-шыпы і згінаць уверх-уніз дрот вельмі нязручна…

Раптам у лесе нешта трэснула. Пятро рэзка павярнуўся — калючкі ўпіліся у руку…

— От чорт! — вылаяўся ён ад нечаканага і моцнага болю.

Агледзеўся: ні падарожніку, ні серпарэзу, каб спыніць кроў, не было. Так-сяк зматаўшы адламаны кавалак дроту, надзеў на плячо. І без затрымак рушыў напраcткі...

Кроў прабівалася скрозь заціснутыя краі раны, кроплямі збягала на зямлю. «Мо якую жылу парваў?» — непакоіўся Пятро.

Абыходзячы невялікую балаціну, што трапілася на шляху, ён азірнуўся. І адчуў у грудзях непрыемны халадок — па яго следзе ішоў воўк… «Чуе кроў!» — здагадаўся Пятро і не на жартачкі перапалохаўся. Падняў ладную сукавацiну, заціснуў пад пахай.

Яшчэ крыху прайшоў, пакуль не трапілася тоўстая асіна. Ён стаў за камель. Вызірнуў. Воўк ішоў за ім па крывавым следзе…

Пятро адвёў назад сукавацiну. Напружыніўся… Вось ужо чуваць, як пад лапамі звера шамаціць лісце… Бліжэй… Бліжэй…

Павярнуўшыся ўсім тулавам, укладваючы ў размах усю сілу, усю нянавісць, Пятро скіраваў удар у галаву ваўку. Пад сукавацінай нешта хруснула. Воўк скавытнуў — зусім, як сабака, калі яму наступяць на лапу — і кінуўся прэч... За ім пацягнуўся новы крывавы след...

Крыху пасядзеўшы пад асінай, пакуль спадзе напружанне і прасохне раптоўна ўзмакрэлы лоб, Пятро паглядзеў у той бок, куды знік воўк: «Цяперака яго ў зграі загрызуць іншыя ваўкі — яны не церпяць параненых... Адным менш будзе...»

* * *

Ледзь толькі Пятро адчыніў вароты, як убачыў на дварышчы ля агню і маці, і Ганну з малым. Адразу мільганула думка: «Нешта ўжо не так... У такое надвор'е яны звычайна сядзяць у курані...»

Але не стаў дапытвацца. Толькі папрасіў:

— Веро, вазьмі якую анучку і перавяжы мне руку...

— А вой, — спалохалася маці крыві, — а дзе ж гэта ты так скалечыўся?

— Няважна... Ты рабі, што кажуць.. Бо ў мяне хутка крыві не застанецца...

— Добра-добра!.. Толькі спачатку трэ прамыць рану... Якраз вада цёплая ёсцека — ад купання засталася...

— А што — не мылі малога? Вы ж збіраліся...

Вера сумелася:

— Не паспелі... Потым раскажу...

— Чаго «потым»? Зараз давай...

— Тато, — падняла апушчаную галаву Ганна, — я ледзь курэнь не спаліла...

— Як гэта? — Пятро ўскочыў, адкінуў анучку, якую маці ладзіла на рану.

— Занесла жар у курэнь, а адзін вугалёк на сена ўпаў... — вінавата вымавіла Ганна.

— Дык курэнь жа стаіць на месцы, — не паверыў бацька.

— Я патушыла... Але тамака так дымам смярдзіць, што дыхаць нельга...

— От шчэ гэтага не хапала! — бацька зазірнуў у будан. — Трэ вынесці гарэлае сена, а дзверы расчыніць — хай праветрыцца. Але смурод надоўга застанецца...

Ён хацеў узяцца за вілы, але ўспомніў пра рану. Гукнуў:

— Веро! Ты перавяжаш мне руку ці не?

— Дык ты ж бегаеш па дварышчы... Што, мне ганяцца за табой?

— З вамі не пабегай!.. Такога натворыце...

Абмываючы рану, Вера дапытвалася:

— Чым гэта ты так?..

— Дротам...

— А навошта ён табе здаўся?

— Трэба.

— Зноў нешта прыдумаў?

— І прыдумаў! У мяне ж галава — не толькі каб шапку насіць!.. Святое дзела!

— Я так тожа думаю, але ж праз твае прыдумкі адныя клопаты здараюцца...

— Каб у мяне тутака ўсё було, дык нічога не здарылася б... Не ісці ж мне ў вёску па кручкі...

— Якія шчэ кручкі? — насцярожылася маці.

— Ай, доўга расказваць...

— А мне спяшацца няма куды! Расказвай! — загадала маці.

Пятро не стаў больш таіцца — перажытыя за дзень здарэнні і страта крыві змарылі яго:

— Кручкі зраблю. Прыдумаў, як качак налавіць...

— Качак — кручкамі? Нешта новае! Каб рыбу — то я б паверыла...

— Ну, не хочаш — не вер... — Пятро адчуваў слабасць, яго цягнула ў сон... Не хацелася ні есці, ні размаўляць...

Вера ўсё поркалася над ранай: спачатку прамыла вадой, потым, як толькі Іванька намачыў пялёнку, выкруціла яе над разадранай скурай... Ад салёных кропляў зашчыпала, адагнала санлівасць...

Крыху акрыяўшы, Пятро расказаў пра ваўка. Жанчыны слухалі, не перабіваючы і не задаючы пытанняў. Абедзве разумелі, што бацька сёння сутыкнуўся з сур'ёзнай небяспекай, ацанілі яго рашэнне расквітацца са зверам. Толькі Веры было няўцям:

— От слухаю цябе і ніяк не дапетру: як гэта ты будзеш кручкамі качак лавіць?

— А табе і петрыць не трэба — не твае гэта клопаты. Твае справы простыя — абскубці тых качак ды варыць...

— Ты шчэ зславі іх!...

— І злаўлю — справа няхітрая...

Але ён памыліўся — складанасць была ў тым, каб сагнуць канцы дроту. Былі б пад рукой абцугі — справа ішла б хутка... Але даводзілася дзейнічаць толькі рукамі, адна з якіх абмотаная анучкай...

Пятро наламаў кавалкаў дроту. З аднаго канца рабіў кручок, з другога — вушка. Пальцамі гэта не атрымлівалася, таму ў ход пайшлі вілы — на адзін рог навіваў пятлю, лішняе адломваў. На дне перавернутага чыгуна абухом сякеры падбіваў вушка...

— Калі кручкі былі гатовы, Пятро папрасіў Веру:

— Спячы сёння млінцоў. Толькі каб пару штук былі не наліснікамі, а таўсцейшымі...

— А навошта табе такія? Зацікавілася маці.

— Ну, во табе ўсё трэ ведаць! Не бойся, есці іх не стану, не затлусцею...

— Ды па мне і не пашкодзіла б, каб ты хоць трохі стаў спраўнейшым!.. А то ж на цябе глянуць — адна страхата! Але ж ты, мусібыць, сваіх качак маімі млінцамі карміць сабраўся?

— Ну, сабраўся! — весела згадзіўся бацька. — Толькі я ім у млінец шчэ й кручок засуну...

Як толькі бліны былі гатовыя, Пятро накіраваўся да плёсу, які злучаўся з пратокай, дзе пракладзены кладкі.

Плёс быў мелкаводны. Што тут кормяцца качкі, не заставалася ніякага сумнення — на вадзе гойдаліся пёрцы; берагі і астраўкі пасярод ціхаводу ўтаптаны качынымі лапамі.

Нарэзаўшы алешнікавых калоў з рагулькамі, Пятро прывязаў да іх матузкі, а да другога канца — кручкі. На дрот нанізаў кавалак бліна. Утыкнуў кол у глей паблізу ад астраўка — каб блін ляжаў на сушы.

Пакуль наладжваў снасці, не звяртаў увагі на халодную ваду. Але як толькі выйшаў на бераг, адчуў, што добра-такі прамёрз. «Трэ хутчэй ісці да агню і грэцца, бо шчэ ад прошлых балячак не ачухаўся…»

* * *

Уначы падмарозіла. Трава пад раніцу пабялела ад шэраню. Лісце, што яшчэ ўчора сям-там трымалася на дрэвах, закалянела і ападала з такім шорганнем, што, здавалася, быццам яно бляшанае.

Калі Пятро наблізіўся да плёсу, з вады з крыкам паднялася вялікая чарада качак. Але некаторых птушак нібы хто тузануў уніз, і яны ўпалі на ваду. Зноў спрабуюць узняцца і зноў падаюць… «Ага, — узрадаваўся Пятро, — усё-такі папаліся!..»

Ледзь не подбегам ён кінуўся да здабычы. Качкі ўцякалі — колькі дазваляла даўжыня матузка. Пятро падцягваў птушак да сябе і адкручваў ім галовы…

Раптам адна з крыжанак, да якой Пятро яшчэ не паспеў падысці, у чарговым узлёце вырвала кол з мяккага глею. З матузком і рагулінай высока ўзняцца ёй не ўдалося, але яна ўсё ж аддалілася і забілася ў чарот. Пятро хацеў было кінуцца за ёй, аднак там аказалася глыбока. «Ну і чорт з табой! — махнуў ён рукой. — Не дасталася мне, дык сама здохнеш. Ці каршун які пабярэ… А мо ліса знойдзе…»

Дадому Пятро вяртаўся нагружаны — восем крыжняў і адзін чырок прыемным цяжарам адцягвалі рукі. Забыўшыся пра мокрыя ногі, ён шпарка крочыў да кладак. Раптам у шарызне альшаніку варухнулася нешта вялікае. Пятро спыніўся, угледзеўся — лось! Звер стаяў нерухома, толькі зрэдку паводзіў галавой і стрыг вушамі. Раз-пораз ён выцягваў шыю і ці то крактаў, ці то стагнаў. «Што гэта з ім? Не падобна, как ён буў параненны…»

Але калі лось стаў біць капытамі зямлю — якраз бугай у чарадзе кароў, Пятро здагадаўся: у звера — гон, ён выклікае на паядынак саперніка.

«Трэ даваць адсюль ходу, — занепакоіўся Пятро, — а то невядома, што ў яго на розуме… Ён жа цяперака — як шалёны…» Але яшчэ крыху пастаяў, пазіраючы на лася: «А ладны бычына!.. От каб такога злавіць!.. Толькі як? У яму яго не заманіш. Ды шчэ яміну якую капаць трэ!.. Але якую ні выкапаеш, усё адно выскачыць — ногі якія даўжэзныя, як страпіліны…»

Пачуўшы нешта ў лясным шуме, лось насцярожыўся, перастаў рыкаць. А потым сарваўся з месца і рынуўся ў гушчар.

Да слыху Пятра таксама данесліся гукі, на якія скіраваўся рагач: стагнаў яшчэ адзін лось. «Ну, — падумаў Пятро, — зараз бойка пачнецца. А я тутака — нібы паміж молатам і навадлам… Трэ ўцякаць…»

І тут пачуўся трэск рагоў, хруст сучча пад нагамі ласёў. У марозным паветры гукі разляталіся далёка, і Пятро падумаў: калі такі шум пачуюць маці з Ганнай, то могуць і напалохацца. Каб разагнаць ласёў, ён гучна крыкнуў: «Гэй!» Але ледзь закрыў рот, як схамянуўся:

звяры могуць прыняць яго за такога ж рагача, што і яны. Тады ўдвух кінуцца на яго… І ўцячы не паспееш — дагоняць і затаўкуць рагамі ці затопчуць капытамі…

Але ласі, хаця на хвіліну і спынілі бойку, з новай сілай стукнуліся рагамі. «Ну і добра, — узрадаваўся Пятро, — пакуль ім да мяне няма ніякай справы, паціху пайду…»

Намерзлае лісце гучна шамацела пад нагамі. Праз некалькі крокаў Пятро азірнуўся, але ласі, занятыя сабой, нічога не чулі і не бачылі. Тады Пятро подбегам кінуўся да кладак…

Ледзь ступіўшы за вароты, ён адразу зразумеў — зноў нешта здарылася. Жанчыны сядзелі на калодках ля вогнішча і ціхенька перагаворваліся. Іх нават не ўзрадавалі і не здзівілі качкі.

— Ну, што тутака ў вас? — спытаўся ён.

Маці і Ганна пераглянуліся. Потым Ганна наўмысна абыякава сказала:

— Так, дробязь…

Але маці, ведаючы, што ад бацькі нічога не ўтоіш, удакладніла:

— Толькі тая дробязь вельмі распладзілася… Ва ўсіх ужо ёсцека. У цябе, мусібыць, таксама…

— Ну, дзеўкі, і любіце вы загадкі! Кажыце — што ўсё-такі здарылася? Я ж бачу — утойваеце нешта!

— Ганна ў малога вошай знайшла — вось што здарылася! А потым, калі мы вырашылі адна ў адной праверыць, то таксама ёсцека. Давай, я ў цябе гляну…

— Адчапіся — адкуль у мяне яны могуць быць! Ды і ўвогуле — адкуль ім узяцца?

— Вось і мы думаем — адкуль? Мо яны прыляцелі?

— Мамо, — запярэчыла Ганна, — яны ж не лётаюць!.. У іх крылаў няма!

— Ну, тады не ведаю! Зроду ў нас іх не було. Але ж завяліся, — маці гарачылася: яна не магла нават у думках дапусціць, што ў яе гаспадарцы можа стацца такі непарадак…

— А мо гэта не вошы? — бацьку ўсё не верылася ў магчымасць гэткай навалы.

— Ну, от давай у цябе праверым. Заадно і казюльку распазнаем кагалам, — маці зноў падышла да бацькі. Яна разгарнула валасы і адразу злавіла вош.

— Ну, глядзі. Хто гэта?

— От ядры тваю матар! Сапраўды, вош… Я, папраўдзе, адчуваў, што нібы нешта казычацца, але не дапетрыў, што гэта яны… І многа іх?

— Ды нямала! — адказала маці.

— Ну што ж, — уздыхнуў бацька, — трэ жлукту рабіць. Будзем адзежу золіць. А для пачатку — самім памыцца. А то закіслі ўсе ад бруду… Толькі цяперака я сам буду ў куране лазню ладзіць… А то вы зноў падпаліце.

* * *

Тоўстую дуплістую асіну шукаць у лесе доўга не давялося. Паваліць яе было справай няхітрай. А потым Пятро адсек ад яе камель даўжынёй у размах рук. Ачысціў ад гнілушак. Атрымалася труба. Ад

другой асіны адсек цурку на памер адтуліны знізу. Падагнаў так шчыльна, што вада, калі наліў у жлукту, нават не паказалася.

Набраў дзве даёнкі попелу, засыпаў у жлукту. Заліў кіпенем. Пачакаў, пакуль астыне і адстоіцца. Зліў зверху ў казан і паставіў ля агню грэцца. Тым часам выпаласкаў жлукту. Сабраў усю адзежу. Кожны апрануўся ў тое, што знайшлося пад рукой, але ў чыстае, якое яшчэ не смярдзела дымам, потам... Укінуў у жлукту і заліў гарачым зольнікам. Накрыў плашкай:

— Хай тамака трошкі папрэюць.. Мо перастануць варушыцца...

А сам узяўся рыхтаваць лазню: у курані выкапаў ямку, насыпаў туды жару. Пакуль паветра ў будане праграваласся, на абуху сякеры паддастрыў нож і амаль налыса пастрыг малога. Іваньку не вельмі падабалася, што яго тузаюць за валасы, ён хапаў дзеда за рукі. Але Пятро загадаў Ганне забаўляць малога, бо той мог схапіцца і за нож... Нічога лепшага не прыдумаўшы, Ганна стала бразгаць лыжкай у кубку. Бацька засмяяўся:

— Во нам і музыка ўжо грае...

Мылі спачатку Іваньку. На галаву яму налілі чамярычнага адвару — пакуль Пятро валэндаўся са жлуктай, Вера знайшла гэтую траву і напарыла яе.

Потым мыліся жанчыны. А Пятро з Іванькам бавілі час: дзед абскубваў качак, а ўнук лавіў пёркі, якія ветрык кружыў у паветры. Пятро запіхваў пер'е ў мяшок: «Мо хоць у малога будзе сапраўдная падушка... А то на сене спаць няўтульна...»

Потым настала пара ісці ў лазню бацьку. Але ён спачатку даў Ганне нож і загадаў:

— Давай, абразай усе валасы. Абчыкрыж, як рэкрута.

— І бараду?

— А навошта яна мне? Вошай зноў пладзіць? Рэж!

Пасля мыцця маці з Ганнай выпаласкалі празоленую адзежу. Павесілі сушыць ля агню. А як высахла, зноў апрануліся ў свежае. А тое, што апранал, прагрэлі над агнём.

— Гэта, — смяяўся бацька, — вам, вошкі, апошні падарунак!..

Але гэтага можна было і не рабіць — пасля зольнага кіпеню, чамярычнай вады ад вошай не засталося і следу. Целу стала лёгка, а на душы ва ўсіх — свежа і прыемна...

— Ну, — весела загаманіў бацька, — цяпераka не пашкодзіла б і чарку прыняць... Але ж няма, дзеўкі!.. Выбачайце! Магу толькі на спробу даць па кавалачку кумпяка — ён ужо даволі добра прасаліўся. Я учора адкалупнуў трошкі. І нічога сабе! Хутка можна вэндзіць. Таму трэба дастаць з расолу — хай абветрыцца. А туды качак укінуць, ім прасольвацца доўга не трэба.

— Ну, — узрадавалася Вера, — давай, частуй. Даўно ўжо хочацца салёненькага...

— І праўда, — падхапіла Ганна, — малако ўжо абрыдла. Калі і бываюць якія млінцы, дык бацька іх качкам зносіць...

— От вы якія нотныя: ядуць адныя прысмакі, ды шчэ й носам круцяць... Гэта ж калі ў нас мёду да млінцоў було ад пуза? Ніколі. Толькі на свята ды ад хваробы. Можа, ніхто з нас і не керхануў ні разу, што мёд ядзім...

— Можа, і так, — згадзілася маці. — Але ж адно і тое надакучвае. Хочацца мясца…

Кумпяк спадабаўся ўсім. Нават Іванька, які салёнае спрабаваў упершыню ў жыцці, смактаў кавалачак мяса с праслойкай сала доўга і з асалодай.

— Во гэта па-мужчынску! — пахваліў Пятро. — Цяперака рыхтуйце яму на ноч вядро малака — ад салёнага піць хацецьме. А шчэ пялёнкі паблізу трымайце, каб уначы не шукаць…

* * *

Праз тры дні выпаў першы снег. Хаця Пятро гаварыў, што гэты снег не застанецца, пакуль зямля добра не прамарозіцца, ён памыляўся: снегу кожны дзень дабаўлялася. Хадзіць станавілася ўсё цяжэй. Ды і не хацелася лішні раз пакідаць паўсюдна свае сляды. Таму Пятро днямі з кім-небудзь з жанчын нарыхтоўваў дровы: валіў сухастоіны, адсякаў бярвенні і насіў на дварышча.

— Можа, хопіць ужо? — пыталася маці, якой часцей выпадала дапамагаць Пятру. — Ужо вышэй за частакол нацягаў…

— А ты бачыш — колькі снегу? А зіма ж шчэ ўся наперадзе… Потым не станеш нагамі баранаваць па лесе, як наваліць па пояс… Калі замарылася — парадкуй што-небудзь каля хаты, а я шчэ схаджу на луг — набяру сена з адзёнкаў… А заўтра ўжо буду каля вас аціраццa — настаў час вяндлярню рабіць…

На невялікім пагорку, непадалёку ад дрывотні, Пятро пракапаў канаўку. Там, дзе было вышэй, паставіў жлукту з выбітым донцам. Канаўку шчыльна накрыў плашкамі. Пакінуў толькі тарэц, у якім расклаў невялічкі агонь. Дым адразу пацягнула да жлукты.

— Во — тое, што трэба, — ацаніў бацька.

Падвязаў кумпяк і качак да палак, паклаў іх упоперак дымахода, накрыў анучай — каб дым не адразу выходзіў з жэрла.

— Ну, цяперака галоўнае, каб у топцы агонь не гарэў, а буў толькі куродым. Таму дровы, а шчэ лепей — скепкі, павінны быць сырыя, — даваў бацька наказ Веры і Ганне. — Бо, калі зоймецца полымя, мяса стане сухім, з яго выплавіцца ўвесь ток. Але ж і вельмі вялікі дым таксама дрэнна — заб'е мяса сажай… Ды й далёка відно будзе, калі тутака мы дыму дамо да неба... А для духмянасці можна ядлоўчыку падкладваць — вуняка ляжаць галінкі каля дроў…

— І колькі трэ вэндзіць? — спытала Вера. Яна разумела, што гэты абавязак ляжа на яе плечы.

— Тыждзень, каб добра правэндзілася. А калі хочаш, то можна ўжо зараз даставаць — у дыме пабуло… А то, я бачу, табе і сырое падабаецца… — у яго адказе адчувалася незадаволенасць жончыным пытаннем.

— Ды не, я нічога… Ужо і спытаць нельга!?. — маці стала няёмка — не такая ўжо тут складаная справа, толькі сачыць трэба пастаянна. Але ж гэта і бянтэжыла Веру — хаця і зоймешся іншымі справамі, нельга ні на хвілінку забыцца пра вэнджанне…

…Першыя тры дні маці не адыходзіла ад вяндлярні. Ганна ўжо нават смяялася:

— Мамо, ты ўжо сама правэндзілася не горш за тую качку…

Але маці было не да жартаў. Яна лічыла, што гэта зусім не яе справа — сачыць за агнём у топцы. У яе сваіх, жаночых клопатаў — вышэй галавы… Але бацька да яе бурчання не прыслухоўваўся. Толькі час ад часу падыходзіў да вяндлярні і правяраў — ці ўсё ў парадку.

Крыху лягчэй Веры стала пасля таго, як бацька дастаў з жэрла качак — яны правэндзіліся хутчэй. І цяпер ён ацаніў стараннасць і рупнасць Веры, стаў радзей падыходзіць да яе.

Ён распытаў Веру, дзе стаялі хабошы. Маці здагадалася, што Пятро хоча праверыць іх яшчэ раз. Спыталася:

— А мо ліха з імі, тымі хабошамі ды з той рыбай? Яды ў нас хапае… А снегу вунь колькі наваліла — як ты дабрыдзеш да Убарці?..

— Вось цяперака схаджу, а потым пабачым… А тое, што яды хапае, то не так ужо і багата ўсяго. Ты ж не ведаеш, колькі нам тутака шчэ сядзець… А зіма толькі пачынаецца. Ды шчэ карова пацiху запускаецца — малака каб толькі малому хапала…

… Знайсці месца, дзе стаялі хабошы, было няцяжка: раўчук, у якім яны перагароджвалі сход рыбе, яшчэ не замерз. Але з першага погляду Пятро зразумеў, што здабыча будзе небагатай: у хабошах уверх жыватамі плавала дохлая рыба. Толькі дзе-нідзе між мерцвякоў варушылася жывая…

Аднак і той рыбы, што была яшчэ жывой, набралася ледзь не пуд. Падымаючы свой груз, Пятро крактануў — несці далекавата.

Узняўшыся на высокі бераг, ён кінуў позірк наперад і жахнуўся — там, куды вялі яго сляды, узнімаўся высокі слуп густога дыму… «От чорт! Зноў нешта ўтварылі!..»

Ледзь не бягом, перакідваючы торбу з рыбай з пляча на плячо, Пятро рынуўся да вострава.

Узмакрэлы, задыханы, ён хутка падбег да кладак. Адсюль ужо бачна дварышча — там усё яшчэ віўся дым.

Кладкі, якія, здавалася, былі ўжо добра знаёмыя, быццам рассоўваліся пад нагамі Пятра. Некалькі разоў ён ступіў міма жэрдак. Тонкі лядок ламаўся, халодная вада нібы выштурхоўвала яго наверх. Торба цягнула ўніз усё мацней, быццам зачэрпнутая вада не вылівалася скрозь палатно… Мокрае адзенне пачало абмярзаць… Але Пятро не звяртаў на гэта ўвагі — да дварышча ўжо блізка…

— Што тутака ў вас гарыць? — крыкнуў ён, ледзь пераступіў за вароты. Але і сам убачыў, што палохацца няма чаго: будан стаіць на месцы, карова пацiху жуе сена, вогнішча трапечацца спакойнымі языкамі полымя... І толькі з вяндлярні гусцей звычайнага клубіцца дым.

— Ат, — бесклапотна махнула рукой Вера, — тутака крыху агонь разгарэўся, дык я яго прытушыла мокрым сенам. А яно дыму і дало…

— От я зараз табе сам дам! — ускіпеў Пятро. — Гэты твой дым я ад самй Убарці ўбачыў!.. Не дай Бог, шчэ хто заўважыў…

— А хто ж гэта днямі на лес глядзіць? — не здавалася маці…

— От я і кажу — дай Бог, каб ніхто не бачыў! Але, здэцца мне, што такі слуп і сляпы ўбачыць… — Пятра ахапіла нейкая незразумелая трывога. Узмацняла яе Верына нежаданне ці нyздольнасць зразумець небяспеку ад усяго, што магло выдаць іх на востраве сярод балота: сляды, паваленыя дрэвы, дым…

* * *

Усю ноч Пятра не адпускала напружанне. Ён амаль не спаў. Падняўся рана. Кінуў карове бярэмак сена, паклаў у агонь пару паленцаў. Абматаў анучкай кумпяк — каб не дзяўблі птушкі, прывязаў валочкай за галяшку і падвесіў на алешыну.

Тупаючы па дварышчы, яго непакоіла тое ж пачуццё, што і пры сустрэчы з ваўком. Трывога нібы вісела ў паветры, асядала ў глыбокім снезе, тулілася за кожным дрэвам… «Што за навала такая? — здзіўляўся Пятро. — Быццам усё спакойна, але ж, бач ты, нешта гняце… Толькі што?.. А мо гэта не я павінен кагосьці баяцца, а сам стаў, як той воўк, адчуваць здабычу? Не-е, раней такога не було і ўзяцца няма адкуль… Усё ж я — чалавек!.. Толькі ж і немцы — таксама людзі, але ж вайну распачалі, забіваюць, паляць, нішчаць…»

З кураня выйшла заспаная Вера:

— Ты чаго так рана ўсхапіўся?

— Ды нешта няймецца. Як улетку перад навальніцай: шчэ ні грому, ні бліскавіц няма, а ведаеш, што хутка пачнецца… Мо якая вантробіна чуе?

— Не ведаю. Мая вантробіна чуе толькі тое, што пара брацца нешта рыхтаваць на сняданак… Карову шчэ трэ падаіць, рыбу смажыць…

— Ну дык бярыся. Святое дзела. А я пайду, гляну кладкі — нешта ўчора яны неяк зыбка трымалі мяне…

Але, як толькі ён выйшаў за вароты і па звычцы кінуў позірк наўкола, у грудзях пахаладзела: па яго ўчарашніх слядах рухаліся двое конных саней…

Рэзка павярнуўшыся, ён кінуўся назад.

— Веро! — крыкнуў Пячтро, — Кідай усё! Падымай Ганну — хай хапае малога, у што-небудзь закручвае!..

— А што здарылася? Чаго крычыш? — Вера з даёнкай у руках выйшла з хляўка.

Пятро падскочыў да каровы, хуценька навязаў на рогі вяроўку. Выбіў з рук Веры даёнку, у якой плёскалася малако.

— Немцы прыехалі! Вось што здарылася! Бяжы за Ганнай!..

Выводзячы карову, Пятро зірнуў у бок лесу: немцы ўжо ішлі ланцугом — сем у доўгіх шынялях і адзін у кароткай адзежыне…

— Дзеўкі, уцякаймо! Бяжыце за мной! — Пятро, цягнучы на повадзе карову, кінуўся праз другія вароты ўглыб вострава. «Кладкі іх затрымаюць, мы паспеем адбегчы. А тамака пабачым, што рабіць», — думаў ён. На тым канцы вострава ў яго быў зроблены запасны курэнь, прыпасена для каровы капічка сена… Але туды нельга — сляды прывядуць і немцаў…

І Пятро павярнуў убок — на абшар Волахава. Ён ведаў, што там — непраходныя мясціны, але спадзяваўся, што мароз хоць крыху прыхапіў дрыгвіну…

Кладкі сапраўды прыцішылі пагоню. Немцы, не ведаючы сакрэту жэрдак, міма якіх учора ступаў нават Пятро, таксама траплялі ў ваду. І гэта іх злавала — яны пачалі страляць. Кулі чвыркалі недзе зусім побач, збіваючы галінкі алешын…

Крыху аддаліўшыся ад цвёрдай зямлі вострава, Пятро зразумеў, што ўцячы не ўдасца — леташняя асака, купіны і слабы лядок яшчэ

трымалі чалавека, а карова з першых крокаў стала правальвацца... Пятро з усіх сіл цягнуў жывёліну за вяроўку, Вера піхала ў бакі. Але рухацца станавілася цяжэй. Калі карова правалілася па самае чэрава, Пятро, перакрываючы трэск страляніны, крыкнуў Веры:

—Усё! Кідайма! Уцякайце — вунь туды!..

Ён павярнуўся да каровы, каб апошні раз зірнуць на яе, але ў гэты момант Лыска неяк натужна чмыхнула — на яе баку запузырылася кроў... Жывёліна ў неймаверным напружанні высока ўскінула галаву, але тут жа аслабла і завалілася набок...

Пятро кінуўся ўздагон за жанчынамі. На хаду забраў у Ганны малога. Хапаючы запаленым ротам марознае паветра, крыкнуў:

— Усё — няма нашай Лыскі!

Ззаду ўсё грукаталі стрэлы. Кулі са свістам праносіліся міма, траплялі ў чэзлыя алешыны, адколваючы трэскі. Бегчы было ўсё цяжэй — балота засмоктвала, пад нагамі путалася асака... Твань зыбалася пад людзьмі... Калі Пятро ўляцеў па пояс, ён ледзь паспеў падняць вышэй Іваньку. Малога выхапіла Ганна. Яна крыкнула:

— Трэ куды-небудзь убок ісці, а не перціся ў самую дрыгву!...

— Куды «ўбок»! — агрызнуўся бацька, ледзь варушачыся ў багне. — Тутака ўсюды аднолькава. Гэта табе балота, а не брук... Дайце мне хто руку — выбрацца з твані...

Балота засмактала Пятра моцна. Яно неахвотна адпускала яго са сваіх адбымкаў — маці з Ганнай ледзь выцягнулі яго. Апынуўшыся на снезе, ён знясілена сеў на купіну. З адзежы сцякала чорная тарфяная буза.

— Мо ты не сядзі так — холадна, — маці пацягнула Пятра за рукаў. — Давай, дапамагу ўстаць...

— Я сам... А што холадна, то куля хутка сагрэе... Вунь Лысцы нашай ужо не холадна...

— Як жа мы без яе будзем? — ціха, нібы памінаючы, спытала Ганна. — Іванька ж без малака не можа...

— Тутака не толькі малака не стала — нічога не засталося! — бацька нарэшце падняўся. — А вось пагоні, здэцца, няма — чуеце, страляць перасталі...

Усе знерухомелі. Ніякіх гукаў не далятала. Толькі дзесьці недалёка ўзрушана стракатала сарока...

— Мусібыць, нешта задумалі, — Пятро таксама прыкідваў, як быць далей. І загадаў:

— Каб не замерзнуць, паціху ідзіце вунь туды. Трымайцеся бліжэй да хмызоў — тамака зямля крапчэй.

— А ты? — спыталася Вера.

— А я дам кругаля і падыду да Лыскі — стрэлы кончыліся тамака. А потым пабачым...

— Нешта боязна мне! — Вера была ў поўнай разгубленасці. — А калі ваўкі нам трапяцца?

— Успомніла! Як на Убарць шалёстаць, дык тады не баялася! А цяперака затрымцела: «ваўкі»! Не бойсь — яны на стрэлы не пойдуць... Цяперака самыя ваўкі — гэта немцы...

Пятро ўстаў і пайшоў. Як толькі сярод хмызняку знікла яго постаць, Ганна моўчкі павярнулася ў той бок, куды паказаў бацька,

лаўчэй падхапіла Іваньку і паціху пабрыла. «Колькі так можа працягнуцца — без яды, без адзежы?.. А спаць дзе?.. А як я сына перахутаю — ён ужо мокры, крэкча, варочаецца...»

— Ганно! — гукнула маці. — Пастой.

— Чаго? — абярнулася Ганна. — Бацька ж сказаў туды ісці.

— Тое, што ён сказаў, я чула. От ён пайшоў, а калі вернецца — ты ведаеш? І дзе нас знойдзе? Гэтак жа можна цэльны дзень блукаць па балоце адно за адным… Мне здэцца, нам трэ за ім ісці.

— Будзе злаваць…

— Мо і не будзе… Тамака разбярэмся…

* * *

Да таго канца вострава, дзе было дварышча, Пятро падышоў з другога боку. Крадучыся хмызнякамі, ён раптам зразумеў, што перастаў быць ахвярай, а сам цяпер высочвае здабычу. І спачатку разгубіўся, а потым нават расчараваўся, калі на тым месцы, дзе стаялі коні, нікога не убачыў.

Падкраўся бліжэй да дварышча — таксама пуста. Асмялеў, падышоў да самага частаколу. Зазірнуў у шчыліну між бярвенняў — нікога. Абагнуў агароджу, наблізіўся да варот. Глянуў на сляды — усе вялі на дварышча. «Значыцца, ля каровы іх нямашака… Вярнуліся… А чаму? Тутака нешта не так! Але што яны прыдумалі? Проста так яны ад нас не адчэпяцца, нездарма ж перліся ў такую далячынь…»

Пятро спыніўся ў роздуме ля варот. І тут заўважыў, што ў самым праходзе, дзе снег раней быў утаптаны, цяпер неяк чыста і быццам толькі што нацярушана... «Ага, — здагадаўся, — гэта ж яны міну паставілі!..»

Ён зноў абагнуў дварышча, падышоў да другіх варот — тут было тое самае. Пятро залез на частакол. Зверху агледзеў дварышча. Нічога не кранута, усё засталося на сваіх месцах. Толькі ля вогнішча, у якім яшчэ не паспела згаснуць полымя, таксама віднелася свежая лапіна чыстага снегу... «Во дурні, — яму стала радасна ад таго, што раскрыў варожую задумку, — думалі, мяне так проста можна ўзяць… Ага, я адразу кінуся да свайго дабра!.. А вы, значыцца, мне міну падсунулі… А хрэна вам не хочацца?..»

Цяпер Пятру стала ясна, чаму немцы так хутка пакінулі дварышча: «Яны, калі ўбачылі забітую карову, вырашылі, што дзявацца нам няма куды — вернемся да кураня…»

Раптам ззаду пачулася шорганне. Пятро пахаладзеў: няўжо яго перахітрылі, падпусцілі да дварышча, а тутака — засада… Азірнуўся — нікога. Саскочыў на зямлю, стаіўся пад агароджай… І тут з хмызняку паказаліся… Вера з Ганнай! «Я ж ім загадаў ісці да Рудні!.. — узлаваўся Пятро. — Зноў нешта сваё твораць!..» Але тут жа ўзрадаваўся — не давядзецца шукаць іх па слядах на балоце…

— Ну, што дзеўкі? — ступіў ім насустрач. — Чаго не паслухаліся? — ён стараўся гаварыць сурова, але ў яго словах больш адчувалася радасці, чым гневу… — А калі б тутака былі немцы? А вы ж да іх проста ў лапы ідзяцё!..

— Калі б тутака былі немцы, дык ты не стаяў перад намі і не скаліў зубы, — маці была настроена не так лагодна, як бацька — яна стаміла-

ся, карову шкадавала... — Ды і коней іхніх каля лесу ўжо нямашака — я ж раніцай бачыла іх...

— Не ўсё так добра, — Пятро ўсё думаў, як сказаць жанчынам, што дадому ісці нельга.

— А што шчэ здарылася? — спытала Вера. — Немцаў жа няма! То і хадзем — у Ганны ўжо рук нямашака малога цягаць... Ды і штаны яму даўно пара мяняць...

— Я ж табе кажу — нельга туды! — узлаваўся Пятро ад Верынай настойлівасці. — Міны тамака пастаўлены...

— Як «міны»? — не паверыла Вера. — Дзе ты іх бачыш?

— Я от іх бачу, а ты лепей памаўчы. Дай падумаць — што далей рабіць...

Каб не паказаць, што гэты роздум для яго — цяжкая задача, Пятро ізноў пайшоў вакол агароджы. Жанчыны хацелі было рушыць за ім, але ён спыніў іх узмахам рукі. А сам крочыў уздоўж частаколу. Спыняўся. Глядзеў праз шчыліны на двор. «Праз вароты — нельга. А што, калі цераз верх?..» — гэтая думка нібы акрыліла Пятра.

Ён паспрабаваў апоўзіну, што была абвязана вакол частаколін, — моцная. Ступіў адной нагой на ніжнюю абвязку, другую закінуў на верхнюю. Падцягнуўся. І вось ён ужо на самым версе. Перакінуўся праз частакол і спусціўся на снег па той бок агароджы.

— Дзеўкі! — паклікаў ён. — Стойце тамака, дзе стаіце. Я зараз вам буду перакідваць нашыя пажыткі...

Работы аказалася многа: збіраць адзежу, посуд, правізію даводзілася з усіх канцоў дварышча. Спачатку Пятро перакідваў адзежу для малога. Потым узяўся за прыпасы і ўсё астатняе, без чаго, на яго думку, не абысціся на новым месцы: сякеру, рыдлёўку, чыгуны, посуд...

Пакуль бацька збіраў і перакідваў рэчы, жанчыны пакавалі іх у просцілкі — кожнаму атрымалася па ладнай ношцы. Калі Пятро пераскочыў цераз частакол, ён агледзеў клункі. Сабе выбраў цяжэйшы. Ускінуў на плечы. Яшчэ ўзяў на рукі Іваньку.

— Ну, цяперака пайшлі — на другую кватэру, — даў ён нібы наказ і пакрочыў.

Ісці было цяжка. Змораныя ад шалёнага бегу пад аўтаматнымі чэргамі, ад блукання па глыбокім снезе, галодныя жанчыны брылі за бацькам моўчкі. Яны ледзь перастаўлялі ногі. А Пятро падбадзёрваў як мог:

— Нічога, дзеўкі! Усё абышлося на гэты раз, абыдзецца і далей. От я зараз прывяду вас на месца, тамака агонь распалім, зварым чаго-небудзь... Паямо... І вы спаць кладзіцеся, адпачывайце...

Гаворачы ўсё гэта спакойным голасам, Пятро тым не менш не мог супакоіцца — у яго не было ні кроплі сумнення, што і на новым месцы іх знойдуць немцы. І каб хоць крыху зменшыць рызыку, ен павёў жанчын не напрамкі да кураня, а ў абход. «Калі немцы шчэ раз заявяцца, то мы іх убачым раней, чым яны наш новы курэнь...» — так разважаў ён, агінаючы зараснікі вербалозу, за якімі ўжо блізка стаяў будан.

Курэнь быў такі ж, як і першы. Пятро разгроб снег, расклаў агонь.

— Ну, а цяперака порайцеся самі, — ён засунуў сякеру за пояс. — А я пайду, вазьму хоць што-небудзь ад Лыскі...

— Як гэта? — не зразумела Вера.

— Пакуль не закалела, адсяку мяса…

— Глядзі, мо і тамака міна стаіць! — папярэдзіла маці.

— Пагляджу! Што я — сляпы? — Пятро адказваў коратка і рэзка — яму не падабалася, што Вера лезе ў яго справы. А Вера, адчуваючы віну за тое, што іх высачылі немцы, старалася хоць у чым падлашчыцца да Пятра… Але той ведаў, што злосць на Веру будзе трымаць яшчэ доўга, што без сур'ёзнай размовы не абыдзецца…

…Падыходзячы да каровы, Пятро таксама зрабіў круг — каб не было засады… Карова ляжала, выцягнуўшы шыю. Вочы яе замутнеліся, на іх не талі сняжынкі…

— Прабачай, Лыска! — глуха вымавіў Пятро і ўзяўся за нож…

Дабірацца да мяса было нязручна. Таму Пятро сякерай рассек скуру на спіне, адхваціў суставў. Пачаў заварочваць скуру ўніз — да галяшкі. Калі дабраўся да таго месца, дзе нага завязла ў твані, адсек костку. Ускінуў сцягно на плячо…

Зваротны шлях давялося завяршаць у прыцемках. Калі наперадзе бліснуў агонь кастрышча, Пятро пашкадаваў, што зімовы дзень такі кароткі — не пашкодзіла б яшчэ раз схадзіць па тое, што засталося ад каровы…

* * *

Спалі ўсе моцна — як забітыя. Раптам апоўначы грымнуў выбух і скалануў зямлю. Бацька выскачыў з будана — у тым баку, дзе засталося старое дварышча, палаў агонь…

— Ну во, — сказаў ён, вярнуўшыся ў курэнь. — Нехта ўсё-такі падарваўся…

Ледзь дачакаўшыся світанку, Пятро пайшоў на дварышча. Здалёк убачыў, што вароты з боку кладак цэлыя. Абмінуў агароджу, але і другія вароты таксама былі на месцы. «Што за навала! — разгубіўся Пятро. — Застаецца шчэ адна міна — на двары…» Як і ўчора, залез на частакол. Так і ёсць: там, дзе раней было вогнішча, цяпер чарнела яма. Ад кураня засталася куча попелу…

«Хто б гэта мог падарвацца? — не давала спакою думка. — І як гэта можна було трапіць на двор, мінуўшы вароты?..»

Злез з плота. Зноў падышоў да варот. І тут заўважыў паверх чалавечых слядоў выразны адбітак звярыных лап. «Ага, гэта ж воўк!.. — пазнаў Пятро. І ўзрадаваўся — нібы сустрэў старога знаёмага. — Значыцца, табе пашчасціла не наступіць на міну ў варотах і ты стаў шукаць сабе пажыву на двары… Нават вогнішча не пабаяўся…»

Пятро пералез цераз агароджу. «Можа, чаго ўчора не заўважыў, то цяперака забяру», — вырашыў ён. І ўбачыў непадалёку ад каровінай загарадкі пушысты хвост — усё, што засталося ад звера. Падняў: «Вазьму з сабою. Пакажу дзеўкам хто стаў першай ахвярай…»

Але тут успомніў, што гэта не першая ахвяра. Першай была Лыска… Пятро нібы спахапіўся: ён збіраўся яшчэ раз схадзіць да каровы, набраць мяса… І не стаў болей нічога шукаць на дварышчы — пераскочыў цераз частакол і рушыў па ўчарашніх слядах углыб балота.

Аднак ён дарэмна спяшаўся — ад каровы засталася толькі вялікая крывавая пляма на снезе ды расцягнутыя кішкі... Усё наўкол было стаптана воўчымі лапамі... Калі Пятро падышоў бліжэй, у хмызняку застракатала сарока.

«Бацюхны! — жахнуўся Пятро. — Мусібыць, тутака ўсю ноч стаяла грызня... Бач ты — нічога не пакідаюць... Добра, што ўчора хоць што паспеў забраць...»

Ён яшчэ крыху пастаяў. Агледзеўся. На альховых галінках, куды трапілі кулі, зачырванелі раны. Ён не ўпершыню бачыў ператварэнне альховай драўніны: калі свежая, дык белая, а паляжыць — мяняе колер. Але цяпер, пераводзячы позірк з крывавага снегу на збітыя стрэламі галінкі, падумаў: «Нават дрэвы плачуць крывавымі слязьмі...»

...Ля кураня ўжо гарэў агонь, побач у казане нешта булькала. Курняўкаў Іванька.

— Во, дзеўкі, гляньце, які каўнер я вам прынёс! — Пятро падняў уверх воўчы звост. — Падарваўся-такі... Мо гэта буў той самы, што за мной цікаваў, калі я руку параніў дротам... А мо і іншы каторы. Іх тамака сёння було багата...

— Адкуль ты ведаеш? — спытала маці.

— Адзін карову не прыкончыць... Ад яе ж нічога не засталося... Толькі пляма на снезе...

— А я адрэзала ад сцягнюка кавалак, натапіла са снегу вады і вару — мо хто есціме... Я дык не магу, — Вера ўсхліпнула, — гэта ж була нашая Лыска...

— Можаш — не можаш, а мусіш. — Бацька павесіў хвост на вярбіну. — Трэ ж нешта есці, бо хутка ногі не пацягнеш...

Толькі маці наліла ў міскі страву, як зноў ад выбуху здрыганулася зямля.

— А во! — бацька цераз край сербануў варыва. — Мо шчэ адзін хвост застаўся... Вам, дзеўкі, цяперака абедзвюм на каўняры будзе...

— Думаеш, зноў воўк? — Вера чамусьці ўспомніла ланцужок немцаў. — Мо гэта які чалавек?

— Што, немцам вельмі спадабалася кожны дзень ездзіць сюды? Самі міны ставілі і самі ж на іх падрываюцца?

— Ай, хто яго ведае!.. — махнула рукой Вера. — Мо і ваўкі, мо і немцы... Пойдзеш, глянеш.

— Ат, чаго я тамака не бачыў. Хто гэта ні буў, таго ўжо нямашака... — Пятра турбаваў іншы клопат: ранейшы курэнь быў абнесены частаколам, там усю ноч гарэў агонь... А тут — хто хоча, той і прыйдзе... Але, калі дроў яшчэ можна нацягаць, то агароджу не зробіш — маразы хаця і не вельмі моцныя, але да зямлі дасталі — канаву пад слупы не пракапаеш...

— А ты, Ганно, чаго не ясі? — бацька заўважыў, што яна патрымала міску і паставіла на снег.

— Не хачу. Нешта няймецца...

— Ты проста замарылася ўчора. Дзіва што — цэлы дзень на руках такога байбуса насіць... — бацька пасадзіў сабе на калена Іваньку. — Ну, хлопча, давай разам з дзедам юшнік сёрбаць...

* * *

Ганна захварэла ўсур'ёз. Жар узнік пад вечар і трымаўся амаль тыдзень. Адзіны сродак супраць хваробы — анучка, змочаная халоднай вадой і прыкладзеная да лба. Знайсці якую-небудзь гаючую траву Вера і не марыла — усё засыпана снегам...

Увесь гэты час Пятро не адыходзіў ад кураня — баяўся, каб ваўкі не з'явіліся і тут. Дзень і ноч падтрымліваў агонь. Не маючы магчымасці зрабіць частакол, прыдумаў іншы спосаб. Навысякаў калоў, уторкнуў іх у снег і заліў вадой — лёд трымаў не горш за цэмент... Заставалася толькі пераплесці калы доўгімі лазовымі галінамі. Пляцень на выгляд здаваўся моцны, але ж невядома, як бы ён змог супрацьстаяць націску ваўка ці яшчэ каго...

Заняты работай, Пятро не забываў аглядацца і прыслухоўвацца. Яму ўжо некалькі разоў — і ўдзень і ўначы — мроілася нейкае выццё з боку старога дварышча. Але ён думаў, што, калі б гэта быў воўк, то наўрад ці ён так доўга заставаўся б на адным месцы. «Мо якая сава кугакае так працяжна? Ці вецер шуміць у вершалінах дрэў?..»

Але калі аднойчы вечар падзьмуў з таго боку, выразна пачуўся звярыны голас... Пятро не вытрымаў і пайшоў...

Выбухам ушчэнт разнесла вароты, куды можна было трапіць з кладак. Хаваючыся за хмызнякамі, Пятро асцярожна падышоў бліжэй. Выццё стала больш выразным. Але нікога не бачна. І толькі калі праз шчыліну між частаколін зазірнуў на дварышча, Пятро ўбачыў рабога сабаку. Ён сядзеў на снезе. Закінуўшы галаву, нізкім, нейкім нутраным голасам цягнуў сваю жудасную песню.

«Чаго гэта ён? І адкуль узяўся?» — губляўся ў здагадках Пятро. Раптам сабака пачуў чалавека і сціх. Ён устаў. Тады і Пятро залез на агароджу. Сабака ашчэрыўся, злобна загырчаў. «Во табе і на — сабака, а гатоў кінуцца на чалавека... Гэта ж не на сваім двары ты на мяне так зубы скаліш...»

Адвёўшы позірк ад сабакі, Пятро прыгледзеўся да месца выбуху. І ўбачыў чалавечка, які ляжаў на зямлі... «Бацюхны! Хто гэта? Каб немец, дык быў бы ў шынялі, а гэты — у паддзёўцы...»

Пaціху злез з плота і асцярожна, каб не сустрэцца з сабакам, падышоў бліжэй. І тут пазнаў забітага — гэта быў Васіль... Ён ляжаў уверх тварам... Хаця не — твару не было. Замест яго бялелі косткі — нібы іх хто вычысціў... Адзежа на жываце і грудзях разадраная. «Мусібыць, выбухам так расшвабіла...» — падумаў Пятро. Аднак паддзёўка была чамусьці разадраная не знізу ўверх, а ўпоперак тулава... «Тутака нешта не тое — так не магло парваць ад выбуху...»

Сабака ўсё гырчэў, не зводзячы вачэй з Пятра. Яго цяжкі позірк, напружаныя ногі выразна гаварылі: толькі кранiся...

Непадалёку ляжала вінтоўка. «Трэ будзе забраць. Прыгадзіцца...» Але што рабіць з Васілём? «Мо пахаваць? Усё ж чалавек... Хаця і гаўняны... Трэ па рыдлёўку схадзіць...»

Паціху адступіўшы назад, ён павярнуўся і пайшоў. Але на нейкі шолах азірнуўся — сабака стаяў над Васілём і рваў яго... І тут Пятро зразумеў, што здарылася. Пачуўшы ўначы выбух, Васіль прыехаў забраць дабро. Таму нічога ні з адзежы, ні з правіянту тут раней і не было кранута — каб не дзяліць з немцамі... Аднак, можа, быў п'яны, а

можа, проста забыўся, дзе стаяла міна... Сабака, згаладаўшыся, пачаў лізаць кроў... А праз колькі дзён стаў рваць пабітае выбухам цела...

Пятро вярнуўся. Рашуча стаў набліжацца да сабакі. Той адскочыў убок. А Пятро падхапіў вінтоўку, адвёў назад ручку затвора — паказаўся жоўты патрон. Рэзка даслаў ручку наперад, павярнуў уніз. Падняў вінтоўку, навёў на сабаку. Той стаяў і глядзеў не міргаючы. Пянёк мушкі спыніўся між вачэй. Палец націснуў на курок. Грымнуў стрэл. Моцна тузанула плячо.

Сабака нават не віскнуў. Паваліўся і толькі грабануў лапамі снег... Заціх...

Пятро закінуў рэмень вінтоўкі на плячо. Пастаяў у роздуме — што рабіць далей. Яго ранейшы намер пахаваць Васіля цяпер змяніўся: «За тое, што ты з намі зрабіў, немцаў прывёў, карову застрэліў, нас узарваць хацеў — шчэ я цябе й хаваць буду?! Не-е! Хаваць можна чалавека, а ты ж сабакам стаў, па слядах нашых бегаеш... Ну й дабегаўся — цябе самога твой жа сабака пагрыз... Абодва вы здзічэлі... Ну дык і ляжыце тутака, цупянейце...»

Перш чым вярнуцца да кураня, Пятро схадзіў пад лес — глянуць, што з канём, на якім прыехаў Васіль. Ніякай надзеі, што конь яшчэ стаіць, не было — мінуў тыдзень, як Васіль падарваўся...

Вось месца, дзе стаялі сані, — увесь снег стаптаны капытамі. На алешыне, да якой быў прывязаны конь, абгрызена кара — Васіль нават не кінуў каню сена... Разлічваў хуценька вярнуцца з нажывай... Да алешыны прывязаны лейцы — конь іх абарваў. Мусіць, яго нехта спужаў... Ага, зразумела — воўчыя сляды ідуць побач з саннай каляінай. А вунь — рэшткі саняў. На крутым павароце яны стукнуліся аб дрэва і разляцеліся... Аднак вызваленне ад саняў не ўратавала і каня — вось крывавая пляма на снезе... Такая ж вялікая, як і ад Лыскі...

Пятро знайшоў хамут, падняў — незнаёмы. Раней ён па збруі ведаў, што якому каню прымерана. А гэты — чужы... Хацеў было забраць яго, аднак падумаў: «А каму ён трэба? Запрагаць жа няма каго».

... Ледзь толькі Пятро вярнуўся да кураня, Вера загаласіла:

— Пецечка мой родненькі!... Я ж, як пачула стрэл, то падумала, што гэта цябе забілі!...

— Ды не забілі ж! Во я — перад табою! Кінь лямантаваць!

— А што буў за стрэл?

— Гэта я сабаку застрэліў.

— Якога сабаку?

— Помніш, узрыў буў тыждзень назад?

— Ну, помню.

— Дык вось — гэта Васіль прыязджаў — нашае дабро забіраць. Але падарваўся на міне. А ягоны сабака стаў яго грызці. Здзічэў, мусібыць, ад голаду... Ну, я яго і застрэліў...

— А Васіль?

— Ляжыць. І няхай ляжыць. Сам ён выбраў сабе такі канец. Не трэ було лезці да нас!..

— Не па-людску гэта... — Вера перахрысцілася.

— Ну, дык схадзі і закапай. І шчэ папа пазаві — хай адпусціць ягоныя грахі. Іх, мусібыць, нямала набярэцца... І пра нас не забудзь,

і пра Лыску... Я от не вельмі ў Бога веру, але ён усё ж ёсцека — пакараў гэтага злыдня...

— Можа, й так... Але за што ён нас карае? Што мы каму дрэннага зрабілі?

— Спытайся ты ў яго сама... У цябе да яго карацейшая дарога, ты ў царкву хадзіла. Але, я думаю, не дачакаешся адказу...

* * *

Ночы станавіліся ўсё халаднейшыя. Мароз прабіраўся скрозь дах і сцены будана, закаваў усё наўкола... Бацька кожную раніцу сякерай адсякаў ад мёрзлага сцягнюка кавалак мяса — яго станавілася ўсё меней... Да канца падыходзілі і іншыя прыпасы... З жахам чакаючы таго дня, калі не стане чаго есці, Пятро губляўся ў пошуках выйсця. Ён ужо не раз пачынаў размову з Верай пра вяртанне ў вёску. Аднак маці катэгарычна адвяргала гэты варыянт:

— Думаеш, калі няма Васіля, дык цябе і не кране ніхто? Якраз! У першы ж дзень немцы схопяць — яны ж ведаюць, каго і чаго шукалі на балоце... Ды й шчэ спытаюць — дзе гэта Васіль дзеўся? ... І вінаватым у яго пагібелі зробяць цябе... А ў іх размова кароткая — пастраляюць усіх нас... Так што сядзімо тутака да апошняга...

— Апошняе — ужо вось яно! Есці няма чаго! Мяса засталося на тры дні, а болей нічога і нямашака... Мо ты лазовую кару есцімеш? Ці, можа, мне схадзіць на старое дварышча, глянуць, мо вароны шчэ не склявалі сабаку? А што — якое ні мяса, а ўсё ж мяса...

— Кінь ты пустое малоць! Ён чалавека еў, а я цяперака павінна яго есці?! Нават і не думай!

— Ну, тады не ведаю!.. Толькі заставацца на балоце таксама нельга — памром усе з голаду... А шчэ маразы ціснуць... З малым ніяк не перазімуеш... І так мы ўжо тутака больш за чатыры месяцы хаваемся...

З кураня выйшла Ганна. Яна яшчэ не зусім ачуняла ад хваробы, стаяла ў праёме і трымалася за дзверы. Амаль два тыдні яна праляжала ў курані. І цяпер нават ад шэрай пахмурнасці зімовага дня жмурылася, нібы ад сонца...

— Я от ляжала і слухала, як вы тутака спрачаецеся. Але пачула не толькі гэта, але шчэ і іншае... Паслухайце і вы... — Ганна махнула рукой у бок балота.

Пятро і Вера павярнуліся, куды паказала Ганна. Ледзь чутна даносіліся гукі страляніны. Гучней бабахалі выбухі. Сярод шуму ветру ў чараце і па вершалінах хмызняку гэтыя гукі не вельмі выдзяляліся. Ды і чуліся раней даволі часта...

— Ну і што? — спытаў Пятро. — На тое і вайна, каб стралялі...

— Не зусім так, — адказала Ганна. — гэта ж не толькі немцы страляюць. Гэта шчэ і па іх нехта б'е... Вось я і рашыла — пайду шукаць нашых...

— Як жа ты пойдзеш — хворая? — пляснула рукамі маці. — Не пушчу!

— А я і пытацца не стану — забяру Іваньку і пайду. Бо памром тутака ўсе, як мышы... Ісці ж не вельмі і далёка — страляніна чуваць

добра... А вы вяртайцеся ў вёску. Вас не крануць. Гэта ж толькі я патрэбна была немцам ды паліцаям...

— Ой, неяк боязна мне, — маці ўсхліпнула. — І за цябе і за нас...

— Ну, як будзе, так і будзе, бацька быў настроены рашуча. — Ганна праўду кажа — памром тутака...

— І калі ты намерылася ісці? — спытала маці ў Ганны.

— Заўтра раніцай. Толькі збяру тое-сёе...

* * *

Маці хацела аддаць Ганне ўсё апошняе зваранае мяса, але тая наадрэз адмовілася:

— Вы ж на пустое месца ідзяцё, тамака нічога няма. Дык хоць на пару дзён будзе што з'есці...

Але і маці заўпарцілася:

— Ты таксама не ведаеш, куды ідзеш...

Іх спрэчку спыніў бацька:

— Рэж папалам. Каб не було нікому крыўдна... Іх двое і нас двое...

Загарнуўшы мяса ў анучку, ускінуўшы клунак цераз галаву на плячо, Ганна абняла маці. Потым падышла да бацькі. Ён прыціснуў да сябе дачку. Потым дастаў з кутка будана вінтоўку:

— На. Бяры. Мо ад каго бараніцца давядзецца...

— Ды навошта! Я ж і страляць з яе не ўмею!..

— А што тутака ўмець: во гэта сюды, а гэта вось так... І ўсё — можна страляць... А мне з ёй у вёску ўсё роўна нельга...

Ганна яшчэ раз падышла да маці, прыгарнулася... Забрала Іваньку. І пайшла. Аддаліўшыся, павярнулася і памахала рукой... Потым ужо не паварочвалася — ішла і ішла...

А Пятро з Верай таксама сталі збірацца. Сабралі пажыткі. Пятро хацеў было падпаліць курэнь, аднак перадумаў — можа, яшчэ каму дасць прытулак... Пакрочылі. Кладкі ўжо не спатрэбіліся — мароз закаваў усе пратокі, можна было ісці напрасткі...

* * *

Несці сына, клунак і вінтоўку было цяжка. Ганна хутка адчула, што хвароба яшчэ не зусім пакінула яе. Зноў падняўся жар... Перад вачыма ўсё паплыло...

Але крок за крокам яна рухалася наперад... Колькі прайшла — не ведала. Нейкая невядомая сіла надавала моцы, трымала на нагах...

Неўпрыкметку балота перайшло ў лес. На яго ўскрайку Ганна натрапіла на занесеную снегам дарогу. Ісці стала лягчэй. Але па-ранейшаму смуга засцілала вочы... Дрэвы ўзбоч дарогі нібы перабягалі ёй шлях, сцябалі па твары галінкамі...

Убачыўшы ў каляіне нешта цёмнае, Ганна не адразу пазнала чалавека. Падышла бліжэй — забіты немец... Далей — яшчэ адзін, яшчэ...

«Дык гэта ж тутака быў учора бой! — здагадалася яна. — Але дзе ж нашыя?..» Надзея, якая, напэўна, і вяла Ганну, і трымала на нагах, паціху згасала... І разам з ёй апошнія сілы сталі пакідаць яе... Жанчы-

на пачала траціць прытомнасць. І раптам неяк глуха, як скрозь падушку, пачула:

— Стой! Хто ідзе?

Адказаць яна ўжо не змагла. Ногі падкасіліся. Падаючы, Ганна падумала, што зняць з пляча вінтоўку яна не зможа — трэба выслабаніць рукі, але яны занятыя — спіць спавіты Іванька... Яна нават не адчула, што паваліласся тварам у халодны снег...

...Прачнулася ў цяпле, пад коўдрай. Побач спаў Іванька. «Дзе гэта я?» — агледзелася яна. Нейкая пабудова. Без вокнаў. Ад печкі патыхае жарам... На стале — нейкія міскі... Пад столлю — лямпа...

Адчыніліся дзверы. Увайшлі двое мужчын.

— О! Прачнулася! — падаў голас адзін з іх.

— Дзе я? — ціха спытала Ганна.

— У партызанскім атрадзе! — весела адазваўся той жа мужчына.

— Пачакай! — спыніў барадаты. — Дай спачатку даведацца — хто яна такая, куды ідзе... Цябе як завуць?

— Ганна я... З Макарыч...

— А прозвішча? — дапытваўся барадаты.

Ганна яшчэ не зусім прывыкла да свайго новага прозвішча па мужу, але ўсё ж назвалася:

— Галота...

Барадаты перапытаў:

— Як, як?

Ганна паўтарыла яшчэ раз. Барадаты спытаў:

— А ці не ведаеш ты Міцю Галоту?

— Гэта мой муж! На фронце ён!..

— А ў Горках ён не вучыўся?

— Вучыўся! І я таксама...

— Дык я ж твайго Міцю ведаю — мы на адным курсе вучыліся, толькі ён у другой групе быў! І на вашым вяселлі я таксама гуляў!.. Няўжо не помніш? Хаця што я пытаю — барада!..

Ганна стомлена закрыла вочы. На душы ў яе стала спакойна і ўтульна — яна ў сваіх...

* * *

...Чырвоныя «Жыгулі» скаціліся па мастках з парома. Пабеглі па накатанай дарозе, якая пралягала па лузе, дзе ўжо стаялі сёлетнія стагі.

— Ну во, так і трымай да самага лесу, — Ганна пільна ўглядалася ўперад. Яна ўсе гэтыя гады была не далей за сенажаці, і толькі цяпер, калі ў адпачынак прыехаў Іван, яна і сама захацела ўбачыць Волахава, і сыну паказаць...

Дарога вывела да дубняку. Але і між дрэў вілася бітая каляіна. Насустрач раз-пораз трапляліся трактары з прычэпамі, пад самы рубель гружаныя сенам. «Бач ты, — здзівілася Ганна, — да балота дабраліся...»

Іван больш маўчаў. Яго ўзрушыў расказ маці пра зімоўку на балоце, пра партызанскае жыццё... І цяпер, праз 50 гадоў, ён глядзеў наўкола і быццам нешта пазнаваў...

— Тутака спыні. Далей пойдзем пешкі, — Ганна выйшла з машыны. Агледзелася. На балоце гырчэлі трактары — яны вывозілі сена з асушаных тарфянікаў.

— Здэцца, вунь наш востраў, — пазнала Ганна. Але пратокі, дзе раней былі кладкі, не знайшла — высахла... Затое на востраве адразу ўбачыла старое дварышча — засталася канаўка ад частаколу ды дзве варонкі ад выбухаў мін...

— Пастой, мамо, ты ж казала, што мін было тры...

— Як бач, трэцяя так і не ўзарвалася... Таму ты мо не хадзі туды...

Але Іван убачыў набітую сцяжынку і пайшоў. Вывела яна яго да калодзежа пад старой бярозай. Каля калодзежа ляжалі ў цяньку два маладыя хлопцы.

— Добры дзень! — павітаў іх Іван.

— Добрае здароўе — усталі яны.

— А што гэта за калодзеж? Ваду з яго піць можна? — пацікавіўся Іван.

— А чаму ж нельга? Мы ж п’ём. І ўсе п’юць. А калодзеж, нам расказвалі, выкапаны ў час вайны. Тутака, кажуць, нехта ад немцаў хаваўся ўсю зіму...

— А вы змаглі б на балоце перазімаваць? — спытаў Іван.

— А чаму не? Калі б прыперла, то і жылі б. Толькі було б што есці... А ад марозу можна курэнь зрабіць...

— І ваўкоў не боязна?

— Калі немцы на пяты наступаюць, ці ж станеш ваўкоў баяцца? — хлопцы трапіліся гаваркія. — Ды стрэльбіна якая знайшлася б... І агонь гарэў бы... галавешку сунуў бы яму ў зубы, дык болей не палез бы...

Ганна стаяла побач, слухала і ўспамінала — тады ўсё было зусім інакш... Цяпер яна адчувала гонар за тое, што нават зімой на балоце і пазней у пасляваенную галадуху яна здолела выгадаваць сына. Вось ён — побач. На той самай зямлі, дзе нарадзіўся і куды вярнуўся праз столькі гадоў!..





МІКОЛА ШАБОВІЧ

# «НАС ЦЯПЕР АНІХТО НЕ РАЗЛУЧЫЦЬ...»

* * *

Да тваіх валасоў дакрануцца гарачымі вуснамі,
І адчуць пад рукамі акругласць бялюткіх плячэй,
І, заплюшчыўшы вочы, люляць летуценні спакусныя,
Баючыся падумаць, што хутка ты знікнеш з вачэй —

І абрынецца свет, што сатканы з салодкіх ілюзій,
Пахаваўшы надзеі, як першы па восені снег.
Не знікай назаўжды! Я прашу цябе: будзь маёй Музай,
Дай мне бачыць цябе, дай мне чуць твой залівісты смех!

* * *

Цябе не прамяняю ні на кога,
Хай сто вятроў самоту разлюляюць.
Ды ўсё ж няўмольна вусны паўтараюць:
Цябе не прамяняю ні на кога.

Хіба ж не ты — адзіная ў Сусвеце,
Хто не дае заснуць мне аж да рання,
На вуснах нараджаючы прызнанне:
Хіба ж не ты — адзіная ў Сусвеце?!.

Каго прасіць — хіба самога Бога, —
Каб быць з табой хоць хвілю, хоць імгненне,
Чуць сэрца стук і спеўных слоў трымценне?
Каго прасіць?.. Хіба самога Бога...

* * *

Нас цяпер аніхто не разлучыць —
Я надзею ў свой верш пасялю,

Каб яе пры спатканні агучыць
Ціхім словам прызнання: «Люблю!»

Нас цяпер аніхто не раздзеліць —
Гэтай думкай сябе весялю,
Каб пасля словы шчырыя спеліць,
Каб на вуснах трымцела: «Люблю!» —

А сказаць, як пры першай сустрэчы,
Захінуўшы цябе ў паліто
І нясмела абняўшы за плечы:
«Нас ужо не разлучыць ніхто».

* * *

Убачыцца з табою на хвіліну —
Нібы вярнуцца ў колішнія вёсны,
І сустракаць свой ранак беларосны,
І казкай-марай мроіць без упыну.

Абнашчуся я ўсмешкаю-прычасцем,
Злаўлю твой позірк светла-легкакрылы
І не аддам, што б ты ні гаварыла, —
Вазьму з сабой, як талісман на шчасце,

Каб не забыць ні дома, ні ў дарозе,
Каб быць з табой і ўвечары, і ўранні.
Калі ж прыйду на новае спатканне,
Сустрэнь мяне з усмешкай на парозе.

* * *

Мы з табою прыдумаем самі
Нашу казку —
Хай доўжыцца вечна.
Мы з табою прыдумаем самі
Шлях яднання —
Сутонлівы, Млечны.
Мы з табою прыдумаем самі,
Як прайсці лабірынты сумневу.
Мы з табою прыдумаем самі
Вуснаў шал і пяшчоты залеву.
Мы з табою прыдумаем самі...
Калі неба прыдумае нас...

* * *

Спаслаўшыся на справы досыць важныя,
Хоць за акном зеленаспевіць май,

Бы хлопчыку наіўна-нехлямяжнаму,
Ты сёння мне прамовіла: «Бывай...»

І, пазяхнуўшы соладка-нязмушана,
Падумала, што так таму і быць,
Пакуль жыццё журбой не зацярушана,
Пакуль яшчэ так лёгка ўсё забыць...

Хоць для вяртання шлях зусім не страчаны
І, можа, ўсё ўлагодзіцца яшчэ,
Чамусь на сэрцы крыўдна па-дзіцячаму
І так марудна, нудна час цячэ...

* * *

Хутка снегам пабеліць зіма
Пачарнела-змакрэлыя дахі.
Хоць у лета вяртання няма,
Адкаркуем мы «Споведзь манаха»,

Каб на хвілю нам сталі бліжэй
Дзён спакусных былыя сюжэты.
Падымай свой чырвоны фужэр
За пачуцці, за мроі, за лета,

У якім толькі рук гамана,
Валасоў залацістыя хвалі.
«Ты такая на свеце адна», —
Калісь вусны мае прашапталі.

Я й сягоння скажу, што адна,
І не «Споведзь манаха» — віною.
Я хмялею, ды не ад віна —
Ад таго, што ты побач са мною.

* * *

Быць жа нехта павінен,
Хто цябе правядзе,
Аднаго не пакіне
У расстайнай бядзе,

Хто рукой памахае,
Скажа: «З Богам у свет!» —
Каб прыгода ліхая
Абмінала твой след,

Каб вярнуцца з павіннай,
Верай поўніць свой дзень:
Быць жа нехта павінен,
Хто цябе правядзе.

## ВЕРЛІБРЫ

**1**

Возьмем праменьчыкі радасці
У маладога сонца.
Будзем такімі багатымі,
Будзем такімі шчаслівымі
Раніцай гэтай,
І будзем да вечара
Радасць у нашых далонях
Несці насустрач
Адно аднаму,
Як малітву.

**2**

Колькі яшчэ,
Ты скажы,
Богам падорана
Ранкаў,
І сонцам апромненых поўдняў,
І месяцам ціхім спавітых,
Пяшчотных такіх
Вечароў і начэй,
Каб мы зразумелі,
Што «двое» —
Гэта не значыць
«Адзін» і «адна»,
Бо «двое» —
Калі па адным
Немагчыма.

**3**

Мелодыя вуснаў
Тваіх
Гучыць
Несціханай
Мелодыяй
Флейты.
Так грала
Хіба
Афрадыта...

**4**

Рукі твае
Адгорнуць фіранку
Ў заўтрашні дзень.
Студзень
Ужо не астудзіць
Тых слоў,

Што мы заўтра
Прамовім прад вечнасцю.

**5**

Давай з табой
Праспяваем разам
Песню наступнага дня.
Ноч-дырыжор
Ціха дрэмле,
Як быццам
Сонечны ранак
Баіцца
Праспаць.

**6**

Пойдзем,
Як дзеці малыя,
За рукі ўзяўшыся,
У неба
Па шчасце сваё.
Там,
Паміж зораў,
Хай доўга й прыгожа гучыць
Песня двух сэрцаў,
Што зведалі радасць любові...

**10**

Хай будзе лагодна-спагадным
Наш заўтрашні травеньскі ранак.
Сустрэнуцца вочы —
Хай доўга праменяць святло.
І, можа, сіноптык памыліцца,
Той, што сягоння прарочыў,
Што сонца адгул узяло,
І, магчыма, на некалькі дзён,
Забыўшы,
Што толькі каханне —
Адзіны сіноптык.





ГАЛІНА БАГДАНАВА

# ЧАТЫРЫ АПАВЯДАННІ

*З ЦЫКЛА «ВАНДРУЮЧЫ ПА-ЗА ЧАСАМ»*

## ПРОФІЛЬ НА ПЯСКУ

### Ля вытокаў салярных знакаў

Аслепленая сонцам. Сонцам і болем. Таму што нарадзіць дзіця не толькі прыемна, але і балюча. Доктар, што зазірнуў да нас у палату, як і мы, быў асляплены сонцам і, да таго ж, быццам аглух. Хаця, здавалася, стагналі, енчылі ў болю нават панылa-блакітныя сцены.

— Чаго вы ўсе крычыце?! — усміхаўся ён у вусы. — Сёння ж ва ўсіх вас свята. Сёння ж для кожнай з вас самы радасны і сонечны дзень. У вашых сем'ях у гэты дзень цяпер штогод будзе свята.

Свята — значыць святое. Асвечаная, спавітая хваляваннем і радасцю Таямніца. Я й цяпер да драбніц памятаю той сонечны дзень, калі ў радзільнай зале, падарыўшы свету сына, я зараз жа забылася на боль, перастала адчуваць яго, адзінае, напружана ўслухоўвалася і не чула чаканага сынавага голасу. А мяне ўжо змусілі праваліцца ў бездань наркатычнага сну. Трэба было мяне падрамантаваць, каб праз год я здолела вынасіць і зноў, скрозь боль, быць аслепленай сонцам і нарадзіць яшчэ аднаго сына. Падарыць сабе і свету яшчэ адно свята. Яшчэ адну Таямніцу. Але да гэтага яшчэ далёка. Пакуль што мяне змусілі забыцца, заснуць, ператварыцца ў бязвольную знямелую субстанцыю.

Мяне паглынула бязважкасць, бяздонны калодзеж у нікуды. Ён зацягваў мяне, ці ўжо й не мяне... І там, у глыбіні, у часавай бездані я зноў была аслеплена сонцам, сонцам, якое люстравалася ў ціхай павольнай рачной плыні, награвала мяккі, амаль белы пясок, падсвечвала смарагдам росную траву, аплятала жывым пульсуючым павуціннем бурштынавых ценяў гонкія хвоі, лашчыла мяне і... майго сына. А ён, мой сын, ужо падлетак, таму не зусім голенькі, а, так было прынята ў нашым племені, у набедранай павязцы, нешта засяроджана маляваў на вільготным пяску. На мне таксама была набед-

раная павязка, даkладней, кароценькая спаднічка з папаратніку. Даўжэйшую, з поўсцю, я пакідала на халады. На грудзях прыемна ласціліся, студзілі мяне мае любімыя бурштынавыя пацеркі, сонечныя кропелькі з татэмам племені — іклам нашага агульнага прапрашчура — Сівога ваўка. Налета і майму сыну дадуць такія ж. Але ў мяне воўчы ікол асаблівы, на ім ёсць таемны малюнак — кружок з кропачкай пасярэдзіне, маленькае «вочка», сонечны знак. Ён набліжае мяне да сонца, саграе, надае сілы. Пакуль што гэты таемны сонечны знак ратуе і мяне, і майго сына. Так будзе да наступнага лета. А далей мой сын сам будзе тварыць сваё жыццё і яго будзе ахоўваць ягоны ўласны татэм. А яшчэ сілы нам з сынам надаюць зёлкі. Мяне навучыла разбірацца ў іх мая бабуля. І цяпер нават Відушчая і тая карыстаецца маімі парадамі і маімі зёлкамі. Галоўнае сабраць і высушыць іх у пару, у самую іх пару, калі яны ўжо назапасілі і прагнуць перадаць сваю сілу.

Зараз я толькі што выйшла з лесу. І расклала на траве цэлы ахапак зёлак. Перабяру і пакладу сушыць. Больш за ўсё, як заўжды, святаянніку, мноства прамяністых, нават на дотык цёплых кветачак. Цёплых... Ці, можа, мне гэта толькі здаецца?

— Ай! — гукнула я сына.

Ён як бы і не пачуў. Што ж, я не крыўдую. Я ведаю, мілы мой Ай, калі ты пачынаеш маляваць, ляпіць ці выразаць з косці, забываешся на ўсё. Мне здаецца, што, калі ты малюеш ці выразаеш звера, то наяве чуеш ягоны рык ці тупат, чуеш, як наганяюць яго паляўнічыя. А калі гэты звер не драпежнік, а які-небудзь высакародны алень, што знясілены, задыхаецца і вось-вось упадзе, тады ты, калі ўжо выпушчаная найлепшым нашым паляўнічым страла кранае прыгожае, гнуткае цела жывёлы, раптам, як усемагутны Стваральнік, выхопліваеш аленя з-пад стралы. З рэальнасці — у сон, у мрою. А з мроі той нараджаецца выразаны з косці, жывы на дотык вобраз.

Тваіх касцяных і драўляных аленяў шкадуюць забіваць нават тыя, хто мусіць настроіцца на паляванне, мужчыны, якія выконваюць магічны танец і па традыцыі пускаюць стрэлы ў зробленых з косці, дрэва ці намаляваных звяроў. Відушчая заўважыла гэта. І цяпер, калі бярэ ў рукі чурынгу, каменную пласціну, на якой высечаны зразумелыя толькі ёй рысачкі і кропкі ( паводле іх яна каменем аб камень выстуквае для ўсіх рытм), дык вось, цяпер, калі яна бярэ ў рукі чурынгу, то кладзе паляўнічым не тваіх звяроў, а тых, якіх калісьці выразаў твой бацька. Баіцца, што мужчыны пашкадуюць твае выявы, не стрэляць, не патрапяць у іх, і паляванне будзе няўдалым.

Ты, ведаю, крыўдуеш, нервуешся. А я ўпотай вельмі табой ганаруся. Стварыць тое, што спыняе стралу, значна цяжэй, чым тое, што яе прыцягвае. Забіваць у нашым племені ўмеюць усе. Шкадуюць адзінкі. Ты ж, твае звяры, вы здолелі расчуліць усіх, нават самых жорсткіх.

А калі летась цябе, Ай, дзеля выпрабавання ўпершыню ўзялі на паляванне і ты разам з усімі высачыў аленя, старэйшыя, як мне по-

тым расказвалі, хацелі саступіць, даць табе стрэліць першаму. І ты, стаіўшыся ў кустах, ужо заклаў стралу, нацягнуў цеціву, але ў апошняе імгненне передумаў, спыніўся і ўвогуле адкінуў лук убок. І тады адразу стрэлілі трое з тых, хто заўжды напагатове, стрэлілі і смяротна паранілі аленя. І разам з аленем упаў на траву ты, мой Ай. Так расказвалі мне мужчыны. Ты тады ледзь не страціў прытомнасць. А потым так плакаў, кідаўся, крычаў па начах, што мне давялося адпойваць цябе зёлкамі . І наш Галоўны, Важак, паглядаючы на цябе, толькі ківаў галавою:

— Нічога не паробіш, будзе, як бацька, мастаком.

А мы, жанчыны, даўно ведалі, што ты не такі, як усе, што ты незвычайны. Можна было і не браць цябе на паляванне, не правяраць. Нарадзіўся ты, абкручаны пупавінай, і цябе ледзь уратавалі, ледзь прымусілі падаць голас, закрычаць. І ты не крычаў, як усе, доўга і нудна «Аааа-аааа—ааа!», не агукаў, ты крыкнуў гучна і раз усяго: «Ай!» Відушчая, кажуць, як толькі даведалася пра тое, як ты нарадзіўся, адразу сказала, што ты будзеш не такі, як усе. Што вялікі дар табе будзе дадзены: дар лячыць ці маляваць. А я цябе так і назвала — Ай.

Ты з’явіўся на свет на самым пачатку лета, калі сонца заткала зямлю зелянінай і кветкамі, калі ўсё навокал, вітаючы тваё з’яўленне, спявала і танчыла. І дзіўны салодкі кветкавы водар кружыў мне галаў, хмяліў да самазабыцця.

Але ж усе ведаюць, важна не толькі, як і калі чалавек быў народжаны, але і як, калі быў зачаты . Мы з бацькам прадвырашылі тваё з’яўленне ўвосень. Цёпла было, цёпла і парна. Грыбоў — не сабраць. Баравікі. Белыя, чорнагаловікі. Тыя, што растуць пад дубамі і ў сасновым бары. Сярод грыбоў траплялiся і тыя, якія можна есці не варыўшы. Мы з тваім бацькам мелі кожны свае грыбныя мясцінкі і цягалі грыбы кашамі. Ды толькі не спяшаліся браць. Любаваліся. І там, у лесе. І потым, калі перабіралі. Кожны ж грыбок непаўторны.Кожны грыбок—адкрыццё. Адкрыццё прыгажосці. Мяккі вільготны мох, а ў ім моцная, пругкая ножка, гладзенькі капялюшык... І нашыя пацалункі там, у засланым цёплым туманам, росным, засыпаным апалаю лістотай, іглiцай восеньскім лесе, тыя пацалункі таксама былі для нас адкрыццём, якое вяло да таямніцы зачацця, твайго зачацця, Ай. Так дождж лашчыць зямлю, каб узгадаваць кінутае ў яе зерне. Колер зярнятка. Колер семені, колер малака. Наш колер. Ён ёсць нябеснае святло, наша повязь з небам.

А зімою, калі, Ай, я напэўна ўжо ведала, што ты ёсць, што ты будзеш у мяне, мы з тваім бацькам сядзелі ля вогнішча ў нашай вялікай, складзенай з мамантавых костак і зацягнутай па версе звярынымі, воўчымі шкурамі хаціне.І было чуваць, як захліпаецца снегам завея і выюць ваўкі. Усе паснулі. А мы з табою, здаралася, і ўсю ноч сядзелі ля вогнішча. Я шыла, а твой тата выразаў з костак звяроў, тых самых, якіх і цяпер Відушчая кладзе на зямлю падчас танца мужчын, што выпраўляюцца на паляванне. Паляўнічыя, калі хочуць упаляваць звера, мусяць спачатку патрапіць стралою ў яго выяву. Ды ты гэта ведаеш.

А яшчэ твой бацька ляпіў і выразаў, выбіваў з каменя жанчын, якіх мы завем Маці або Рода. Ты шмат разоў бачыў іх: яны стаяць ці ляжаць амаль у кожнай хаце, на невялікім узвышэнні. З нашаю Родай ты, калі быў малы, нават гуляў. А ў Відушчай захоўваецца самая вялікая Рода. Яе таксама выбіў з каменя наш бацька.

У яе крутыя клубы. Круглы, як гарбуз, зад, і наперадзе... усё ясна пазначана, грудзі — кожная па яблыку. Нашая Рода, тая, што ляжыць у нас, касцяная і крыху меншая. Але ў яе таксама вялікі акруглы зад і грудзі па яблычку. Аднойчы, ты яшчэ малы быў, патрымаў яе ў руках, пагладзіў і запытаўся:

— А чаму ў яе няма вачэй? Твару зусім няма. Уся галава — і ззаду, і спераду — рысачкі, рысачкі, кропачкі. І зноў рысачкі.

— Твар, Ай, пазначаць нельга, — паспрабавала я патлумачыць.—Твар, вочы ёсць толькі ў жывых . Так казаў твой тата. А яму пра тое сказалі наш Галоўны і Відушчая. Гэтыя жанчыны, Роды— знак урадлівасці. Знак плоднасці. Каб у каласках было шмат зярнятак, а на яблыні—яблычкаў. І ў цябе, Ай, з’явіліся брацікі і сястрычкі. Вялікае чэрава ў яе для таго, каб вынасіць дзіця, а вялікія грудзі, каб потым выкарміць.

— Але ж ты не такая, — сказаў ты і зірнуў на мяне...

Так, як калісьці ў цёплым грыбным восеньскім лесе глядзеў на мяне твой тата. У цябе, як і ў яго, вялікія шэра-блакітныя вочы. Але не, нават па колеры яны ў цябе цяплейшыя. Не як сцюдзёная крынічная вада, а як мяккая павольная рачная плынь. І гэтая плынь лашчыць мяне, люляе. Зачароўвае... Аднойчы, калі я прыбірала ў хаце і, ўзяўшы ў рукі Роду, пра нешта задумалася, ты раптам сказаў:

— Калі я вырасту, абавязкова намалюю ці не, выражу твой твар, мама, — усміхнуўся ты, а я спужалася. Паклала Роду на месца. Добра, што ў хаце нікога не было. Усе пайшлі на паляванне. А каб хто пачуў, нават за словы маглі пакараць. Рода мусіць быць без твару. Яна — толькі пасудзіна, змясцілішча нябеснай сонечнай энергіі. У яе не можа быць твару.

Гэтая наша Рода — апошняя з тых, што паспеў выразаць твой бацька тою сцюдзёнаю зімою, калі я насіла цябе, мой Ай, у сабе. Маё цела было для цябе надзейнаю хованкай і ад холаду, і ад голаду. Тою зімою маё цела было для цябе, як сонца, сонечнае святло для ўсіх нас. Яно таксама аберагае нас, ахоўвае.

Ты, пэўна, ніколі не звяртаў на тое ўвагі, але сёння я абавязкова табе гэта пакажу.

У нашай Роды не проста пупок — кропачка, абкружаная лініяй. Сонечны знак. Такі самы, як на ікле Сівога ваўка, які я заўжды нашу на грудзях. Бацька пакінуў нам Роду з гэтым знакам наўмысна. Каб сонца бараніла нас.

Я памятаю, як бацька выразаў гэты знак. Выразаў і паказаў на мой жывот, дзе ўжо раз-пораз ты тупаўся, латашыў ножкамі. Дзіця ў чэраве маці, як усе мы пад покрывам сонечнага цяпла. Бацька любіў усё пазначаць такімі сонечнымі знакамі. А аднойчы ён такі кружок з кропачкай намаляваў палачкай на снезе. А да яго дадаў галоўку, ручкі-ножкі

і на мяне паказвае, маўляў, я цяжарная, падобная да сонца. Для цябе, да нараджэння, сонцам, ахоўнаю абалонкай была твая мама.

Прыйшла вясна, пацяплела.Снег сышоў. І твой бацька па загадзе Галоўнага і Відушчай, пакуль мужчыны ўзаралі, а потым разам з жанчынамі засеялі поле, мусіў вылепіць з гліны, самай тлустай глебы, — Роду, як заўжды з крутымі гладкімі клубамі і грудзьмі па яблыку. І...Сёння, Ай, увечары, ля вогнішча, калі ўсе лягуць спаць, я адкрыю табе адну таямніцу. Бацька тою вясною парушыў табу, зрабіў тое, што цяпер, я адчуваю, задумаў зрабіць ты... Ён вылепіў Роду з тварам, маім тварам, і пазначыў зярняткамі вочы. Зірнула я на яе і знямела. Быццам у ваду паглядзелася. Такія мы з ёю былі падобныя.

Тую Роду ён мусіў пакінуць пад покрывам ночы на ўскрайку засеянага ўдзень поля. На досвітку туды звычайна прыходзіла Відушчая, прамаўляла нейкія таемныя словы. І тым досвіткам яна была там. А потым пайшоў дождж. Першы спорны вясновы дождж, які размыў Роду з маім тварам. І яна, я перадала сілу свайго цела зямлі. Каб і яна, зямля, радзіла. Дождж амыў зямлю. І з двух маіх зярнятак-вачэй таксама выраслі каласкі. Мне дасюль не дае спакою тое, што з маіх, пазначаных зярняткамі вачэй, выраслі каласкі.

Калі ты з'явіўся на свет, сонца яшчэ не паспела ім перадаць свой залаты колер, але яны, убіраючы нябесную і зямную вільгаць і сонечнае цяпло, набывалі малочную спеласць і зелянелі, як ... мае вочы. А побач красавалі валошкі. Не яркія. Светла-блакітныя, халаднаватыя. Жывыя. Як бацькавы вочы.

Ніхто мне так і не паказаў, дзе ягоная магіла. Спачатку мне сказалі, што твой тата выконвае нейкае таемнае даручэнне і яго нельга трывожыць. Калі ты нарадзіўся, я папрасіла Відушчую паклікаць твайго тату, а яна строга папярэдзіла:

— Забудзься на яго. Ён парушыў табу. Пакуль ты была цяжарная, мы не хацелі цябе трывожыць. А цяпер ведай: ён вылепіў Роду з тваім тварам і тваімі вачыма. І яго ніколі больш не будзе ў нашым племені.

Ні слёзы мае, ні просьбы паказаць хаця б, дзе яго магіла, нічога не далі.

— Ён пайшоў да Сонца, — сказала Відушчая.

Так нашае племя і жыве без мастака. У нас змяніліся тры Галоўныя, Відушчая з моцнай жанчыны ператварылася ў нямоглую старую. Аслепла. У нашага племені цяпер сляпая Відушчая. А мастака так і няма. Відушчая кажа, што ты хутка зможаш стаць нашым мастаком. Толькі для гэтага табе трэба навучыцца выразаць аленяў, ад якіх не будуць адварочвацца стрэлы, якіх не будуць шкадаваць, якіх з лёгкім сэрцам заб' юць паляўнічыя падчас рытуальнага танца, каб потым паўтарыць усё на паляванні. Толькі ж хіба можна забіваць з лёгкім сэрцам?

— Ма!

Я злякнулася. Я забылася, што, перабіраючы зёлкі, гавару, шапчуся сама з сабою...

— Ай, ты клікаў мяне?

— Хадзі сюды, нешта пакажу!

Пакінуўшы зёлкі, я пайшла бліжэй да ракі.

Пясок яшчэ вільготны, пругкі, несыпучы, зацалаваны сонцам, ужо пацяплеў. Але на ім заставаліся сляды. І на гэтым светлым, амаль белым пяску аднымі лініямі, тонкімі, лёгкімі, як птушыныя пёркі, лініямі быў выпісаны жаночы твар, так, як калі на жанчыну глядзець збоку. Высокі лоб, глыбока пасаджаныя вялікія вочы. Прамы, з ледзь заўважнаю горбінкай нос, тонкія вусны, мяккі падбародак. Даўгая лебядзіная шыя. Партрэт быў яшчэ нясканчаны, яшчэ імклівымі лёгкімі хвалямі кладіся, набягаючы, даўгія, зблытаныя мае валасы. Але не пазнаць было немагчыма. Занадта доўга разглядала я сябе сёння ў вадзе, калі купалася. І вось так, бокам, таксама станавілася. Так меней зморшчынак, чысцейшая лінія. Так прыгажэй.

З хваляваннем, не, хваляванне адразу сталася жахам, з хваляваннем і жахам я зноў падышла да ракі, зайшла ў ваду. Нагнулася, прыгледзелася і... зноў патанула ў імклівай плыні часу.

...— Група крыві. Якая ў яе група крыві? — данеслася да мяне аднекуль зверху.

І я чыста інстынктыўна адразу адрэагавала, азвалася:

— Першая! Чуеце, першая! — закрычала, як мне падалося, закрычала я на ўсю моц, так, што рэха аглушыла мяне. Але наяве мяне не пачулі. Бо, як потым казалі дактары, гэта быў нават не шэпт, а ўздых. Давялося сабраць усе свае сілы, вынырнуць, пераадольваючы зямное прыцягненне, узляцець, выбрацца з бяздоннага калодзежу часу.

— Першая!

Толькі цяпер яны, здаецца, мяне пачулі. Яны, гэтыя людзі ў белых халатах, у рэшце рэшт пачулі мой голас, мой шэпт.

На твары маім ужо не было маскі з наркозам. І я, аблізнуўшы засмяглыя вусны, спыталася:

— А чаму ён не крычыць?

І акушэрка з усяе сілы ляпнула малога па кволенькім задзе.

— Ай! — нечакана азваўся мой сын, мой першынец. — Ай! Ай!

Мы з ім так і не паспелі сцерці, затаптаць малюнак.

Там, у глыбіні, па той бок калодзежа, ля ракі, на вільготным, нагрэтым сонцам пяску засталіся нашыя з сынам сляды, застаўся мой профіль. І сонечны знак. Я паспела намаляваць яго дзеля перасцярогі. Ці, можа, гэта зрабіў мой сын... Кружочак з кропачкай. Пуп сусвету. Зярнятка. Дзіцятка ў космасе майго цела.

# ПРЫГОЖАЯ ПРЫЙШЛА

## Тры каханні Неферціці

— Вы, праўда, плылі на «Тытаніку» ?

Маё пытанне-прыдыханне накалолася на востры скептычны позірк. Вочы пані Магды дыхнулі прахалодай. Шкло. Цяпер між намі нават не лёд, які можна растапіць, а шкло.

— А што Вас так дзівіць? — пацiснула яна плячыма. —Там шмат было малых дзяцей. І потым... У мяне застаўся дзённік маёй маці. Калі хочаце, я дам Вам яго пачытаць. Толькі пры адной умове: Вы не дазволіце сабе нават падумаць, што мая маці — вар'ятка. Я вам давяраю. І потым, мне хацелася б камусьці перадаць яе таямніцу. А ў мяне наўрад ці калі яшчэ будзе пакаёўка з журналісцкай адукацыяй.

— Адкуль Вы ведаеце пра маю адукацыю?! — здзівілася я. — Я ж ва ўсіх паперах праходзіла як настаўніца...

— Няўжо Вы думаеце, што такая багатая дама, як я, магла пусціць да сябе ў дом чалавека, пра якога не ведала б усё да драбніц? У нас безліч сумленных агентаў. Але, не зважаючы на гэты маленькі падман, я палічыла магчымым даверыцца Вам. Вы ж у рэшце рэшт не вінаватая, што газета, у якой шмат гадоў працавалі, зачынілася, і Вам давялося пайсці выкладаць у школу. А калі Вы зразумелі, што грошай не хапае, выправіліся ў Польшчу ў заробкі. Усё разумна. Каб Вы назваліся журналісткай, Вас наўрад ці хто захацеў наймаць у пакаёўкі. А мне Вы патрэбная. Вам я хачу даверыць дзённік...Там...

«...Самаю геніяльнаю фразай, якую я пачула ад свайго трэцяга мужа, была ўчарашняя, сказаная за сталом у рэстарацыі так, каб яе пачулі: « Я археолаг. І да сваёй жонкі стаўлюся адпаведна. Чым яна старэйшая, тым большую каштоўнасць уяўляе». Геніяльна, ці не так? Ды яшчэ, калі ўсведамляеш, што жонка амаль на дваццаць гадоў за цябе старэйшая. Я не вінаватая, што ўсё бачу, усё чую, усё адчуваю. Асабліва, калі гэта датычыць тых, каго кахаю ці кахала... І я, нічога не магу зрабіць, заўважыла і запомніла той выразны, палкі пагляд, які пасля вячэры, на адыход, пакінуў мой муж кучаравенькай танклявай спадарожніцы амерыканскага банкіра, з якім ён цяпер вядзе перамовы наконт фінансавання сваіх раскопак у Егіпце.

Гэтай зімою у Эль-Амарне іхняя экспедыцыя адшукала цэлую скульптурную майстэрню. Калі не памыляюся, майстра, які працаваў там, звалі Тутмас. Муж кажа, што гэта першае з вядомых у гісторыі сусветнага мастацва імя скульптара. Там, у майстэрні, было шмат розных работ. У тым ліку некалькі выяў жанчыны —царыца, якая, так кажуць вучоныя, у новым XX стагоддзі можа набыць сусветную вядомасць. Адзін з яе бюстаў стаіць зараз у мяне на стале, мы ўзялі яго з сабою, яна, як і мы, плыве ў Амерыку. Даўгая выцягнутая шыя, крыху скуласты, вельмі выразны твар, бровы-крылы, задумлівыя вочы... Дакладней, вока. Другое скульптар не дамаля-

ваў. Толькі пазначыў. Ён, як і ўсе егіпцяне, баяўся, каб душа царыцы— «ка» не выйшла з яе жывога цела і не перасялілася ў бюст. Невядома, што сталася б тады з царыцай. На адным з бюстаў быў надпіс: Неферціці. Прыгожая прыйшла. Так перакладаецца яе імя. Выявы гэтай царыцы, як кажуць археолагі, сустракаліся і раней, у рэльефах, роспісах. Але імя было выразна напісана толькі на адным з бюстаў, на тым, дзе ў Неферціці на галаве высокі царскі галаўны ўбор — ціяра. На бюсце, які мы ўзялі з сабою ў Амерыку, ціяры няма, толькі выступ, на які яна мусіла мацавацца. Можа, скульптар не паспеў яе зрабіць, а можа, яе адбілі нейкія варвары. І афарбоўка твару ледзь праглядае. Неферціці. Прыгожая прыйшла. Цяпер вучоныя расшыфравалі шмат надпісаў. І ведаюць, што яна была жонкаю фараона Аменхатэпа IV, таго самага, які назваў сябе Эхнатонам (Атон — значыць Сонца) і, кажуць, распачаў вялікія пераўтварэнні.

Мой Джон сёлета адкапаў, адкрыў свету Неферціці. А я нарадзіла яму Магду. Цяпер, калі я трошкі ведаю лёс старажытнаегіпецкай царыцы і веру ў яе сусветную славу, я, пэўна, магла б назваць сваю дачку Неферціці. А можа, і не. Магда неяк цяплей, папольску. Яна таксама плыве з намі ў Амерыку і цяпер спіць у суседняй каюце разам з маёй любімай нянечкай, што калыхала і мяне, і майго брата, і маю старэйшую дачушку Сафі, якая, можа й добра, з мужам і сваім маленькім сынам не паплыла з намі, засталася ў Польшчы.

Але зараз не пра тое...У гэтым ліловым паўзмроку Неферціці здаецца жывою. І мне так хочацца пагаварыць з ёю, пра самае-самае патаемнае пагаварыць. Зараз рашуся і пагладжу яе па шчацэ. ...Якая шурпатая, але ўсё адно мяккая ў цябе скура, мілая мая Неферціці, а вока, тваё вока вось зараз так заблішчэла, што мне падалося, з яго пабяжыць сляза, жывая сляза.

Не трэба, не плач, Неферціці. Давай лепш пагаворым . Як жанчына з жанчынай. Зараз я паспрабую ўсміхнуцца. Як ты. Мякка і іранічна.Вось так. У мяне за плячыма ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў. У цябе — вечнасць, але, я ўпэўнена, ты зразумееш мяне... Мне зараз трэба выгаварыцца. Я буду пісаць і прагаворваць тое, што пішу, услых. Для цябе.

Першы мой муж Казімеж цалаваў мне рукі.Так, што ў мяне, дваццацігадовай, ад кожнага ягонага дотыку ўсё ўсярэдзіне сцінался і ветрык, скразняк прабягаў па спіне.У яго былі рудыя, шорсткія вусы, на зіму ён яшчэ адпускаў і бараду, таксама рудую і шорсткую. А вочы ў яго былі ясныя, шэра-блакітныя, з хітрынкай і халаднаватым сталёвым водбліскам. Як у сапраўднага паляка, польскага шляхціца. «Цалую ручкі»...

На жаль, а можа, і на шчасце, я была не з тых, хто мог надоўга затрымаць ягоную ўвагу. І да мяне, і пасля мяне ён меў многіх, і, як ні дзіўна, пераважна тых, хто зневажаў яго.Мужчыны, цяпер я гэта пэўна ведаю, любяць, каб ім час ад часу рабілі масаж спіны вострымі абцасамі. Гэта іх бадзёрыць. А мне хочацца глядзець на май-

го мужчыну знізу ўверх. Мяне раздражняе, калі моцныя людзі пачынаюць поўзаць, «пресмыкаться».

У другога майго мужа П'ера былі чорныя вусы,чорная кучаравая чупрына і гэткія ж шэра-блакітныя вочы, толькі крыху цяплейшыя і не хітрынкі — бездань даверу. І я баялася, што якая-небудзь жанчына можа проста дзеля самасцвярджэння згасіць гэтае мяккае, цёплае святло ягоных вачэй. П'ер навучыў мяне кахацца ўсім целам. Калі не чуеш, дзе рукі, дзе ногі, дзе пазванкі. Ці вусны. Калі ты ёсць ён, а ён ёсць ты. І ложак стаецца падлогай, а потым аксамітам, шаўковаю травою, лясным узгоркам. І ўсё патанае ў вадары траў...

Я нарадзіла яму дачку Сафі.

Але П'ер быў французам і, на жаль, больш за каханне любіў віно. А потым — каньяк. Пазней я дазналася, што ўсе з ягонага роду любілі выпіць, і ўсе надта кепска скончылі.

Самае жахлівае, што ён нічога не памятаў, выпіваў і зараз жа забываўся на ўсё светлае і радаснае з нашага з ім жыцця. І аднойчы, калі прыйшоў моцна п'яны, а я нешта сказала, ён схапіў мяне за рукі і пачаў іх балюча круціць... Пасля гэтага я доўга не магла нічога рабіць. Вочы П'ера сталі халодныя, шкляныя. Я кінула ўсё, забрала Сафі і, пакуль ёй не мінула васемнаццаць, не дазваляла сабе думаць пра мужчын.

Мы з маёю старэйшаю дачкою выйшлі замуж і нарадзілі дзяцей амаль аднячасова. Яна хлопчыка, я — дзяўчынку.

Пра Джона, маё трэцяе каханне (ты яго ведаеш, Неферціці, ён цябе адшукаў), дык вось, пра яго мне гаварыць цяпер балюча... Ён археолаг. Ён раскапаў маю душу, аджывіў маё цела...

І раптам... Гэта сталася сёлета, пасля таго, як ён знайшоў цябе, Неферціці. Ён больш не дакранаецца да мяне, ён халодны, раздражнёны, злосны. І самае балючае, што і мне ён не дазваляе аддаваць яму свае пяшчоту і ласку. Як усё адно хтосьці адваражыў...

Вядома, я не такая, як у маладосці. Пасля родаў мае яшчэ нядаўна стройныя ножкі распухлі, і вены цяпер нагадваюць рэкі падчас разліву. Я крыху паспраўнела. І на твары з'явіліся зморшчынкі. Але ж рукі... мае рукі, далоні, ты адчуваеш, Неферціці, я зараз адкладу ручку, адчуваеш, якія мяккія ў мяне далоні? А ён, ён не хоча браць з іх ласку... І цяпер, пэўна ж, цешыцца з гэтаю хударляваю жонкай банкіра. А ў мяне... О... Ты б ведала, Неферціці, як у мяне шторанак баляць рукі. Нямее пазваночнік. І рукі нямеюць і баляць, асабліва правая, пачынаючы вось з гэтага, сярэдняга пальца, боль ператварае маю руку, не, цяпер ужо мае рукі, у клешні. Рукі нямеюць, камянеюць, і я думаю, я ўпэўнена, гэта таму, што ім не дазволена, яны не маюць магчымасці аддаваць цяпло і ласку...

Божа, але ж ты плачаш, Неферціці. Вочы... Твае вочы і праўда наліліся слязьмі. І ты плачаш разам са мною... Вочы... Вось яно, ад слёз выявілася і другое тваё вока. Зеленаватае, з вялікаю чорнаю зрэнкаю . Не атрымалася ў нас з табою іранізаваць. Заплакалі. І я адчуваю, ты хочаш нешта мне сказаць. Мы зараз пагаворым з та-

бою, пагаворым... Не ведаю, на якой мове. Але мы зразумеем, мы мусім зразумець адна адну... Зразумеем...

Дапішу потым... Заўтра...

...Спяшаюся, хачу дапісаць... Хачу, каб потым мае дочкі, і асабліва Магда, калі яна вырасце і прачытае...як хочацца, каб яна не паўтарыла маіх і яе, Неферціці, памылак, калі атрымаецца...

Я спынілася на тым, як з вачэй Неферціці паліліся слёзы. Шурпаты камень стаўся пылам. Яе шчокі паружавелі, паярчэлі. І прыадчыніліся пульхныя, чуллівыя вусны.

— Ты смелая жанчына, — сказала яна ўздыхам. — А я вось не адважылася спраўдзіць сваё трэцяе каханне. Яно так і патанула толькі ўва мне. Зараз у мяне з'явіцца цела, і мы здзейснім падарожжа ў часе. Я запрашу цябе да сябе. У тым доме, доме, які стаіць за мяжою нашага галоўнага горада, у тым доме, куды Эхнатон выселіў мяне разам з дочкамі і Тутанхамонам, з якога, ён так хоча, калі я ўжо не здолела нарадзіць яму сына, я мушу выхаваць зяця, мужа адной з нашых дачок і будучага фараона. Дык вось, у тым доме ёсць адзін вельмі ціхі дальні пакой... Ніхто нас там не патрывожыць. Давай сваю руку. О... І ў цябе на скуры ўжо расцякаюцца карычневыя плямкі — старэчыя вяснушкі, прыкмета таго, што пара квітнення скончана...

Яна пагладзіла мяне па руцэ. І мая маленькая далонь сцішылася ў гарачых абдымках яе даўгіх тонкіх пальцаў. І мы пайшлі, паляцелі, і тысячы кіламетраў, і тысячы гадоў ператварыліся для нас ў адно-адзінае імгненне. Лёгкі саладкаваты водар ахінуў і разняволіў. Мы пераплылі раку часу і выйшлі на бераг яе пакоя. Пераступілі парог — і важкая барвовая заслона апала за намі. Тут ніхто нас не патрывожыць.

— Ведаеш, што больш за ўсё мяне ўражвае?.. І ты, і слугі, паўз якіх мы прайшлі, стаіце і рухаецеся не ў каноне, а, як усе мы, натуральна і проста... — сказала я на зразумелай для Неферціці мове.

— Што-што? А як ты думала мы павінны рухацца? — перапытала гаспадыня ўжо без слёз, з усмешкаю.

— У каноне. Я столькі бачыла замалёвак з раскопак. І паўсюль старажытныя егіпцяне ў, як мне тлумачылі археолагі, адзінай дазволенай позе: галава і ногі ў профіль, тулава ў дзве трэціх, а плечы ў фас. А фараон абавязкова ў некалькі разоў большы за сваіх падданых.

— Сапраўды, нашыя мастакі так і малююць. Але ж гэта не значыць, што мы так ходзім, і што фараоны большыя за іншых.

Ціхі дым лунаў над намі. Гэта быў мяккі водар сандала ці чагосьці надта да яго падобнага. Мы прыселі на лёгкія крэслы, адна супраць адной. Цяпер была чарга спавядацца Неферціці. А яна маўчала. І ў яе маўчанні блукала гаркота.

У пакоі было шмат сінечы і золата.Сонечны дыск працягваў свае промні-далонькі да найпрыгажэйшай, той, што прыйшла сюды...

— Мяне прывезлі з вельмі зялёнай краіны, краіны, дзе шмат дрэваў і чыстай, празрыстай, жывой крынічнай вады... Мяне прывезлі

сюды зусім дзяўчынкай. У падарунак Аменхатэпу III, бацьку Аменхатэпа IV, якога вы ведаеце як Эхнатона. Аменхатэп III быў воін, моцны воін. І ў яго было шмат жонак. Яны... яны ўсе нядобра прынялі мяне, бо я была зусім юная, свежая і прывезла на берагі велічнага Ніла танцы сваёй радзімы... Тут, сярод гарачых пяскоў і гэтае невыноснае спёкі па вечарах, калі фараон і ягоныя воіны збіраліся на пір, а ў паветры лунала задуха, я танцавала ім танец вады, танец прахалоды, я прагнула ахінуць іх усіх прахалодай. Аменхатэп III вельмі любіў глядзець, як я танцую... А аднойчы пасля танцу ён падышоў, узяў мяне за руку, нахіліўся і пацалаваў. У мяне ад таго ягонага гарачага дотыку ногі замлелі, і калені падагнуліся. Аменхатэп III быў такі моцны, і гэтая моц іграла ў кожным ягоным жэсце, руху, кожным ягоным кроку і нават у позірку ягоных цёмных агатавых вачэй. Ён глядзеў з-пад броваў, рэзка, уладарна... Жанчыны такім падначальваюцца без словаў. І я... Але пра гэта сорамна казаць. Не, мы не паспелі быць разам... Ён толькі аднойчы нёс мяне на руках.

Неферціці падняла на мяне свае вільготныя зеленаватыя вочы і абцягнула на каленях лёгкую, амаль празрыстую, аздобленую ажурным залатым шытвом сукенку.

— Тут па вясне, калі Ніл разлівае свае воды, адзначалі свята вяртання з падземнага царства Асірыса, свята адраджэння прыроды. Аменхатэп III быў, як заўжды, Асірысам. А Ісідаю тым разам выбралі мяне. Я не была галоўнаю жонкай, але Аменхатэп III настояў, каб жрацы менавіта мяне апранулі Ісідай. Я стаяла на каленях на гарачым пяску і аплаквала свайго мужа Асірыса, я чакала, калі наш сын — светлы сокал Гор — аддасць сваё вока бацьку, і Асірыс паўстане з мёртвых. Горам быў юны Аменхатэп IV. Ён назіраў за ўсім, што адбывалася, з вышыні, разам са жрацамі. А жрацы, быццам наўмысна, не выпускалі Асірыса. Я стаяла, укленчыўшы на гарачым пяску. І колкія гарачыя пясчынкі праз гэтую вось танюткую белую сукенку апякалі мае калені, мае ногі. І сонца сляпіла вочы. Пякло нясцерпна. Я зірнула ўверх. Малады Аменхатэп стаяў між жрацоў, якраз на фоне сонечнага дыска і ягоны сілуэт, чорны, рэзкі, сапраўды нагадваў сілуэт сокала Гора. Ён быў без вока. Ён даўно аддаў сваё вока. Каб вызваліць свайго бацьку Асірыса. Каб высушыць мае слёзы... Каб зямля адрадзілася ад зімовага сну... Чорны птушыны сілуэт на фоне пякучага, нясцерпна пякучага сонца... Гэта апошняе, што я памятаю. Страціла прытомнасць. Мая служанка, мая верная служанка потым расказала мне, што Аменхатэп III вырваўся з рук жрацоў, схапіў мяне на рукі і панёс у цень... Я памятаю ягоныя моцныя цёплыя рукі, так бацька калісьці люляў мяне... І яшчэ памятаю прахалоду, паўзмрок храма, зараснікі папіруса, зорнае неба над галавой, смак дажджу... Потым я зразумела, што гэта не папірус, а калоны, і неба не сапраўднае, намаляванае. А ваду ліе на мяне мая служанка... І толькі рукі. Ягоныя моцныя рукі былі праўдай. Ведаеш, што ён сказаў мне тады? «Ты лёгкая, як пёрка...» Як пёрка...

— Археолагі расказвалі мне, — перабіла я споведзь царыцы, — што ў Старажытным Егіпце верылі ў тое, што пасля смерці Анубіс, бог падземнага царства, узважвае чалавечую душу. Каб лічыцца бязгрэшным, трэба, каб яна, душа, была лягчэйшаю за пёрка. Анубіса так і малявалі, з шалямі ў руках. На адной чашы — душа, а на другой — пёрка...

— Аменхатэп III пасля смерці не набыў вечнага жыцця. Ягоная душа пераважыла пёрка, — задумліва прамовіла Неферціці. — Ён шмат грашыў. Ён быў воін. Ён забіваў. Ён вымушаны быў забіваць. Але ў яго былі такія моцныя і пяшчотныя рукі...

— А ягоны сын, Аменхатэп IV? — спыталася я. — Цябе ж усе ведаюць як ягоную жонку.

— Аменхатэп IV быў зусім іншы... Ён менш ваяваў, менш забіваў. Але ён зняверчыў, растаптаў маю душу... І я, хоць нарадзіла яму дачок, выхоўваю зяця, наўрад ці змагу дараваць яму ...

Неферціці ўзняла галаву. І я пазнала, цяпер вось зусім пазнала яе профіль, высакародны профіль царыцы...

— Але ж у гісторыі вы з Аменхатэпам IV засталіся адною з самых гарманічных пар. Кажуць, што ў многім і дзякуючы табе, Неферціці, фараон Аменхатэп IV увайшоў у гісторыю ...

— Ён закахаўся ў мяне з першага погляду... А можа, гэта мне толькі падалося...Яго не пускалі на піры, і ён цішком падглядаў за тым, як я танцую... Я гэта ведала. Гэта ён першы сказаў мне, што мае танцы нясуць прахалоду...Ён быў чуйным тады. А на тым свяце, калі мяне апаліла сонца, ён, як і я, страціў прытомнасць. І назаўжды затаіў крыўду на жрацоў... Потым, калі пасля смерці бацькі Аменхатэп IV стаў паўнаўладным уладаром, ён раздарыў свой гарэм і пакінуў сабе толькі мяне. Ён казаў, што я даю яму прахалоду, раблю ўпэўненым, натхняю на вялікія справы. Я дапамагала яму ва ўсім. А ў гарачыя, душныя ночы мы ўзляталі і патаналі адно ў адным, мы блукалі ў глыбінях кахання. Мой фараон здолеў здзейсніць найвялікшыя пераўтварэнні. Ён аддаліў жрацоў і наблізіў да нас Сонца. Сам наблізіўся да яго. І яно наблізілася да нас. Цяпер, каб дазнацца волю нябёсаў, можна наўпрост звяртацца да Сонца. Ён стаў Эхнатонам. А я Неферт-Неферт-Атон. Мы пераехалі ў новы горад. Мы пачалі новае жыццё. Эхнатон не быў такім моцным, як ягоны бацька. Але ў яго была воля. І мне было прыемна падначальвацца ёй, гэтай волі.У нас нарадзілася дзве дачкі. А Эхнатон хацеў сына. Але не ў тым была трагедыя. У адну з начэй я зразумела, што яму не трэба ні майго цяпла, ні маёй прахалоды. У яго з'явілася Кія. Смуглявая, скуластая, нахабная. Яна ўмела глядзець так зняважліва, што хацелася збегчы куды падалей. І я пачала наведваць майстэрню юнага скульптара Тутмаса. Яму Эхнатон даручыў выбіць з каменя нашыя партрэты. І там, у ахутаным дрыготкімі ценямі вогненных бліказў змрочным падвале, я моўчкі назірала, як пяшчотна кранае ён мой лоб, мае шчокі, вусны... І разумела, што ніхто ніколі не ахіне мяне гэткім цяплом і пяшчотай... Мы практычна не гаварылі, нават вачыма не сустракаліся. Але аднойчы Тутмас

так зірнуў на мяне... У ягоных цёмных вачах было столькі шчасця і столькі роспачы... І я ў тое адно-адзінае імгненне зразумела, што ён ведае пра ўсё, пра мой боль, пра Эхнатона, Кію. І я аддалася таму ягонаму гарачаму, палкаму позірку. Мне падалося, што, калі я не адвяду вачэй, то зменшу ягоную роспач. І хоць на імгненне зраблю яго шчаслівым. І мы ўзляцім, туды, да зораў. Я ўсхапілася, узяла і сціснула ягоную руку. Але ён зараз жа адвёў вочы, і я адчула... Я адчула, што ён... не, нават не сумеўся. Ён не ведае, што яму рабіць. Ён хоча вызваліцца ад маіх рук. Ад майго поціску. Ад майго цяпла. І маёй прахалоды...

Больш я не прыходзіла да Тутмаса. І не бачыла, што ён там зрабіў. Мае партрэты нікому не патрэбныя. Мяне выселілі сюды, выхоўваць дачок і будучага фараона Тутанхамона. У ягоным імені — знак жыцця, вечнага жыцця і знак Сонца... Тут-анх-амон...

...Дым і вада захлынулі яе і мае ўспаміны...»

# ЗАГАДКА ЛЕАНАРДА

## Дыялог праз люстэрка

— І бачу я: дрэвы і кусты вялікіх лясоў ператворацца ў попел... Дрэвы і кусты вялікіх лясоў ператворацца ў попел...

Колькі разоў трэба паўтарыць гэтую загадку, каб нарэшце наяве ўбачыць: дрэвы — гэта дровы. Дрэвы-дровы... Па-беларуску ўсяго адна літара. Леанарда ад гэтае слоўнае фантасмагоніі прыйшоў бы ў захапленне і абавязкова вывучыў беларускую мову. Мову,у якой ёсць гэткі просты таемны код да разгадкі. Ён абавязкова вывучыў бы беларускую мову, якая па меладычнасці не саступае яго роднай італьянскай.

Дрэвы-дровы... Адна літара і вялікае, глабальнае, касмічнае (ахопленыя полымем дрэвы так убачыш хіба што з касмічнай вышыні) ператвараецца ў малое, мізэрнае — у попел, які можна ўзяць на далонь, дзьмухнуць — і ён разляціцца, ператворыцца ў нішто.

Хтосьці, назіраючы за пульсуючымі мігатлівымі вугельчыкамі ў печы, бачыць у аксамітным паўзмроку яе ўлоння зорнае неба, Космас. А нехта, гледзячы туды, як Леанарда, усведамляе, што там, у печы, дагараюць лес, дрэвы, кусты вялікіх лясоў... Дрэвы—дровы. Усяго адна літара... І — глабальнае пераўтварэнне.

...З гэтымі думкамі я падышла да люстэрка. Яшчэ мокрыя ад дажджу мае валасы цяпер кучаравіліся яшчэ мацней, чым зранку. Цяпер зразумела, чаму сёння адзін з вучняў, калі я паказвала «Мону Лізу», спытаў: «А Вам ніхто не казаў, што Вы да шаленства падобная да Моны Лізы, да Джаконды?»

«Не... Вы будзеце першы», — разгубілася я. І гэтая разгубленасць дасюль рэхам стыне ў маіх вачах...

А што, калі гэтыя мае кучарашкі прымацаваць як бараду. Вось так... Вадаспадам...

У паўзмроку з залюстроўя на мяне раптам зірнула ўжо не Джаконда, на мяне зірнуў сам Леанарда. Не разгубленасць, ніякаватасць, а лёгкая іронія іскрылася ў ягоных зрэнках. Чыста мужчынскі рацыяналізм і скепсіс... Розум аналізуе. Душа сінтэзуе. Вобраз нараджаецца не ў галаве, у сэрцы. І душаператварае яго ў рэальнасць, акрыляе яго...

Якія дзіўныя бываюць супадзенні. Той мой вучань, які ўбачыў ува мне Джаконду, можа, на сёння адзін з самых таленавітых на Беларусі юных скульптараў, цяпер, у нашым стагоддзі, амаль дакладна паўтарае лёс Леанарда. Яго, як і калісьці геніяльнага Леанарда, кінула маці. І ён не ведае, дзе зараз яна блукае. І ці блукае ўвогуле...

Адзін з даследчыкаў творчасці Леанарда знайшоў запіску, дзе была ўсяго адна фраза: «Сёння памерла Кацярына». Лічыцца, што гэта ён пра маці, сваю маці, якую не бачыў шмат гадоў. Эпоха Адраджэння, якая падарыла свету ўзоры бездакорнага ўзнёслага гуманізму, наяве была і жорсткаю, і крываваю.

— Чалавек прагне дасканаласці, гармоніі, сіметрыі і паўнаты. Дзяўчынка з самага нараджэння бачыць свой люстэркавы адбітак, сваё адлюстраванне ў бацьку, бачыць, якою б яна была, каб нарадзілася мужчынам. А хлапчук — у маці...Я не памятаю, амаль зусім не памятаю сваю маці... Таму маё жыццё—вечнае блуканне ў залюстроўі. У пошуках майго другога «я», у пошуках мамы, жанчыны, якая б магла ўвабраць у сябе маю беспрытульную душу.

Калісьці я ўжо чула гэты голас. І гэтае перарывістае дыханне... Так гаворыць мой вучань, той, які сказаў, што я падобная да Джаконды...

— Я быў вельмі паслухмяны, паверце, я быў самым паслухмяны з усіх маіх братоў і сясцёр . Адзінае... Надта не любіў есці тварог... І мама, мая мама будавала мне з тварагу замкі... А потым яна пайшла і не вярнулася...

Я глядзела ў ягоныя вочы. Сумныя, самотныя зеленаватыя вочы... Цяпер я разумела — гэта былі вочы Леанарда. А ў памяць наплывалі новыя загадкі, якія сама сёння загадвала вучням. І якія так хутка разгадваў той мой вучань. І новыя, яшчэ нідзе не зафіксаваныя...

...І бачу я, як вадзяныя жывёлы паміраюць у кіпені...

— Чаму ўсе Вашыя загадкі нагадваюць сцэны Страшнага суда? — спыталася я ў Леанарда.

— Які Страшны суд? — ён не ўсміхнуўся, пасміхнуўся мне з Залюстроўя... — Гэта ж рыба. Вы што, ніколі не варылі з яе, як там павашаму... юшку?

— Як проста...

— Усё складанае наяве проста. Толькі трэба дакладна ведаць, з якога боку да яго падступіцца...

— Вы, Леанарда, пэўна, таму так шмат паспелі ў жыцці. Паспелі, таму што ведалі, як складанае ператварыць у простае, а ў про-

стым угледзець цэлы космас, сусвет... Усе Вашыя творы — гэта сама...

— Недасканаласць. Вы хацелі сказаць дасканаласць, але ўсе мае творы — сама недасканаласць. І мелі рацыю тыя, хто здзекаваўся з мяне, смяяўся.

— Гэта, пэўна, былі вельмі недалёкія, тупыя людзі.

— Ды не...Сярод тых, хто смяяўся з мяне, былі нават геніі.

Леанарда адвёў, апусціў вочы. Адышоў убок. І скрозь люстэркавую смугу я ўбачыла вуліцу... На лавачцы сядзелі, нешта абмяркоўвалі некалькі маладых італьянцаў. Па іхнім адзенні я здагадалася, што яны жывуць у эпоху Леанарда. Прыслухалася.

— ...Так казаў Дантэ... Але што гэта значыць...

— Спытаемся ў Леанарда. Вунь ён кіруе сюды ад царквы Санта-Трыніта.

Лёгкаю хадою той якраз праходзіў паўз іх. Ад просьбы сумеўся, разгубіўся. Але тут з ім параўняўся і, злёгку кіўнуўшы, пайшоў далей не хто іншы як Мікеланджэла. Леанарда з хваляваннем гукнуў яго:

— Можа, ты патлумачыш гэтым людзям адзін урывак з Дантэ?

Мікеланджэла рэзка павярнуўся і груба кінуў:

— Не-не. Растлумач лепш ты, ты, які зрабіў праект бронзавага каня. Але не змог адліць яго і, да сораму свайго, пакінуў яго недаробленым.

Леанарда пачырванеў. Мікеланджэла ж кінуў яму здаля:

— І гэтыя тупагаловыя міланцы маглі паверыць табе!

Леанарда, счырванелы, разгублены, падняў на мяне свае вочы. Я ўсё зразумела і паспрабавала суцешыць яго:

— Не трэба, не трэба нічога тлумачыць.. Гісторыя ўсё расставіць на свае месцы. Я ведаю, шаноўны, дарагі Леанарда, чытала пра тое, як усё сталася. У ваш час, як, зрэшты, і сёння, мастакі не маглі абысціся без багатых заказчыкаў. А фларэнтыйскія банкіры Медычы любілі надуманыя творы і занадта вытанчаную, далёкую ад рэальнасці манеру. Не для Вас. І Вы вырашылі перабрацца з Фларэнцыі ў Мілан, дзе цараваў герцаг Ладавіка Мора, які даў Вам магчымасць выявіць сябе ва ўсім.

— Перш чым паехаць у Мілан, — усміхнуўся з залюстроўя Леанарда, — я напісаў герцагу ліст, у якім падрабязна пералічыў усё, што ўмею... І найперш тое, што датычыць ваенных вынаходніцтваў. Усе ўладары ў наш час любілі ваяваць. «Я ведаю спосаб рабіць надзвычай лёгкія масты, — пісаў я, — якія да таго ж лёгка пераносіць, і іх можна выкарыстоўваць для праследу ворага і для ўцёкаў ад яго». А пра свае мастацкія здольнасці толькі ў канцы: «У мірны час я спадзяюся вытрымаць спаборніцтва з кожным у архітэктуры, у пабудове дамоў... Я таксама бяруся ў скульптуры, у мармуры, бронзе або гліне, як і ў жывапісе, выканаць усё, што магчыма, не горш за кожнага, хто жадае памерыцца са мною». Але для багатых людзей нашага часу важней былі ваенныя вынаходніцтвы...

— І Вы прыдумалі танк, падводную лодку, парашут...

— Людзям у будучыні давялося усё вынаходзіць і называць нанава... Але для мяне гэта былі вымушаныя вынаходніцтвы. Я іх рабіў дзеля таго, каб мець магчымасць займацца мастацтвам...Кожная краіна мусіць мець моцную армію, каб пад яе ахovаю мастакі і паэты маглі спакойна ствараць шэдэўры. І мне давялося выстройваць сваю лінію абароны.

— Але ж Вы, як пішуць, афармлялі святы, рабіла эскізы касцюмаў і зброі, чыталі герцагу і ягоным гасцям байкі, ігралі на розных музычных інструментах...

— Самае цудоўнае, што я паспеў зрабіць у Мілане, гэта канструкцыя, якую я прыдумаў, каб увасобіць рай. Рухаліся па коле планеты, мігцелі зоркі, потым з'яўляліся знакі Задыяка . Калі акцёры пачыналі чытаць вершы, здавалася, яны вымаўляюць словы неба, словы самога Бога...

Леанарда зірнуў мне проста ў вочы. І ягоны позірк, падалося, апёк маю душу. І праз люстэрка апёк. Але я, імгненне змоўчаўшы, працягвала:

— А яшчэ ў Мілане Вы напісалі партрэт каханай герцага Мора Цэцыліі Галярані. А потым пачалі працаваць над помнікам у гонар яго бацькі Франчэска Сфорца, тым самым конным манументам, з якога так жорстка пакпіў Мікеланджэла. Мы можам меркаваць пра веліч Вашай задумы толькі паводле малюнкаў і невялікай групы з бронзы. Калі на пачатку XVI стагоддзя пачалося французскае нашэсце, салдаты Людовіка XII стралялі па глінянай мадэлі помніка як па мішэні. Вы тады з'ехалі з Мілана... І, дзіўна, не затаілі крыўды на французаў. Больш таго, свае апошнія дні пражылі пры двары французскага караля Францыска І.

— Я шукаў, дзе мяне зразумеюць... Цяпер магу сам сабе прызнацца. Я быў вельмі, страшэнна няўпэўнены ў сабе чалавек. І я прывык , звыкся з няўдачамі... Але тады я з'ехаў з Мілана ў Фларэнцыю, каб там напісаць ці не самы дарагі для мяне твор. Я яго не аддаў заказчыку. Я з ім не развітваўся да самай смерці. Там, у Мілане, я сустрэў...

Я чакала, што Леанарда назаве імя, але ён задумаўся і замоўк. Давялося працягваць самой:

— Вы сустрэлі Мону Лізу дзі Антоніа дзі Кольдзі Герадзіні, жонку фларэнтыйскага купца Франчэска дэль Джаконда? Або знатную неапалітанку Канстанцыю д'Авалас? Навукоўцы дасюль ніяк не вызначацца ...

— Няхай гэта застанецца таямніцай. Мона Ліза, дык Мона Ліза... Ёй было 24, мне 42...

— Вы, праўда, тры гады пісалі яго, гэты партрэт?

— Так, і скончыў у 1503 годзе...

— Паўтысячагоддзя прайшло...

— І вось мы зноў сустрэліся,— сказаў Леанарда і неяк сумна ўсміхнуўся,— Цяпер не ў рэальнасці. Праз люстэрка часу... Я сам вынайшаў гэтае люстэрка. І вось з'явіліся Вы, жанчына з будучыні. Толькі я не буду пісаць Ваш партрэт. Лепш, чым «Джаконда», я ўжо ніколі нічога не напішу...

— Вашыя сучаснікі сведчаць, што, калі яна Вам пазіравала, Вы запрашалі і музыкаў, спевакоў з лірамі, і блазнаў, каб развесяліць яе, зняць з твару меланхолію...

— І яшчэ я чытаў ёй свае вершы...

— Вершы? Вы пісалі вершы? Мы ведаем, што вершы пісалі Мікеланджэла, Рафаэль. Але Вы... Трактаты, загадкі, байкі... гэта вядома. А дзе ж яны, Вашыя вершы зніклі ?

— Я іх не запісваў. Толькі чытаў. Для яе. Потым усё ж вырашыў перапісаць не простым шрыфтам, а люстэркавым. Так, каб іх можна было прачытаць толькі з дапамогай люстэрка. Падарыў ёй. А яна, напэўна ж, схавала, а можа, і выкінула тыя паперкі. Каб муж не заўважыў... Але яны, тыя вершы, я ў гэтым упэўнены, засталіся ў яе чароўнай таямнічай усмешцы. Яны пульсуюць у яе жывых вачах...

Ты космас майго залюстроўя,
Маё у табе адкрыццё.
Адною усмешкай таемнай
Ты мне вяртаеш жыццё.

І крылы я зноў адчуваю,
Як птушка у неба імкну.
Я веру, што там адшукаю
Ключы. І наш рай адамкну...

— А на зямлі ўсё іначай, — міжволі прамовіла я:

Банкіры, купцы, каралі.
І хмаркі у лужынах гразнуць,
Як толькі кранучца зямлі...

— Вось-вось... Тады ў ёй я убачыў самога сябе... Як у люстэрку... І каб я быў птушкай, я б навучыў яе лётаць...І мы б узляцелі. І мы б адляцелі туды, дзе пануе найвышэйшая гармонія А так... Мы проста раставалі адно ў адным...Ці гэта мне толькі здавалася...

Леанарда падняў руку і дакрануўся да шкла. Я міжволі зрабіла тое ж . І мая далонь бяссільна слізганула па люстэрку...

— Птушцы, якая ляціць супроць ветра і хоча сесці на высокім месцы, неабходна ляцець вышэй гэтага месца, а потым павярнуцца назад і без узмахаў крыламі апусціцца на вызначанае месца...

— Я занадта важкая, каб узляцець...

— Душы не маюць вагі...

# РАДЭНАВА ВАКХАНКА

## Гліняны аскепак Парыжа

Паўнагучча і паўза,
Трапяткое маўчанне,
Калі словы бяссільныя
І пульсуе жаданне...

Я доўга блукала па Парыжы ў пошуках старой брукаванкі. Мне хацелася прайсціся не па сучасных плітках ці асфальце, а менавіта па брукаванцы. Як адчувала. Шукала старое, з'езджанае, стаптанае каменне, каб спатыкнуцца, упасці, пабіць, параніць калена, парваць новую шаўковую спадніцу, у якой увечары збіралася танцаваць развітальнае танга, і параніць калена, ды не чым-небудзь, а гліняным аскепкам, які немаведама як ушчаміўся ў брук. Я выцягнула яго, акрываўлены, са спрасаванага часам пылу, і вырашыла ўзяць на памяць. Паклала на далонь і аглухла ад цішыні. Яшчэ некалькі імгненняў назад вушы закладала ад звыклага гарадскога шуму, а цяпер — ад цішыні. Зелянелі каштаны, трава прабівалася скрозь брук. І мне здавалася, што я чую, як яна прарастае. Недзе далёка-далёка гучала надрыўная мелодыя вечаровага танга, якое, аздабляючы музыку арэхавым французскім «г», выводзіў незнаёмы палкі мужчынскі голас. Мне хацелася пайсці на яго, гэты голас, але я разумела, што не магу, што мушу чакаць кагосьці, тут, у гэтай глухой цішыні, ля гэтай старой майстэрні, дзе калісьці працаваў сам Радэн.

Рыпнулі дзверы. Я ўвайшла. І толькі тут зразумела, чаму так ціха. Радэн забраў адсюль усе свае творы. І адсюль забраў усе свае творы...І гэтая майстэрня цяпер будзе як помнік, магільня аднаго-адзінага ягонага тварэння, якое загінула тут, на гэтай брукаванцы. Я цяпер разумею, што разам з тым тварэннем, палкаю глінянаю «Вакханкай» загінула і нашае з ім каханне. Нашае з ім. Чаму я так падумала? Няўжо зноў заблукала ў часе? І гэты акрываўлены гліняны аскепак ператварыў мяне ў Мары-Роз Бёрэ? Знойдзеную і кінутую Радэнам Мары-Роз? Роза, агучаная святлом рознакаляровых шкельцаў, вітражовая ружа, а ў ёй — вобраз вечнай пакутніцы Марыі. Яна нарадзіла свайго сына на пакуты... На пакуты...

А як лёгка крочыла яна, я, па гэтай брукаванцы, калі мы сустрэліся ўпершыню. Тады Радэн працаваў у іншай майстэрні, да яе адсюль недалёка. Але сустрэліся мы тут. Пэўна, яго ўразіла мая фігура, мае валасы, мой сілуэт. Ён кепска бачыў, і каб разгледзець жанчыну, яму проста неабходна было яе абдымаць, лашчыць доўга, упарта, як гліну. Усе жанчыны, якіх ён знаў пасля мяне, чакалі ад яго разумення, падтрымкі, хацелі, каб ён выслухаў іх, дапамог хоць чым-небудзь. А ў яго жывымі, чуйнымі былі толькі рукі, далоні, пальцы. Гэта і была ягоная душа. І да мяне ён дакранаўся сваёю душою. Тады, даўно, пасля першай нашай сустрэчы.

Ён марыў вучыцца, але акадэмікі яго не прызналі. Такіх непрызнаных тады было шмат у Парыжы. І ўсе яны ведалі мяне, таму што

мяне ляпіў Радэн. Словы не могуць перадаць таго, што здольнае сказаць цела. Я была вельмі, занадта сціплай, я зусім не ўмела гаварыць і рухалася, як падлетак... Але, калі Радэн глядзеў на мяне, кранаў мяне сваімі рукамі, цела, маё цела, я сама не ведала, што з ім адбывалася. Гэта быў сапраўдны танец агню, гэта было неўтаймоўнае полымя! Мае рудаватыя, сонечныя валасы ператвараліся ў іскры, а рукі, мае рукі, пальцы спляталіся ўвышыні... Я танцавала без музыкі. Я сама пераўтваралася ў музыку . І ён зляпіў, сама не веру, але ён узяў вільготную, мяккую гліну і зляпіў гэты мой танец, маю музыку... І ў той скульптуры, у той вогненнай Вакханцы, жыў, пульсаваў кожны дотык ягоных пальцаў. Не паверыце, гліна дыхала. І Манэ, і Дэга былі ў захапленні. Яны паабяцалі, што гэтая скульптура будзе абавязкова экспанавацца на выстаўцы, і што яна будзе мець шалёны поспех.

Радэн быў шчаслівы, упершыню за ўсё сваё жыццё ён адчуваў сябе абсалютна шчаслівым. Ён быў прызнаны, і я, нічога не патрабуючы, была побач. І ў нас мусіла нарадзіцца дзіця. Тады я ўпершыню адчула, што жаночае цела, па-сутнасці, проста прыгожая пасудзіна, якая хавае ў сабе жывую мужчынскую плоць і можа выносіць, нарадзіць дзіця. Я выношвала нашага сына, а мой танец агню застаўся Вакханцы. Яна забрала маю душу, дакладней, Радэн перадаў ёй маю душу і голас майго цела. Потым, калі ягоныя жанчыны прыходзілі да мяне высвятляць адносіны, я спрабавала растлумачыць ім, што Радэн ад іх вяртаецца да мяне не таму, што я яго трымаю, а таму што ён у кожнай з іх забірае душу, голас цела і перадае іх мармуру, гіпсу, бронзе, ён любіць, кахае тыя свае тварэнні значна больш за жывых жанчын, але яны не верылі мне. Кожная думала, што здолее стаць для яго адзінай.

А я ні на што не спадзявалася. Ні цяпер, ні тады, калі мая душа і мой голас засталіся Вакханцы. Яна стаяла ў кутку, ля дзвярэй, ахутаная лёгкім вільготным покрывам, а я сядзела ля акна і прыслухоўвалася да свайго, нашага з Радэнам яшчэ не народжанага сына. Мы абедзве чакалі Радэна. Цёмна-блакітны, сіні, потым ліловы паўзмрок наталяў смагу восеньскім сутоннем. Змяркалася. А Радэна ўсё не было. Я ў адрозненне ад Вакханкі была жывою. Я мела асалоду задрамаць. І я задрамала. А калі прахапілася, сын з сярэдзіны пабудзіў мяне, на стале трымцела, разганяючы вакол святло і даўгія блытаныя цені, свечка.

Радэн вярнууся. Але ён нават не падышоў да мяне. Да нас з сынам. Ён разгарнуў сваю гліняную Вакханку, укленчыў перад ёю і нешта шаптаў, шаптаў, быццам вар'ят, кранаў яе рукі, выгнуты ў палымяным парыванні стан, цалаваў калені, ён мроіў ёю.

А назаўтра высветлілася, што сябры знайшлі яму вось гэтую, новую, больш прасторную майстэрню. І трэба тэрмінова пераязджаць. І Манэ з Дэга прыйшлі, каб дапамагчы перавозіць наш няхітры скарб. Спачатку, упрогшыся, як коні ў воз, яны перавезлі ўсе рэчы і інструменты. Я засталася тут гатаваць ім вячэру. А яны паехалі забіраць Вакханку. Цяпер можна прызнацца, калі тады я засталася

ў новай майстэрні, вось тут, у гэтай майстэрні, нарэшце адчула сябе свабоднай, вольнай. Я нават спяваць пачала, прытанцоўвала, збіраючы на стол. І толькі, калі паставіла і пералічыла талеркі, раптам зразумела, што чакаю не толькі мужчын, але і Вакханку, што і ёй паставіла талерку. І трывога ахапіла мяне, спаралізавала. Я спужалася, мне стала страшна зноў пусціць гэтую жанчыну ў наш дом. Гэтая майстэрня тады была нашым домам. У роспачы я схапіла талерку і бразнула аб падлогу. На дробныя друзачкі. Потым кінулася хутчэй замятаць. Выйшла на вуліцу высыпаць друз. Яны якраз пад'язджалі. Як рабы, цягнулі гліняную мадам, што разлеглася на возе. Манэ памахаў мне рукою. І ў тое ж імгненне кола трапіла на камень, вазок нахіліўся і захутаная ў сваё шэра-блакітнае покрыва Вакханка саслізнула на брук... Разляцелася на кавалкі. Я думала, Радэн не перажыве. Мне было вельмі шкада яго. Я ж усё жыццё кахала яго і таму міжволі імгнення ўспрымала ягоны боль. Але нічога не магла з сабою зрабіць, разам з болем прыйшла палёгка. Мая душа вярнулася ў цела, і цела зноў набыло голас.

Не, Радэн больш ніколі не любіў, не кахаў мяне так, як тады, калі ляпіў сваю, нашу Вакханку. Але ад усіх сваіх жанчын ён абавязкова вяртаўся да мяне, бо ўва мне пульсавала душа, і рэхам, у жэстах, рухах, паглядзе гучаў голас Вакханкі.

Я цяпер думаю, што Каміле Кладэль, якая звар'яцела ад кахання да Радэна, дастаткова было пабіць усе свае выявы, усе тыя «Пацалункі», у якія Радэн ператварыў яе цела. Але, на жаль, мармур б'ецца не так лёгка, як гліна. І да таго ж, амбітная Каміла ніколі б не магла ўявіць сваё цела простай пасудзінай, хай сабе звышдасканалай, жывой, але толькі пасудзінай для Радэнавых пачуццяў, думак, ідэй. Нават калі ён забраў голас у яе цела, яна пакінула за сабой права мець свае думкі, пачуцці, свой лёс. Яна спрабавала гаварыць з Радэнам праз свае творы. Але не ведала, што ён, як большасць мужчын, не бачыць і не чуе таго, што гаворыць, што прагне сказаць жанчына...

Як добра, што ад той Вакханкі застаўся ўсяго гэты аскепак, востры, акрываўлены, але бяздушны, безгалосы, нямы...

Лепш аглухнуць ад цішыні, чым ад адчаю. Дзе там той прыемны мужчынскі голас з арэхавым «г»? Я пайду на яго, на гэты голас. Босая, па брукаванцы. А раптам — гэта Радэн?







## ЗМІЦЕР АРЦЮХ

*Зміцер Арцюх нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Рутка Навагрудскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны каледж імя Максіма Танка і факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працуе рэдактарам у Агенцтве тэлевізійных навін Першага нацыянальнага тэлеканала. Друкаваўся ў часопісах «Першацвет», «Алеся», «Маладосць», калектыўным зборніку «Літаратурны квартал».*

# «МЫ ЗНОЙДЗЕМ ТАЕМНУЮ ІСНАСЦЬ...»

* * *

Святло гасіць...
Запальваць...
І гасіць,
І не пісаць ні слова...
Немагчыма
Цябе ў прыемным сораме забыць.
За твой пагляд пяшчотнасці
Вачыма
Твае калені, рукі цалаваць —
І паляцець з табою,
І забыцца.
Святло гасіць...
Запальваць...
Засынаць.
Нам будуць сны аднолькавыя сніцца.

* * *

Акно напалохана раніцай.
Твой вобраз ізноў усміхаецца...
Так я прачынаюся стомлены,
Знікаю з павольнымі промнямі
Туды, дзе аблокі цалуюцца,
Дзе Ты на знаёмай нам вуліцы
Чакаеш пагляду пяшчотнага.

Адключыш на вечар свой сотавы.
Цябе не пазнае кавярніца*.
Нам нашыя вобразы з'явяцца.

## МОЙ ЛАБІРЫНТ

Ты жывеш у маім лабірынце.
Я сябе ў лабірынце згублю.
Закаханым зраблюся там прынцам
І нясмела прамоўлю: «Люблю!»

Лабірынт наварожыць нам поўню.
Чарадзейства — усмешка Твая —
Сэрцы гукамі флейты напоўніць.
Будзем з поўняй лунаць — Ты і я.

## АФІША З МІНУЛАГА

А на паперы больш ніхто не піша.
Яе з часоў мінулых не прывозяць.
Апошні ліст — забытая афіша —
Сваё жыццё шукае, не знаходзіць.

Імчацца зоркалёты. І бяздумна
Афішу вецер зрэдку пацалуе.
Ёй на планеце бездухоўнай сумна.
Планета не кахае, а ваюе.

* * *

На снезе сляды курапатак —
Застылыя слёзы вясны.
Мы прыйдзем з Табою дахаты.
Напоўняцца радасцю сны.

Мы знойдзем таемную існасць,
Забудзем вядзьмарку-зіму.
З пляча Твайго змерзлую сціпласць
Я вуснамі моўчкі зніму...

* * *

Ты з нябёсаў сыдзеш на зямлю —
Цеплынёй пазначыцца чаканне.
Я Табе ў далоні пералью
Навальніцу нашага кахання.

---

* Кавярніца – я прапаную гэтае слова замест "барменша", "афіцыянтка".

Халадэча знікне. І тады
Назаўсёды буду я з табою.
Нам з-за хмараў месяц малады
Наваружыць зорнага спакою.

* * *

На лірычна-сцюдзёным акне
Я спрабую Табе напісаць,
Як самотна і холадна мне
Адзінокае неба чытаць.

Я заўсёды з марозам на «ты»,
Каб Цябе кожны вечар чакаць,
Не знікаць без Цябе ў нікуды,
Не знікаць — з адзінотай блукаць.

Адзінотай заменіцца сінь,
Што пакінулі вочы Твае,
І не будзе класічных вяргінь
На лірычна-сцюдзёным акне.

* * *

Па праспекце Скарыны шматлюдным
Мы ішлі, запаволіўшы крокі.
І спявала душа, быццам лютня;
Уздымалася цела ў аблокі.

І анёл — вечна Боская птушка —
Нашы рукі вучыў цалавацца.
Ён нябеснай сцяжынкаю вузкай
Вёў туды, дзе павінны застацца.

* * *

Правяраюць холадам каханне?..
Ледзяны касцёр я запалю.
Будзем грэцца. Вогнішчам змяркання
Цётка Праўда прыйдзе на зямлю.

Прывітаем. Песняй запытання
Мы аблокі ў жменю сабяром.
— Там, дзе холад, — там няма кахання,
Бо каханне створана цяплом.

* * *

А снег перастане сыпаць,

Паклічаш мяне, каб знікнуць
У дождж са ста тысяч жмень.

Яго пры сабе трымаюць
Аблокі — карнізы дня.
Па просьбе тваёй — кідаюць,
І зноў падымаюць з дна.

А потым нясуць паэтам,
Якія ствараюць свет...
Засну. Ты накрыеш пледам
Не створаны мной санет.

## SERVUS — REGINAE*

Не призывай. И без призыва
Приду во храм.

*А. Блок*

Самотай поўніцца чаканне.
Табе пішу:
«Давай прыдумаем каханне.
Я не хлушу.

Я буду раб табе, царыца, —
Слуга. Паэт.
Я ж у тваіх руках — сініца,
А ты — мой свет.

З табой хачу дзяліць паветра —
Жыцця прастор,
З табою буду цёплым ветрам
Ляцець да зор».

* * *

Акуляры... Халодныя ночы.
Акуляры... Халодныя дні.
Восень зноў мне цалуе вочы
І знікае ў тваім агні.

Па бязлюдным праспекце крочу,
Даганяю, прашу: падмані!
Будзь са мной бесклапотнаю.
Моўчкі
Я загіну ў тваім агні.

## МАРЫ

*Ірыне Дарафеевай*

Рамонкі-дзённікі чытаць,
Складаць сваё жыццё нанова...

* Servus – reginae (лац.) – слуга – царыцы.

Хачу твой позірк адчуваць,
Шукаць нясказанае слова.

Хачу ключы раскідаць зноў,
Знайсці сакрэт твайго натхнення...
Валодаць моваю багоў —
Лянотнай мовай летуцення.

Хачу зіме намаляваць
Мільёны каляровых шапак,
Цябе, Ірына, пакахаць,
Будзённасць сціснуўшы ў ахапак.

* * *

Вясна засынала на кветках,
Фіранкі злятталі з акна,
І поўня ў стаптаных танкетках
Збірала аблокі адна,

Зашторыла зорнае поле,
Прамовіла сціпла: «Антракт...» —
Пусціла аблокі на волю,
Каб з імі мы танчылі ў такт.





**МІХАСЬ КЛЕБАНОВІЧ**

# ДВА АПАВЯДАННІ

## ПАПЯРОЧНАЯ ФЛЕЙТА

Хто знаў яго даўней, яшчэ да новай Элы, яшчэ з нязменнай флейтай, той цяпер сустрэўшыся, бадай, што размінуўся б. Ну пастарэў, вядома: і грыва прачасаная да празрыстасці, ужо і пад вачыма скамячыліся прасохлыя бурдзюкі былое весялосці, ужо і ад носа да сківіцаў праскароджаны дзве глыбокія баразны, ужо і бровы засвяціліся сіўцом, але ўсё ж у яго аблічча, паставе з'явілася нешта шляхетнае, гжэчнае. Мо спрыялі гэтаму старасвецкія рудыя бакенбарды, тоненькі шлячок вусоў ды добра падагнаны гарнітур. Нават і тут, на кухні, ён быў пры гальштуку, праўда, падпераазаны жаночым фартухом. Ён чакаў госця, дарагога госця, самага дарагога. Жонка, грамадзянская жонка, правільна зрабіла, што не кінулася яму дапамагаць і далікатна сышла з дому: той помачы ён бы не стрываў — сумесная гатоўля скончылася б грукатам посуду і вакальным фарцісіма. Ледзь не з першых дзён, як яны пабраліся (дакладней, новая Эла прыбрала яго), ён пачаў гатаваць сабе сам: не мог ён есці тыя прысмакі, якія яна прыносіла са стала заказаў.

— Я панскія падачкі есці не буду, — заявіў ён цвёрда. І не еў, выплёўваў, калі яму здавалася, што ў яго страву яна падмяшала чаго-небудзь свайго. Эла працавала ў партархіве, і хоць невялікая была наменклатура, але нейкія льготы мела, а гэта яго раздражняла.

Словам, памяняўся чалавек. Яго прыяцелі неяк адзін за адным адхінуліся ад яго, а самы верны напомніў: «зануда».

Першы раз яго папікнуў так мужчына ў трамваі, над чым яны з Ромікам потым смачна рагаталі. Ехалі тады, калі памяць не змяняе, недзе ля парку Горкага, сцішана гаманілі, адале пачулі ля сябе просьбу жанчыны:

— У каго лішні білецік?

Вядома, у пасажыраў пазакладала вушы, усе яны як па камандзе ўтаропіліся ў вокны. Адгукнуўся толькі адзін — ён, рыцар Эдмунд:

— У мяне.

Жанчына асвяціла яго ўсмешкай, працягнула траячок — тады праезд каштаваў тры капейкі.

— Чатыры.

Тонка падведзеныя бровы палезлі ўгару, моршчачы незагарэлы лоб.

— Чатыры капейкі.

Шчаўчок сумачкі, цёплы дотык рукі — і ў Эдмундаву далонь апусціліся два траякі.

— Лішніца мне не трэба, я прадаю па чатыры. — І ён, пакрыўджаны, вярнуў манеты.

Ромік ажно сагнуўся, зацiскаючы далоняю рот. У пасажыраў адразу прарэзаўся слых, і яны скручвалі шыі, каб разгледзець гандляра. От тут і прагучала дзіўная, як цяпер бы сказалі, неадэкватная абраза: зануда.

Чаму не спекулянт ці хоць бы злодзей, а то — зануда?

А ён стаяў, трымаючыся за парэнчы, спакойны, сур'ёзны, асцюкатыя бровы зведзены над пераноссем, вусны шчыльна самкнёныя, зеленаватыя вочкі ў глыбокіх правалах глядзяць паверх галоў — чалавек цвёрды ў сваіх прынцыпах: мой тавар — мая цана.

На выручку даме праціснуўся «парусінавы» дзядок са сваім білетам:

— Вазьміце от, я выходжу...

Жанчына паказала «занудзе» спіну, і Эдмундава прыжмуранае вока ўхапіла віяланчэльны абрыс яе фігуры, ды нейчыя плечы адразу засланілі гэтую прынаду. Ромік. Пастаянны партнёр і смяшлівы глядач вулічных Эдмундавых інтэрмедый — ён зараз яўна клеіўся, як кантралёр да безбілетніцы.

Ну, гэта ўжо нахабства! Эдмунд прасунуў руку пад Ромікаў локаць і з асалодай ушчыкнуў «фігурыстку» ніжэй кароткай жакеткі. Тая з лёгкім ускрыкам крутанулася, спуджана ўставілася ў нявінныя Ро-мікавы вочы, што ён, безумоўна, успрыняў як знак шчаслівай увагі. І адгукнуўся прыветнай усмешкай.

Пачаўся той нямы дыялог паміж мужчынам і жанчынай, калі замест слоў гавораць міміка і жэсты; доўгія, доўгія пераглядьі — міміка крыўды і міміка радасці. І раптам — трапны жэст, і Ромікава галава ледзь не звальваецца з шыі ад важкае аплявухі.

— За што?

Вечнае пытанне невінаватых і вінаватых пры пакаранні.

Жанчына тут жа выскачыла з трамвая, ды Ромік любіў справядлівасць і махнуўся следам...

Карацей кажучы, пацярпелы праводзіў яе да самага дома, у якім і пасяліўся... Эдмунд. Прываражыў ён гаспадыню — новую Элу — флейтай.

Праўда, трубачка іграла тут нядоўга, неўзабаве ёй давялося чараваць публіку ў іншых залах — у ЛТП. Да гэтага яна добра асвоіла падвалы, гарышчы і нават могілкі, таму лёгка згадзілася на пераезд, арганізаваны новай Элай.

Старая Эла, дакладней, першая, не сумела (ці не захацела) указаць яму верны маршрут, а проста аднойчы забарыкадзіравала шафаю дзверы, і саліст-флейтыст не змог іх адчыніць. Як яна адолела такую

аграмадзіну, мо сынок дапамагаў? Адбылося гэта пасля адной начной прыгоды, калі ён вываліў з нутра на ложак, на дыван усе express кактэйлі і закускі... Яна выпіхвала з пакоя сына, каб не глядзеў на «хворага» бацьку, прыбірала, падцірала, а раніцаю ціха прыгразіла:

— Калі паўторыцца...

Паўтарылася.

...Вярнуўся элтэпэшнік сапраўдным занудам: і сам не гам і другому не дам. Любы выпіўоха стаў для яго ворагам.

І прыяцелі як вымерлі. Адзін Ромік яшчэ песціў надзею, што сухое дрэва зазелянее. Статыстыка была з ім заадно.

Хай і не ва ўсёй былой красе, але неяк Эдмунд напомніў самога сябе і сам, расказваючы, смяяўся.

Новыя суседзі — маладыя хлопцы — аказаліся вялікімі «меламанамі»: суткамі круцілі музыку, якая так грымела, што слова не было чуваць. «Маладажон» схадзіў да іх, папрасіў крыху сцішыць гук. Здаецца, паслухаліся, ды хутка забыліся.

От ён і рашыўся на эксперымент. Спачатку спрабаваў улагодзіць засценных малайцоў флейтай, ды тыя наўрад ці пачулі яе птушыны спеў праз трактарны рокат року. Ну тады — магнітафон на магнітафон, ён паставіў дзевятую сімфонію Бетховена і прытуліў калонкі да сцяны.

Што пачалося?!

Адтуль, з табо боку сцяны, бухалі з усяе моцы сценабітнаю «бабай», адсюль падпірала перагародку магутная хваля гарманічнай мелодыі; дрыжэла люстра пад столлю, дрыжэла, аж хісталася кніжная секцыя; цягучыя нізкія гукі сучаснага музычнага гвалту прабівалі бетон, душылі, тапілі рыцарскую высакароднасць класікі; скрыгат і гром, адчай і хаос запоўнілі кватэру, і Эдмунд, заціснуўшы вушы, зачыніўся ў туалеце.

Калі ж ён высунуў нос адтуль, пакой залівала святло, дыхнула ў твар паслянавальнічнаю свежасцю. Высокія галасы хору пелі радасць — чыста, велічна — і ніводзін староннi гук не прыплятаўся да гэтага гімна.

— Я іх класікай, класікай, — выхваляўся ён потым перад Ромікам, расцягваючы вусны да вушэй, і дружбак рагатаў нараспяразку, падахвочваючы свайго куміра.

А ці пасмяецца сынок? Некалі цягнуў ён п'яна-вясёлага бацьку дадому і плакаў. Цяпер можа радавацца — бацька зараз цвярозы, як выставачны экспанат.

Кажуць, чужыя дзеці хутка растуць. А вось і свой непрыкметна падняўся ўпоравень з мужчынамі — сёння атрымлівае пашпарт. От старэйшы Варанецкі і выпінаецца на кухні, каб улагодзіць нашчадка: меўся прыйсці — упершыню да адасобленага таты.

Каторы ўжо раз кухар, выключыўшы пліту, браўся за прыгатаваны падарунак — флейту, ды нешта неігралася; прыслухоўваўся да гулу ліфта, ляпання дзвярэй на пляцоўцы, потым ізноў падступаўся да патэльняў, хаця б пачастункаў не было мала: у маладыя гады апетыт воўчы. Даўно мінулася і забылася, калі накарміць малога было праблемай, — сунеш лыжку з кашаю яму ў рот, а ён тою манкаю плюецца

назад. От паскуднік! Праўду сказаць, як нарадзіўся Андрэйка, Эдмунд не адчуваў асаблівага бацькоўскага замілавання: убачыў у вестыбюлі раддома шыракаротага малюпасенькага дзядка, вочкі раз'язджаюцца, ажно спужаўся — хаця б не дэбіл. Дый пасля не надта гарнуўся да яго — колькі таго чалавека, а павязаў бацьку рукі і ногі: хочацца, як і раней, куды-небудзь рвануць, а ён упоперак дарогі: забаўляй, калышы, мяняй пялёнкі, падгузнікі... От да таго не мог доўга прывыкнуць — гадзіўся. Толькі ўжо, як выкачалася малое, стала на ногі, тады і ўсцешыла няньку. Мабыць, яшчэ і чатырох яму не было, і вунь як супакоіў бацьку, калі той паклаў яму далонь на лоб, здалося, што ў дзіцяці тэмпература:

— Гэта ў мяне разумнасць, я думаю, і лоб грэецца.

Во галавасцік! І што неўзабаве надумаў:

— Я вазьму сабе машыну

І паеду ў магазіну...

Іш ты яго, рыфмуе! І бацька на праверку падкідвае:

— Я вазьму сабе ракету...

— Палячу я на планету, — не марудзячы, завяршае сынок...

Узяў малаточак, стукае па табурэтцы і гаворыць:

— Тата, давай што-небудзь зробім. Так хочацца стаць доктарам, матыклістам, шафёрам, шахмацёрам...

Ну дзе ён? Пара ўжо і прыйсці.

Няўжо такая складаная працэдура — уручыць пашпарт? Сказаў слова, пацiснуў руку — і ў добры шлях... Не, у нас з усяго зробяць зануднае мерапрыемства.

На гэтую сустрэчу ў старэйшага Варанецкага была невыказная цьмяная спадзяванка — нешта ж павінна змяніцца. Нешта мо вернецца, звяжацца нанава... Двое любоўю звязваюць вузел: муж — жонка, а трэці — сын — змацоўвае найвышэйшым, кроўным: тата — мама.

Андрэйка — хлопец разумны...

Хай бы хоць пазваніў — што там?..

Эдмунд падышоў да акна, пастаяў, аглядаючы двор. Ніхто не спяшаўся. На тратуары голуб качаў засохлы кавалачак булкі, ніяк не мог удзяўбці — той адскокваў, як мячык. Падышла варона, паспрабавала спажыву на чэрствасць, забрала яе ў дзюбу, падляцела да лужыны ля альтанкі, апусціла сухарык у ваду, па-старэчы размачывала, пасля спакойна склявала. Над альтанкаю праляцела другая варона, трымаючы ў дзюбе нешта белае, як сыр, за ёю гналася яшчэ адна большая, мусіць жа, не з добрымі намерамі; пярэдняя, адчуўшы небяспеку, пачала віхляць у адзін бок, у другі, мяняць маршрут палёту, тое ж выраблялa і яе пераследніца, — здавалася, яны спраўляюць вясельныя гульні...

І не вытрываў Эдмунд, пазваніў сам «дадому», былой жонцы. Адгукнуўся сын.

— Ты дома? — недарэчна папытаў бацька, як не паверыўшы пачутаму. І размова адразу спатыкнулася, як толькі сын сказаў пра ўрокі. Значыцца, не прыйдзе, няма калі.

Збянтэжаны бацька ўсяго і папрасіў:

— Пакажы.

— Што пакажы?

— Пашпарт.

Што ён просіць? Паказаць пашпарт па тэлефоне? Падумае, бацька ізноў скіраваў на крывую сцежку...

Трубка ціха бразнула аб столік, памаўчала, потым зноў пачала дыхаць.

— Прынёс? — як мага бадзёра папытаў бацька, заціскаючы крыўду, — цяпер чытай, як яно гучыць.

— Што гучыць?

— Там золатам напісана.

— СССР. Пашпарт.

— Раскрый.

— Пашпарт грамадзяніна Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Саладуха Андрэй Васільевіч...

Сын чытаў далей — дзе нарадзіўся і калі, хто выдаў пашпарт, але Эдмунд ужо не чуў, у вушах застрала дзявочае прозвішча жонкі «Саладуха» і зусім недарэчна «Васільевіч». Мо засталося? Перапытаць пасаромеўся і сам сябе пастараўся ўсцешыць угодліваю здагадкай: Андрэйка панаджваецца; бацькава парода — якое дрэва, такі і клін. Яму, Эдмунду Варанецкаму, некалі аж карцела, каб разыграць, падкалоць, ён, здаецца, і дня не мог пражыць без жартаў. Здаралася, што і дома, калі быў у добрым гуморы, учыняў «спектаклі», даводзіў і Элу, і Андрэйку да слёз, да ікаўкі — так рагаталі. Жонка аж пераломвалася, закрывала далоняю рот, махала рукою, нібы адганяла яго: «Перастань, перастань», а сынок прасіў: «Тата, яшчэ...» Сам жа завадатар нібы кіснуў і вуснаў не расціскаў для ўсмешкі, але ў гэтыя хвіліны лавіў такі кайф, што яшчэ што-небудзь з зямных уцех яму ўжо было не пад сілу.

Пэўна ж, тое яшчэ не забылася...

Заваліцца б туды зараз і разам павесяліцца. Сынок вядзе тэлефонны «канферанс», а побач маці хіхікае ў далонь. І нехта яшчэ сярод публікі, таму і ўсплыў «Васільевіч»...

Але і падмануць самога сябе Эдмунду не ўдалося, хоць ён яшчэ не верыў пачутаму... У роце перасохла, гальштук ціснуў шыю. Сеанс завочнай сустрэчы з сынам (ужо не сынам?) закончыў мірна і даволі бадзёра.

— Малайчына, Саладуха. Віншую. Расці здароў.

Наткнуўся вачыма на флейту, узяў яе, працёр рукавом, аблізаў вусны, уздыхнуў... і з усяго размаху трэснуў аб калена. «На памінкі» прыскакаў шчаслівы Ромік.

# СІНІ БЕРЭТ

Ён нёс сябе, як падарунак поўдня. Ён бачыў, што ім любуюцца, нават зайздросцяць. Упрамененыя пад крымскім сонцам шчокі, лоб, нос, вушы, крэмавыя штаны і кашуля колеру толькі што вылупленага кураняці выпраменьвалі мяккае лагоднае святло, якое падвясельвала

стрэчныя твары, цягнулася за ім залатою стужкаю па сырым асфальфе. Яму нават было крыху ніякавата ад сваёй рэспектабельнасці, можна сказаць — імпартнасці ў цьмяных сярэдніх шыротах.

Ні адзін знаёмы не прамінуў яго, каб не ўсклікнуць: «Ух ты, красавец і здаравяка!», ні адна незнаёмая не прамінула, каб не сказаць нештачка кароткім пранізлівым поглядам.

Строгай мэты ён зараз не меў, проста не хацелася церціся ў завадской сталоўцы, дзе кожны прыяцель стараецца паляпаць па плячы, пакінуўшы на кашулі «трафарэт» сваёй далоні. Ён меркаваў заскочыць у «тэлевізар» — шкляное кафэ, узяць на зуб сэндвіч і кубачак кавы, астатнімі хвілінамі абедзеннага перапынку надтачыць свой сконччаны пазаўчора такі кароткі адпачынак.

Усё ж такі, братачкі, варта гарбаціцца адзінаццаць месяцаў, варта аўраліць, а потым скамячыць спяцоўку, шпурнуць яе ў кут...

І вось ужо твае інтээраўскія (у карані — сялянскія) ногі хатняю балонкаю ўгодліва ліжа чарнаморская хваля.

Лёгкі, казытлівы, як пальчыкі санаторнай масажысткі, ветрык масіруе вольнае ад клопатаў і гарнітура цела, а вочы імкнуцца паверх галоў, шапачак туды, за чырвоныя мячыкі буёў, у бірузовую далеч, дзе не знаць мяжы паміж вадою і небам, куды просіцца душа, потым вяртаюцца назад, на бераг, шныраць па людскім лежбішчы, пераскокваючы праз мужчынскія маслы, поўзаюць мухаю па фігурным шакаладзе разамлелай курортніцы і раптам натыкаюцца на сустрэчны позірк, што б’е з засады праз шчылінку цёмных акуляраў. І б’е трапна, ажно мішэнь чырванее і заплюшчваецца.

Праходзіць хвіліна вечнасці ў мужнай барацьбе з самім сабою, пакуль узятыя «на мушку» павекі рашуча расплюшчваюцца.

— Вы засланілі мне сонца.

Ён адступае, але цень чапляецца за яе, ліпне, лашчыцца...

— Кідай косці на гальку, — чуе ён загад-запрашэнне...

— ...Кідай косці на гальку, — паўтарыў, як пароль, перад самым носам чужы голас, перабіўшы апетытны ўспамін.

Дарогу заступіў сіні берэт з чамаданчыкам, як у слесара-сантэхніка; фізіяномія ашчацінена рудымі калючкамі, а светлыя вочкі глядзяць лагодна, нават ліслва.

— Вы — Амяльян? Дапусціце да ручкі. — І, цярнуўшы далоняю па калашыне, берэт працягнуў руку Амяльяну. — Я — муж Галькі.

«Вельмі прыемна», — ледзь не расшаркаўся Амяльян, яшчэ не звязаўшы ў адзін вузел сябе, Гальку і гэтага сантэхніка, ён быццам бы і не ведаў, што курортны ласунак, як і дэфіцытны гандлёвы тавар, часам бывае з «давескам». І вось гэты «давесак» стаяў перад ім і працягваў незагарэлую, у рабаціннi лапу. Колькі ж у ёй кілаграмаметраў? Тут цэлыя тонакіламетры. Успомнілася: сіла ўдару раўняецца масе, памножанай на квадрат хуткасці і падзеленай на два. Ну, дзяліць на дваіх ён, пэўна, не будзе, усё дастанецца аднаму; такая маса калі зачэпіць скіўцу — усе пломбы ў парашок.

Некалі шляхетнаму крыўдзіцелю кідалі ў твар пальчатку, і ўсё завяршалася да зайздрасці прыгожа: чыстыя, паголеныя, у свежых сарочках, сыходзіліся праціўнікі дзівосным ранкам на ўскрайку прасвет-

ленага бярозавага гаю, апусціўшы рулямі ўніз цяжкія фамільныя пісталеты. Праўда, гэтая арыстакратычная працэдура з-за яе вузкай класавай абмежаванасці і недаступнасці шырокім працоўным масам практыкавалася не так часта, як іншы дэмакратычны спосаб, што дазваляў не траціцца на дарагі агнястрэльны інвентар, а абыходзіцца падручнымі сродкамі: кулакамі, каламі. Цяпер жа гэтая справа стала агульнаграмадскай і ўжо вырашаецца не двума індывідуалістамі, а калектыўна: на сходах, на бюро і выключна словам — вусным і пісаным.

Які ж спосаб выбярэ муж Галькі?..

Даць сатысфакцыю Амяльян не быў гатовы, а таму ўхапіў, пацісну ў адкрытую далонь, адчуўшы яе ўчэпістую моц.

— Дзякую, рады, рады, — хіліўся сіні берэт, здавалася, гатовы чмокнуць Амяльянаву руку. — Вас рэкамендавалі як прыстойнага інтэлігентнага чалавека. Пойдзем, калі дазволіце, пасядзім дзе-небудзь, пагаворым.

І пайшлі, і селі, і пагаварылі. Праўда, гаварыў ён, існец.

— Я хачу адразу развеяць вашы паўнапраўныя падазрэнні, быццам я знайшоў вас для таго, каб завярнуць вам пяткі на патыліцу. Не, не... Я прыйшоў прасіць у вас дапамогі, калі дазволіце. Яшчэ Энгельс, калі памятаеце, насуперак Марксу ў сваёй эпахальнай кнізе «Паходжанне сям'і і няшчаснай уласнасці» даказаў, што стварэнне сям'і, манагамны шлюб — гэта хітрыкі жанчыны, яе каварства: яна хапае мужыка за дзетародны інстынкт і ператварае ў няшчасную ўласнасць... Дрэва раскідвае сваё семя куды хоча — на агарод, на поле, у рэчку. А калі я прыйшоў у ахвоту, я павінен несці ў сваё логава? Чаму? Мужчына мае права рэалізаваць гармоны па сваёй волі. Цябе пацягнула на Гальку? На здароўе... Хаця, прызнаюся, я не хачу есці пагрызены яблык. Хто я цяпер? Небарака. Правільна я гавару? Перакуліся на маё месца. Во. А разводу не дае. Што я магу зрабіць? Адзін не адолею, закон з ёю ў хаўрусе, заадно. От і мы павінны заадно. Нам трэба разам, трэба змагацца за наша адраджэнне, за нашу вольнасць. Трэба стварыць сваю ААН, Арганізацыю Аб'яднаных Небаракаў... Вы не смейцеся, я сур'ёзна...

Амяльян чуў — не чуў гэтую лухту, аглядваўся наўкруга, баючыся папасціся пад знаёмае вока, але і хочучы, каб нехта свой апынуўся побач, на ўсялякі выпадак. Ён моцна кляцнуў пярсцёнкам аб шклянку і ніяк не мог пракаўтнуць даўкі камяк страху, што перагарадзіў горла. Усё ж кропля-другая неяк прайшла, і неўпрыкмет Амяльянава спіна выпрасталася, ён быццам падрос, адчуў у сабе дужасць і нават закарцела яму выклікнуць тост за ААН, за небаракаў, «калі дазволіце»... Ды асадзіў сябе, асцярогся.

А той хіліўся над сталом, як мага выцягваў шырокую кароткую шыю, пакутліва крывіў вусны — вось-вось заплача.

— Як мне развязацца? У мяне ўжо ні сілы, ні здароўя. Забіць распусту? Я павука не крану. Паверце? — Толькі нічога нікому. Знайшоў шпагаціну, скруціў у тры столкі, прычапіў да люстры... Во, прыйдзе, парадуецца. Адале мяне як токам закараціла: гэта ж яна прыйдзе з хахалем, а я буду перад імі матляцца, як маятнік...

І слёзы, мужчынскія буйныя слёзы, капалі з рыжае шчаціны ў шклянку, разбаўляючы і без таго не моцнае віно — усяго 16,6 градуса. Такі, здавалася, здаравяка і так паплыў.

І зноў, як па прыездзе дадому, Амяльяна праціяло раскаянне. Было і брыдка, і шкада гэтага змагара за мужчынскую вольнасць. Чаго ж ён хоча, чаго просіць? Не патрабуе — просіць.

— Прашу вас, Амяльян Бацькавіч, засведчыце...

— Што зас..?

— Не, не! У суд вам не трэба! Проста чыркніце пісульку: так і так, даважу да вашага сведзенія... Яна і адступіцца.

— Па якой форме? Дакладную, тлумачальную? А мо — акт?

Прасіцель рашуча змахнуў лапатаю далоні са стала вінна-слёзную лужыну, дастаў з чамаданчыка ручку і паперу. Амяльяну зрабілася весела, ён адчуў сябе ў сваёй стыхіі: як начальніку кантрольна-вымяральнай лабараторыі яму даводзілася штодня пісаць, падпісваць на бланках вынікі праверак, аналізаў, і без гэтых дакументаў ні адзін участак, ні адна лінія вытворчасці не маглі здаваць гатовую прадукцыю. Лабараторыя як аддзел уваходзіла ва ўсемагутную службу АТК, якую, калі верыць прарокам, не сёння-заўтра ўзначаліць Амяльян. Трымціце, бракадзелы! Ні просьбы, ні падачкі не пахіснуць непахіснасці вернага вартаўніка «ГОСТа». Вам патрэбна заключэнне? Калі ласка, — аб'ектыўнае, выверанае па ўсіх пунктах, па ўсіх параметрах... Хаця, прызнацца, дадзены выпадак, бадай што, выходзіць за межы службовай кампетэнцыі. Але спасціжэнне нязведанага заўсёды штурхала чалавека ў бездань граху.

Яны абодва рагаталі так, што афіцыянтка прыгразіла міліцыяй, але не згасіла іхняй весялосці — яны яшчэ і на вуліцы ўсхліпвалі, выціралі слёзы. Расчулены небарака, схаваўшы паперу ў кішэню, доўга трос Амяльянаву руку, ажно было няёмка — падумаеш, «засвідзецельстваваў»... ажно пачалі балець пальцы — ну што тут такога, ён бы на яго месцы... — ажно пачала хрумсцець далонь — ну не варта так ужо кланяцца за якую драбязу — ну дзякуй табе за тваю падзяку...

Але той не выпускаў ужо распухлую руку, вырываў яе з суставаў, вытрасаў душу...

— Слухай, Ямелька, а мо не варта справу? А, як мяркуеш? Мо лепей адкупіцца? Даць ёй грошай — яна прагная...

— У мяне ёсць рубель, — паспрабаваў Амяльян вырваць сваю руку з учэпістай лапы — кракадзілавай пашчы.

— Не, Ямелька, трэ трошкі набавіць. Тры.

Ледзьве не завішчаўшы ад болю, Амяльян глянуў яму ў вочы, яшчэ спадзеючыся, што ён забаўляецца, строіць кепікі, ды халодны злы пагляд ахапіў саперніка ўсяго цалкам — мацней, чым поціск жалезнай кляшні.

— Тры касыя і ні цэнта меней. У абмен на вэксаль.— І сіні берэт паляпаў левай рукою па кішэні, дзе быў схаваны дакумент. — Рубель. Дзёшава ты цэніш Гальку. А колькі б дала твая супруга за дакумент? А, Ямелька? А мо лепей у партком аддаць, на візу? Ну, да заўтра, сустрэнемся на барыкадах.

Хмель, як на дармаўшчыну ўвайшоў, так лёгка і выйшаў, нядаўняму курортніку ўжо ніяк не ўдавалася вярнуць той перадабедзенны настрой, з якім ён прагульваўся па вуліцы. Яшчэ вусны крывіла натужлівая ўсмешка, ды пакамечаная-пакалечаная рука не давала спакою.

І засцерагаючы яе ад новай сустрэчы з сінім берэтам, Амяльян ірвануў у камандзіроўку па рэкламацыі.

А вярнуўся, дзівіўся з калег: хто ўглядаўся ў яго, як не пазнаючы, а хто нахабна скаліў зубы і адварочваўся.

Тое ж было і на бюро.

— Дадзена сапраўдная ў тым, — чытаў як мага сур'ёзней сакратар,— што я, будучы на курорце, быў спакушаны грамадзянкай... — Я імя далікатна прапускаю, — і ўступіў з ёю ў інтымныя адносіны, у чым з глыбокім раскаяннем яе мужу прызнаюся. Подпіс — Амяльян Яновіч. Сакратар закашляўся, прыкрыў рот рукавом.

Ачмурэлы Амяльян слухаў чытанае нібыта ўпершыню і не мог спярша даўмецца, чаго ад яго хочуць гэтыя бязгрэшнікі, якія не аднойчы выхваляліся перад ім сваёю вольнасцю... Ну той, берэт, асвойвае гандаль жонкай. А яны?..

Пакой узарваўся адзінагалосным рогатам, які не змог перакрыць далікатны сакратарскі кашаль.

Звон графіна не адразу ўціхамірыў партыйных таварышаў. Ніхто не спяшаўся выступаць, толькі над бліскучым доўгім сталом паўзлі непратакольныя перашэпты:

— Во дурань.

— Ідыёт проста.

Чаму дурань? Чаму ідыёт?

І хоць Амяльян атрымаў такую атэстацыю, у яго яшчэ хапіла клёпу разгадаць гэтую прымітыўную загадку.







**ГАНАД ЧАРКАЗЯН**

# ЧАРГАВІ

* * *

Раніца прыйдзе з усмешкаю маладой,
Не патрабуючы нічыйго намагання.
І жыццё праміне сваёй чарадой —
Нараджэнне, памкненне жыць і зніканне.

* * *

Месца Месяца й зорак мільёны год
Не змяняецца, як і характар іхні.
Чалавек жа паўсюль шукае выгод —
То прадасць, то паверыць, то згасне, то ўспыхне.

* * *

Усіх чакае зямля сырая.
Дазваляе рупліўцам старацца праца.
Нараджаецца голы, ў золаце памірае
Раб сваёй мроі, каб прахам стацца.

* * *

У клапотах век за векам міне,
Не маючы сподзеву на спатолю.
У ранішнім сне, быццам у тумане,
Чалавек і праспіць сваю долю.

* * *

Ад салаўя п'янее гай малады.
Ноч з далані азёрнае п'е.
Аніпаўторны кожны тады,
Калі ён песню сваю пяе.

* * *

Дажджы праходзяць і прыходзіць сонца,
Усяму на свеце свой шчаслівы час.
Ты крок ступіў — і ўліўся ў рух бяссонны.
Умей за свой учынак даць адказ.

* * *

Свет меркантыльны ўсё кладзе на вагі.
Выгода з мора змроку іскру выкрасае.
Шукаем і любові, і павагі...
Але каго ўзамен мы любім самі?

* * *

Грошы і ўлада — куміры салодкія.
Ціха заснулі былыя рамантыкі.
Як ні ламай галаву, мроі лёгкія.
Грошы і ўлада — ўсяму галава такі.

* * *

З-за праўды, калі яна праўда сапраўдная,
Ліюцца па справядлівасці слёзы.
Бывае, што звівамі сцежка парадуе.
Але не для ўсіх гэта — лінія лёсу.

* * *

І заплакаў юнак — адвярнулася доля:
Выйшла замуж каханая за другога.
Чалавек так і не зразумее ніколі,
Што ягоная доля не прыме нікога.

* * *

А мроя мая — ціхамірная праца,
І, каб святло выпраменьвала сям'я,
Душа да знямогі павінна старацца.
Ды толькі ў чым тут віна мая?..

* * *

З досвітку да заходу чырвонага
Доўжацца на зямлі пакуты.
Дзеля акрайца хлеба надзённага
Кожны да працы сваёй прыкуты.

* * *

Ляжаць на нашых згарбелых плячах
Памылкі даўнія, як камяні.
Іх не зыначыш. Самота й страх
Цікуюць за намі ўдалечыні.

* * *

«Бог глядзіць на гару, потым снег пасылае»,
Кажуць курды. А на зямлі
Чалавек спачатку сябе ашукае,
Потым кажа, што яго падвялі...

* * *

Кланы, зграйкі й лютыя грошы —
Жорны чалавецтва й надзей.
Колькі жыццяў мір затрымацца ўпрошвалі,
А ён так лёгка пайшоў ад людзей.

* * *

Сцежку ў заўтра снягі замялі.
Ўсмешку шчасця згасілі сцюжы.
Каранямі ў бацькоўскай зямлі
Чалавек на зямлі гэтай дужы.

* * *

Мы расчульваемся ад сваіх жа намераў,
Што само нас ліха пакіне.
Мір праху таго, хто першы паверыў,
Што свабода вышэй за вяршыні.

* * *

У капканах старых нашы думкі й звады.
Закончыцца шлях наш, і зробімся тлом.
Хвала таму, хто паверыць рады,
Што цяжкое жыццё пражыў са святлом.

* * *

Шукаем спадарожніцу жыцця —
Красуню, й завіхаемся як след.
Тут лёгка ашукаць сябе, хаця
На рызыцы й трымаецца ўвесь свет.

* * *

Двор пусты, абымшэлыя сцены.
Спачуваючы, вецер плача.
У галечы жыве сумленны,
Бачыць бессаромнага ўдача.

* * *

Сціпла жыць і згубіць надзею, што талент
Хтосьці ўрэшце ацэніць, няхай не хвалебна.
І якія б выраі ні прылятал,
Калі гасне заход, толькі свечка й патрэбна.

* * *

Сябры такія, якімі
Ты бачыць хацеў бы іх.
Але найчасцей сваімі
Ты лічыш зусім чужых.

* * *

Колькі страт і клопатаў пустых
Запаўняюць жыццё кароткае?..
Настае прасвятлення міг —
Нізка птах развітання лётае...

* * *

Ясней з гадамі робіцца ўсім
Казка пра шчасце старая:
Дзеці радасць прыносяць адным,
А ў другіх забіраюць.

* * *

Не спыняецца дзён нахлын —
Кожны з іх небяспеку тоіць.
Як губляецца повязь часін,
Значыць, штосьці з людзьмі не тое...

* * *

У грудзях — толькі рэха былога грукату сэрца.
Вочы ў слязах даўно ўжо не тыя.
Ногі свінцовыя, і пад імі агонь трасецца.
Паразмылі дарогу дажджы густыя...

* * *

«Не бяры да галавы»,—
Раіць шчыра сябра мне.
Ды бяда, пакуль жывы,
Гне і гне мяне і ў сне.

* * *

Авечкай быў, а жыў ваўком.
Усё крышыў, як той мядзведзь.
У славе красаваўся — львом.
Ад голаду сканаў няўзгледзь.

* * *

Хто вестку светлую прынясе,
Хто супакоіць, паспачувае?
Пайшлі назаўсёды родныя ўсе.
Адна толькі скруха мая жывая.

* * *

Святло кахання, поспеху мана,
Юначых мрояў радасная ўспышка...
Гады знялі, як лісце з качана,
І засталася толькі качарыжка...

* * *

Рука сябрука, як сцяна за спіной.
Наіўнасць мая рамантычная можа
На момант прытулак знайсці за сцяной,
Каб зноўку падацца на раздарожжа...

* * *

Няма, дык не купіш здароўя ў краме.
Не прыкмеціш, калі прамільгнула ранне.
Дамоў валакуцца усе вечарамі.
А яно не спяшае, маё чаканне...

* * *

Калі за спіной не маеш
Нікога, казалі здаўна,
Па твары ўдар атрымаеш,
А будзе балець спіна...

* * *

Туман зацягнуў звечарэлы пагляд.
З тугою ніяк не прыйсці да згоды.
Сумленны заўсёды губляе шмат,
А бессаромны ўсё й назаўсёды.

* * *

Зіхціць высока зорка надзей
І ўсё на зямлі заўважае.
Спачатку зерне ў глебу пасей,
А потым чакай ураджаю...

* * *

Адзін, як дуб даверліва-самотны,
Хачу, каб добра ў засені было
Вандроўнікам, ды нехта бестурботны
Дзеля забавы выпаліць дупло...

* * *

Я самы шчыры з адной табою,
Надзея й апора мая.
Але пра ўсе мае беды й болі
Ведаю толькі я...

* * *

Ні маці, ні бацькі — над душой зімавей
Галасіць не заціхае паныла.
Ад слёзаў мокрыя ўсё часцей
Адны камяні з далёкіх магілаў.

* * *

І застаецца на сэрцы шрам,
Як пойдзе на сілу сіла.
Няхай на пяску будуецца храм,
Абы святла ўсім хапіла...

* * *

Шум лясоў, як вадаспадаў шум.
Рэчка плоціць возеру даніну.
Я люблю калыску ціхіх дум —
Гэтую сардэчную краіну.

* * *

Ранне, салаўіная трывога.
І туман з нябачнай цішыні.
Быццам бы тут дзіўнага нічога.
Толькі як смяюцца прамяні!..

* * *

Зямля не адкажа, як ні выпытвай,
Чаму ж у яе міласэрнасці шмат,
Што па балючай, крывёй палітай
Аднолькава ходзяць ахвяра й кат...

* * *

Сніўся прыемны сон:
Муза мяне наведала.
Раніцай зразумеў, што ён
Са мной пацвяліўся ветліва...

* * *

Галінка, кожная пядка зямлі
З вясной засяляецца дбала,
Каб і ў баразне, і ў вуллі
Клопатаў усім хапала.

* * *

Усё здабыць сумленна ў свеце цяжка.
Саломінка малая вершыць стог.
За крыхаць зерня, за лісток мурашка
Праходзіць шлях нялёгкі, сведкай Бог!..

* * *

Тваіх вачэй пяшчотныя прадонні...
З ахвотай кожны раз таплюся ў іх.
Рука прыемна грэецца ў далоні.
Цяплей спрадвеку на зямлі ўдваіх...

* * *

Ці вынайдуць калі такія шалі,
Каб важыць справядлівасць, як муку,
Каб лайдаку яны не дадавалі,
А набаўлялі больш працаўніку?..

* * *

Чалавек нараджаецца вольным, а потым
Самота сябе заганяе ў загон,
Дзе падуладны нікчэмным клапотам
Свой неадступна прыспешвае скон...

* * *

За памылку й глупства ўчарашняе
Заўтра будзе жыццё варушыць.
Не старэе жаданне нашае —
Без даўгоў спакойна пражыць...

* * *

Шалёна аблашчаны ты ці спляжаны,
Па мерках касмічных гэта няшмат.
Нам кожны міг мусіць быць узважаны.
У лёса свой, асаблівы пагляд...

* * *

Не ў нашай уладзе бяды хада.
Бяда, ні на што не зважаючы, йдзе.
Каму для млына патрэбна вада,
Каму — захлынуцца ў той жа вадзе...

* * *

Вялікі сын зямлі, калі тварыў,
Запальваў безлічань агнёў вясёла.
Мой сябра з прагнай цемрай не хітрыў —
Ён поўніў недахоп святла вакола...

* * *

Расстануцца каханыя — застануцца зоркі.
Засохнуць крыніцы — застануцца ўспаміны.
Перажытае спалынее старонкай горкай, —
Бо не толькі пра мёд пісаць мы павінны...

* * *

П'ём і не бачым канца
Дням у зняможаных сховах.
Існасць і доля збана
У часе й руках ганчаровых.

* * *

Не цешуся характарам сваім,
Ды, стоячы ў чарзе па ласку з краю,
Я не дарую ворагам сваім,
Якіх не ведаю і ведаць не жадаю.

* * *

Астыла радасць, а сум не пагас.
Сына гор прыняла старана лясная.
Мы ўсе так аддаленыя, што нас
І цуда-вясёлка не аб'яднае.

* * *

Вядуць на свята дарогі ўсе ж,
І прэч уцякае журба,
Калі за пазухаю нясеш
Не камень, а галуба.

* * *

Зірк свой кінуўшы ў зорную вышыню,
Смутак робіцца наш незямным.
Грэцца можна не заўсёды ля агню,
Дзе далёка клубіцца дым.

* * *

На зямлі чалавечы след
Лёгка лёгкаму ветру сцерці.
Дужа цесны зрабіўся свет
Для жыцця і нават для смерці.

* * *

Покуль вочы й ногі не аслаблі,
Добра пачувай сябе ў жыцці,
Бойся двойчы наступіць на граблі,
Болей думай, як іх абысці.

* * *

Гукае чалавек сабе спатолю,
Не спачуваючы чужой бядзе.
Дарогу выбраць кожны мае волю.
Але куды дарога прывядзе?

* * *

І хлуснёй найхітрэйшаю праўду не спляжыць.
Хлус не верыць нарэшце і слову свайму.
Чалавек найшчаслівы, калі не заўважыць,
Як сумленна пражыць шанцавала яму.

* * *

Колькі я праліў гаротных слёз,
Ведае мая далёкая Радзіма.
Колькі вернасці ў душы пранёс,
Доля здагадаецца, магчыма.

* * *

Ішоў чалавек і чамусьці свайму
Усміхаўся, таемным святлом сагрэты.
Калі ж мы ўсміхнёмся адзін аднаму
Папросту, як людзі адной планеты?

* * *

І калі яго цкуюць са смакам,
І кусаюць, і лісліва хлусяць,
Чалавек хацеў бы стаць сабакам,
Ды забыўся, што брахаць прымусяць.

* * *

Селіцца сподзеў за тым разлогам,
За якім рака забыцця цячэ.
Кажуць, мы роўныя ўсе перад Богам.
А да роўнасці трэба дажыць яшчэ.

* * *

Падрастаюць і, як птушкі, людзі
Ціха пакідаюць свой агмень.
За вяртанне ў вечным перапудзе
Ростань годам лічыць кожны дзень.

* * *

Дарога для самаспазнання — час.
Дарога для самасцвярджэння — праца.
І страта — загублены час якраз.
Дарог няма, каб туды вяртацца.

* * *

Сам сваю дапытлівасць цвялі,
Каб усё таілася дарэчы.
Бочку ў коптур віламі налі
І адчуеш глыбіню пустэчы.

* * *

Дзе нашы карані, там цеплыні крыніца.
Чужыя не сагрэюць небасхілы.
Чым чалавек глыбей укараніцца
У родны дол, тым болей мае сілы.

* * *

Гронку бэзу пакахаць усёй душой
На дарогах ап'янелых маладосці.
Хто не йшоў па іх, не ўбачыў той,
Як палаюць люта вогнішчы мілосці.

* * *

Так здаецца, што шчасце за блізкай гарою
Кожны хоча паддобрыцца лёсу свайму.
Чалавецтва над прорвай стаіць, і за тое,
Што яно не загінула, слава яму.

* * *

І цень над котлішчам родным дрыжыць,
Тут хоча да скону застацца.
Крыніцаю б на зямлі пражыць,
Чакаючы прысталага старца.

* * *

Навобмацак пазнаваў бацькоўскі дом,
Свяціўся ў цемры цёпла кожны камень.
І трызніць сум, як шпак сваім гняздом
У выраі здаўнелым... і чакае...

* * *

Пасвятлелі ад пяшчотных крозаў
Кветкі, дачакаўшыся вясны.
Не стае ані дажджоў, ні слёзаў —
Прысак гоняў, душаў дзірваны...

*Пераклад з курдскай*
*Рыгора Барадуліна.*



*Гора і радасць, адчай і спадзяванні людзей, што нясуцца ў бурнай плыні жыцця, — гэта і ёсць матэрыял, з якога ствараюцца творы цэйлонскай пісьменніцы Пуньякантэ Віджэнаіке. Яны прыцягваюць нашу ўвагу сваёй лёгкасцю і майстэрствам, глыбокім пранікненнем аўтара ў жыццё цэйлонскага народа.*

**ПУНЬЯКАНТЭ ВІДЖЭНАІКЕ**

# АБЯЦАНАК

Ісахамі валаклася пад пякучымі праменнямі паўдзённага сонца. Дарога здавалася ёй вельмі доўгай, бо яна дужа стамілася, а вязанка дроў ціснула на плечы. Ісахамі была немаладая і непрыгожая: прысадзістая, з пляскатым тварам, са скурай, абпаленай сонцам. Збіраць ламачча ў джунглях было нялёгка, а цяпер яна не магла нават прысесці, каб адпачыць. Хутка са школы вернуцца двое яе дзяцей, як заўсёды галодных, і трэба паспець прыгатаваць рыс да іх прыходу.

Думаючы пра дом і дзяцей, Ісахамі ў адчаі заплюшчыла вочы. Дом... Хіба можна назваць домам іх напаўразбураную хаціну, дзе нават траім цесна? А дажджы, што праз месяц прынясе мусон, размыюць яе, як папяровую, і яны застануцца зусім без прытулку. Спарахнелую страху з сухіх пальмавых лісцяў не здолеюць адрамантаваць нават яе цярплівыя пальцы. Калі пальюць дажджы, страха праваліцца. Трэба знайсці новае жытло, і як мага хутчэй. Але дзе?

Ісахамі цяжка ўздыхнула, успомніўшы, колькі пакутаў яна перанесла ў апошнія некалькі месяцаў, падшукваючы жытло па сходнай цане! Вось каб муж і бацька яе дзяцей быў жывы! Ён пабудаваў бы дом для іх. Ён быў добры муж і бацька, і яшчэ — добры цясляр. Мог паклікаць сваіх сяброў на дапамогу, і не паспелі б усе азірнуцца, як жыллё ўжо было б гатова.

Да хаціны заставалася ўсяго некалькі крокаў. З цяжкацю Ісахамі дапялася да парога і скінула ношу на зямлю. Яна хутка прамыла рыс і паставіла яго варыць. Потым узяла стары венік і вымела смецце на двор. Думкі ў яе галаве круціліся, як вавёрка ў коле. Што ж рабіць? Раптам яе твар пасвятлеў. Яна кінула венік і ўсміхнулася. Як жа яна раней пра гэта не падумала! Варта схадзіць у суседнюю вёску да варажбіта, і ён параіць, што рабіць, а магчыма, і дом дапаможа знайсці. Усе кажуць, што ён вялікі чарадзей, нават багі слухаюць яго. Ісахамі з палёгкай выпрасталася. Сёння ўвечары яна наведае яго.

Рыхтавалася яна доўга. Спачатку расчасала свае доўгія чорныя валасы і змазала іх какосавым алеем. Потым спрытна скруціла іх на патыліцы ў вузел і замацавала куру — *грэбенем з арнаментам, каб* лепш трымаўся. Гэты грэбень дастаўся ёй ад нябожчыцы маці і быў яе адзіным упрыгожаннем. Насіла яна яго толькі ва ўрачыстых выпадках. Потым Ісахамі напудрылася, апранула белую сукенку і кофтачку. Яна і сама не ведала, чаму апранулася ў белае. Магчыма, думала дагадзіць гэтым варажбіту — бо ў белым Ісахамі хадзіла звычайна толькі ў храм. Яна выняла з бляшанкі некалькі рупій і загарнула іх у хусцінку. Потым захуталася ў белы ручнік, узяла жменю пахучых лісцяў беталю і выправілася ў дарогу.

Калі вядзьмак убачыў жанчыну, ён задаволена пацёр рукі і з усмешкай прапанаваў ёй сесці. Жанчыны прыходзілі сюды толькі для таго, каб папрасіць дапамогі. А за гэта ён атрымліваў немалыя грошы.

Ісахамі нясмела прымасцілася ў крэсла і падумала: «Навошта я прыйшла сюды адна? Трэба было паклікаць з сабою сяброўку ці суседку». І хоць яна не вельмі баялася варажбіта, ды раптам расхвалявалася і не ведала, як пачаць размову.

— Ну, дык што ж здарылася з маёй старэйшай сястрой? — спытаў варажбіт.

— Бяда ў мяне, брат. Вы павінны дапамагчы мне, ці я заб'ю сябе.

Варажбіт моўчкі выслухаў яе. Жуючы беталь, ён час ад часу пакашліваў і сплёўваў чырвоную сліну ў медную плявальніцу, што стаяла побач. Ісахамі ціха прамовіла:

— Калі пачнуцца дажджы, мы разам з дзецьмі застанёмся без жылля. Ці не дапаможаце вы падшукаць нам што-небудзь лепшае?

Варажбіт па-ранейшаму задумліва і марудна рухаў сківіцамі. Вочы яго ашклянелі. Стаіўшы дыханне, Ісахамі застыла ў чаканні.

І тут варажбіт ускочыў на ногі, паказаў ёй на дзверы і гучна прамовіў:

— Пачакай мяне там. Калі ў доме жанчына, з богам размаўляць нельга.

Ісахамі хуценька выйшла і, прысеўшы на кукішкі ля дзвярэй, стала цярпліва чакаць. Прыкладна праз гадзіну ў дзвярах паказаўся варажбіт. У руцэ ён трымаў бутэльку з густым жоўтым тлушчам.

— Маж лоб кожны дзень вось гэтым на працягу трыццаці дзён. Калі ўбачыш маладзік, бог пашле табе новы дом. Так ён абяцаў мне.

Ісахамі не ведала, як дзякаваць варажбіту. Яна стала перад ім на калені і тройчы дакранулася лбом да зямлі. Па яе шчоках каціліся слёзы. Развязаўшы хустку, яна аддала яму грошы, адчуваючы, што дае вельмі мала. За такую паслугу трэба было заплаціць больш. Варажбіт узяў грошы, але ўжо не ўсміхаўся.

— З богам размаўляць заўсёды цяжка, — сказаў ён з важнасцю. — Даводзіцца доўга прасіць, пакуль даб'ешся міласці. Небяспечная гэта справа. Бог часам злуецца, калі я занадта доўга турбую яго. Дык вось, менш як дзесяць рупій я за гэта не бяру.

Сэрца Ісахамі зашчымела ад страху. Яна рада была даць яму больш, але ў яе было ўсяго пяць рупій. Аднак з богам нельга таргавацца. Ён можа яе пакараць — пакінуць без хаты.

— Заўтра я дастану яшчэ, — сказала яна нясмела. — Калі вы пачакаеце, я прынясу.

Вярнуўшыся дадому, яна ўзяла з бляшанкі апошнія грошы, якія трымала на чорны дзень. Але цяпер, калі ёй абяцалі новы цёплы дом, яна як-небудзь пераб'ецца.

Міналі дні, Ісахамі ўсё мазала і мазала лоб тлушчам. Больш яна не шукала новага жылля, паспадзяваўшыся цалкам на бога. Яе нават не палохалі чорныя хмары, што згушчаліся на небе. Абяцанне варажбіта супакойвала.

Але міналі дні, тыдні, мінуў месяц, а дома ўсе не было. Змяніўся адзін маладзік, і пайшоў ужо трэці месяц чакання. З чацвёртым маладзіком пачаліся дажджы. Падзьмуў моцны вецер, загрымеў гром, які вельмі палохаў дзяцей. Дах абваліўся, ліўні размылі сцены. Калі б не суседзі, якія прытулілі Ісахамі з дзецьмі, яна не ведала б, што рабіць.

Пад канец шостага месяца, калі вецер сціх і дажджы спыніліся, гаспадар чайнай Амарыс Сінгха прынёс радасную вестку: непадалёк ад ракі прадаецца дом. Праўда, ён ужо стары і да таго ж у сезон дажджоў, калі рака выходзіць з берагоў, яго часта затапляе, але затое дом вельмі трывалы — пабудаваны з цэглы і крыты гонтай.

Ісахамі з радасцю пасялілася ў новым доме. Плаціць трэба было няшмат — дом стаяў блізка ад берага, і Ісахамі не сумнявалася, што бог выканаў свае абяцанне.

Уся вёска прыйшла да яе спраўляць наваселле: хто прынёс рысавую кашу на малацэ, хто праснак, а хто салодкія піражкі. Дзеці весяліліся на двары.

Ісахамі плакала ад радасці і расказвала Амарысу Сінгху пра цуд, які вымаліў варажбіт.

Амарыс Сінгха слухаў і хмурыўся.

— Але ж ён абяцаў дом праз месяц, а ты атрымала яго толькі праз паўгода. Відаць, здарылася затрымка.

Усе засмяяліся. Толькі не Ісахамі. У яе сэрца пранікла сумненне.

— Гэта праўда, ён сказаў «праз месяц». — Твар Ісахамі раптам расплыўся ва ўсмешцы. — Ведаеш што, Амарыс Сінгха, мой старэйшы брат, давай сходзім да яго разам. Няхай растлумачыць, чаму атрымалася такая затрымка.

Калі варажбіт убачыў, што да яго прыйшла жанчына з мужчынам, ён спахмурнеў.

— Чым я магу памагчы табе на гэты раз, старэйшая сястра? — спытаў ён.

Амарыс Сінгха расказваў, чаго яны прыйшлі. Варажбіт слухаў вельмі ўважліва, яго вочы неспакойна бегалі. Калі Сінгха скончыў, ён кашлянуў і ўстаў.

— Гэта, канечне, дзіўна, — прамармытаў ён. — Пачакайце на двары, я зноў пагаманю з богам і даведаюся, чаму ён памыліўся.

Наведвальнікі паслухмяна выйшлі і пачалі цярпліва чакаць. Праз дзве гадзіны варажбіт паклікаў іх. Ён зноў стаў такі, як заўсёды: усмешлівы, спакойны і самаўпэўнены.

— Прычына зусім простая, — пачаў варажбіт урачыста. — У той час, калі я прасіў бога, ён, займаючыся раздачай міласцей, быў у адлучцы і яго абавязак выконваў намеснік. Гэта малодшы бог, не параіўшыся з начальнікам, неабдумана абяцаў табе дом праз месяц. А калі старэйшы бог вярнуўся, то вельмі разгневаўся: «Як ты пасмеў

даваць такое абяцанне?» — закрычаў ён на свайго намесніка. Але ж абяцанне было дадзена, богу прыйшлося ўступіць. Ён загадаў выдаць дом, але толькі праз шэсць месяцаў, не раней.

Прадказальнік адкашляўся і паглядзеў проста ў вочы Амарыса Сінгха.

— Бог разгневаўся на мяне за тое, што я прасіў міласць у яго адсутнасць. Я ж не ведаў, што ён адпачывае. Усё ж мне давялося доўга ўпрошваць яго, пакуль ён супакоіўся. Калі б мне гэта не ўдалося, то ў канцы месяца ён загадаў бы вярнуць дом назад. Так, даволі шмат я папрацаваў, Амарыс Сінгха. Думаю, што маю права папрасіць у цябе яшчэ дзесяць рупій за клопаты, — сказаў на заканчэнне варажбіт.

# УКУ І УКУРАЛА

Гэта гісторыя-быль. Стары, які расказаў яе нам, бажыўся, што так усё і было.

Уку быў самы лагодны сярод сланоў, а Укурала — самы добры і спагадлівы сярод пагоншчыкаў. І да таго, як здарылася трагедыя, абодва яны былі сябрамі расказчыка.

Для Укуралы той апошні дзень быў напоўнены сумнымі ўспамінамі. І ён, той дзень, вырашыў яго лёс. Бо менавіта ў гэты дзень зоркі і планеты, што кіравалі яго жыццём, павярнуліся супраць яго.

Уку ішоў да ракі, а на спіне ў яго апошні раз сядзеў пагоншчык Укурала. Цяпер стары ўжо не прамаўляў слоў, якія кожны дзень паўтараў як малітву — з той пары, калі даведаўся, што ім з Уку прыйдзецца развітацца назаўсёды. Раней ён паўтараў: «У нас ёсць яшчэ час. У нас ёсць яшчэ шмат часу. Будзе заўтра, будзе паслязаўтра і пасляпаслязаўтра. Да канца месяца далёка».

Цяпер ён маўчаў, бо часу ўжо не было. Не заставалася ў запасе ніводнага тыдня, ніводнага дня, якія засланілі б ад яго непазбежнае, каб ён мог прытварыцца перад сабою, што ўсё добра. Заставаўся толькі гэты дзень, але гадзіны імкліва беглі адна за адной, як ні стараўся Укурала затрымаць іх. Сонца пякло яму ў спіну, сляпіла вочы. Дзень толькі пачынаўся, чаму ж сонца было такое спякотнае? А Уку, адчуўшы блізкасць ракі, прыспешыў крок. Слон вельмі любіў раку, заўсёды праяўляў нецярплівасць, калі да яе заставалася міля. Але ж сёння, так здалося пагоншчыку, ён проста імчаўся.

Укурала заплюшчыў вочы, каб не бачыць знаёмыя сілуэты далёкіх гор, зялёныя рысавыя палі і стрэхі вясковых хацін, каля якіх ён праязджаў. Немагчыма было паверыць, што нічога гэтага ён больш ніколі не ўбачыць. Але і з заплюшчанымі вачыма ён працягваў бачыць горы і палі, на якія пазіраў штодзённа на працягу трыццаці гадоў. Ён і з заплюшчанымі вачыма ўяўляў кожны ўзгорачак, што сустракаўся на дарозе.

Калі Уку ўвайшоў у джунглі, праз якія дарога вяла да ракі, Укурала адчуваў пах кожнага дрэва, пазнаваў птушак, што віталі яго

сваім шчабятаннем. А калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў перад сабою блакітную шырокую стужку ракі, быццам прачка разаслала сушыць вымытую тканіну. Рака разлілася ад дажджоў, што ішлі ўвесь апошні месяц, але здавалася мірнай. Нягледзячы на яе ціхую плынь, Укурала ведаў, што ёй нельга давяраць. Калі рака цячэ занадта спакойна — ведай, што яна тоіць у сабе злосць. Уласны язык здаваўся яму чужым, і ён з цяжкасцю прамовіў звыклыя словы:

— Дана, Уку, дана!

Уку няўклюдна апусціўся на калені. Укурала саслізнуў на зямлю, а Уку, ледзь не спатыкаючыся ад нецярплівасці, кінуўся ў ваду, каб найхутчэй прыемная прахалода вады дакранулася да яго тоўстай скуры. На рацэ Уку любіў адно месцейка і адразу накіраваўся туды. Там было глыбей, на дне ляжала некалькі вялікіх камянёў, аб якія можа было пацерціся. Слон марудна лёг, з асалодай чакаючы, калі Укурала падплыве і пашкрабае яму бакі.

Як заўсёды, Укурала вылаяў Уку за тое, што яму прыйшлося плысці так далёка. Ён хутка стамляўся і пачынаў задыхацца. «Задужа ты стары, Укурала, каб даглядаць Уку, — думаў пагоншчык. — Глядзі, як хутка ты стамляешся! Уку патрэбен новы пагоншчык. Так, у яго будзе новы пагоншчык. Гэта Махасена, ён малады і дужы».

Укурала ўзяў шкарлупіну какосавага арэха, мяккую ад частага ўжывання, і пачаў шкрэбці Уку. З-за моцнай плыні і вялікай глыбіні яму звычайна даводзілася ўзбірацца на чэрава слана, каб дацягнуцца да яго вушэй. Стоячы так, ён мог зазірнуць у самае вуха. Але на гэты раз шкарлупіна раптам выслізнула ў яго з рук і ўпала ў ваду. Ён не паспеў нагнуцца, як яе аднесла плынню. Стары заплакаў. Яму зрабілася балюча не толькі ад таго, што прапала шкарлупіна, але і ад таго, што ўсё паварочвалася супраць яго, а заўтрашні дзень быў ужо зусім блізка. Ён не саромеўся слёз, што каціліся па яго маршчыністых шчоках.

Пагоншчыку ўспомнілася мінулае. Тыя першыя гады, калі Уку трапіў да яго малым слонікам проста з джунгляў, — дзікі, пужлівы. Пакрысе Укурала заваяваў яго сэрца і прымусіў забыцца пра маці і джунглі. Цярплівасць і дабрыня — вось сродкі, якія дапамагалі пагоншчыку зрабіць з Уку самага лагоднага і дабрадушнага слана ў свеце. Яму амаль ніколі не даводзілася пускаць у ход бедзіла і ланцуг. «Уку як дзіця, яму і пагоншчык зусім не патрэбны», — казалі іншыя пагоншчыкі. Гэта была зайздрасць.

«Ён лагодны таму, што я зрабіў яго такім, — пярэчыў Укурала. — Слон бывае такім, якім зробіць яго пагоншчык».

«Ніхто не будзе адносіцца да Уку з такой цярплівасцю, як я, — думаў Укурала. — Бедны Уку, колькі табе давядзецца вытрываць ад Махасены».

Уку мірна ляжаў у вадзе, жмурачыся ад задавальнення. Калі б яму дазволілі, ён, пэўна, ніколі б не вылазіў з вады. Час для яго спыняўся. А Махасена грубы і жорсткі. Укурала добра ведае такіх, як ён. Не, Махасена не дазволіць слану песціцца ў вадзе. «Увесь свой час ён будзе траціць на курэнне і выпіўку, — з горыччу думаў Укурала. — Цяперашняя моладзь толькі сябе і любіць. Тытунь, віно, жанчыны — вось і ўсе іхнія клопаты».

Уку ўзняў над вадой хобат — быццам зразумеў думкі Укуралы, быццам ведаў, што яго волі хутка прыйдзе канец. Ён пырснуў вадой

на Укуралу. «Заўтра я ўжо не здолею абліць цябе гэтак, — нібыта хацеў ён сказаць. — Заўтра той, новы, не дазволіць мне».

Гэтыя хітрыкі служылі звычайным сігналам для гульні, якую Уку заўсёды распачынаў перад тым, як выйсці з ракі. Слон абліваў Укуралу вадою, а той рабіў выгляд, што злуецца. Пагоншчык вяртаўся на бераг, а Уку ішоў за ім. Але на гэты раз ад такога напамінку сэрца старога сціснулася. Ён хутка адвярнуўся і паплыў да берага. Уку паслухмяна пайшоў за ім.

— Біла, Уку, біла!

Уку падняў правую нагу, дапамагаючы пагоншчыку забрацца сабе на спіну.

— Даха, даха!

Уку пакрочыў наперад, прадзіраючыся праз джунглі, як гіганцкі бульдозер. Укурала аддаваў каманды адрывістым, уладным тонам. Уку пайшоў яшчэ хутчэй, руйнуючы ўсё, што траплялася на дарозе.

Наступнай раніцай, разлучаны з Уку, Укурала зразумеў, што дарэмна пераконваў сябе, быццам здолее забыць слана і раку. У пэўны час ён ужо цягнуўся па знаёмай сцяжыне праз джунглі да ракі. Задужа моцнай стала гэта звычка за трыццаць гадоў. Стары пагоншчык адчуваў, што яго немагчыма аддзяліць ад слана і ракі, як сонца ад неба. Ён не мог перасіліць у сабе жаданне зноў убачыць Уку, даведацца, як ён ладзіць з новым пагоншчыкам.

Укурала ўзлез на вялікае дрэва над самым берагам, схаваўся ў яго лістоце і стаў чакаць. Пад ім рассцілалася рака. Было ціха, і Укурала чуў, як сэрца стукае ў грудзях, нібыта храмавы барабан.

А Уку і яго новы пагоншчык спазніліся. Яны прыйшлі, калі сонца стаяла ўжо амаль над самай галавой. Усё цела Укуралы здранцвела ад доўгага сядзення. Махасена злез з Уку, і слон марудна ўвайшоў у ваду. Укурала заўважыў, што слон не так спяшаецца пачаць купанне, як звычайна. Махасена паплыў следам.

Укурала глядзеў і не верыў сваім вачам. Ці не сонца сыграла з ім злосны жарт? Уку ўлёгся ў вадзе і заплюшчыў вочы, а Махасена пачаў шкрэбці яму спіну цвёрдай шкарлупінай какосавага арэха. Рукі ў маладога пагоншчыка былі дужыя, і ён старанна цёр Уку. Слон з асалодай выцягнуў ногі, радуючыся дотыку дужых рук. У старога пацямнела ў вачах, ён задрыжаў і, каб не зваліцца, моцна ўчапіўся за галіну. Не, не можа быць, ён памыляецца. Калі б ён быў бліжэй да Уку, дык напэўна разгледзеў бы ў яго вачах пакуту. Выцягнуўшы шыю, ён зноў напружыў зрок. Махасена смяяўся і нешта казаў Уку на мове сланоў. Вочы Уку памалу расплюшчыліся, быццам ён толькі цяпер заўважыў, што да яго звяртаецца новы голас. Укурала затаіў дыханне. Слон марудна і асцярожна, быццам не ведаючы, як успрымуць яго дзеянне, падняў хобат і абліў Махасену струменем вады. У сэрцы Укуралы ўспыхнула надзея. Вось цяпер Махасена абавязкова не вытрывае і пачне лаяцца. Але Махасена, наадварот, рассмяяўся. Ён хуценька зачэрпнуў вады ў вядро і выплюхнуў яе на Уку. Слон адразу ж апусціў хобат у ваду. І Укурала ўявіў сабе, якой гарэзлівасцю і шчасцем засвяціліся яго маленькія цёмныя вочкі. Ён заўсёды любіў гуляць, а гэтая гульня здалася яму нават цікавейшай, чым тая, у якую ён гуляў са старым пагоншчыкам. Яны працягвалі абліваць адзін аднаго вадой. Махасена і яго слон. Шум вясёлай валтузні раз-

носіўся над ракой. Уку быў шчаслівы. Ён палюбіў свайго маладога пагоншчыка.

Укурала злез з дрэва. Яго галаву быццам сціснула абручом. З кожным усплёскам вады, з кожным узрывам смеху Махасены гэты абруч нібы сцягваўся ўсё тужэй і тужэй, і яму здавалася, што яго галава вось-вось трэсне. Ён хацеў пайсці адсюль, але дзіўнае жаданне глядзець і пакутаваць прымусіла яго застацца. Яго позірк усё вяртаўся і вяртаўся да купальшчыкаў, а калі ў яго не засталося сіл глядзець на іх, стары ў знямозе зваліўся, і слёзы, сцякаючы па яго худых шчоках, падалі ў мяккую бурую зямлю.

* * *

З той пары вялікае дрэва каля ракі стала пастаянным прыстанішчам старога. Ён нават і ўначы рэдка злазіў з яго. Ён баяўся, што, спусціўшыся на зямлю, зусім згубіць Уку. Гэта была неадчэпная думка. Кожны дзень Уку бязлітасна наносіў жорсткія ўдары яго сэрцу, і ўсё-такі Укурала не мог пражыць і дня, не ўбачыўшы яго. Ён жыў пастаяннай надзеяй, што вось-вось здарыцца цуд і любоў да Махасеныператворыцца ў нянавісць. Ён сачыў за імі і маліў бога, каб Уку як-небудзь паказаў, што яго сэрца ўсё яшчэ належыць Укуралу. Стары маліўся ўвесь час, жадаючы гэтага так моцна, што жаданне павінна было збыцца. Не мог жа Махасена так лёгка і так хутка заняць яго месца ў сэрцы слана! Слон не забывае чалавека, які выгадаваў яго. Вядома, Уку не забыў, і сэрца яго пакутуе гэтак, як і сэрца Укуралы. Уку патрэбны толькі выпадак, каб паказаць свае сапраўдныя пачуцці. Ён, Укурала, павінен з верай і цярплівасцю чакаць, пакуль прыйдзе час дапамагчы Уку паўстаць супраць Махасены.

Укурала не ведаў, калі і якім чынам зарадзілася ў яго думка пра забойства. Ён нікога не хацеў забіваць. Праліццё крыві заўсёды страшыла яго. Ён не жадаў смерці Махасены. Ён толькі хацеў даказаць, што па-ранейшаму яго голас мае большую ўладу над сланом, чым голас Махасены. Гэта, і толькі гэта падштурхнула яго ў той дзень — упершыню за многія гады — выпіць спіртнога. Алкаголь хутка разліўся па яго жылах, разгарачыўшы кроў. Узбуджэнне змянілася злосцю. Укурала ўжо не мог больш сядзець і пакорліва прымаць удары, якія пасылаў яму жорсткі лёс. Яму захацелася ўзяць лёс ва ўласныя рукі і вярнуць сабе тое, што цяпер не належала яму. І ў гэтае імгненне па волі лёсу — ці д'ябла — ён убачыў сук, самы звычайны сук, які нічым на першы погляд не адрозніваўся ад таго, на якім Укурала кожны дзень сядзеў. Толькі гэты сук быў даўжэйшы і размешчаны ніжэй. Потым ён скеміў, што гэты сук якраз навісае над тымі камянямі, каля якіх купаўся Уку. Калі дабрацца да канца сука, дык апынешся проста над галавой слана. Стары пачаў асцярожна караскацца па суку.

Неба той раніцай было зацягнута хмарамі, і ўдалечыні парою чуліся грымоты. Калі Укурала дабраўся да канца сука, ён заўважыў, што гром палохае Махасену. Той усё паглядаў на неба і не ўцягваў Уку ў гульню.

Укурала сцішыўся ў чаканні. Скурчыўся, як леапард, гатовы да скачка. Але і тады ён не думаў забіваць — яму хацелася толькі чым-небудзь дапячы Махасену і зноў адчуць, што Уку любіць яго.

А потым, не разумеючы, што робіць, Укурала саскочыў з дрэва на спіну Уку.

— Даха пуру, даха пуру!

Махасена пачуў гэтыя словы — загад Уку нападаць, але не бачыў, хто іх прамовіў — якраз у гэты момант глядзеў на цёмную хмару. Потым ён адчуў, што Уку ўстае, страціў раўнавагу і ўпаў. У вушах зашумела вада. Але і праз шум ён чуў смяротныя словы, якія паўтараў нечы знаёмы голас:

— Даха пуру, даха пуру!

Махасена паспрабаваў падняцца, але вада не адпускала яго. Нарэшце яму ўдалося вынырнуць, і ён з жахам убачыў занесеную над сабой вялізную нагу. Ён хацеў закрычаць, але вада лінула ў рот, не даючы выгукнуць ні слова. Ён толькі бездапаможна глядзеў, як апускаецца нага слана. Праз імгненне Махасена апынуўся ў цемры і нямой цішыні.

— Даха пуру, даха пуру!

Укурала сам не верыў, што менавіта ён, а не хтосьці іншы гаворыць гэтыя словы, і што менавіта Уку, добры і пакорлівы, выконвае яго каманду. Стары ўзяў верх. Ён не памыліўся! Слон паслухаўся яго і напаў на Махасену. Значыць, ён усё яшчэ любіць свайго былога паганшчыка больш за ўсіх.

Цяжкая нага Уку ўсё глыбей апускала галаву Махасены пад ваду. Але тут Укурала ўбачыў кроў, аддаў іншую каманду, і слон падняў нагу.

— Даха, даха!

Уку выйшаў на бераг і, несучы Укуралу на спіне, памчаўся па джунглях, палохаючы птушак і малпаў. Потым спыніўся, і ніякія намаганні Укуралы не маглі прымусіць яго зрушыць з месца. Уку стаяў ціха, нерухомы, як скала, толькі вялікія вушы трывожна варушыліся. Укурала застыў ад страху.

— Даха! — сярдзіта крычаў ён, б’ючы слана рукою. — Даха!

Але Уку працягваў стаяць, быццам нічога не чуў. Сэрца Укуралы адчайна білася. Чаму Уку гэтак дзіўна паводзіць сябе? Чаго ён спалохаўся? Можа, ён пачуў голас Махасены? Але гэта немагчыма: Махасена мёртвы. І тут рукі Укуралы задрыжалі, рот адкрыўся... Што ён нарабіў? Дурань! Яго пакорлівы, добры Уку забіў Махасену.

Ён навучыў Уку забіваць. А сланы ніколі не забываюць, чаму іх вучаць і хто вучыць. Забіўшы аднойчы, Уку захоча забіць і ў другі раз. Ён ужо захацеў! Укурала паспрабаваў сказаць што-небудзь, разарваць цішыню, што пагражала яму гібеллю, але ён не мог вымавіць ні гуку. Ласкавыя словы, якія ён часта казаў слану, заставаліся нявымаўленымі, бо ў роце ў яго так перасохла, нібы шмат дзён ён не піў ні кроплі вады.

— І гэта сапраўды здарылася? — спыталі мы ў старога. — Уку забіў і Укуралу?

Стары сумна кіўнуў галавой.

— Так, — мовіў ён проста. — А хіба магло быць інакш? Сланы ніколі не забываюць, чаму іх вучаць, не забыў і Уку.

# РАКА

Калі ўзняцца на самую высокую гару і паглядзець уніз, то далёка-далёка, на самым дне даліны, няцяжка ўбачыць раку. Яна так уецца і пятляе сярод дрэў, што спачатку яе можна прыняць за дарогу, сцяжыну ці проста за паласу голай бурай зямлі.

З гары не разгледзець, якая глыбокая і магутная рака, бо адтуль яна здаецца шырокай і мелкаводнай, такой жа спакойнай і мірнай, як сама даліна. У пагодлівы дзень можна нават убачыць на рацэ нейкія бурыя плямы. Гэта — лодкі, што плаваюць па рацэ, калі яна ціхая і спакойная. Але, на жаль, такой яна бывае не часта. Пра гэта сведчаць мёртвая цішыня даліны і руіны калісьці жывой вёскі. З гары, вядома, такой раку не ўбачыш. Каб разгледзець яе сапраўднае аблічча, каб зразумець, што хаваецца пад яе падманным спакоем, трэба спусціцца ў даліну. Але спусціцца да яе таксама няпроста. Спачатку трэба прайсці праз змрочныя джунглі, дзе блукаюць вечна галодныя леапарды. Потым пачнуцца слізкія скалы, чорная гладзь якіх таксама ўтойвае ў сабе смерць. А ў гушчэчы калючай травы падпільноўваюць змеі і п'яўкі, заўсёды гатовыя прысмактацца да цёплай мякаці чалавечай ступні. Ды вось за ўсе пакуты, здаецца, будзе шчодрая ўзнагарода: паступова схіл вызваляецца ад джунгляў, і неўзабаве яны змяняюцца ўрадлівымі землямі поймы.

Аднак прырода тут адцягвае ўвагу ад небяспекі, што тоіцца ў рацэ. Вельмі хутка і вельмі хітра яна схавала спусташэнні, прычыненыя апошняй паводкай: зноў пладаносіць велічная какосавая пальма, зноў гнецца пад цяжарам пладоў яе сусед — хлебнае дрэва. Водар спелых манга і сакавітых траў вабіць чалавека да сябе, закалыхвае яго пільнасць. Але чалавека нельга падманваць доўга. Даліна бязлюдная — у ёй стаіць адзіная хаціна, стаіць бясстрашна. І жыве ў гэтай хаціне Лансіна Нона.

* * *

...Калі рака затапіла вёску ў другі раз, сяляне вырашылі перасяліцца ў больш бяспечнае месца. Пайшлі ўсе, апроч Лансіны Ноны. Толькі яна адмовілася прызнаць перамогу ракі. Нельга пакідаць такую ўрадлівую даліну, сказала яна. Тут яе дом. Яна жыла тут з дня свайго нараджэння, і ніякая рака не прымусіць яе пайсці адсюль. Калі спатрэбіцца, яна застанецца жыць адна і дакажа, што ёсць яшчэ шляхі і сродкі перахітрыць старую вядзьмарку.

Калі загінуў рыс, яна збірала ўцалелыя какосавыя арэхі і выкопвала клубні дзікай бульбы — батата. Ледзьве спала вада, Лансіна Нона ўзяла матыку і доўга блукала па чорным схіле ў пошуках лапіку зямлі, якому б не пагражала паводка. Нарэшце яна адшукала такое месца ззаду скалы з пячорай, зусім блізка ад джунгляў. Затое пляцоўка была амаль роўнай, заставалася толькі разрыхліць зямлю і разраўняць яе граблямі. Затым Лансіна Нона дастала прыхаванае насенне і пасеяла яго. Павінна было мінуць шмат часу, перш чым ёй прыйдзецца зноў адчуць у роце смак рысу, але яна была гатовая чакаць. Яна была гатовая чакаць колькі трэба.

Крыху вышэй, за рысавым полем, яна выкапала градкі і пасеяла гарбузы, трошкі салодкай бульбы і струковага перцу. А потым набрала на ўскрайку джунгляў ламачча і абнесла ўвесь участак нізенькай агароджай.

Калі па рацэ праплывалі лодкі з людзьмі, накіроўваючыся да другога канца даліны, Лансіна Нона садзілася на беразе і глядзела на іх. Часам людзі, не разумеючы, адкуль узялася ў гэтых дзікіх месцах адзінокая жанчына, прычальвалі да берага і загаворвалі з ёю. Было нешта нястомнае і жыццярадаснае ў выразе яе круглага поўнага твару. Такой жанчыны яны ніколі не бачылі. Яе вочы былі як дым над вогнішчам, а скура светлая, залацістая, як у гаранак, і надзіва бледная, быццам разбаўленая малаком. Нона гаварыла ім, што яе бацька набыў белы, калісьці ён ненадоўга трапіў у іхнюю вёску. Таму маці і назвала яе Лансінай Нонай, што значыць «паўбелая».

Ад праезджых яна даведвалася, што робіцца на свеце, і сама расказвала ім што-небудзь цікавае. Аднойчы яна папрасіла іх прывезці казу, каб даіць яе і даваць ім малако, калі яны захочуць піць. Аднак ні пра цяжкасці свайго жыцця, ні пра вечную пагрозу ракі яна ніколі не казала.

Людзі пераконвалі яе паехаць з імі. «Навошта табе заставацца тут адной? Паедзем з намі, сястра, мы знойдзем табе добрае месца для жылля. Вунь за той гарою ёсць вялікая вёска, і людзі там добрыя. Берагі ракі там высокія, і яна не затапляе даліну, а глеба там таксама добрая, урадлівая».

Лансіна Нона стаяла на сваім. «Тут я нарадзілася і тут памру, калі прыйдзе час, — казала яна. — Але я не патану, а памру ад чаго-небудзь іншага — ці ад хваробы, ці ад старасці, хто ведае? Усім нам суджана памерці. А можа, леапард, што жыве ў джунглях, спусціцца сюды і заб'е мяне. Які сэнс бегаць туды-сюды? А ракі я не баюся, не прымусіць яна мяне пайсці адсюль».

«Дык жа небяспечна і неразумна адносіцца з пагардай да ракі. Хіба ты здолееш адна змагацца з ёю?»

Лансіна Нона ўсміхнулася. «Не турбуйцеся, рака не прычыніць мне шкоды. З гадамі я стала разумнейшая і хітрэйшая. Бачыце, я пасеяла рыс там, куды рака не зможа падняцца. А калі разваліцца хаціна, я пайду наверх, у пячору, і буду жыць там. Так, так, калі хочаце, то можна пражыць і тут, на злосць рацэ».

* * *

Праз месяц пачаліся дажджы. Калі струмені вады застукалі па страсе, Лансіна Нона прачнулася, адчыніла дзверы і паглядзела на раку. Яна была спакойная. Лансіна Нона ўзрадавалася, што дажджы пачаліся рана, бо настаў час паліваць рыс. Яго ўсходы падняліся ўжо на шэсць дзюймаў у вышыню, і цяпер кожную раніцу яна будзе падымацца на гару і з радасцю глядзець на поле. Вельмі добра — няхай лье, пакуль не напоіць рыс, а потым сціхне. Яна ўважліва агледзела неба. Хмары не вельмі густыя, дажджы не зацягнуцца.

Лансіна Нона вярнулася ў хату, рабіць не было чаго і, дастаўшы кнігу ў чорным пераплёце, разгарнула яе. За выключэннем старых школьных падручнікаў ды гэтай кнігі, яна ніколі нічога не чытала.

Старонкі кнігі сцерліся, а некаторыя парваліся. Лансіна Нона ведала амаль кожнае слова, напісанае ў кнізе, і ўсё ж чытала яе. Чытала не таму, што ёй было цікава, не таму, што была набожная, а проста па звычцы, бо не ўмела сядзець без справы.

Лансіна Нона не адносілася да тых багамолак, якія праводзяць жыццё ў малітвах, і ўсё-такі акуратна малілася кожны дзень. Яна прывыкла да гэтага яшчэ тады, калі толькі вучылася хадзіць. Маленьняй ёй служыла старое свяшчэннае дрэва, якое ўстаяла ў час паводкі. Яна прыбіла да ствала невялікую скрыначку і паставіла ў яе статуэтку Буды з адбітай галавою. Скрыначку яна завесіла стракатай анучай, а побач са статуэткай паставіла каганец з алеем, у якім гарэў запалены кнот. Не было ні пахучых курэнняў, ні кветак, але безгаловая фігурка як быццам не крыўдавала. Лансіна Нона знайшла яе ў гразі непадалёк ад ракі.

Аднак дождж, насуперак яе чаканням, не спыняўся. Ён працягваў ліць, і неўзабаве рака пачала пацiху падымацца. Лодкі праплывалі ўсё радзей, а калі яны з'яўляліся, людзі настойліва крычалі: «Едзем, сястра, едзем! Чаго ты ўпарцішся? Бачыш, рака падымаецца з кожным днём усё больш!» Але яна толькі ўсміхалася і адмахвалася: «Не бойцеся, нічога не здарыцца. Хіба я не ведаю раку як свае пяць пальцаў?»

* * *

Неяк раніцай, адчыніўшы дзверы хаціны, яна ўбачыла, што вада падступіла да самага парога — яна разлілася вакол хаціны, як злодзей, шукаючы пралаз. Лансіна Нона сабрала ўсё, што магла несці, узяла казу з сабою і адправілася наверх, да пячоры. На паўдарозе яна спынілася перадыхнуць і паглядзела ўніз. Вада заліла хаціну. Цяпер нават калі б Лансіна Нона і захацела, яна ўжо не магла вярнуцца. Ды і патрэбы не было. Цыноўка, гаршчок, каганец і свяшчэнная кніга былі пры ёй.

Баючыся, каб рыс не пацярпеў ад лішкаў вільгаці, Лансіна Нона ўзяла матыку, якую трымала ў пячоры, выкапала раўкі і спусціла лішнюю ваду.

Яна загадзя прынесла ў пячору запас какосавых арэхаў і гароднiны. Цяпер ела іх і смяялася з ракі: «Што, думала на гэты раз адолець мяне? — весела крычала яна. — Ану, спачатку падыміся вунь да таго дрэва, а потым палохай!»

І, быццам разгневаная гэтымі кпінамі, рака на другі дзень разбушавалася. Хвалі раз'юшана ламалі дрэвы напалам, вада сарвала хаціну Лансіны Ноны са слупоў і разбіла яе. Лівень узмацніўся, над далінай тужліва завыў вецер. Урэшце, нават Лансіна Нона вымушана была прызнаць, што вораг моцны. Рака рвалася наперад, як заваёўнік, цягнула за сабою ўсё, што падпарадкоўвалася яе ўладзе, і бязлітасна разбурала ўсе перашкоды. Зверху відаць было, як па вадзе плывуць мёртвыя каровы і сабакі.

«Застаўшыся тут, я выратавалася ад гібелі, — думала Лансіна Нона. — На гэты раз рака разлілася вышэй даліны і разбурыла іншыя сялібы. На жаль, неразумна робяць тыя, хто ўцякае. Вось іншыя збеглі адсюль, ды ўсё роўна не выратаваліся».

* * *

Нарэшце дождж сціх. Лансіна Нона думала, што ўжо ніколі больш не ўбачыць сонца, але, прачнуўшыся гэтай раніцай, узрадавалася: сонца ззяла ў небе такое ж яркае і магутнае, як раней. Яно ўсё змяніла. Пакалечаныя дрэвы распласталі свае вершаліны, са сховішчаў вылецелі птушкі, заспявалі і пачалі сушыць пёркі. У сонечным святле нават спусташэнне не здавалася такім страшным. Аднак рака не спяшалася ўціхамірвацца, яна не выпускала сушу з моцнай хваткі. Ды ўсё ж яе паверхня паступова рабілася спакойнай і нічым не выдавала схаванай пад ёй згубнай плыні. Бясконца згубнай, бо яна крадком адносіла ўрадлівую глебу, высмоктвала з зямлі жыццёвыя сокі, а людзям несла хваробы і смерць.

Лансіна Нона з сумам агледзелася навокал. Так, зямлі спатрэбіцца шмат месяцаў, каб ачуцца пасля такіх страт. Яе малітоўная скрыначка была разбіта, і безгаловы Буда зноў вярнуўся ў раку. Але яна была жывая, і пасевы рысу на гары засталіся цэлыя. Ва ўсякім выпадку ў адным яна мела рацыю: рака не здолела да яе дабрацца.

Праз два дні яе запасы скончыліся. У пячоры не засталося ніякай ежы. Трошкі раней Лансіна Нона заўважыла, што вышэй па схіле каля самых джунгляў паспелі нейкія ягады. Яна знайшла доўгі кій і насадзіла на яго граблі. З іх дапамогай яна рызыкнула ўскараскацца на кручу. Чым вышэй яна падымалася, тым буйнейшыя былі ягады.

Неўзабаве яна апынулася ў джунглях. «Вось каб высекчы іх! Колькі тады людзей магло б жыць тут, не баючыся ракі», — падумала Лансіна Нона. Потым яна выйшла да вялікага скалістага выступу. На гэтай роўнай каменнай пляцоўцы не расло нічога, апроч рэдкіх кусцікаў травы, што пакалыхвалася ад ветру. Лансіна Нона адчувала пад нагамі цяпло нагрэтага сонцам каменя.

Але пляцоўка скончылася абрывам, які даходзіў да самага дна даліны. Лансіна Нона яшчэ ніколі не перажывала нічога падобнага. У яе раптам закружылася галава, зрабілася кепска, і яна хуценька адскочыла. Адсюль была відаць уся даліна і ўся страшная карціна разбурэнняў. Даліна ператварылася цяпер у шырокае возера, якое хавала ў сабе маўклівую смерць. І ніякіх слядоў жыцця — толькі ў небе хрыпла крычалі і кружыліся галодныя ястрабы. Жанчыне здалося, што на ўсім свеце, апроч яе, не засталося ніводнай жывой душы. Яна была ўзрушана. Ёй і ў галаву не прыходзіла, якую сілу разбурэння ўтойвае ў сабе рака. Сэрца яе мацней забілася ад усведамлення таго, што яна выратавана, і ад новага незнаёмага пачуцця ўпэўненасці ў сабе. Так, толькі яна адна засталася жывая, даказаўшы мужнасць і мудрасць! Цяпер людзі паслухаюць яе, калі яна скажа, каб яны вярнуліся ў даліну. Вярнуліся, каб пачаць новае жыццё на гары.

«Тут зусім бяспечна, — думала яна. — А з гэтай скалы можна глядзець на паводку, не замачыўшы нават ногі. І няма з кім тут біцца, і ніхто не скажа, што джунглі належаць яму. Гэтая ўрадлівая зямля чакае таго, хто смялейшы за іншых, ён і завалодае ёю».

Ды раптам Лансіна Нона адчула, што памылілася, уявіўшы, быццам джунглі незаселеныя. Нехта быў там, за скалой, у зарасніках. Мільгануў цень, зашапацела сухое лісце.

«Гэта птушка ці малпа, — уголас прамовіла Лансіна Нона. — Праўда, для дробнага стварэння тут задужа ветрана».

Над скалой паказалася жоўтая галава, а за ёй — і гнуткае жоўтае тулава леапарда. Ад нечаканасці жанчына і звер разгубіліся і застылі на месцы ўсяго за некалькі крокаў адзін ад аднаго. Затым леапард паволі падаўся назад і зноў спыніўся. Лансіна Нона адкрыла рот і пачала ўсхліпваць — спачатку ціха, а потым усё гучней і гучней, пакуль усхліпванне не заглушыла для яе ўсе іншыя гукі.

Леапард злосна пазіраў на жанчыну і раптам ступіў наперад. Не разумеючы, што рабіць, Лансіна Нона паціху адступала назад. На кожны крок леапарда яна рабіла два крокі. Так яны ішлі і ішлі па пляцоўцы, пакуль жанчына не адчула пустату пад нагой. Яе цела адкінулася назад і паляцела ўніз. Падаючы, яна чула, як у вушах раве вецер, а потым убачыла раку, якая імкліва кінулася ёй насустрач. Рака набліжалася, сустракаючы яе спакойнай, пераможнай усмешкай. Лансіна Нона адкрыла нарэшце рот і пранізліва закрычала. Гэты перадсмяротны крык яшчэ доўга аддаваўся ў даліне. І людзі кажуць, што можна пачуць водгук гэтага крыку ў той час, калі рака затапляе злашчасную даліну.

# СІРЫПІНАХАМІ

Яе называлі прыдуркаватай Пінай. А сапраўднае яе імя было Сірыпінахамі. Але ніхто з жыхароў Трушчобнага гарадка ні разу не пацікавіўся, як яе завуць. А яна сама маўчала. Ці не ўсё роўна, як будуць называць цябе людзі, якіх ненавідзіш?

Трушчобны гарадок — гэта шматлікія старыя хаціны на паўднёвай ускраіне вялікага горада, якія выраслі, як грыбы, за адну ноч.

Трушчобны гарадок не ўваходзіў у шырока раскінутую сталіцу, але ў той жа час быў неаддзельны ад яе і меў уласны характар. Тут быў свой смурод. Ён узнімаўся над сцёкавымі канавамі і над кучамі смецця, якое ніколі не вывозілася адсюль і нават не вабіла галодных дзяцей, — толькі мухі кружыліся над імі. Відовішча дапаўнялі мокрыя скуркі бананаў.

Вось дзе жыла Сірыпінахамі. А пасялілася яна тут яшчэ да нараджэння Трушчобнага гарадка і, хоць не па сваёй волі, стала адной з яго заснавальніц. У тыя далёкія дні Сірыпінахамі гандлявала ў горадзе рознай драбязою, але потым не вытрымала канкурэнцыі з больш маладымі і прыгожымі жанчынамі. І давялося ёй жабраваць на вуліцах вялікага горада. Праўда, сама яна не лічыла сябе жабрачкай. О, не! Свой новы занятак яна называла «раздачай заслуг». Бо той, хто падае, набывае заслугу, якая забяспечвае шчасце ў іншым увасабленні.

Жанчыны Трушчобнага гарадка — неахайныя, ходзяць у брудным адзенні, і іхнія мужы сталі яго ворагамі. Нават жыхары хацін, якія прывыклі да ўсялякай чалавечай подласці, ніколі не ўжываюць слова «пісу», калі не маюць для гэтага дастатковых падстаў. Бо «пісу» азначае не проста «вар'ят». Ужываючы гэтае слова, суседзі Сірыпінахамі давалі зразумець, што яна чужая сярод іх, не прызнаная імі. Яны

цураліся яе, бо лічылі, што яна ганьбіць Трушчобны гарадок. Абвясціўшы яе вар'яткай, яны выратавалі гонар Трушчобнага гарадка. Бо чужому чалавеку можна было растлумачыць: «Ну што ўзяць з прыдуркаватай? Яна не разумее, што вычварае».

Апроч таго, яны яе баяліся, хоць і не прызнаваліся ў гэтым. Часам у яе ляцелі камяні, з яе смяяліся, абзывалі вар'яткай...

Чаму ж яны называлі яе прыдуркаватай?

Для жыхара Трушчобнага гарадка сабака — гэта проста сабака, і нічога больш. Сабака атрымлівае гаспадаровы аб'едкі — але гэта бывае рэдка, бо жыхар Трушчобнага гарадка звычайна сам падчышчае сваю талерку і ўсё роўна застаецца галодны. Сабака цярпліва пераносіць пабоі, калі гаспадар зрывае на ім злосць. Начамі сабака папярэджвае яго — хоць ён яго і не корміць — аб магчымых набегах суседа на тое, што ён цяпер лічыць сваёй уласнасцю. І вось Сірыпінахамі парушыла ўсе гэтыя няпісаныя законы. Яна не магла змірыцца з тым, што сабак б'юць. Яна накідвалася на мучыцеля, як анёл-выратавальнік: біла яго, кусала і драпала пазногцямі, якія толькі для гэтай мэты пакідала доўгімі.

«Калісьці даўным-даўно і я была сабакам, — з гонарам казала яна тым, хто хацеў яе слухаць. Але па дурасці саграшыла — учыніла такі вялікі грэх, што нарадзілася чалавекам».

І тым слухачам яна пералічвала ўсё добрае, уласцівае сабакам. Сабака верны і адданы, просты і шчыры — альбо ён табе сябар, альбо вораг. Сабакі не падобныя на людзей, паўтарала яна, якія кажуць адно, а робяць другое.

У адзіным пакоі сваёй убогай хаціны Сірыпінахамі трымала пятнаццаць сабак. Яна называла іх сваімі дзецьмі. Яна была падобнай на пацукалова са старажытнага горада Гамельна, але перасягнула яго — у яе не было чароўнай флейты, і ўсё ж на вуліцы яе заўсёды суправаджалі сабакі, і колькасць іх бесперапынна расла. Яна прыцягвала іх да сябе, як магніт прыцягвае жалеза. Бяздомныя, адрынутыя, такія, як і яна сама, пакрытыя паршою, старыя, маладыя, сляпыя і кульгавыя — апошнія з апошніх сярод сабе падобных. І ў кожнага было сваё імя. Любімцам Сірыпінахамі быў Хіні Апу.

«Я ўсё жыццё галадала, — мовіла яна яму. — Галадала без ежы і без любові. Як я галадала, мой маленькі, пакуль не з'явіўся ты. Мяне білі, маленькі, кожны дзень білі. Мяне білі і тады, калі я была крышку вышэйшай за цябе ростам. Расці сярод людзей усё роўна што расці сярод д'яблаў. Яны горшыя за звяроў у джунглях. Бацька прадаваў мяне кожны дзень, маленькі мой, якому-небудзь мужчыну за некалькі грошаў. Першы раз, калі ён мяне прадаў, мне было дванаццаць».

Хіні Апу дзяліў з ёю чорныя гадзіны адчаю і кароткія хвіліны радасці. Часам Сірыпінахамі прыціскалася да сабакі, як дзіця, якое спалохалася цемры. І цяпер Хіні Апу адчуў, што настала такая хвіліна. Ён ведаў, што Сірыпінахамі чагосьці баіцца. Паволі ён наблізіўся да яе і паклаў пысу ёй на калені. У яго рыжа-зялёных вачах свяцілася спачуванне.

«Хіні Апу, маленькі мой, што нам рабіць? Ён сказаў, што заўтра зноў прыйдзе. Ён сказаў, што не можа больш чакаць. Так, пан інспектар паліцыі сказаў, што не можа чакаць. Ты не маеш права трымаць

сабак у хаце, сказаў ён. Альбо атрымай дазвол, альбо мы зламаем дзверы і забяром іх. Няўжо ён зробіць гэта, Хіні Апу? Няўжо зробіць?»

Хіні Апу глуха забурчаў. Так, інспектар зробіць гэта. Нездарма Хіні Апу не давяраў людзям.

«Але чаму яны павінны забраць цябе, Хіні Апу? А Ралахамі і Апухамі, і маленькага Дзінгіры Банда? Ён і іх забярэ? І што гэта яшчэ за дазвол? Калі ты хворы бадзяўся па вуліцах, хіба яны патрабавалі для цябе дазвол? Гэта ж не яны, а я ўзяла цябе да сябе і прамыла твае болькі. А хіба не я дзялілася з табой апошнім праснаком? Не, тады яны пра цябе не клапаціліся! А цяпер, калі столькі гадоў мінула, яны загаварылі пра дазвол. Я магу трымаць цябе тут, толькі калі заплачу ім семдзесят рупій. А дзе ўзяць гэтыя семдзесят рупій, Хіні Апу? Учора мне не было за што купіць нават мерку рысу, каб наталіць боль у нашых жыватах. Калі я не магу раздабыць нават некалькі грошаў, дык дзе ж мне ўзяць семдзесят рупій? Не, усё здарылася таму, што яны ненавідзяць нас. Хто-небудзь нагаварыў пра нас пану інспектару, а ён паверыў».

Позірк Сірыпінахамі неспакойна кідаўся па пакоі і раптам затрымаўся на ржавых, звязаных разам бляшанках, што віселі на цвіку. Яе страх рассеяўся, а ў вачах на секунду загарэўся насмешлівы агеньчык.

«Значыць, ён думае, што зможа без цяжкасцей адабраць у мяне сабак, — Сірыпінахамі ўсміхнулася. — Ну, што ж, няхай прыходзіць, няхай. Калі ён не змог адабраць іх раней, дык няўжо я аддам іх цяпер? Што-небудзь прыдумаю. Не бойцеся, маленькія, я што-небудзь прыдумаю».

Яна прывучыла сабак вяртацца ў халупу на бразганне бляшанак. Дзе б яны ні знаходзіліся, яны адразу беглі дахаты. Некалькі гадоў яна цярпліва прывучала сабак да гэтага сігналу, і цяпер ён ратаваў ім жыццё.

Першы раз, калі інспектар прыйшоў са сваімі памочнікамі, каб пералавіць сабак, яна загрымела бляшанкамі. Ну, і смяялася ж яна тады, пазіраючы на сярдзіты твар інспектара!

«Не думай, што табе гэта ўдасца ў другі раз, — крычаў ён.— Праўду людзі кажуць, што ты хітрая, звяр'яцелая, але мы да цябе яшчэ дабяромся. Ты парушаеш закон, трымаеш у сваёй хаціне сабак без дазволу. Цябе трэба пасадзіць у турму, старая, а яшчэ лепш — у прытулак для вар'ятаў».

«Але дзе я вазьму семдзесят рупій, пан інспектар? Гэта не я, а вы звар'яцелі! Кажуць, што я прыдуркаватая, але ж вы яшчэ большы вар'ят. Не верце іхняй хлусні, пан інспектар. Мае сабакі добрыя. Яны нікога не турбуюць. Пакіньце нас у спакоі, пан інспектар, пакіньце ў спакоі».

«Дурніца, з мяне хопіць тваіх абраз. Аддай сабак, і ўсё тут».

«Не магу я аддаць вам сабак, пан інспектар. Не дамагайцеся!»

Нарэшце паліцэйскія пайшлі, прыгразіўшы, што прыйдуць зноў. Ёй не хацелася верыць, але яна прадчувала, што яны ўсё ж прыйдуць. Яна зноў агледзела пакой. Што ж рабіць?

У кутку на брудных анучах валяліся газавая лямпа і стары парасон. Яна доўга глядзела на іх і падумала: «Паспрабую гэтыя рэчы прадаць Аэціну Сінгху». Ён — рыкша, у Трушчобны гарадок вяртаецца

амаль ноччу. Ён ненавідзіць яе менш за іншых. Значыць, яна зможа пагаварыць з ім, і ён не прыме гэта за знявагу.

Але яна не мае сілы сядзець склаўшы рукі і чакаць, пакуль ён вернецца. Сірыпінахамі выйшла на вуліцу і зачыніла дзверы, каб сабакі не ўвязаліся за ёю. Спачатку яна паглядзела па баках. Інспектара нідзе не было відаць. Пакуль яго няма, можна схадзіць у горад і хутка вярнуцца назад.

— Бяжыце, бяжыце! Ідзе паліцыя, Піна! — Гэта крычалі дзеці, убачыўшы Сірыпінахамі. Нейкі хлопчык, кінуўшы гульню, павярнуўся ў яе бок і плюнуў. Сірыпінахамі з пачырванелым ад гневу тварам пакрочыла хутчэй. Чарцяня, чарцяняты! Ёй раптам захацелася набіць іх усіх. Яна падняла з зямлі камень і кінула яго ў хлопчыка. Камень закрануў яго руку. З драпіны пацякла кроў.

— Матуля, матуля, яна забівае мяне! Прыдуркаватая Піна забівае мяне!

З хаціны выскачыла жанчына з растрапанымі валасамі, у расшпіленым на грудзях халаце. Яна падняла камень, што трапіў у дзіця, і кінула яго ў Сірыпінахамі.

— Толькі паспрабуй крануць майго сына! — закрычала яна. — Ты, жабрачка! Сабачая маці! І чаму гэта багі прымушаюць нас пакутаваць ад гэтых паршывых сабак? Калі-небудзь яны загрызуць нашых дзяцей. Вось пачакай, прыйдзе бацька майго сына, ён заб'е цябе, а тваіх сабак выкіне ў раку.

— Гэта яна называе мяне жабрачкай? — Сірыпінахамі пагардліва зірнула на натоўп, які сабраўся вакол. — Вы толькі паглядзіце, хто мяне абражае! Яна сказала, што паскардзіцца бацьку свайго сына. Цікава, як жа яна паскардзіцца, калі не ведае, хто яго бацька?

Сказаўшы гэта, Сірыпінахамі пайшла сваёй дарогай, не слухаючы жанчыну. Сёння яна не мае часу затрымлівацца і адказваць. Трэба вярнуцца дадому да прыходу інспектара.

На шумных гарадскіх вуліцах сярод людзей, што спяшаліся кожны па сваіх справах, Сірыпінахамі крычала, каб яе пачулі, пакуль не ахрыпла. Але прахожыя не звярталі на яе ўвагі. Часам некаторыя прыпыняліся, кідалі ў яе кубак манетку і таропка ішлі далей.

Да паўдня жанчына зусім стамілася, ногі распухлі і балелі. Яна палічыла ў кубку манеты — трыццаць цэнтаў. Па адной яна выкладвала манеткі на брудную далонь. Ёй трэба семдзесят рупій, а яна сабрала толькі трыццаць цэнтаў. Ад стомы кружылася галава, і Сірыпінахамі пайшла дадому.

Калі яна вярнулася ў Трушчобны гарадок, інспектар ужо чакаў яе. Яна не адважвалася зірнуць на яго, хоць ведала, што сабак яшчэ ніхто не крануў: чуваць было, як яны брэшуць за дзвярыма. Сірыпінахамі адчула такую палёгку, што ў яе аж падкасіліся ногі.

— Ну як, сястра, падрыхтавала грошы?

Сірыпінахамі працягнула яму трыццаць цэнтаў:

— Вось усё, што ў мяне ёсць. Вазьміце і ідзіце адсюль.

Твар інспектара пачырванеў. Ён узняў руку, быццам хацеў яе ўдарыць.

— Лепш падумай, што гаварыць, калі не хочаш трапіць у вар'яцкі дом. Ты зусім з глузду з'ехала. Гэта ж трэба, яна прапануе мне трыц-

цаць цэнтаў! А што на іх купіш? Дзве цыгарэты ці тры? А можа, ты думаеш, што я куру самасад, як тутэйшыя абадранцы? За маю спагадлівасць трэба заплаціць больш.

— Не, не, пан інспектар, я нічога кепскага не хацела. Можа, для такіх, як вы, семдзесят рупій не такія вялікія грошы, але для старой жабрачкі яны недасягальныя, як неба.

— Гэта праўда, але ж я даў табе месяц тэрміну, каб сабраць гэтую суму. Ну, што ты на мяне так глядзіш? Пры чым тут я? Гэта ж муніцыпалітэт пастанавіў, што той, хто хоча трымаць сабак, павінен плаціць за іх. А я толькі выконваю яго распараджэнне.

— А вы скажыце ім, пан інспектар, што мне няма чым плаціць. Скажыце ім, каб нас не чапалі. Сабакі ж не перашкаджаюць ім. Яны нікому не перашкаджаюць. Яны добрыя.

Інспектар усміхнуўся. Ён ледзь не разрагатаўся. Але навокал ужо сабраўся натоўп, з цікавасцю паглядаючы, што тут дзеецца.

— Нам усё роўна, добрыя яны ці не. Нас турбуе толькі тое, што ты гэтулькі часу не плаціла за дазвол. А ты ведаеш, старая, што такое дазвол?

У натоўпе зарагаталі, а нейкая жанчына закрычала:

— Яна прыдуркаватая, пан інспектар, яна прыдуркаватая! Забірайце сабак, і ўсё тут. Не слухайце яе балбатню.

— Я не магу аддаць сабак! — Сірыпінахамі дрыжала ад хваляваня. Яна паглядала на жорсткія, насмешлівыя твары вакол сябе і адчула страх, якога яшчэ ніколі не зазнавала.

Інспектар злараднічаў. Нарэшце ён адплаціў ёй за ўсе клопаты, якія яна яму прычыніла. А тое, што яна не аддасць сабак, гэта глупства.

— Паслухай мяне ўважліва. Заўтра мы прыйдзем забіраць сабак, будзь гатовая, — сказаў ён цвёрда. — Заўтра, калі ў цябе не будзе грошай, я прывяду памочнікаў, і мы ўзламаем твае дзверы.

— Пачакайце яшчэ некалькі дзён, пан інспектар, я паспрабую сабраць грошы.

— У цябе і так было даволі часу. Заўтра апошні тэрмін.

Сонца марудна садзілася. Яно афарбоўвала стрэхі Трушчобнага гарадка ў пурпуровы колер, змякчала малюнак жабрацтва і бруду. Цудадзейны дотык сонечных праменняў надаваў мяккасць грубым тварам мужчын, рабіў галасы жанчын менш пранізлівымі і хрыплымі. Мужчыны збіраліся ў кампаніі, гулялі ў азартныя гульні і пілі. Жанчыны, што працавалі начамі на гарадскіх вуліцах, упрыгожвалі сябе пацеркамі і бранзалетамі. Дзеці працягвалі гуляць пры святле ліхтароў, пакуль сон не валіў іх з ног.

Гэтай ноччу сон не ішоў да Сірыпінахамі. З цяжкасцю дачакаўшыся цемнаты, яна ўзяла газавую лямпу і парасон і адправілася да Аэціна Сінгха. Рыкша сядзеў на зямлі і зашываў дзірку ў сядзенні сваёй каляскі. Ледзь зірнуўшы на лямпу і парасон, ён сказаў:

— Навошта яны мне? Лямпа не свеціць, а парасон увесь дзіравы і будзе прапускаць ваду.

— Але каштуюць жа яны хоць колькі-небудзь, братка. Лямпу трэба толькі крыху пачысціць, а на парасон накласці некалькі латаў. Ты ж так умела валодаеш іголкай.

Рыкша ўпарта пакруціў галавой.

— Што ж мне рабіць, братка? Заўтра інспектар прыйдзе забіраць сабак. Вось каб я магла даць яму адну-дзве рупіі, ён дазволіў бы мне патрымаць сабак яшчэ некалькі дзён.

Рыкша толькі пацiснуў плячыма.

— Дзе я вазьму дзве рупіі? Кепскія цяпер часы, людзі не хочуць ездзіць на рыкшах, калі ёсць таксі. Аддай сабак, сястра. Ці варта гэтак бедаваць з-за нейкіх там сабак?

— Не магу я іх аддаць. Людзі называюць мяне прыдуркаватай Пінай, і яны не памыляюцца. Без сабак мне не жыць. Ты не разумееш, брат, што яны значаць для мяне. Маё жыццё звязана з іх жыццём. Мы не можам расстацца.

Сірыпінахамі казала праўду. Рыкша не разумеў. Яна бачыла, як ён з цяжкасцю стрымліваў усмешку, корпаючыся ў сваім пацёртым кашальку.

— Вось усё, што ў мяне ёсць, сястра. Больш даць я не магу.

Ён працягваў на далоні семдзесят пяць цэнтаў. Сірыпінахамі ўзяла іх і зрабіла крок у цемру. Семдзесят цэнтаў, і дома ёсць трыццаць.

Вярнуўшыся дадому, яна сабрала ўсе грошы і пайшла да крамніка Сімона. Той ужо зачыняў аканіцы. Сірыпінахамі зачыкільгала хутчэй і паспела купіць бляшанку газы. Паступова ў яе галаве складваўся план дзеянняў.

Хіні Апу сустрэў яе трывожным гаўканнем. Сірыпінахамі зачыніла за сабой дзверы і асцярожна паставіла бляшанку з газай на падлогу. Яна загаварыла бязладна і хутка, імкнучыся як мага лепш растлумачыць яму ўсё.

— А што ж нам яшчэ рабіць, Хіні Апу? Іншага выйсця няма. Не бойся, маленькі, смерць лягчэйшая за жыццё. Падумай пра гэта, Хіні Апу. І ты, Ралахамі, і ўсе астатнія. Мы ідзём па камяністай дарозе, а лёгкая сцяжына схавана зусім побач. Толькі смерць нас разлучыць. Мы пакутуем толькі цяпер, а потым мы будзем вольныя!

Узбуджаны голас Сірыпінахамі, парывістасць, з якой яна абняла Хіні Апу і пачала цалаваць яго ў морду, устрывожылі сабак, і яны пачалі брахаць. Сірыпінахамі адпусціла Хіні Апу і прыслухалася. Твар яе пацямнеў ад гневу. З вуліцы даносіўся п'яны смех.

— Вы чуеце іх, мае маленькія? Чуеце, як смяюцца гэтыя д'яблы? Так бы і забіла іх усіх! Ды нічога, няхай смяюцца. Яны называюць мяне прыдуркаватай і ўсіх вас, мае маленькія, бо мы любім адзін аднаго. Яны ж не ўмеюць любіць. Гэта яны прыдуркаватыя. Хіба д'яблы могуць любіць?

Ноч цягнулася марудна. Смех і галасы на вуліцы сцішыліся. Сабакі нарэшце заснулі неспакойным сном.

Пасля поўначы ў Трушчобным гарадку спалі ўсе, апроч Сірыпінахамі. Яна адна не спала, хвалюючыся, каб хаця інспектар не ўздумаў прыйсці па сабак уначы.

І вось настаў ранак. Праз шчыліну ў дзвярах прабіваўся прамень святла. Надрыўна закашляла нейкая жанчына, бразнула вядро, і Сірыпінахамі зразумела, што заняўся апошні дзень яе жыцця.

Сабакі заварушыліся ў сне.

— Цішэй, маленькія, паспіце яшчэ трошкі, яшчэ не час. Не, не. Калі час прыйдзе, я разбуджу вас.

Калі смурод газы, разлітай на падлозе, запоўніў хаціну, сабакі прачнуліся. Адна за адной яны ўскочылі і падбеглі да дзвярэй.

— Не, мае маленькія, дзверы адчыняць нельга. Калі мы іх адчынім, увойдзе інспектар і забярэ вас. Што мне тады рабіць?

Але сабакі не разумелі, у чым справа, бо кожнае раніцы дзверы заўсёды былі адчыненыя. Яны скавыталі і шкрабалі па дзвярах лапамі — хацелі выйсці.

Смурод газы ўсё мацнеў. Сірыпінахамі прынесла стары парасон і анучы, паклала іх на сярэдзіну пакоя. Потым абліла кучу газай і стала чакаць, трымаючы напагатове карабок з запалкамі. Твар яе быў спакойны і рашучы. Хіні Апу падышоў і сеў побач, не зводзячы з яе вачэй.

Калі з'явіліся інспектар і яго памочнікі, у хаціне стаяла такая цішыня, быццам тут нікога не было. На вуліцы зноў сабраўся натоўп цікаўных. Усім хацелася паглядзець, што зробіць інспектар.

— Яна чакае ўсярэдзіне, пан інспектар, — паслужліва прамовіў мужчынскі голас. — Хоць там і ціха, але яна не выходзіла, яна дома.

— Прыдуркаватая Піна, выходзь на вуліцу, — пачуўся другі голас. — Не бойся, цябе проста адправяць у прытулак, а ён зусім побач.

— Выпусці сабак, сястра. Не затрымлівай інспектара.

— Ды яна не толькі прыдуркаватая, яна яшчэ і глухая. Ламайце дзверы, пан інспектар, ламайце!

Натоўп злосна лямантаваў і не адразу заўважыў доўгі язык полымя, які вырваўся з-пад дзвярэй і ўскінуўся ўгору проста перад тварамі цікаўных. Шуганула гарачыня, і натоўп адскочыў. Нехта ўпаў. На яго зваліліся іншыя, кагосьці таптаді нагамі. З хрыплым крыкам інспектар і яго людзі рынуліся наперад і сарвалі абвугленыя дзверы. Сабакі адразу ж выскачылі на двор. Але Сірыпінахамі ўпіралася, калі інспектар пацягнуў яе на двор, і атрымала моцныя апёкі.

— Не чапайце нас, пан інспектар. Няўжо вы не можаце даць нам спакойна памерці?

Яна ляжала на зямлі, курчылася ад болю і моцна стагнала. Натоўп прыціх. Людзі моўчкі глядзелі на жанчыну, забыўшыся пра кпіны і рогат.

— Яна зусім з глузду з'ехала, — сказаў, цяжка дыхаючы, інспектар. — Звесці сябе са свету з-за нейкіх там сабак!

Хіні Апу кінуўся на грудзі Сірыпінахамі, а калі яна закрычала ад болю, пачаў лізаць ёй твар і рукі. Астатнія сабакі, забыўшыся на страх перад натоўпам, таксама падышлі да яе. Сірыпінахамі паціханьку ўзняла руку і ласкава пагладзіла іхнія морды. Упершыню за ўвесь гэты час яна ўбачыла на спалоханым твары інспектара смутак, але не адчула радасці. Яна ведала толькі, што сказала яму праўду:

— Я не магу аддаць сабак, пан інспектар, хоць вы лічыце мяне прыдуркаватай. Аддаць іх не магу, бо вельмі люблю.

*Пераклад Алены Мімрык.*



# НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

## АЛЕСЬ ЖАЎРУК

З фотаздымка глядзіць вясёлатвары юнак у кажушку і кубанцы, з крыху прыжмураным, нібы падміргваючым левым вокам, з-пад кубанкі выбіваецца густы, непакорлівы чуб. Алесь Жаўрук.... Такое звонкае птушынае гучанне псеўданіма. А зусім і не горшае сваё, уласнае прозвішча — Сінічкін. Таксама — лірычнае, крылатае. У душы ён і ёсць лірык. Гэта адбіткам душы кладзецца і на паэзію. У кожным радку так многа здзіўлення і замілавання родным, палескім, якое нідзе больш на зямлі не можа быць паўторана. Мабыць, і сэрца, і зроку, ды і таленту замала, каб ахапіць, засведчыць, удыхнуць гэтае непаўторнае хараство роднай старонкі:

Што паробіш з неспакойным лёсам,
Салаўіным цяжкім рамяствам?!

«Салаўінае рамяство» павядзе паэта не толькі ў свет летуценняў, няўседлівай рамантыкі, але і акрыліць сэрца на нястомныя творчыя пошукі.

Алесь Жаўрук нарадзіўся 19 жніўня 1910 года ў горадзеРаслаўлі ў сям'і служачага. Дзіцячыя і юначыя гады яго паяднаны з Рагачовам. Пасля раптоўнай смерці бацькі ўсе клопаты па выхаванні кладуцца на плечы маці. Лізавета Сцяпанаўна клапоціцца, каб дзеці выраслі людзьмі адукаванымі.

У 1927 годзе Алесь Жаўрук паступае ў Рагачоўскі педтэхнікум, пасля сканчэння якога настаўнічае на Любаншчыне, у саўгасе «Сосны». У 1939 годзе малады паэт паступае ў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры. Будучы студэнтам, піша паэму «Крывёю сэрца». Эпіграфам да яе бярэ радкі з вядомай «Грэнады» Міхаіла Святлова. Да тэмы барацьбы іспанскага народа з фашыстамі тады звярталіся многія паэты. Твор Алеся Жаўрука вытрымаў выпрабаванне часам, не страціў свайго гучання і сёння.

Калі чытаеш «Рагачоўскі сшытак» паэта, своеасаблівую споведзь юнака, перад якім адкрываецца цэлы далягляд невядомасці, новаадкрыццяў, міжволі спыняешся на радках:

Нам цяпер ўсё болей паслухмяны
Хвалі самай бурнае ракі,
Самалёты, малаты і краны,
Зброя і гарачыя радкі.

Колькі маладога імпэту, задзёрыстасці і самаахвярнасці адчуваецца ў гэтым незмусовым прызнанні!

«Яны былі гатовы да бітвы з фашызмам, — зазначаў у свой час крытык Варлен Бечык. — Іх вершы пра гераічную Іспанію, іх публіцыстычныя водгукі на падзеі на Захадзе выяўлялі магутны зарад гэтай гатоўнасці».

З першых дзён вайны Алесь Жаўрук на фронце ў якасці карэспандэнта газеты «На защиту Родины». У сваёй паэме «Крывёю сэрца» ён славіў «адвагу Пятага палка і мужнасць Пасіянарыі... І сталася так, што ён побач ваяваў у Сталінградзе і загінуў побач з лейтэнантам Ібаруры, сынам Пасіянарыі» (А. Вялюгін).

23 жніўня 1942 года ў час варожай бамбёжкі Сталінграда палітрук 62-й арміі Аляксандр Сінічкін быў цяжка паранены і накіраваны ў шпіталь. Пры эвакуацыі шпіталя на другі бераг Волгі бомба трапіла ў судна, на якім знаходзіўся і Алесь Жаўрук.

Пры жыцці паэта пабачылі свет паэтычныя кнігі «Ручаіны» і «Дняпро выходзіць з берагоў».

Шчырая песня «жаўрука» беларускай паэзіі абарвалася на высокай ноце, але звонкае і шчымлівае рэха яе працягвае жыць у нашай памяці.

*Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў да публікацыі Казіміра Камейшы.*

## ІЗНОЎ ЗА АКНОМ БЛІСКАВІЦЫ МІЛЬГАЮЦЬ

Ізноў за акном
Бліскавіцы мільгаюць,
І ліўні над дахам шумяць.
Такой калі-небудзь
Парой, дарагая,
Нам выпадзе коней сядлаць.

Падгонім страмёны,
Праверым вінтоўкі,
Начысцім пяском кацялкі,
Бывайце, чарэшні,
Бывайце, сяброўкі,
Вядзі, камандзір наш, палкі.

Свяціце паходняй,
Далёкія зоры,
Палайце над цэлай зямлёй!
За шчасце радзімы
Ад мора да мора
Народы устануць сцяной!

Мы пройдзем праз пушчы,
Не згубім напрамак,

Займуцца агнём рубяжы,
Не трэба, матуля,
Не плач каля брамы
Ды ўнука пільней беражы.

Няхай мы спаткаемся
З куляй раптоўнай
У першыя тыдні вясны,
Сябры перамогуць
У бойцы ўсё роўна
І сына ўзгадуюць яны.

Шырока і вольна
Па цэлым сусвеце
Без меж закрасуюць палі,
Шчаслівыя людзі
З вясёлымі дзецьмі
Па раданай пройдуць зямлі.

І песню узнімуць
Над сонечнай шырай
Такую, як морскі прыбой,
Пра слаўныя былі,
Пра дружбу і шчырасць,
Пра нас, дарагая, з табой.

**1936**

### «РУЖА»

А ці міг, ці век — не знаў ніхто там,
Колькі моўчкі праляжалі мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.

Толькі раптам лютаўская сцюжа
Адступіла быццам, адлягла.
Чую і не веру сам я — «Ружа»:
«Ой, расцвіла ружа, расцвіла...»

Азірнуўся: ціха ў задуменні
Сам сабе спявае зампаліт.
Слухаем. І нікне поўнач ценем,
Іншыя ўстаюць хлапцам палі.

Случчына каму, каму у песні
Амсціслаўшчына яго ўстае,

Мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,
Вербы, вочы ясныя твае.

І узбек, сусед мой, вочы мружыць
(Што ён прыгадаў у той цішы?),
Слухаў, слухаў і ўсміхнуўся: «Ружа.
Ружа, — зноў ён паўтарыў, — якшы».

І да самае атакі потым
Больш не думалі аб сцюжы мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.

Так заўжды хвілінамі цяжкімі
Саграваеш ты, Радзіма, нас
Зор сваіх святлом, вялікім імем,
Шчыраю парадай ў добры час!

Вестачкай паштоўкі нечаканай,
Пачкам папярос, здалёк прысланым,
Песняю сардэчнаю сваёй,
Проста думкай аб табе адной.

**Мажайск, 1942**







**МІКОЛА БУСЬКО**

# СЛЯДЫ АД ВЕРАСНЯ

Тчэцца габелен вераснёвых дзён. Азораныя сонечным бляскам вольна праплываюць над пожняй срабрыстыя ніці павуціння. Лёгкі ветрык то пачэпіць іх на вастраверхую сцяблінку, то закіне на галінку дрэва, то раптам шпурне, як аздобу, на стракаты арнамент лісцвянога дывана. А крыху паводдаль, на прыцененай шапаткім хвойнікам палянцы, мігцяць-пульсуюць блакітныя агеньчыкі верасу.

Срэбра і блакіт! Суладдзе колераў, заўважанае цікаўным позіркам, надае целу энергію і сілу, напаўняе душу спакоем і свежасцю.

Сон павучыння,
Зыркасць дзён...
Свет на кастры жыцця згарае...
Спагадна неба пазірае
Вачыма матчыных вакон.
Раскоша фарб у вышыні.
Над познім цветам верасовым
Лістоў саспелых парасоны
Укрылі моцна карані.

Прырода атаясамлівае высакароднае хараство вераснёвага дня з жыццядайнымі памкненнямі селяніна, аздабляючы і ўзвышаючы ягоную душу.

Дух урачыстасці пануе ва ўсім. А як жа інакш? Сёння вялікае свята — Узнясенне Крыжа Гасподня — 27 верасня. Свята ў сваёй спрадвечнай чысціні, раскалыханае ветрыкам і прамянямі сонейка, нарадзіла мяне ў гэты дзень. Восень, як прадбачлівая гаспадыня, улічыла ўсё да з'яўлення чалавека на гэты, не зусім дасканалы, свет.

А верасень, як стаpанны працаўнік, настаўнік і мастак, упрыгожыў наваколле размаітасцю фарбаў, ад жоўта-залацістага да блакітна-фіялетавага колеру, каб паказаць багацце пераліўных тонаў. Бог уліў у маю душу захапленне прыгажосцю родных краявідаў, назаўсёды пасяліў любоў да сваіх каранёў, да свайго краю.

Некаторы час мяне непакоіла пытанне: адкуль бяруцца вытокі майстэрства ці творчасці? Трэба дзякаваць за талент, у першую чаргу, Усявышняму. Калі казаць пра майго бацьку, дык ён, шчыруючы над узорам для акон, на пагабляванай дошцы рабіў накіды вуглём будучай ліштвы. Малюнкі былі розныя па форме і змесце: то гэта спеўны пеўнік, то лятун бусел, то яснае сонейка.

Мама распавядала аднойчы, што ў Бярозаўцы, каля Карэліч, жыў калісьці яе сваяк Рачок, які захапляўся паэзіяй. Магчыма, ад яго пачаўся і мой творчы шлях.

На небасхіле нашай сям'і з'явілася новая зорка, чацвёртая. Разважлівага тату і бадзёрую старанніцу маму ўжо даймалі дочкі Ліля і Ніна і дасціпны сынок Лёнік. А наша хатка, што прыземіста тулілася на адным падворку з хатай стрыечнага брата бацькі Іосіфа, была маленькай і больш нагадвала шпакоўню. У ёй мама штораання, укленчыўшы перад бажніцай, жагнаецца за душу свайго дзіцяці. Мама была заўсягды рухавая ў жыцці, кемлівая ў горы, знаходзіла выйсце ў кожнай сітуацыі. Пазалетась адышла ад нас: Бог адмераў ёй 97 гадкоў зямнога існавання.

Марыя Змітраўна Скок, мая мама, родам з Вялікай Слабады, што на Карэліччыне, паходзіла з сям'і з большым дастаткам, чым тата. Зразумела, што яе родныя ўпарціліся замужжу з бедняком маім бацькам Бусько Іосіфам Несцеравічам з Пагарэлкі. Але ж, як кажуць, перамагло каханне.

Мне заўсёды вярэдзіла душу найменне маёй вёскі: ад якога ж слова яно ўзялося? Ці ад слова — гора, гарэць, ці, можа, ад слова — гарэлка? На гэты ланцужок пытанняў я і шукаю адказ. А яшчэ: «Як і калі ўзнікла мая вёска і яе ваколіцы?»

Прыгадваецца такі выпадак: неяк кіруюся ў поцемках з Турэцкай школы праз сем вёрст дамоў у Пагарэлку, і тут мяне абмінае падвода:

— Скачы на воз, хлопча, — прыцішыўшы каня, крычыць вазак. — Куды шпарыш?

— У Пагарэлку.

— Па гарэлку? — здзіўлена пытаецца ён.

— Ды не, дзядзька, у Пагарэлку, так мая вёска завецца, — хутка тлумачу я.

Вёска Пагарэлка заснавалася недзе каля 1760 года. Яна ўпамінаецца ў царкоўных летапісах. Разам з людзьмі вёскі Лядкі, Новае Сяло былі ўласнасцю памешчыка Раецкага. Ужо ў 1844 годзе налічвала 61 двор, дзе жыло 218 мужчынскіх і 219 жаночых душ. Пры ўездзе ў вёску стаяла мураваная каплічка, а на могілках была царква. Сёння вёска мае некалькі вуліц, клуб, магазін, доўгі час працавала пачатковая школа, але дзяцей стала меншаць і пазалетась яе закрылі. Сумна і крыўдна за тое, што нашы паселішчы бяднеюць, даволі шмат хацін пустуе.

Вёска Ярэмічы, цяпер ужо вялікі пасёлак, вёскі Вялікая Вобрына, Малая Вобрына, Баўцічы і Быковічы належалі калісь памешчыку Кашчыцу, потым перайшлі ва ўласнасць яго жонкі. Маёнтак, у якім жыў сам памешчык, называўся Кашчыцаў Двор. Пазней бальшавікі перайменавалі гэты пасёлак, даўшы назву Першамайскі. Чамусьці не прыжылася гэтая назва. А якая гэта цудоўная мясціна! Скляпенні, муры, панскія палацы, аточаныя экзатычнымі дрэвамі, танцавальная пляцоўка над люстраным возерам. А за ім — вялікі сад.

У вёсцы Воўчае Балота ў 1843 годзе на адным падворку жыло 6 мужчын і 3 жанчыны. Яны значыліся ў спісе землеўладальніка Дабажынскага.

На шырокім прынёманскім лузе заснаваў сваю хатку селянін. А яго ўладальнік даў адпаведны назоў вёсцы — Лузінаўка. 1848 год нешчаслівы: не вырасла вёска, не прыжылася. Дасюль ад пабудовы засталіся толькі рэштк котлішча ды назва ўрочышча Лузінаўка, дзе штогод ладзяць калгасы свае ўрачыстасці.

— Дзе будзем ладзіць дажынкі? — раіцца з вяскоўцамі старшыня калгаса.

— Як заўсёды, на Лузінаўцы.

Калі гаспадар удумліва, дбайна выбіраў мясціну пад жыллё, тая вёска і сёння існуе. А выбіралі месца так: гналі статак авечак на ўпадабаную мясціну і пакідалі іх на нач. А на досвітку чалавеку надта карцела хутчэй убачыць, дзе ж палеглі авечкі.

Вёска Скорычы, што размясцілася на самым беразе Ушы, была пры двух уладальніках: Славінскаму належала 6 двароў і 48 душ, і Каранеўскаму — 8 двароў і 47 душ. У 1897 годзе ў вёсцы налічвалася 39 пабудоў і болей як 300 жыхароў.

А тут цячэ рака Уша,
Дзе ачышчаецца душа.

Самі сабой з'явіліся радкі.

У Скорычах нарадзіўся паэт Алесь Мілюць. Ён жыў у неспрыяльны для творчасці час рэпрэсій і ліхалецця і паспеў скончыць усяго два класы пачатковай школы. Нягледзячы на гэта, ходзячы за плугам, самавукам, як прызнаецца сам, засвоіў нямецкую, польскую мовы, якімі валодаў дасканала. Сюды яшчэ трэба дадаць, што ў тагачасным заходне-беларускім друку выступаў з вершамі, напісанымі беларускай лацінкай, з 1928 года.

Самай люднай вёскай пасля Ярэміч была вёска Лядкі. У 1897 годзе яна налічвала амаль сотню пабудоў, у якіх пражывала каля тысячы чалавек. Жыхарам такой вялікай вёскі было не вельмі прыстойна наведваць далёкія малітоўні, тады жыхары супольна ўзвялі Сімяонаўскую царкву-школу. Наша плыткая памяць і ўсёразбуральны час зрабілі сваю справу: не пакінулі нам нават ні котлішча, ні месца.

Праваруч гравійнага бальшака за Сіняўкай праходзіць лясістая паласа Налібоцкай пушчы. Нейкая міля гэтай гравійкі, і мы ў вёсцы Антанёва. У 1873 годзе складалася яна з дзесяці дамоў. Сёння ў ёй жывуць каля дзесятка пенсіянераў.

З'яднаны адной вуліцай вёскі Вялікая і Малая Вобрына і вёска Баўцічы. Яны ўпамінаюцца ў летапісах каля 1800 года.

Узлескі, кожны ўзбалотак, усё жывое з поля і лесу, бацькі Нёмана, яго дачок Сэрвачы і Ушы — мне дарагое і назаўсёды святое. Тут, на ціхамірнай зямлі, прайшло маё маленства. Непаўторныя, жыццядайныя, з рэчкамі і азярынамі краявіды вабяць вока, каб стаць пасля вершам, эцюдам ці карцінай. Яны былі для мяне сапраўднай школай жыцця, бо кожны чалавек, які паважліва адносіцца да сваіх каранёў, хто мае зносіны з мінулым, знойдзе сваё шчасце, не старое і не новае, а векавечнае, святое. Гэта, бадай, асноўныя чалавечыя псалмы для нармальнага існавання.

За дзве вярсты ад маёй вёскі, калі ісці Крутымі Берагамі (Старое рэчышча Нёмана), трапляеш у мястэчка Ярэмічы. На фоне замілаванага пейзажу, на шырокай плошчы, размясцілася Вазнясенская царква, пабудаваная памешчыцай Хадкевічавай у 1790 годзе. Непаводдаль яе ў памяць вызвалення сялян ад прыгоннай залежнасці пабудавана ў 1868 годзе мураваная званарня. Тут, у Ярэміцкай царкве, я прыняў хрышчэнне з ласкі дзядзькі Іосіфа і пані Броні.

Доўгі час царква была занядбана, і, калі наша грамадства пачало набываць новыя формы дзяржаўнасці, пачаўся працэс вяртання да гістарычнасці, мне прыйшло на думку вярнуць царкве яе першапачатковы выгляд. Пісьмова і вусна звяртаўся ў епархію і, калі атрымаў станоўчы адказ, падключыў вяскоўцаў да гэтай важнай справы. Пачаліся арганізацыйныя клопаты па рэстаўрацыі святыні.

А мне як мастаку давялося ўзяцца за рэстаўрацыйныя работы і напісанне некаторых абразоў. Выкананы выявы Ісуса Хрыста, Святога Анёла, Святой Тройцы, Святога Ксенафонта, Божай Маці. Болей года пайшло на гэта.

Але, даведаўшыся пра маю духоўную спамогу, быццам я шмат «захаўтурыў», усюдыіснае вока Баранавіцкага фінансавага чыноўніка-земляка спагнала з мяне праз суд тры месячныя аклады. Так я быў «узнагароджаны» за паважлівае стаўленне да сваёй спадчыны.

Зараз я працую над кніжкай «Метрыкі вёсак», дзе разважаю пра таямніцы паходжання навакольных вёсак, мястэчка Ярэмічы. А як мастак мяркую напісаць партрэты гэтых вёсак, дакладней эцюды, і зрабіць выставу ў Карэліцкім музеі.

Гэта яна, Ярэміцкая зямелька, багатая на таленты, падарыла свету цэлую кагорту пісьменнікаў: Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Алесь Бажко, Алесь Мілюць, Анатоль Жук, Пятро Ламан, Уладзімір Навумовіч.

Вось яна, слынная ў вяках, дужая літаратурнымі талентамі Ярэміцка-Нёманская зямля!

— Мікола, — прапанаваў мне аднойчы Янка Брыль, — трэба стварыць аддзяленне Саюза пісьменнікаў у Ярэмічах.

— І сапраўды патрэбна, — згаджаюся я.

У час Вялікай Айчыннай вайны, як і шматлікія беларускія вёскі, мая Пагарэлка была цалкам знішчана агнём.

— Пагарэлку — спаліць! Быковічы — збамбіць! Новае Сяло — спаліць разам з людзьмі, — няўмольна гучаў загад нямецкага ката.

З усёй вёскі застаўся ўчарнелы зруб бабкі Наталлі, што зеўраў на свет абвугленымі вачыма вакон. Дзе жыць? — паўстала пытанне. І мама, сабраўшы нас, траіх шпачанят, прытуліла ў зямлянцы суседкі.

Галечы пара.
Плач малых...
І праклёны...
Замест буквара — пушча,
Попел,
Патроны...

Паўсюдна лютавалі фашысты, знішчаючы ўсё жывое. У суседнім зрубе на калючым дроце павесілі хлапчукоў-падлеткаў — дзетак партызана. Карціна жудасная.

Бацька, вядомы ва ўсёй ваколіцы цясляр, ставіў зрубы, майстраваў вокны, дзверы. Ён не быў партызанам, але ладзіў партызанскі рыштунак: хамуты, калёсы, сёдлы. Калі стала невыносна, са сваім старэйшым сынам пайшоў з вяскоўцамі ў лес. Немцы тым часам усчалі бесперапынны агонь па прырэчным лесе. Для пераправы на другі бераг партызаны давалі коней. Тата, асядлаўшы коніка, трымаючы сына, плюхнуўся ў ваду. А нейкі дзядзька нават паспеў уляпіцца за хвост.

Стрэлы...
Выбухі...
Пад кулямі паром
Закружыўся, перакулены
Ля стром.
Конскі хвост служыў нам лодкаю
тады.
Выплывалі мы сіроткамі
З бяды...

Якой бы цяжкай ні была бяда, а дзяцінства, як парастак, прабіваецца да радасці, да святла, нягледзячы ні на што. Мне было тры гадкі, і я, вясковы абадранец, ганяў па дварышчы фанернага «зайчыка» і, не зважаючы на немцаў, напяваў:

Этих лет не смолкнет слава,
Не померкнет никогда,
Партизанские отряды
Занимают города.

Непаводдаль размяшчаўся нямецкі штаб, і нейкі добры чалавек-украінец крычыць маме:

— Уберите ребенка, немцы услышат, убьют!

Успаміны, успаміны...

Быццам кропелькі-дажджынкі, ціха капаюць на паперу, ствараючы дугу-сямікалёрку, што абапіраецца на два полюсы, — мінуўшчыны і сучаснасці.

Вайна адкацілася на захад, дыхалася вальней, але лепш не стала. За ёю следам ступалі голад і нястача.

Бацьку забралі на фронт, засталася мама з намі ў зямлянцы. Праз папялішчы, руіны, снарадныя варонкі прабівалася вясна. Ад яе паводкі зямлянка абрынулася. Мамін брат Валодзя са Слабады прапанаваў пераехаць да іх жыць. Мама наважылася, але неўзабаве атрымала ліст ад бацькі: «Ідуць чуткі, быццам вайна хутка скончыцца і я вярнуся дамоў». На вайне бацька быў кулямётчыкам і, дзякуй Богу, вярнуўся з фронту жывым, маючы медалі за баявыя заслугі.

Гаротна-пакутніцкае існаванне прымушала да неймавернай працы, здабываючы харчы, палітыя слязьмі і потам. Склаўшы цяслярскае начынне, бацька хадзіў па ўцалелых вёсках, каб зарабіць хоць нейкі кавалак хлеба. Мы таксама хадзілі па хатах, выпрошваючы ежу. Памятаю, я зайшоў у нейкую кантору і сарамяжліва папрасіў есці. Нейкі спагадлівы начальнік накрэмзаў запіску і кажа:

— Вунь, бачыш, тая хата, што ля лесу, аднясі туды запіску.

Я напрасткі, бегма, уручыў яе цётцы. Яна наліла мне кубак малака і паклала лусту хлеба. Духмяны хлеб і сырадой — смаката.

Акрым галечы, моцна замінала хвароба, як цяпер кажуць, — дыятэз. Дактароў на вёсцы тады не было, і земляробчы люд лячыўся па прынцыпе: хто што параіць.

— Чаго толькі ні раілі мне людзі, — з горыччу ўспаміната мама. — Аднойчы падказалі памазаць цела дзікім сінім каменем (медны купарвас).

Ад невыцерпнага болю я страчваў прытомнасць.

Першыя вершаваныя спробы дасылаў у раённую газету «Полымя». А таксама замалёўкі аб прыродзе краю ў дзіцячыя выданні: «Піянер Беларусі», «Зорка».

Цяпер ужо я іншымі вачамі глядзеў на гэты нелітасцівы свет, адчуваў усёй істотай рэальнае жыццё. Усё хутка мінаецца ў часе: і гэтая ранняя незабыўная пара дзяцінства, пара першага жыццёвага падману.

Але падымала настрой, цешыла душу высокае сонца вясны. Над ім бясконца высілася блакітная прастрань нябёс, што звабна адбівалася ў лясной азярыне. А над полем, яшчэ крыху вільготнай зямлёй на нітцы песні завіс жаўрук. Душа, зачараваная лагоднасцю, хараством родных мясцін, сцірала і рассейвала непрыязныя абставіны бытавання, выкараняла з сэрца юнака гаркоту і роспач.

Жыццё пакрысе стала наладжвацца, але тут сям'ю напаткала новая бяда. Моцна захварэла старэйшая сястра. Увесь час свайго кароткага жыцця яна скардзілася на боль у жываце. Мама, усхваляваная хваробай дачкі, павезла яе ў бальніцу ў Мір. Урачы, агледзеўшы дзяўчынку, параілі зрабіць рэнтген, і мама адважылася павезці яе ў Стоўбцы.

— Прасвет згарэў, — сумна адказалі дактары.

Бліснула маланка бяды. Мама, поўная малітваў і слёз, запрэгла сваю кабылку і паехала назад дамоў. Ад голаду ці ад нясцерпнага болю кабылка ледзь клыпала, а пасля і зусім спынілася.

— Ой, Божа ж ты мой, што гэта нарабілася, — залямантавала мама.

Пад хамутом, што сціскаў звыклую да цяжару шыю, крывавіла рана, разадраная стальнымі гузамі. Яны былі з лінькі, тросавай сталі. Жалезныя

ніткі, бы крывасмокі, упіваюцца ў цела. Мама хуценька разарвала сваю спадніцу і падсунула пад хамут. Кабылка павярнула галаву, паглядзела на маму, як бы аддзячыла ёй за клопат. Так паволі ехалі дамоў.

Бацька вярнуўся з фронту і прывёз дзецям сціплыя падарункі. Дзяўчатам прыйшлася даспадобы бліскучая тканіна. Ліля, грэючы цяплом збалелы жывот, патаемна ад усіх рукамі пашыла «вясельную» сукню накшталт Папялушкі. Слёзы, як знічкі, то ўспыхваюць, то згасаюць на ўпалых шчоках. Быццам сонца, на захадзе жыцця юнае сэрца абліваецца крывёю.

— Мама, калі памру, адзенеце яе мне, — роспачна прасіла Ліля, — а тата хай зробіць труну з новых дошак, а не са старых... Мама, адчуўшы бездапаможнасць, загаласіла, збялела, страчваючы прытомнасць. Крый Божа чуць такое ад сваіх дзяцей.

Каторы год у ельніку
Маўклівых помнікаў рады.
Шчымлівы боль — не выказаць.
Няўжо, сястрыца, назаўжды
З магільнай цемрай звыклася?
Над галавой тваёй дубок
Карэннем сэрца кратае
Пяску сыпучага грудок
На годзіку семнаццатым...

На папялішчы вайны адраджаецца вёска. Бацька не хацеў будавацца на адным падворку з братам, і яму адвялі надзел за вёскай.

— Шырэй бяры, во агарод будзе! — забіваючы кіёк, раіў землямер.

— Гэта ж трэба так папасці, на ўласным шнуры, — кажа мама.

Я сам памятаю, тое месца, дзе цяпер стаіць хатка, духмянілася мёдам грэчневае поле. На сцяне хаты значацца лічбы — 1948.







**РАМАН ДАПІРА**

# «СЦЕНЫ ЎЗДЫМАЮ І ШЫРУ ВУГЛЫ»:

## Канцэпт СЦЯНА ў лірыцы Максіма Танка

Канцэпт *сцяна* з'яўляецца адным са складнікаў карціны свету ў розных мовах і культурах, дзе па-рознаму вербалізуецца і, адпаведна, фіксуецца ў шматлікіх значэннях. Ён ключавы, універсальны, бо прысутнічае фактычна ва ўсіх культурах, маючы адпаведныя нацыянальныя адрозненні. Тым не менш ён можа аднолькава прафіляваццa ў прадстаўнікоў розных культур і па-рознаму — у прадстаўнікоў адной культурнай традыцыі.

Кантэнт-аналіз канцэпту *сцяна* ў літаратуры XX стагоддзя дае падставы сцвярджаць, што прафіляванне канцэптаў з'яўляецца адным з ключавых матываў мастацкай літаратуры. Адбываецца гэты працэс у розных нацыянальных літаратурах, творах аўтараў разнастайных школ і кірункаў. Расійскі даследчык Ю. Сцяпанаў разглядае канцэпт і паняцце як тэрміны розных навук. Так, паняцце ўжываецца ў асноўным у логіцы і філасофіі, тады як канцэпт з'яўляецца тэрмінам матэматычнай логікі, што апошнім часам замацаваўся таксама ў культуралогіі. У Сцяпанава канцэпт — гэта нібы згустак культуры ў свядомасці чалавека, тое, у выглядзе чаго культура ўваходзіць у ментальны свет чалавека. І, з другога боку, канцэпт — гэта тое, з дапамогай чаго звычайны чалавек сам уваходзіць у культуру, а часам і ўплывае на яе.

Паводле беларускага даследчыка У. Абушэнкі, канцэпт (лац. conceptus — паняцце) — змест паняцця ў адцягненні ад моўнай формы выяўлення. Канцэпт актуалізуе адлюстраваны ў паняцці яго анталагічны складнік. Р. Карнап разгледзеў канцэпт між моўнымі выяўленнямі і адпаведнымі ім дэнататамі (прадметамі). Адпаведна ўпарадкаваны і іерархізаваны іх мінімум утварае канцэптуальную схему, наяўнасць патрэбных канцэптаў і ўсталяванне іх сувязі між сабой утварае сутнасць канцэптуалізацыі. Канцэпт функцыянуе ўнутры сфармаванай канцэптуальнай схемы ў рэжыме разумення-тлумачэння. Кожны з іх займае сваё дакладна вызначанае месца на тым ці іншым узроўні канцэптуальнай схемы. Канцэпты аднолькавага ўзроўню могуць і павінны канкрэтызавацца на іншых узроўнях, змяняючы гэтым самым тыя элементы схемы, з якімі яны пачынаюць суадносіцца. Канцэпты ў рамках адной канцэптуальнай схемы не абавязкова павінны непасрэдна суадносіцца між сабой (але абавязкова ў рамках цэласнасці, куды яны ўваходзяць), і далёка не ўсе яны непасрэдна суадносяцца з адпаведнай схеме прадметнай галіной (у гэтым выпадку памяншаецца іх адрозненне ад канструктаў).

Абагульняючы розныя трактоўкі канцэпту як лінгвістычнай з'явы, беларуская даследчыца В. Маслава ў сваёй кнізе «Кагнітыўная лінгвістыка» падае наступнае яго вызначэнне: гэта семантычнае ўтварэнне, адзначанае лінгвакультурнай спецыфікай, якое тым ці іншым чынам характарызуе носьбітаў пэўнай этнакультуры. Канцэпт, адлюстроўваючы этнічнае светабачанне, маркіруе этнічную моўную карціну свету і з'яўляецца цаглінкай для пабудовы «дому быцця» (паводле М. Хайдэгера). Але ў той жа час — гэта нейкі квант ведаў, што адлюстроўвае змест усёй чалавечай дзейнасці. Канцэпт не непасрэдна ўзнікае са значэння слова, а з'яўляецца вынікам сутыкнення слоўнікавага значэння слова з уласным і народным вопытам чалавека (паводле Д. Ліхачова). Ён абкружаны эмацыянальным, экспрэсіўным, ацэначным арэолам. Зразумела, канцэпт мнагамерны, у ім можна вылучыць як рацыянальнае, так і эмацыянальнае, як абстрактнае, так і канкрэтнае, як універсальнае, так і этнічнае, як агульнанацыянальнае, так і індывідуальнаасобаснае.

Любая спроба трактоўкі канцэпту ў кантэксце літаратурнага твора ёсць працэс прафілявання. Суб'ектыўнасць фону, запатрабаванага дзеля апісання значэння, даказваецца адпаведнай тэрміналогіяй, у якой пераважаюць выразы тыпу пункт погляду, перспектыва, прафіляванне, профіль, бачанне, трактоўка, інтэрпрэтацыя, вобраз, партрэт, аспект і г.д. Прафіляванне канцэптаў — адзін з кірункаў даследавання кагнітыўнай лінгвістыкі і семіётыкі канцэптаў, што з'яўляецца найбольш структураванай часткай семіётыкі культуры, валодае ўласным даследчым апаратам. Стварэнне профілю адбываецца ў рамках арганізацыі сцэны як на ўзроўні цэлага шэрагу фікцыянальных тэкстаў, так і — грамадскай канвенцыі.

Канцэпт *сцяна* па значнасці ў сучаснай культуры можна параўнаць з такімі канцэптамі, як *дом, свет, ісціна*... Таму разглядаць яго варта не толькі ў вызначаным кантэксце, але і значна шырэй. Дадзены канцэпт узаемапашыраецца і ўзаемаўдакладняецца такімі канцэптамі, як *мур, бар'ер, мяжа, перашкода, плот, руіны, камень, камяніца* і іншымі.

У складзе канцэптасферы беларускай мовы канцэпт *сцяна* разглядаецца як дамінантны, блізкі да найбольш традыцыйных для беларускай літаратуры *мяжа, падзел, мур*, а таксама ўласцівых непасрэдна беларускай мове — *сценкі, мурок* і інш. У кантэксце беларускай паэзіі XX стагоддзя канцэпт СЦЯНА адзін з цэнтральных. Пералік персаналій тут можа быць бясконцым. Абмяжуемся пералікам паэтаў, у творчасці якіх, напрыклад, прысутнічае верш з адпаведнай назвай. Сярод іх Алесь Разанаў («Мур»), Юрка Голуб («Сцяна»), Леанід Галубовіч («Мур»), Віктар Шніп («Плот»), Анатоль Дэбіш («Мур»), Алесь Стадуб («Муры»), Алесь Пісьмянкоў («Мяжа»), Васіль Сахарчук («Мяжа») і інш. Для творчасці Алеся Разанава, Уладзіміра Някляева, Юркі Голуба канцэпт СЦЯНА з'яўляецца адным з дамінантных.

Вельмі яскравым і разнастайным з'яўляецца ўвасабленне канцэпту *сцяна* ў лірыцы Максіма Танка, перад якім неаднойчы паўставалі каменныя муры і сцены чалавечага неразумення, які сам часам станавіўся найпершым руйнавальнікам бар'ераў і межаў. Паэт глыбока нацыянальны і самабытны, ён не абмяжоўваўся адно блізкім і зразумелым, а таксама не адмяжоўваў сябе ад еўрапейскай і сусветнай літаратурнай традыцыі і асабліва разнастайных наватацый. Сваю беларускасць і сваю еўрапейскасць Максім Танк засведчыў, выснаваўшы «сваю касмалогію, ператварыўшы ў нацыянальную першакарціну свету і крэўнае слова, і песню, і той пейзаж, што «знаёмы, як матчын настольнік».

Канцэптасфера паэтычнай мовы Максіма Танка ўжо неаднойчы становілася аб'ектам даследавання айчынных і замежных літаратуразнаўцаў. Так, украінскі даследчык С.І. Грыгарук у сваім дакладзе на II Міжнародным

кангрэсе «Беларускае Асветніцтва: вопыт тысячагоддзя», які праходзіў у 2001 годзе ў Мінску на базе ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка», звярнулася да праблемы прафілявання канцэпту *Беларусь* у паэзіі Максіма Танка ў рускамоўных перакладах. Заслуга С.І. Грыгарук у выяўленні не столькі стэрэатыпных характарыстык, колькі — індывідульна-аўтарскіх сэнсаў.

Такім чынам, роля славутага паэта ў стварэнні канцэптасферы нацыянальнай культуры і мовы неаспрэчная. Сярод іншых канцэпт *сцяна* прафілюецца ім таксама надзвычай своеасаблівa з уласцівай яго творчасці філасофскай глыбінёй. *Сцяна* пачынае трансфармавацца як турэмны мур, калі рэаліі жыцця станавіліся рэаліямі паэзіі, што пісалася «на маўклівых мурах». Паказальны тут верш «***Сцены і неба кавалак між кратаў» (1935).

Сцены і неба кавалак між кратаў,
Быццам далёкі азораны шлях.
Ціха.
Крокі наглядчыкаў.
Кашаль з апошніх этапаў.
Вершы — парваныя думкі ў руках.

*Сцены* — адзіная даступная фізічна рэальнасць, неба — адзіны даступны пейзаж, скаваны кратамі, заціснуты ў «рамку» турэмнага ваконца. У вершах Танка турма не проста абмежаваная прастора, але і іншы свет, таму і *сцены* набываюць своеасаблівае значэнне. Яны чыняць гвалт не толькі над воляй чалавека, але і над воляй самой прыроды, што ніяк не можа змірыцца з усталяваннем штучных межаў. Прызначэнне турэмных муроў адгароджваць і, зламаўшы, пераўвасабляць чалавека. Але для прыроды іх проста не існуе, як і ў вершы «Акт першы» (1935):

А ноч прыйшла
З-за калючых дратоў,
Лягла на саломе,
На нарах астрожных...

Штучнасць усялякай *сцяны* для прыроды відавочная. Хаця б часткова сцены падуладныя ўсім стыхіям, пераадольныя для іх. Прырода і сама часам своеасаблівая *сцяна* для нашых магчымасцей і жаданняў. *Сцены* паступова становяцца часткай прыроды, своеасаблівым ландшафтным дадаткам, без якога нам не ўяўляецца тая ці іншая мясціна.

Для паэта выглядае штучнай і роля стражніка ў вершы «***Паслухайце, вясна ідзе» (1937), што «ноч і дзень// Пільнуе куст пахучы бэзу». Для бэзу, як і для прыроды ўвогуле, усе межы бессэнсоўныя. Дзе страх прымушае спыніцца чалавека, прырода несупынная.

А ён расцвіў, агнём гарыць,
Такім пахучым, мяккім, сінім;
На дрот калючы, на муры,
Як хустку полымя ускінуў.

Менавіта такімі штрышкамі аўтар падкрэслівае ўсю часовасць і хісткасць муроў, бо для волі чалавека, як для ветру, што «скуліць// пад шэрым мурам, пад Лукішскім», не існуе непераадольных муроў. Дарэчы, як правільна ў свой час засведчыла даследчыца Л. Корань, цягам дзесяцігоддзяў, што наша школа «праходзіць» Максіма Танка, яе шараговыя навучэнцы як не ведалі, так і цяпер толкам не ведаюць, дзе тыя Лукішкі знаходзяцца і каго ды за што туды саджалі. Так, у вершах гэта муры Лукішак (напрыклад, у вершы «Вільня» (1936), дзе «сабакам чорным вецер скуліць// пад шэрым му-

рам, пад лукіскім»), у жыцці ж майстра былі і сцены энкаусаўскай кутузкі, дзе ён пабачыў «такія жахі, якіх у польскай турме (...) ніколі не было».

Канцэпт *сцяна* з'яўляецца і ў дзённікавых запісах паэта. Так, вядомы даследчык С. Дубавец у каментарыях да зборніка «Вільня. Анталогія беларускай паэзіі ХХ ст.» згадвае запіс 28 чэрвеня 1938 года, дзе Танк, гаворачы пра нумар літоўскага часопіса «П'ювіс» («Серп»), прысвечаны заходнебеларускай літаратуры, характарызуе яго як «харошы братэрскі падарунак ад нашых літоўскіх сяброў і яшчэ адна прабоіна ў свет — прабоіна ў сценах нашай адзіночкі». Натуральна, што творчасць паэта таксама стала адным з фактараў руйнавання *сценаў*, за якімі таміўся дух беларушчыны.

1939 год, вайна, вымушанае расстанне са шматлікімі сябрамі... Яны спараджаюць новыя падыходы ў творчасці паэта да азначэнняў канцэпту. З іх можна вылучыць дзве, часам даволі блізкія, але ўсё ж такі розныя групы: *сцены* — сведкі гісторыі і *сцены* — сімвал роднага дома, жыцця.

*Сцены* як сведкі гісторыі ўзнікаюць у паэзіі Максіма Танка пераважна на фоне Вільні, бо гэты горад для яго не проста гісторыя, але блізкае і роднае, што з асаблівым болем вяртаецца ва ўспамінах. Так, у вершы «Вільнюс» (1945) аўтар звяртаецца да *муроў* найперш нашай агульнай з Літвой гісторыі:

Я гэты горад знаю з даўніх дзён,
Дзе дрэмлюць замку гордыя руіны,
Дзе ўзняў густое веццё ясень, клён,
Над сном акамянелым Гедыміна (...)

У Танка ўспамін пра Вільню спалучаны не толькі са станоўчымі перажываннямі, але і са згадкамі маладосці, бо «Яшчэ не ўсё балючае заснула, // Яно на кожным кроку устае». Ва ўяўленні паэта сціраюцца часавыя межы, і ягоныя сябры становяцца блізкімі да Каліноўскага, Міцкевіча і Гедыміна, бо належаць гісторыі не толькі ўласна горада, але і своеасаблівай беларускай Атлантыды, гордай і непахіснай. Таму і руіны замка ў Танка гордыя, дзе «пад аркадамі сівых муроў// Праходзяць цені вулкамі вузкімі». Праз пэўны час не толькі цені, але і назвы вуліц будуць нагадваць паэту ягоных сяброў, пра што ён раскажа ў вершы «У Вільнюсе» (1976):

Не знаю, што магло расчуліць
Мяне між вільнюскіх муроў.
Мо тое, што тут столькі вуліц
З імёнамі маіх сяброў?

С. Дубавец, спрабуючы ў прадмове да зборніка «Вільня. Анталогія беларускай паэзіі ХХ ст.» вылучыць тры групы вершаў беларускіх паэтаў, прысвечаных Вільні, паводле ўмоўнага пункту гледжання, адносіць творы Максіма Танка да дзвюх: «Жывучы ў Вільні...» і «Наяжджаючы ў Вільню». Ды і трэцяя група «Згадваючы Вільню...» таксама блізкая творчасці паэта. Таму *сцены*, *муры* і *руіны* Вільні ў песняра падаюцца вельмі блізкімі нават для чытача, які іх ніколі не бачыў.

Не толькі сведкамі, але і «ўдзельнікамі» гісторыі становяцца *сцены* ў вершы «Дзе яны?» (1962). Аўтар згадвае спаленую фашыстамі царкву разам з людзьмі. Сапраўднай аўтарскай знаходкай сталі вобразы анёлаў, што запісвалі ўсіх, хто ўваходзіў і хто выходзіў з храма.

У першым спісе
Я прачытаў больш тысячы
Імён і прозвішч,
Але ў другім —
Я не знайшоў нікога.

Няўжо ніхто
Не выйшаў з гэтых сцен?
Скажыце:
Дзе яны?
Але маўчалі і анёлы
З апаленымі крыламі,
І іх таксама
Кулі
Не мінулі.

У вершах паэта *сцены* выяўляюцца не толькі сведкамі жыцця пэўных гістарычных асобаў, але яшчэ і як іх блізкія, як адзін з напамінаў пра гэтых людзей, не заўсёды зразумелы нашым сучаснікам. Асабліва яскравыя ў гэтым кантэксце вершы «Дом Рэмбранта» (1956), дзе «Абапал кроны дрэў і сцены камяніц,// Сярод якіх яшчэ крок Рэмбранта гучыць»; «Трэска з дома Шэкспіра» (1978), «якая аказалася санетам»; «***Паказваюць дом паэта» (1978). *Сцены* ў гэтых вершах дыхаюць, яны жывыя, іх спакой парушаецца ўмяшаннем чалавека. Часам недарэчная ў іх і роля рэстаўратараў і іншых майстроў, калі яны пачынаюць змяняць сам лад гэтых *сценаў*, як у вершы «***Паказваюць дом паэта».

Толькі рэстаўратары забыліся,
Што ў доме, у якім некалі
Ён нарадзіўся, жыў,
Не магло быць
Такога бетоннага ганка,
Такіх глухіх сцен,
Такой непрамакаемай страхі,
Шчыльна зашклёных вокан,
Такіх дзвярэй з засовамі
І такога высокага парога,
І яшчэ стоража.
Бо як бы да яго
Маглі ўсе залятаць вятры,
Усе птушкі, зоры,
Заходзіць усе дрэвы,
Кветкі, людзі,
З якімі ён дружыў.

*Сцены* — не толькі былое, але і сённяшняе, гэта само жыццё. СЦЕНЫ як сімвал жыцця ўзнікаюць у лірыцы паэта пераважна як усведамленне наступстваў вайны. Паваеннае аднаўленне пачынаецца з аднаўлення СЦЕНАЎ, само жыццё пачынаецца з будоўлі, што і сцвярджае Максім Танк сваім вершам «Добра было б...» (1946):

Не ўпершыню так прыходзіцца мне,
Але я верны прыкмеце старой:
Каб не звяліся снапы у гумне,
Пчолы — ў вуллі, госці — ў хаце маёй, —
На папялішчах вышэй як былі,
Сцены ўздымаю і шыру вуглы.

Адпаведнае і стаўленне аўтара да старых *сценаў* простых хацін, што поўняцца вобразамі «тых, што свой век аджылі і не вернуцца», дзе немагчыма заснуць, бо «вуглы хаты,// Печ з лавай у субяседнікі просяцца». *Сцены* гэтых хацін нібы празрыстыя, яны блізкія наваколлю, свету і сусвету. «За шыбамі нашай хаціны» заўсёды быў адпаведны пейзаж, што змяняўся ўвесь час, але заўсёды заставаўся прыгожым. А цяпер на *сценах* карціны, ды толькі не ствараюць яны таго настрою, што ствараў звычайны пейзаж:

Звычайны пейзаж. Ды ад вогнішч рабіны,
Асенніх дажджоў ці вятроў веснавых
Штодня ён быў іншы.
І гэтым карцінам,
Развешаным сёння, далёка да іх.

Толькі сапраўдны паэт мог параўнаць звычайную карціну з карцінай свету, паставіўшы мастацтва прыроды вышэй за мастацтва чалавечых рук, беззаганны ўзор вышэй за найцудоўнае, але ўсё ж штучнае ўвасабленне.

У лірычнага героя Максіма Танка своеасаблівае стаўленне да жыцця. Ён жыве па-свойму, не аспрэчваючы прынцыпы іншых. Але нават дом свой будуе паводле сваіх уяўленняў. У вершы «***Звычайна сур'ёзныя людзі» (1972) паэт спрабуе давесці, што будоўля справа не толькі архітэктараў, але і паэтаў. Ён вынаходзіць свой спосаб будоўлі дома, што «выстаяў пад громам// навальніц»:

Я пачынаю з мары,
З дыму над комінам,
З буслінага гнязда,
Якое прымацоўваю да страхі,
Страху кладу на латы,
Латы — на кроквы,
Якія асаджваю на плечы сцен,
І ў вокнах — яшчэ не зашклёных —
Стаўлю кветкі.

*Сценамі* чалавек атулены ўсё сваё жыццё, нават пасля смерці яго акаляюць сцены апошняга дома — дамавіны, а помнік абнесены агароджай. І ў нябыце чалавек адзінокі. Але ж паэт не абгароджваўся і не адгароджваўся, таму натуральна, асабліва зараз, гучаць радкі ледзь не саракагадовай даўніны:

Не стаўце на магілах агароджы,
Каб без ніякіх перашкод маглі
Да іх прыйсці ў вясновы дзень пагожы
Жывыя кветкі, галасы зямлі.

Гэтыя радкі прыгадаліся вядомаму даследчыку творчасці паэта Міколу Мікулічу, аўтару кнігі «Паэзія рэчаіснасці: У свеце Максіма Танка» (2002) у час наведвання магілы паэта, вакол якой сапраўды няма агароджы. Сапраўды, няма перашкод для набліжэння да свету паэзіі Максіма Танка, вялікага паэта, што ўласнай творчасцю руйнаваў муры і межы і адначасова ўздымаў і шырыў сцены і вуглы беларускага паэтычнага дома.

Перад намі рэдкі выпадак, калі творца пачынае трансфармаваць канцэпт *сцяна* з дапамогай блізкіх да яго *мур, падзел, перашкода*, паступова падыходзячы да разумення *сценаў* як нібыта жывых сведкаў гісторыі, уключаных у парадыгму *былое — сёння — будучыня*, а таксама ўвасаблення архітэктуры светабудовы ў якасці *дома, храма* і *свету*, дзе, па словах А. Сузько, «душа паэта разрываецца паміж зямлёй, з яе будзёнымі клопатамі, і небам». Дадзеная трансфармацыя сама па сабе ўяўляе своеасаблівы гімн жыццю, у якім няма *сцен-перашкод*, бо яно само ўзводзіць *сцены-вежы* свету яднання і шчырасці.



АЛЕСЬ ЯСКЕВІЧ

# СТАНАЎЛЕННЕ КЛАСІЧНАГА СТЫЛЮ

*(На грунце твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа)*

Вядомыя эстэтычныя пераарыентацыі і пераацэнкі мастацкіх каштоўнасцей у сённяшнім памежна ўзрушаным свеце, якія ўнёс нядаўна прамінулы, бурна-падзейны рубеж другога тысячагоддзя, вымагаюць ад нас, побач з усімі іншымі аспектамі літаратуразнаўчых даследаванняў, абачлівага тэарэтычнага паглыблення і ўмацавання падвалін нацыянальнай літаратуры, нарошчвання яе патэнцыянальнасці для паўнамоцнага ўваходжання ў абноўленую гістарычную перспектыву нязведана ўскладнёнай зямной цывілізацыі.

Вось чаму сёння такая цікавасць да вытокавых асноў новай беларускай літаратуры, калі пры закладванні родава-жанравай сістэмы вызначаліся яе самабытныя і агульначалавечыя параметры, яе здольнасць на ўсечасны рост і абнаўленне.

Канстатаваць само па сабе сфарміраванне нацыянальнай літаратуры можна толькі пасля таго, як у ёй дастаткова акрэсліцца родавая спецыялізацыя, дыферэнцыруюцца лірыка, драма і проза ў паўнаце і разнастайнасці іх жанравых праяў. Роды і віды, якія забяспечваюць даследчую функцыю літаратуры, аказваюцца ў вышэйшай ступені выбіральнымі ў адносінах да жыццёвага матэрыялу, яны ў непасрэдным сэнсе спецыялізуюцца на рознабаковым разглядзе рэчаіснасці, каб сукупна, з дастатковай шырынёй і глыбінёй выявіць яе ў цэлым.

Найболей патаемны, мала раскрыты аспект гэтай праблемы — удзел родаў і жанраў у самім літаратурным працэсе, пасрэдніцтвам якіх рэалізуюцца ў ім творчыя індывідуальнасці.

Сучасная тэорыя ў якасці гэтага зыходнага генератыўнага пачатку творчай псіхалогіі называе *стыль*. Адным сваім вектарам стыль сапраўды выходзіць да формаўтваральных пачаткаў родаў і жанраў, другім — непасрэдна да праяўлення адметных бакоў творчай індывідуальнасці.

Стылістыка вывучае самыя пачатковыя і патаемныя моманты афармлення зместу, невыпадкова ўзроўнем яе формаўтваральных працэсаў з'яўляецца мастацкая мера, тое няўлоўнае «ледзь-ледзь», якім дасягаецца дасканаласць у мастацтве. Стылетворчасць — самая перадавая пазіцыя паэтыкі, з гэтага першапачатковага, бясконца напружанага афармлення зместу ідуць і ідуць адкладанні, што з часам, абстрагаваўшыся ад канкрэтнага сэнсу і сцвердзіўшыся ў найбольш завершаных формах, увойдуць у паэтычную традыцыю, стануцца агульнай заваёвай літаратурнай тэорыі.

Вызначальны тут стылефармуючы вектар творчай індывідуальнасці, пад пяром, у мастацкім тыглі якой выплаўляюцца ўсе першасныя формы, адзначаныя пячаткай прыродададзенай адметнасці, тут патаемная сфера пачатковых пошукаў і знойдзеных рашэнняў, што потым будуць прэтэндаваць на агульныя правілы. Працэс наступнай фармалізацыі, у прыватнасці, стылю ў жанр, па меркаванні вядомага сучаснага тэарэтыка стылю П. А. Палііеўскага, адбываецца на-

ступным чынам. «Чым шырэй, чым заканамерней робіцца форма, тым больш траціць яна ў змястоўнасці.午Становячыся ўсеагульнай і атрымліваючы як бы шырэйшае поле дзейнасці, яна пазбаўляецца шматзначнасці, набліжаецца да аднайменнай фігуры... Такія формы, якія выдзеліліся ў ходзе гісторыі і атрымалі самастойнасць (напрыклад, літаратурныя жанры), маюць самі па сабе мінімум канкрэтнага вобразнага зместу, выконваючы ролю своеасаблівых крокваў у мастацкім будынку».

Гэтыя фундаментальныя даследаванні маскоўкай літаратуразнаўчай школы дынамікі мастацкай формы, замацаванне яе ў жанр і распадабненне наноў у стыль у творчым працэсе дазволілі пазней сфармуляваць вельмі плённую канцэпцыю класічнага стылю, якім якраз апісваецца зыходная асноваўтваральная фаза станаўлення нацыянальных літаратур. Ахапіўшы даследаваннем увесь літаратурны абсяг еўрапейскага рэгіёна: Італіі (Р. І. Хладкоўскі), Францыі (І. Ю. Падгаецкая), Англіі (Д. М. Урнаў), Германіі (А. В. Міхайлаў), Расіі (В. В. Кожынаў, П. В. Паліеўскі, М. К. Гей, В. Д. Сквазнікоў) — рускія тэарэтыкі надалі паняццю класічнага стылю ролю абагульняючай катэгорыі пры вызначэнні стадыйнай тыпалогіі сусветнага мастацкага развіцця, з дапамогай якой з несупярэчлівай адэкватнасцю апісваецца зыходная фаза фарміравання нацыянальных літаратур як эстэтычных сістэм. Паняцце класічнага нацыянальнага стылю правамерна залічваць у разрад літаратурных катэгорый так званага скрытага тыпу, якія, услед за лінгвістыкай, пачынаюць шырока вывучацца і ў сучасным літаратуразнаўстве.

«Калі рускія пісьменнікі, — падагульняе дадзены тыпалагічны феномен І. Ю. Падгаецкая, — гавораць пра Пушкіна як «пачатак усіх пачаткаў», калі суайчыннікі Лафантэна і Расіна пішуць аб тым, што ў іх — «скрыжаванне ўсіх дарог» нацыянальнай літаратуры Францыі, калі ўжо тры стагоддзі Лопэ дэ Вэга адзінадушна прызнаецца родапачынальнікам новай літаратуры Іспаніі, дык гэта прымушае нас, супаставіўшы падобнага кшталту меркаванні, задумацца над агульнасцю становішча гэтых пісьменнікаў у кожнай нацыянальнай літаратуры».

У новай беларускай літаратуры на вядомы нашаніўскі перыяд прыпадае фаза станаўлення класічнага стылю, здзейсненага славутай плеядай нацыянальных адраджэнцаў. Сярод іх творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа мы таксама справядліва адносім да пачаткаў усіх пачаткаў — як закладальнікаў класічных падвалін нацыянальнага прыгожага пісьменства.

У стадыйнай (па нашым вызначэнні) тыпалогіі станаўлення нацыянальных літаратур даследчыкамі вылучаецца яшчэ і падрыхтоўчы перыяд, «век пасрэднасцяў», што рыхтуюць культурную глебу вялікім родапачынальнікам, творчасць якіх будзе пазней адзначана вяршыннымі (класічнымі) дасягненнямі.

У нашых умовах гэты падрыхтоўчы этап выканала ліратарура XIX стагоддзя, пры напаўлегальным становішчы роднага слова, у марудлівых спробах заснавання нацыянальнай мастацкай традыцыі ў некалькіх разрозненых культурных асяродках. У гэтым звышнапружаным высілку нацыянальнага духу ўспыхвалі і зрабілі свой пасільны ўнёсак зусім не «пасрэдныя» таленты: В. Равінскі і К. Вераніцын, П. Багрым, Я. Баршчэўскі і Я. Чачот, Ул. Сыракомля і В. Каратынскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына, якія з годнасцю залічаны намі ў шэраг раннепачынальнікаў новай беларускай літараруры. Крапатлівымі даследаваннямі апошняга часу пераканаўча паказана сфарміраванне родавай сістэмы нацыянальнага прыгожага пісьменства (паэзія, часткова драма, малыя жанры прозы) у асноўным ужо ў гэты неспрыяльны вытокавы перыяд.

Ды ва ўмовах аслабленай пераемнасці культурнай традыцыі нашаніўскае сузор'е талентаў пачынала свой новы заход адраджэння нацыянальнай літаратуры на роднай мове зноў як бы спачатку. Літаратурнае жыццё ў XIX стагоддзі з-за адсутнасці беларускага перыядычнага друку падтрымлівалася пераважна ў форме асабістых кантактаў, таму ў вачах нашаніўцаў, паводле слоў М. Багдановіча, «ніякага колькі-небудзь прыкметнага беларускага руху тады і ў паміне не было». У прыватнасці, гаворка ідзе пра 80—90-я гады, якія звязвалі вытокавы перыяд з нашаніўскім. А між тым належыць зазначыць, што нашаніўскі адраджэнскі ўздым не ў малой ступені абавязаны самаахвярнаму подзвігу літаратурных папярэднікаў. Напрыклад, для Цёткі іх творчасць з'явілася існым адкрыц-

цём, паваротным пунктам у яе нацыянальным самавызначэнні: «Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне неяк не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую старану, аж покі не папала ў мае рукі «Дудка» Мацея Бурачка, яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыць ён гаворыць па-беларуску, той беларус».

Спярша літаратура XIX стагоддзя, да пазнейшага надзвычай зацікаўленага яе засваення нашаніўцамі і папулярызацыі ў тагачасным друку, адыгрывала ролю стымулюючага прэтэндэнту ўласнай літаратуры на нацыянальнай мове, пра што мы маем надзвычай паказальныя сведчанні таксама Янкі Купалы і Якуба Коласа. Так, у лісце да Л. М. Клейнбарта ад 21.9.1928 г. Янка Купала ўказвае на ўплыў літаратурных папярэднікаў як на важны момант у сваім нацыянальным вызначэнні: «Пісаў спачатку па-польску, але неўзабаве пачаў і па-беларуску. Некалькі польскіх вершаў, вельмі мала, было надрукавана ў якімсьці польскім часопісе, у якім?, здаецца, у «Ziarno». Але вось трапляюцца мне ў 1904 г. ці пачатку 1905 г. рэвалюцыйныя пракламацыі на беларускай мове і «Дудка беларуская» Багушэвіча і «Гапон» ці якаясьці іншая кніжка Марцінкевіча, выдадзеная за мяжой, і ўсё маё польскае пісанне пайшло на глум. З гэтага часу я пачынаю пісаць толькі па-беларуску, а што — гэта бачна з першага тому маіх твораў. Па-руску не пісаў».

З тае пары Янка Купала глыбока цікавіцца спадчынай нацыянальных папярэднікаў, прагне крынічнага вытоку літаратуры на роднай мове: «З беларускіх пісьменнікаў мінулага мне блізкія амаль усе — і Марцінкевіч, і Багушэвіч, і Неслухоўскі, і Чачот. Хто з іх больш уплываў на мяне як паэта — цяжка сказаць, ці ўсе патроху, ці ніхто, але я іх любіў і зачытваўся імі».

А вось сведчанні Якуба Коласа аб пакручастых пуцявінах, якімі другі славуты нашанівец ва ўмовах зацiскання нацыянальнага друку прабіваўся да запаветнага, беларускага мастацкага слова. Уся пачатковая паэтычная творчасць Якуба Коласа, пачынаючы ад дзіцячага верша «Вясна» (1894), адзначанага бацькам «рублём гасцінца», аж да надрукавання яго беларускага верша «Наш родны край» у «Нашай волі» (1906, № 1), хоць нацыянальная па духу, але пераважна яшчэ рускамоўная. У лісце да вядомага біёграфа С. А. Вянгерава ад 24.11.1913 г. ён таксама піша аб прэтэдэнтным уплыве пісьменнікаў XIX стагодцзя на вызначэнне яго свядома-беларускіх арыентацый: «Пра беларускую літаратуру я нічога не ведаў, чуў толькі беларускія песні, якія за прасніцай спявала мая маці. Першы беларускі твор, які я пачуў, быў верш Янкі Лучыны (Неслухоўскага) «Стары ляснік». Ён зрабіў на мяне моцнае ўражанне не сваімі літаратурнымі вартасцямі, а тым, што быў напісаны па-беларуску».

Няўхільнае яго жаданне пісаць на роднай мове падчас вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі падтрымаў любімы настаўнік славеснасці Ф. А. Кудрынскі, заахвоціўшы словамі на ўсё жыццё: «Вось дзе Ваша сапраўднае прызванне». «З таго часу, — паводле ўспамінаў паэта, — я пачаў пісаць на мове свайго народа. Але мяне засмучала ўсведамленне таго, што гэтыя вершы няма дзе апублікаваць. Моладзь падбірала да іх мелодыі і спявала».

Таму выхад у свет першай ластаўкі беларускага перыядычнага друку — газеты «Наша доля», што з першага нумара пачала знаёміць чытача з беларускай паэзіяй, паводле прызнання Якуба Коласа, «быў найвялікшай падзеяй у маім жыцці. Я аддаўся цалкам беларускай паэзіі, зрабіўся палымяным прапагандыстам беларускага адраджэння».

Асэнсоўваючы паскораную эвалюцыю нашаніўскай генерацыі, і ў першую чаргу Янкі Купалы і Якуба Коласа, мы пераконваемся, што выпрацоўка класічнага стылю ад самых пачатковых формаў да яго вяршынных дасягненняў здзяйснялася ў адным пакаленні без асаблівай нарыхтоўкі, а толькі пры наяўнасці прэтэдэнту беларускамоўнай творчасці ў іх папярэднікаў.

Заваёвы класічнага стылю найперш пазнаюцца ва ўзорна завершаных дасягненнях літаратурных родаў і жанраў; у глыбіні мастацка-філасофскага асэнсавання народнага жыцця ва ўсім ахопе нацыянальнага космасу; нарэшце, у рашучым зруху ва ўзвышэнні вусна-дыялектных гаворак на ўзровень агульнанацыянальнай літаратурнай мовы. А яна ў тых умовах мусіла сцвярджаць сябе,

кніжна дыферэнцыявацца ў сваіх функцыянальна-стылявых гранях напачатку пераважна на маналітным пласце прыгожага пісьменства, у «лабараторыі» мастацкай творчасці.

Так, у родава-жанравых адносінах у творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, у параўнанні з сінтэкрэтычнай паэзіяй папярэдняга стагоддзя, мы назіраем якасна наватарскія з'явы. Калі ў Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча роды і віды яшчэ толькі выбаўляліся са стыхійнага напаўфальклорнага сінкрэтызму, у сваім прыродным дыферэнцыяваным статусе паэзія вызначылася толькі ў Я. Лучыны, дык у сталых творах Янкі Купалы і Якуба Коласа — ужо ва ўсім выразна выяўленая лірыка, якая ведае самую вытанчаную тэхніку выказвання інтымнага пачуцця. І зноў жа, калі ў іх паэмах мы сустракаем ліра-эпіку, дык яе сінкрэтызм другасны, што зведаў усе глыбіні родавай дыферэнцыяцыі і свядома звяртаецца зноў да родавага сінтэзу дзеля памнажэння выяўленчых жанравых патэнцый паэзіі.

Напрыклад, паэма Янкі Купалы «Яна і я» (1913) уяўляе сабой узор лірыкі, пабудаванай цалкам на эпічным матэрыяле, на фабуле каляндарнага кругазвароту сялянскага жыцця, якое дзякуючы гэтай дзівоснай родавай амальгаме перайначана, узвышана да якіхсьці агульначалавечых сімвалаў.

Такое сімвалічна ўзбуйненае ўспрыманне народных побытавых рэалій зробіцца арыгінальным паэтавым светабачаннем, самай заварожлівай рысай Купалавага стылю, чым гэтак захапляўся ў яго творчасці Аляксандр Фадзееў: «Упершыню пазнаёміўся з паэмамі Купалы — яны выключна своеасаблівыя па якомусьці спалучэнню прыёмаў сімвалізму з праўдай жыцця і кроўнай блізкасцю да беларускага мужыка («Адвечная песня» — цяжкая і сумная да слёз). «Яна і я» — паэма выключнай адметнасці — зямная, паганская і ў той жа час па-беларуску ціхая, акварэльная і зноў і зноў мужыцкая».

У творчую псіхалогію напісання гэтага ранняга шэдэўра новай беларускай літаратуры крыху ўводзіць гісторыя ўзнікнення твора. Рэдкую мастацкую дасканаласць паэмы належыць успрымаць як творчы адказ на нашаніўскую дыскусію 1913 г., што распачалася артыкулам «Сплочвайце доўг» (мяркуецца, В. Ластоўскага), у якім быў кінуты папрок паэтам («парнаснікам») пра занядбанне мастацкасці, «красы» ў беларускай паэзіі. Хоць у сваім адказе «Чаму плача песня наша?» Янка Купала па-ранейшаму адстойваў сацыяльны прэарытэт паэзіі («Не да пацеркаў, калі хата гарыць»), аднак у творчым плане як бы ў працяг палемікі паэт тым жа летам стварае дзівосную паэму «Яна і я», адрозную ад ранейшай творчасці сваёй узорнай мастацкай завершанасцю. Гэтым самым паэт даваў сваім крытыкам прыклад услаўлення жыццёвай красы, не сступаючы з пазіцый народазаступніцтва, усе тым жа Купалавым метадам — услаўлення простанародных лёсаў да вышынь агульначалавечых ідэалаў.

Вялікім дэмакратычным крокам пачынальнікаў XIX стагоддзя з'явілася ўзвядзенне простага чалавека на ролю паўнапраўнага героя літаратуры. У Купалы-адраджэнца гэтае заступніцтва за абяздоленага чалавека і занядбаную бацькаўшчыну пашыраецца да якойсьці касмічнай звышзадачы: «Я песняй мілую сваю праслаўлю // Паміж народамі сваіх, чужых зямель, // Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю, — // Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель».

Вызначальным параметрам класічнага стылю, па перакананні тэарэтыкаў, з'яўляецца паўната выяўлення «нацыянальнага акцэнту» на фоне сусветнага мастацтва. Позція нованацыянальныя літаратуры, і ў прыватнасці, беларуская, зрабілі тут, можна сказаць, асаблівы ўнёсак, заснаваўшы фальклорную народазнаўчую школу ў рамантызме. У класічным стылі нашаніўскага перыяду мы назіраем і тут значнае, магчыма, памежнае ўжо паглыбленне нацыянальнай сутнасці літаратуры. Купалава паэзія настолькі сягае ў жыццёвыя побытавыя нетры, што, здаецца, няма падзелу паміж мастацтвам і самой сапраўднасцю, а з другога боку, рэальнасць дзівосным чынам ідэалізуецца паэтавай думкай настолькі, што сялянскія героі ў іх прасталюдзіннай існасці сімвалізуюцца, спадабняюцца прабацькам чалавечым. Як заўважыла крытыка (Р. Бярозкін), у паэме «Яна і я» ўсё нібы ўпершыню, нібы першае ў свеце.

Раем на зямлі выглядываў наш сад,
Я ў ім — Адам, яна ў ім — Ева...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Багамі хай станем мы паміж людзьмі,
Нябеснага князямі міру.

Неад'емнай рысай класікі, якая не цураецца жыццёвых безданяў, з'яўляецца ўзнаўленне быцця ў яго спрадвечнай таямніцы. З першага раздзела «Стрэча» паэт адразу ўводзіць сваіх герояў пад трывожны небасхіл нацыянальнага свету: «Як путнікі, заблуканыя ў ночы, стаялі мы пад труднай ношай дум», «нявіданыя дзівы нас адбымалі крыламі сваімі, яе, «заручанай, у шлюбнай белі», яго, ахутанага «у мрок», што ўвайшлі ў сямейнае жыццё «як тыя цені-мары», ім на шляху «запаланелі... пажары, закуранелі чорныя лясы».

Загадку Купалавай паэзіі М. Багдановіч бачыў таксама ў незвычайнай энергіі яе рытму як уладнага настраёвага носьбіту дынамікі паэтавага светабачання, невычарпальнай вобразнасці і прыкмет стылю: «Буйны, шпаркі, ён падмывае, захапляе чытача, гіпнатызуе яго, не дае апамятацца, затрымацца і нясе яго ўсё далей і далей... Каб задаволіць яго разгон, канцы строк аж звіняць, з'яўляюцца рыфмы і пасярэдзіне верша, нават словы да яго падбіраюцца зычныя, моцныя; а калі ў мове сталеццямі гнуўшагася беларускага народа не хватае іх, дык Купала ўжывае новыя, выкаваныя ім самім: ні ў жадага вашага паэта няма такога багатага славара, як у Купалы».

Гэтая ігра рытмічнага тэмпераменту дазваляла паэту спалучыць, у духу найноўшай паэзіі, прагрэсіўную сілаба-тоніку з адмыслова выробленым акцэнтным вершам (вядомы Купалаў фразавік), каб зноў жа ў працяг традыцыі дэмакратычнай паэзіі ў раскаваныя версіфікацыйныя краты радка месціць лад нязмушанай натуральнай гаворкі. Што паскарала працэсы паэтычнага пакарэння нацыянальнай прасодыі і дапамагала ў адзінстве і цеснаце рытмараду стылёва граніць дыялектнае слова, уздымаць яго на шкалу літаратурна апрацаванай мовы, рабіць адкладанні экспрэсіўнай лексікі, нарыхтаванай мастацкай моватворчасцю, па тым часе ва ўсё яшчэ бедны «лірычны» слоўнік.

Ужо каторым пакаленнем разгадваецца класічная таямніца паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», узнятай, здаецца, з самай жыццёвай стыхіі, з жывой нерушы народных гаворак. Справядліва названая энцыклапедыяй народнага жыцця, яна і па наш час вымагае далейшай філасофскай і мастацкай расшыфроўкі і новай надзённай актуалізацыі ў сённяшнім гэтак крута перайначаным літаратурным працэсе.

Шматлікія сведчанні творчай псіхалогіі паказваюць, што фабульны матэрыял (у «Новай зямлі» — гэта гадавы кругазварот побытавага сялянскага і леснікоўскага жыцця) дазвання сутрасае, саграе жарам сэрца і выстаўляе ў новую мастацкую рэальнасць настрой аўтара, меру глыбіні і адказнасці яго светаўспрымання, якімі, урэшце, і натхняецца самы акт напісання твора.

З гэтага боку гісторыя стварэння паэмы ў нечым унікальная. Яе, здаецца, бясконцая класічная глыбіня ў непасрэдным сэнсе вынік тых жыццёвых прадонняў, з якімі сустрэўся тады яшчэ малады аўтар, што з прызваннем інтэлігента ў першым пакаленні выходзіў з самой гушчы народнай паслужыць асмяяным родным словам справе нацыянальнага абуджэння. А ўмовы трохгадовага турэмнага зняволення (1908—1910 гг.), у якіх пісаліся раздзелы паэмы, часткаю канфіскаваныя, паўторна ўзноўленыя і зберажоныя пад кашуляй у час вобыскаў, сведчаць пра разуменне паэтам творчасці на роднай мове больш за звычайны літаратурны занятак. Калі не пры ранняй задуме твора (напачатку гэта былі паасобныя фрагменты, нават самастойныя вершы), дык пры канчатковым завяршэнні твора ў 1923 г. «Новая зямля» з яе і пасёння неразгаданай ідэяй мыслілася паэтам як вялікі нацыянальны эпас, якому па заглыбленым пранікненні ў сялянскае жыццё, магчыма, і аналагаў не было тады ў сусветнай літаратуры.

Архетыповы вобраз паэтаў XIX стагоддзя — адчуванне чалавекам сваёй тутэйшасці як нацыянальнай прыналежнасці і народа як сям'і (В. Каратынскі, Ф. Багушэвіч) у паэме Якуба Коласа пераняты, пашыраны, узведзены ва ўсеахопны лейтматыў, настрой і фон твора: «І людзі простыя так ветлы, // І погляд добры іх і светлы // Так да душы і пранікае // І сэрца цешыць і ласкае; // Ці хута-

рочак пападзецца, // Ну, як знаёмы, усміхнецца! // Ці гэта вёска з ветракамі // І з прыдарожнымі крыжамі, // Ўсё так павабна, так адметна, // І ўсё вітала іх прыветна, // Бы тая блізкая радня».

Настраёвым камертонам паэмы і яе асноўным эмацыянальна пераўтваральным каталізатарам з'яўляецца паслядоўна праведзенае лірычнымі адступленнямі (раздзелы I, XIV, XVI, XVIII, XXX і інш.) узнаўленне падзей праз успаміны маленства, агністымі азарэннямі, першаадкрыццямі якога ў канчатковым выніку вобразна перайначана, бясконца сагрэта, святліста ўзвышана ўся, здаецца, такая прыземлена побытавая матэрыя твора. Бо тады нараджаўся паэт, адчуваў роднае ўлонне як рай зямны, нягледзячы на ўсю шматпакутнасць вясковага ладу жыцця. Такая патаемная «алхімія» мастацкіх пераўтварэнняў жыццёвага матэрыялу! Вось самыя першыя, са школьнай пары ўжо хрэстаматыйныя радкі паэмы, што патаемнай музыкаю настрою агучылі ўсю падзеевую канву твора: «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. // Забыць цябе не маю сілы! // Не раз, утомлены дарогай, // Жыццём вясны мае убогай, // К табе я ў думках залятаю // І там душою спачываю».

Але мы ўхіліліся б ад канчатковай разгадкі Коласавай класікі, калі б не зазірнулі ў самую запаветаую, трансцэдэнтную далеч паэмы.

У «Новай зямлі», як і ў паэме «Сымон-музыка», трылогіі «На ростанях» і іншых творах пісьменніка, трансцэдэнтнасць, вечнасць паўстае як асноўная шуканая філасофія, таямніцу якой ён, нават пад звышпільным наглядам атэістычнай сацыяльнай псіхалогіі, дапытваў да самай апошняй жыццёвай хвілі. У лірычным адступленні XIV раздзела паэтава думка экзістэнцыяльна сягае за такі край нязведанага, дзе мроіцца «жыцця і смерці-сымбаль вечны», куды, здаецца, і дарогі няма: «І люб і смуцен час прыгоды, // Калі душа ўсяе прыроды // З тваёю злучыцца душою // У адным суладдзі і настроі! // І ты маўчыш, маўчаць і далі, // Як бы ў адной агульнай хвалі, // Ў адной асветленай часіне // Жыццё злучыла свае плыні // І бег свой вечны прыпыніла, // І неба твар свой адчыніла. Трансцэдэнтны настрой прысутнасці ў кожнай зямной яве водбліску вечнасці паэтам праведзены з уважлівай паслядоўнасцю, складае важнейшую філасофскую надбудову твора.

У раздзеле «На першай гаспадарцы» зноў раскрываецца вышэйшы сэнс і спрадвечная надзея жыцця: «І ажывіліся абшары, // Запахла свежаю раллёю, // Як бы сам Бог тут над зямлёю // Прайшоў і глянуў міласціва». І далей па тэксце ў хмурную пару вясновых халадоў варта толькі «агняпісу» сонца аздобіць «дзень тужлівы, засмучоны»: «І ўсё вакол павесялее, // На момант сцішыцца, замлее, // На ўсё адбітак ляжа згоды, // І нікнуць подыхі нягоды. // Зямельцы неба усміхнецца».

З трапяткім адчуваннем неразгаданай таямніцы свету, што блогасна атуляе людзей і прыроду, намаляваны ў паэме надыход Вялікадня, свята святаў хрысціянскага, па-народнаму асэнсаванага календара. На людзей сыходзяць «лагоднасць, згода і павага і вельмі сталая развага», «ліхія людзі падабрэлі, бо святам Божым ўсюды вее». І сама прырода поўніцца гэтай вячыстай богадайнасцю: «Над ціхай талаю зямлёю // Навісла ночка той парою. // Было спакойна і лагодна, // Як бы сама прырода тая // Паважнасць свята адчувае. // З людзьмі жыве супольна, згодна».

Увогуле, калі мы хочам выведаць сакрэты медытатыўнай пейзажнай лірыкі Якуба Коласа, яго непераўзыдзенага майстэрства ва ўзнаўленні пераходных і блогасных станаў прыроды, дык яны якраз нязмушана і натхнёна даюцца паэту дзякуючы гэтаму цэласнаму ўспрыманню прыроды як сусвету, як самай таямнічай дзеі на экране вечнасці: «А тая ранічка на полі //У часе летняга расквету! // Эх, выйдзі ў поле, брат, дасвету: // Не будзеш каяцца ніколі. // Зірні, прыслухайся наўкола: // Як ціхамірна, як вясёла. //І ў кожным дрэве, і былінцы, // І ў малюпасенькай раслінцы, // Ну, ва ўсім чысценька дазвання // Блукае радасць спадзявання. // Куды ні глянь — усе ў настроі //І ў добрай згодзе між сабою; // Само паветра жыва, дыша, // Бы ў ім хтось хвалы жыццю піша, // Праменна-светлы, яснавокі...

Пасля нядаўняе пустэльні бездухоўнасці, пагадзіцеся, адкрыццё гэтага найважнейшага метафізічнага пласта твораў Якуба Коласа ўспрымаецца з абса-

лютна нечаканай навіной, што перакрэслівае ўсе колішнія плоскія, груба сацыялагізаваныя ацэнкі ягонай творчасці.

Пафас сацыяльнага перадзелу («Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!») у нечым складаў дамінанту паэзіі адраджэнцаў усяго дарэвалюцыйнага перыяду. У раздзеле паэмы «Па дарозе ў Вільню» і «Дзядзька ў Вільні» сэрца Антося, узрушанае сацыяльнай няроўнасцю, кіпіць поўным адмаўленнем несправядлівага жыццёвага ладу. Ды ў лірычным адступленні, гэтым натхнёным гімне дарогам жыцця, сам аўтар узвышаецца над сацыяльным толькі момантам, прымае свет ва ўсёй яго загадкавай шматстайнасці зноў жа ў імя нейкіх вышэйшых, вечных яго законаў: «Бо свет і жыцце многалучны // І многавобразны, выключны. // Таемна схаваны, цікавы // І разнастайны іх праявы, // Дзе кожны момант хвалі новай // Нам штось гуторыць сваёй мовай // Для сэрца і для разумення, // Дзе поўна ўсё свайго значэння, // Прыгоства, чар і глыбіні, // Дзе граюць вечныя агні...

Усё ж асноўным жыццёвым і адначасна нацыянальна-архетыповым лейтматывам паэмы, своеасаблівым кантрапунктам, што, развіваючыся паралельна іншым лініям, яднае іх к фіналу, з'яўляецца ідэя зямлі. Па ідэальнасці адносін чалавека да зямлі, адчування яе таямніцы, улады і апірышча ў жыцці селяніна твор Якуба Коласа мае мала сабе роўных. «...Зямля, зямля, // Свой пэўны кут, свая ралля: // То наймацнейшая аснова //І жыцця першая ўмова. // Зямля не зменіць і не здрадзіць, // Зямля паможа і дарадзіць, // Зямля дасць волі, дасць і сілы, // Зямля паслужыць да магілы, // Зямля дзяцей тваіх не кіне, // Зямля — аснова ўсёй айчыне».

Твор у нечым і да гэтай пары застаецца помнікам сялянству, першароднай непашкоджанасці, неадчуджанасці яго землекарыстання, адчуванне чаго сённяшняя цывілізацыя паступова і беззваротна страчвае.

Загадкавая прывабнасць паэмы ў тым, што ў адчуванні ўлады зямлі перад намі Якуб Колас — перш за ўсё селянін. «Запахла поле зноў раллёю» — тут увесь земляроб, уся таямніца яго светаадчування, светамілавання. Зямля з яе «беларускаю бядою» ў вачах селяніна праменіцца бясконцымі адценнямі сваёй улады: яна, «брат, сілы многа мае, — // Такія вежы выганяе!», ёю занята ўся праца і дні вяскоўца, бо «Зямля ж, ох, многа патрабуе // І *догляду*, і той *увагі*, // І, калі хочаце, *павагі* (курс. — А. Я.).

Улада зямлі над селянінам такая бясконцая, што героі паэмы ў нейкі момант адчуваюць сябе адданымі ёй даастатку: «Бо мы твае, зямелька, людзі», а зборы Міхала і Антося па куплю зямлі ўспрымаюцца як якоесьці свяшчэннадзейства, важнейшая падзея ў іх жыцці.

Пры расчытванні філасофскай канцэпцыі зямлі ў паэме, дзе даследчыкамі яшчэ не пастаўлена апошняя кропка, думаецца, залішне ігнаравана сама біяграфічная аснова твора. Якуб Колас належыць якраз да такога тыпу пісьменнікаў, якія няўхільна трымаюцца дакументальных мадэляў жыцця ў сваёй творчасці.

Дапытлівымі тэкстолагамі ўзноўлена рэдкая ў сваёй паслядоўнай дэталёвасці прататыпавая канва «Новай зямлі». Як даведваемся мы з каментарыя да твора, імёны, прозвішчы аж да мянушак прататыпаў большасці дзеючых асоб перанесены ў паэму без асаблівых змен. Яхім і Пятрусь — браты Міхала Казіміравіча, дзед Юрка — бацька Ганны, маці паэта. Рэальныя асобы Язэп і Фабіян з Караліны (браты Сянкевічы), браты Ян і Кандрат, іх маці Дарота Пальчыкі, Яхім Андроцкі, па мянушцы «Вухін», Хвядос Хадыка і інш. Імёны леснікоў Пшавары, Ліхтаровіча, Дземідовіча, Судніка, аб'ездчыка Ксавэры, паноў Свіда і Крывіцкага, мяркуецца, пададзены таксама без змен. Захаваны ў паэме назвы вёсак, мястэчак, хутароў, урочышч, рэк (Ліпава, Клін, Чартавіца, Маргі, лес Сустрэнаўка, Дзям'янава горка, Сверджанская града, могілкі Церабяжы).

А ў другім, па-свойму энцыклапедычным па ахопе нацыянальнага жыцця творы — трылогіі «На ростанях», у якой у выразна дзённікавай храналогіі падаецца жыццёвы дакумент, у рознай ступені пераўтвораны фантазіяй пісьменніка, мы становімся сведкамі, па сутнасці, найноўшых зрухаў у прозе, разнавіднасці якой атрымаюць назву мастацкага мемуара, спавядальнага біяграфічнага рамана.

Таму ў «Новай зямлі» калізію смерці Міхала ў дадзеным выпадку аніяк нельга па-філасофску дадумваць, яна цалкам адпавядае біяграфічнай падаснове паэмы і зусім не павінна ўспрымацца як крах сямейных ілюзій у набыцці зямлі. У падзеевым плане фактычнай драмы зямлі не адбываецца, Міхал на смяротным ложку завяшчае ўсю справу брату Антосю, які і да гэтага нёс на сабе ўвесь бюрактарычны цяжар куплі зямлі: « — Антоська!.. родны мой! Канаю... // Перагарэў, адстаў, знікаю... // Вядзі ж ты рэй, вядзі... адзін... // Як лепшы брат, як родны сын. // Бог не судзіў мне бачыць волі // І кідаць зерні ў сваё ролі... // Зямля... зямля... туды, туды, брат, // Будуй яе... ты дай ёй выгляд... // На новы лад, каб жыць нанова...» А вось філасофская трактоўка паэмы з яе загадкавым акцэнтам — мараю калі не герояў, дык аўтара не аб уласнай, а «новай зямлі» патрабуе паглыбленай інтэрпрэтацыі.

На пачатку 20-х гадоў, падчас завяршэння паэмы, сацыяльныя, народазнаўчыя, нацыянальныя ідэалы былых адраджэнцаў перацярпелі немалыя змены, у нечым, магчыма, крах. Як усё больш сёння адкрываецца, гэтак чаканая сацыяльная бура Кастрычніка не прынесла дзяржаўнасці нацыі, адна з галоўных мэт былых народазаступнікаў — вяртанне зямлі селяніну набывала няспраўджаныя утапічныя формы ў практыцы камун, і сам зямельны перадзел поўніўся смутнай трывогай аб задуманай бальшавікамі карэннай сацыяльнай перабудове вёскі, руйнаванні яе спаконвечнага землекарыстання. Ва ўмовах непрадказальнага сацыяльнага разлому, зноўку яшчэ большай гістарычнай замглёнасці нацыянальных перспектыў праблема зямлі ў эпасе аб сялянстве Якуба Коласа, калі памятаць пра вышэй ўзноўленую намі надзвычай моцную трансцэдэнтную дамінанту паэмы, і вылілася ў фінале, трэба пагадзіцца з інтэрпрэтацыяй пасобных даследчыкаў (У. Конан), у евангельскі ідэал — мару «новага неба і новай зямлі», «на якіх пануе праўда».

У родава-жанравых адносінах паэма «Новая зямля», у параўнанні з паэзіяй XIX стагоддзя, уяўляе таксама цалкам структурную навіну, пазначаную хай сабе першасна напружанай, але ва ўсім ужо класічнай завершанасцю. Так, гэта вершаваны эпас пра сялянскае і леснікоўскае жыццё, але ён па-наватарску аплоднены, перайначаны, сагрэты гэткім жа значным лірычным элементам, яго, як было паказана, аж некалькімі перакрыжаванымі лініямі.

Версіфікацыя паэмы выканана ва ўласцівай усходнеславянскай прасодыі нязмушана лёгкай сілаба-тоніцы (чатырохстопны ямб). Верш заснаваны на тэхніцы навейшай сінтаксічнай інверсіі, свабодзе пераносаў (анжанбеманаў) і іншых прыёмаў раскаванага паэтычнага парадку слоў. Але пераважная ў Якуба Коласа дзеяслоўная рыфма, яшчэ не зацяганая ў ранняй паэтычнай традыцыі, дазваляе паэту ўкладваць у радок нязмушаную натуральную гаворку, тым самым стылёва аранжыраваць, уздымаць у літаратурную мову формы дыялектнага прастамоўя. Прасадычная гнуткасць і мілагучнасць Коласавага верша не аднойчы адзначалася тагачаснай крытыкаю.

Праблема пісьменніцкай моватворчасці як адзнакі класічнага нацыянальнага стылю патрабуе спецыяльнага даследавання, выяўлення з узуснага стану тагачаснай мовы ўнёску стылю мастацкай літаратуры. Фенаменальную моватворчасць класікаў мы пазнаём па тым, наколькі мова іх твораў, іх лексічнае багацце, іх сінтаксічныя рашэнні, апярэджваючы свой час, увайшлі ў актыўны фонд сучаснай літаратурнай мовы, у нечым пазначаючы сабой межы яе кніжнага функцыянавання.

Так, з пачынальнага перыяду XIX стагоддзя амаль як «сучасную» літаратурна выпрацаваную норму мы ўспрымаем мову «Тараса на Парнасе» (што адзначаў яшчэ Максім Багдановіч), мову Янкі Лучыны. Як класічны ўзор літаратурнай кадыфікацыі пасёння ўспрымаецца асабліва мова Янкі Купалы і Якуба Коласа, што ў перыяд надзвычай напружанай нашаніўскай моватворчасці знаходзілі высокую меру ў размежаванні агульнанацыянальных і вузка рэгіянальных (неперспектыўных) элементаў і словаўтваральных мадэляў.

Перыяд станаўлення класічнага стылю — гэта не толькі ў нечым вызначальны этап засваення літаратурнай моваю ўсёй глыбіні яе нацыянальнай стыхіі, захоплівання ўсёй плыні вусных гаворак ва ўмовах перарванай яе кніжнасці, але і вельмі важная стадыя яе кадыфікацыі, вызначэння яе правапіснага накірунку,

адшукання кампрамісу паміж яе графічнымі і вымаўляльнымі асаблівасцямі. Хаця ў нашаніўскі перыяд не было створана правапісных праграм і лінгвістычных канцэпцый, калі не лічыць арыгінальныя спробы К. Каганца па ўпарадкаванні беларускага алфавіту, усё ж трэба аддаць належнае дастаткова высокаму ўзроўню агульнанацыянальнай кадыфікацыі мовы ў першым беларускім друку. Асновай гэтай кадыфікацыі, вядома, служыў узус (як існуючае звычаёвае вымаўленне), якому па тым часе нацыянальную кансалідацыю і стылявую шліфоўку надавала якраз пісьменніцкая словатворчасць. Першыя вопыты мовазнаўчай абгрунтаванай кадыфікацыі будуць прароблены крыху пазней вядомым беларускім дзеячам, вучоным-філолагам Браніславам Тарашкевічам, вучнем знакамітага рускага лінгвіста І. І. Мешчанінава. І як гэта ўласціва першым подступам, кадыфікацыя здзяйснялася з вялікім ухілам на вымаўляльны бок вусна-дыялектных гаворак (Б. Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школ. Вільня, 1918).

Нашаніўская кагорта пісьменнікаў выявіла ва ўсім высокую адраджэнскую пасіянарнасць, таму ім за лічаныя передваенныя гады ўдалося закласці столькі ў нацыянальныя падваліны. Сведчаннем гэтай неадольнай адраджэнскай энергіі, калі яна крынічыць з абуджаных глыбінь народных, з'яўляецца, напрыклад, ліст Якуба Коласа (8.11.1913 г.), дасланы сходу гуртка навуковага пазнання Беларусі пры Пецярбургскім універсітэце: «Я не ведаю, як вітаць вас, дарагія сябры беларускага народа! Скажу толькі, што ніякая «рэформа» ўрада, хай самая свабодная і шырокая, не зможа зрабіць для беларускага народа таго, што можа здзейсніць ваша шчырая праца на тым грунце, на які вы яе паставілі. Бо гэта будзе праўдзівая жывая праца. Ваш гурток — гэта сонца Беларусі, адкуль будзе разлівацца святло ва ўсе куткі яе» (1914 г., 4 студзеня).

Адраджэнскі, нацыянальны рух пачатку XX стагоддзя быў паяднаны рэдкім ідэйным, творчым і чалавечым пабрацімствам яго славутых дзеячаў, калі, паводле слоў Янкі Купалы, паэт быў «слуга слугі усякай, пясняр і цар усіх царэй» («Песняру-беларусу»). Прыкладам гэтага самаадрачонага пабрацімства, з'яднанага мэтай народазаступніцтва і нацыянальнага будзіцельства, служыць для літаратурных пакаленняў кранальнае сяброўства Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх першая сустрэча адбылася ў жніўні 1912 г., калі Янка Купала спецыяльна прыехаў для падтрымкі свайго завочнага сябра, аддадзенага пасля турмы на поўную грамадскую ізаляцыю, без ніякай надзеі на існаванне. Наведанне Янкам Купалам сябра ў яго безвыходных абставінах пакінула ў душы Якуба Коласа экзістэнцыяльнае ўзрушэнне на працяглыя гады: «Наша сустрэча насіла сяброўскі, нявымушаны характар, быццам бы мы даўно былі асабіста знаёмыя. Я на ўсё жыццё запомніў вобраз Янкі Купалы, тады маладога трыццацігадовага чалавека ў поўным росквіце жыццёвых і творчых сіл. Гэта быў вясёлы, жыццерадасны, схільны да добразычлівых жартаў і гумару чалавек... Са Свержня я праводзіў Купалу да станцыі Стоўбцы. Рассталіся з ім шчырымі сябрамі, і гэта наша дружба захавалася на ўсё жыццё».

Таленавіта натхнёная творчасць пісьменніка-вязня ў беларускім, украінскім, польскім, расійскім друку была вылучана, ацэньвалася вельмі высока як лідэра нацыянальнага адраджэння. І належыць з вартасцю ацаніць духоўную сталасць маладога Якуба Коласа, яго найдалікатную сціпласць у адносінах да міжнацыянальнай па тым часе ўхвалы яго творчасці. У лісце да настаўніцы А. Г. Зотавай ад 30.05.1909 г. Якуб Колас дзеліцца ўсхвалянымі думкамі з нагоды надрукаванага ў часопісе «Познание России» (1909, сакавік) артыкула С. Русавай «Возрождение белорусской литературы»: «Мяне, між іншым, <...> называюць другім Шаўчэнкам, беларускім, вядома. Хацелася б гэтаму верыць, ды скептыцызм заядае — як бы не выйшла тут памылка. Відаць, змешваюць мяне з Я. Купалам».

На яшчэ золкім ранішнім небасхіле айчыннай культуры ўспыхнулі творчыя зоркі першай велічыні Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія з тае адраджэнскае пары пазначаюць і само класічнае рэчышча, і глыбіні патэнцыяльнага развіцця беларускай літаратуры, выяўляюць яе найсамабытны твар і нацыянальную танальнасць сярод літаратур сусветных.

**АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ**

# ЛАДДЗЯ САМОТЫ НА МАРСКІХ ХВАЛЯХ

*Віктар Шніп. Беларускае мора. «Мастацкая літаратура», 2004.*

Той, хто спадзяецца, што ў новай кнізе Віктара Шніпа гаворка пойдзе пра Мінскае мора ці, напрыклад, пра возера Нарач, якое з поўным на тое правам таксама можна называць морам, глыбока памыляецца. А каб упэўніцца, што гэта і на самой справе так, дастаткова пазнаёміцца з першым вершам, што даў назву зборніку. Ён вынесены як бы эпіграфам да трох раздзелаў, а таму ўспрымаецца як праграмны:

Залатымі манетамі зорак
Зноўку свеціцца неба над намі.
Неба ў нас — беларускае мора
З белакрылымі ў ім караблямі.

Адабраць у нас мора хацелі,
Наша мора адзінае ў свеце,
Каб на мора мы больш не глядзелі
І жылі па лясах, як мядзведзі.

Мы ў вяках зберaглі сваё мора,
І нас мора ад бед зберагае,
Залатымі манетамі зорак
Уначы яно нас абсыпае.

З мора нашага нехта смяецца,
Але мора ў нас ёсць, як і ўчора.
Маё цела зямлі застанецца,
А душа — пераселіцца ў мора.

Няцяжка заўважыць, што паэт, карыстаючыся такім аб'ёмным (і трэба сказаць, удала знойдзеным) вобразам, мае намер павесці гаворку пра тое важнае і характэрнае, што патрапляе пад вызначэнне БЕЛАРУСЬ у самым шырокім разуменні гэтага слова. Ды той, хто мяркуе, што адбывацца ўсё будзе праз прызнанні і запэўніванні ў любасці да роднага краю, памыляецца.

Безумоўна, згаданыя матывы ў вершах прачытваюцца, але яны, як кажуць, знаходзяцца не на паверхні, бо іншай, унутранай напоўненасці. Перад намі, па сутнасці, дзённік душы лірычнага героя — нашага сучасніка, які знаходзіцца ў тым узросце, калі хочаш таго ці не, а ўзнікае неабходнасць аг-

ледзецца на шлях, пройдзены табою, каб упэўніцца, ці так жыў, ці не хібіў у чымсьці, тым самым даючы сабе маральную палёгку.

Дзённік гэты яшчэ больш цікавы тым, што ў ім не абыдзены ўвагай вострыя моманты сучаснасці, звязаныя з захаваннем гістарычнай памяці, зберажэннем усяго таго, што тычыцца беларускасці. Больш таго, згаданыя моманты, бадай, дамінуюць, бо асабістае — вопыт, пачуцці, стасункі з блізкімі людзьмі, нярэдка адыходзяць на другі план, а на першым знаходзіцца асэнсаванне менавіта «беларускага мора», як у ягоным прасторавым, так і ў часавым вызначэнні. Апошняе відавочна нават у большай ступені.

Таму кніга і адкрываецца раздзелам, у якім прадстаўлены розныя па сваёй тэматыцы і змесце балады, а гэты жанр, як вядома, адкрывае перад кожным аўтарам, які бярэцца за яго, немалыя творчыя мажлівасці, бо тым самым дае магчымасць найлепшым чынам вызначыць (і раскрыць) сваё стаўленне да асобных найбольш важных падзей як мінулага, так і сучаснасці, падаўшы іх у арэоле гераічнага і рамантычнага, чаго і вымагае сам жанр. У аднолькавай ступені гэта тычыцца і канкрэтных гістарычных асоб, а таксама герояў, народжаных фальклорам. Балады В. Шніпа адметныя і тым, што ў іх прысутнічае нейкая самотлівая падсветка, як, дарэчы, і ва ўсёй кнізе.

Уяўляю сабе, колькі б крытычных стрэлаў было паслана ў паэта, калі б нешта падобнае напісалася ім у «добрыя старыя часы», а тым больш было выдадзена. Прызнаюся шчыра, і сам калі-нікалі не абыходзіўся без падобных папрокаў аўтарам, у тым ліку, здаецца, не прамінуў і В. Шніпа, засяроджваючы ўвагу на тым, што ў яго відавочны пэўныя матывы ясенінскай апатыі, змрочнасці.

У новай кнізе падобных матываў больш чым дастаткова, але цяпер гэта ўспрымаецца натуральна і ў падобнай чытацкай пераарыенціроўцы (маёй асабіста — не ў апошнюю чаргу) нічога дзіўнага. Мянецца час — мяняемся і мы.

«Беларускае мора» і цікавае, а значыць, і прыцягальнае тым, што ў гэтым зборніку паэт не баючыся прамаўляе набалелае і робіць гэта без аглядкі на тое, як усё будзе ўспрынята тымі, хто прытрымліваецца нейкай іншай пазіцыі. У дзённіку душы ягонага лірычнага героя спакваля ўзмацняюцца балюча-роспачныя матывы, і ён неўпрыкметку ператвараецца ў той бязлітасна выкрывальны маналог, у якім так балючага ад усведамлення таго, што не адпускае цябе ад сябе, а моцна трымаючы ў цісках, прымушае пастаянна вяртацца да асэнсавання і пераасэнсавання таго, што было, ёсць, тым самым перакідваючы кладку ў дзень заўтрашні, выявы якога, на жаль, пакуль вымалёўваюцца не такімі прыўкраснымі, як гэтага хацелася б.

Невыпадкова адзін з вершаў называецца «Сад вечнай самоты»:

Хочацца плакаць ад вечнай самоты,
Што разраслася пад небам маім.
З дрэў аблятае сухая лістота,
З вогнішча — іскры густыя і дым.

Ветру няўтульна ў пакінутым садзе,
Дрэвы старня, як вязні, стаяць.
Радасці мала даўно ў лістападзе
Хочацца нават пра гэта крычаць.

Моўчкі ў агонь падкідаю лістоту,
Дым самагубна ў аблокі плыве.
Густа травы набуяла ля плоту,
Вечна застацца пад плотам траве.

Сад я пакіну, вярнуся дахаты,
Толькі вяртанню ўсё ж буду не рад.
Будуць мне сніцца, як смерць, лістапады,
Будзе мне сніцца пакінуты сад.

Пакінуты сад — гэта (ва ўсякім разе мне так падаецца) і сама Беларусь, што па-ранейшаму знаходзіцца на гістарычных ростанях, шмат у чым гэтаксама, як і раней, пакутліва шукаючы той бераг, ля якога можна спыніцца назаўсёды. Але згаданы вобраз адсутнасці Радзімы ў Радзіме ў творчасці В. Шніпа ўсё ж успрымаецца не як безнайдзенасць.

Упэўненасці большае, калі паэт у сваіх баладах акідвае позіркам багатую нацыянальную даўніну, прыгадвае слаўных сыноў Бацькаўшчыны («Полацкая балада», «Балада Мірскага замка», «Балада Крэўскага замка», «Балада замка ў Лоску», «Балада Уладзіміра Караткевіча», «Балада Максіма Танка», «Балада Васіля Быкава» і іншыя творы). Але яна пакуль яшчэ не ўсёперамагальная і па-ранейшаму застаецца месца самоце, якая здольна перарасці ў адчай («Магчымая балада XXI стагоддзя»).

Было б, аднак, памылковым меркаваць, што ва ўсім гэтым сказваецца непастаянства лірычнага героя В. Шніпа. Тое, што адбываецца з ім, на маю думку, правільней ахарактарызаваць інакш. Не пра пастаянства ці не пра непастаянства неабходна разважаць, а пра тое, наколькі паэт, а значыць, і ягоны лірычны герой, умее заставацца самім сабой, а якраз ён і бачыцца такім чалавекам, які праз сумненні, ваганні імкнецца да выпрацоўкі ўласнай пазіцыі і такой арыенціроўкі прытрымліваецца пастаянна. Адбываецца характэрны для чалавека неардынарнага пошук сябе ў гэтым тлумным свеце і адначасова пошук самога ж сябе ў сабе. А гэта тое, што інакш, як дыялектыкай жыцця не назавеш. У дадзеным выпадку нярэдка ніяк не абысціся без нечаканых высноў, якія, аднак, калі лепей разабрацца, нічога нечаканага ў сабе і не нясуць, бо за імі — зноў жа само жыццё. У чымсьці непрадказальнае, у нечым сатканае з парадоксаў, але ўсё гэта не намі прыдумана і не нам яго адмаўляць:

Я люблю сяброў, што ўмеюць здрадзіць,
Быццам лёд на рэчцы веснавой
Праламацца, чорнаю вадой
Белы снег, нібы душу, запляміць
І застацца лёдам пад нагой.
……………………………………………
Я люблю, і гэта нават смешна,
Бы атруту з рук сяброўскіх п'ю,
Быццам неба, нібы шыбу, б'ю,
Каб даць волю думцы сумна-грэшнай
І прамовіць: «Я сяброў люблю...»

Неабыякавы В. Шніп і да касмічных матываў. Праўда, наблізіўся да іх не ў асобным вершы, зрабіў гэта неяк мімаходзь, але атрымалася надзіва хораша і вызначальна. Паэт як бы кідае позірк з калыскі свайго маленства, што справядліва ўспрымаецца ім часткай, няхай і малой, усяго Сусвету — той бязмежнай прасторы, якую не ахапіць позіркам, але якая становіцца куды больш зразумелай і блізкай, калі пастаянна памятаць аб сваёй назаўсёды дарагой і жаданай зямной прыстані:

Шчаслівыя людзі... Я з імі шчаслівы —
Гляджуся ў нябёсы і бачу ўначы
Не зоркі над намі, а спелыя нівы
І родную вёску сваю Пугачы.

Прысутнічае ў кнізе і шчырая споведзь лірычнага героя пра сваё каханне (найперш у прачулым, асабліва прасветленым цыкле «Санеты для Людмілы»). Адначасова адбываецца і паэтызацыя ўсяго таго, што пастаянна акружае цябе, складаючы частку твайго свету, які спадарожнічае табе ад жыцця да смерці. Гэта характэрна для заключнага раздзела кнігі з вершамі

«Неба», «Вада», «Дрэва», «Човен», «Яблык» і шмат якімі іншымі, напісанымі верлібрам, што сведчыць на карысць таго, што паэт не абмяжоўвае сябе рамкамі толькі традыцыйнай паэзіі, а ўпэўнена шукае новыя вобразнавыяўленчыя сродкі, пашыраючы саму форму, піша, а калі прыняць пад увагу мастацкі ўзровень напісанага, нельга не адзначыць высокага майстэрства аўтара, здатнага пераходзіць да значных абагульненняў і нечаканых параўнанняў, якія моцныя трываласцю сваёй асновы.

Як у вершы «Сячкарня»:

На ўтравелым двары сячкарня
Не хаваецца ад страху
Сама наводзіць страх
І кола сячкарні коціцца
Паміж мной і табою
І застаецца на месцы
Нібы ўраслае ў зямлю
І нажы іржавеюць
Калі няма саломы
На ўтравелым двары сячкарня
Нібы дваццатае стагоддзе

Дваццатае стагоддзе адышло, дваццаць першае стала рэальнасцю. Аднак яно, зразумела, не паспела зняць усе супярэчнасці, характэрныя для папярэдняга, дый наўрад ці магчыма гэта. Але яно ўсё ж прынесла з сабой спадзеў на лепшае. Таму і ладдзя самоты паэта ўпэўненей набліжаецца да таго берага, з якога адкрываюцца новыя, перспектыўныя абсягі. Разнасцежанасць іх асабліва відавочная, калі яшчэ мацней адчуваць сваю повязь з даўнінай, з якой і прарастае будучыня для чалавека неабыякавага і нацыянальнасвядомага:

Да Крэўскага замка травее дарога,
Па гэтай дарозе яшчэ мы ідзём
І будзем ісці, як з нябыту вяртацца,
І бачыць дарогу і сонца над ёй.
Хтось будзе — над намі зласліва смяцца,
Хтось будзе — спагаднай свяціцца слязой...

На такой аптымічстычнай ноце і хочацца завяршыць гаворку пра гэтую, далёка не аптымістычную па сваім гучанні кнігу В. Шніпа і, адзначаючы ўзрослае майстэрства яе аўтара, пажадаць яму надалей яшчэ больш патрабавальна ставіцца да выяўлення свайго таленту, што, як упэўніла не толькі «Беларускае мора», а і папярэднія ягоныя зборнікі, колькасць якіх хутка наблізіцца да дзесяці, мае вялікія патэнцыянальныя магчымасці. Хацелася б толькі пажадаць яму радзей, калі ў тым няма асаблівай неабходнасці, абыходзіцца без дзеяслоўных рыфмаў. Хоць гэта на сённяшні дзень недагляд не аднаго В. Шніпа.





СВЯТЛАНА ЯВАР

# У СВЕЦЕ ЗІХОТКІХ ЛЮСТЭРАК

*Куртаніч В. Залюстрэчча для Алісы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003.*

Ужо не ўпершыню чытаю гэту кніжку, а таму бачу ў ёй новыя дадатныя якасці — шчырасць аўтаркі, уменне пабудаваць сюжэт захапляльна і займальна, а таксама вытанчанасць вобразаў і мовы. Натхняла пісьменніцу творчасць яе калегі, англійскага аўтара Л. Кэрала («Прыгоды Алісы ў краіне цудаў». «Аліса ў Залюстрэччы»).

Сам матыў «люстэркавасці» выклікае пэўныя канкрэтныя асацыяцыі, паколькі спрадвеку люстэрка надзялялася магічнымі якасцямі, лічылася чарадзейным. Да таго ж, люстэрка ў нейкім сэнсе звязана з паняццем жыцця — бо, калі чалавек памірае, усе люстэркі ў хаце, як вядома, завешваюць.

Думаецца, станоўчае значэнне і назвы, і пафасу гэтай кнігі яшчэ і ў суаднесенасці лепшага і адмоўнага ў нашым быцці. Бо любое дадатнае абавязкова мае ў сабе рысы адмоўнага, і наадварот. І ніколі не бывае так, каб нечае жыццё складалася гладка і ўдала, як ні ў кога іншага. Праўда, у фальклоры пашыраны легенды пра тых, каму шанцуе пры ўсіх абставінах. Маўляў, ляжыць ён на печы, грэе плечы, а ягоная шчасная доля яго і там знайшла: пасыпаліся незлічоныя багацці, шматлікія ўдачы і поспехі.

Але казачкі пра Ямелю-дурня непапулярныя нават ужо і ў нашым грамадстве, разбэшчаным і сапсаваным дзесяцігоддзямі безадказнасці і спажывецтва. Цяпер усе ведаюць, што ніякае Залюстрэчча цябе не выратуе, калі адсутнічаюць якасці, патрэбныя для дасягнення поспеху, — працавітасць, сумленнасць, стараннасць і шмат чаго іншага.

Канечне, грамадства наша ўсё роўна застаецца бязбожніцкім, і ў цэлым яно не змагаецца за хрысціянскія каштоўнасці, за выключэннем асобных яго прадстаўнікоў. Толькі такімі антырэлігійнымі поглядамі, на маё меркаванне, можна вытлумачыць тое, што ў кнізе В. Куртаніч сустракаем выказванні кшталту: «Дзень шлюбу і дзень разводу аднолькава лёсаносныя. У першы — ты надурніцу ахвяруеш сабой, у другі — ты па шчаслівай выпадковасці атрымліваеш сябе назад». Так-то яно так, але частка людзей чамусьці жывуць разам па 50 гадоў і не разводзяцца. Цікава, чаму гэта ў іх няма падстаў для разводу?

Вось і ўся кніга В. Куртаніч пабудавана на аналагічных супярэчнасцях, нестыкоўках і інш. У гэтым, магчыма, і заключаецца сакрэт яе поспеху ў чытачоў.

Пісьменніца пазбягае даваць ацэнкі, некага хваліць або асуджаць. Гэтым таксама прываблівае яе кніга. Вабіць яна і тым, што ў ёй больш паказваецца, чым расказваецца. А значыць — адкрываецца прастора для асацыя-

тыўнага роздуму. Паводле жанру гэта «фэнтэзі», але рысы любоўных раманаў тут таксама прысутнічаюць.

У сваю кнігу «Залюстрэчча для Алісы» аўтарка ўключыла раман-парафраз з такой жа назвай, аповесці «Па вузкай дарозе ў цесную браму», «Распусніца, альбо Чырвоная Шапачка са Швальмштата», «Эдэм пачынаецца летам», п'есу «Ружы для чужога каханка», апавяданне «У прымрак самоты, у звабны адчай». Завяршае гэты пералік рэцэнзія на кнігу В. Куртаніч, напісаная нашым вядомым крытыкам І. Шауляковай, — «Траекторыя блуканняў — і супрацiўнага руху».

Трэба заўважыць, што пісьменніца адразу бярэ самую высокую планку, калі абвяшчае сябе «аўтаркай самага скандальнага твора сучаснай айчыннай літаратуры». У ім, як заўважае яна, спляліся ў адно «хрысціянства, іудаізм, містыка, эротыка, пачуцці і пачуццёвасць». Пісьменнік А. Федарэнка ў сваім водгуку на кнігу В. Куртаніч адзначае, што «беларускай літаратуры заўжды не хапала еўрапейскасці». Дзякуючы таленту Вольгі Куртаніч, наша нацыянальная проза становіцца еўрапейскай.

Эмоцыі, пачуццёвасць захопліваюць, як шквалісты вецер, і нясуць нас разам з гераіняй В. Куртаніч па-над зямлёю, насустрач усё новым і новым прыгодам і захапленням. Быццам бы сапраўдная Аліса з казкі Л. Карэла, гераіня доўга знаходзіцца ў стане нявызначанасці, неакрэсленасці: «Сёння раніцай, калі я ўстала, я гэта была ці не я?! Здаецца, ужо не зусім я!» Ці трэба казаць, што большасць людзей цвярозага розуму ніколі не трапляе ў падобны стан.

Асацыяцыі, параўнанні, вобразна-метафарычны свет, які то знікае, то зноў з'яўляецца недзе там, за Люстрам, — гэта заваrожвае і прыцягвае да сябе з нейкаю неадольнай сілай. У чым тут феномен, якімі сродкамі дасягаецца гэты эфект нечаканасці, паглыбленасці, загадкавасці? Хутчэй за ўсё, сакрэт гэтай таямніцы — у мастацкім таленце паэта, празаіка і драматурга В. Куртаніч. Яна жыве ў сваім «Залюстрэччы», можа, ужо шмат гадоў, ці не ад самага нараджэння. Глядзіцца ў люстэрка і бачыць там то адну, то другую жанчыну — вясёлую або сумную, маўклівую ці гаваркую, восеньскую ці летнюю, заклапочаную або радасную.

Таму кніга і ўражвае сваімі кантрастамі. Нас, як і гераіню В. Куртаніч, літаральна кідае то ў жар, то ў холад. Мы то ўзлятаем да вышыняў, то апускаемся на самае дно. Так адбываецца і з нашым жыццём, і гэта зусім натуральна і не патрабуе каментарыяў.

Пра што ж яна, новая кніга В. Куртаніч? Пра тое, як самотная жанчына сустракаецца з усё новымі і новымі прыгодамі, як з ёю адбываюцца розныя нечаканыя здарэнні — прыкрыя і шчаслівыя. Пра тое, як расстаюцца і зноў сыходзяцца каханкі. Пра чарадзейства любоўных пачуццяў і захапленняў. І ў рэшце рэшт — пра інтэлігентных людзей, якія ведаюць цану ўсяму, што яны сустракаюць на сваім жыццёвым шляху…

« —Калі табе кепска, заўжды еш скабкі, — сказаў Кароль, на ўсю моц працуючы сківіцамі. — Іншага такога сродку не адшукаеш». «Гармоніяй няправільнасці» называе адсутнасць пэўнасці ў прозе В. Куртаніч літаратурны крытык І. Шаулякова. Тут чытач знойдзе і раман гераіні не з кім-небудзь, а з самім шэфам («Усе гады сумеснай працы ён быў настолькі разважны і стрыманы, што ні разу не прапанаваў сябе ў якасці насоўкі, хоць зрэдчас у ягоным поглядзе лёгка чыталася спачуванне»), і каханне з маладым чалавекам Дзям'янам (« —Вы і зараз без трусікаў? — запытаў ён, інтымна нахіліўшыся. <…> Мне трэба было падняцца і сысці, але я чамусьці прашаптала: — Не, я ў абед купіла іншыя»).

«Багіням таксама пагражаюць вірусы»… Можна было б, канечне, папракнуць аўтарку ў залішняй гуллівасці, у прытворстве, фальшы і ненату-

ральнасці паводзін, створаных яе ўяўленнем герояў. Але ў той жа час разумееш, што тут няма і ценю фальшу, прытворства, — проста пісьменніца і сама жывае ў Залюстрэччы, і засяляе туды сваіх персанажаў.

Прыгадваю, як у дзяцінстве, асабліва ў час працяглых хвароб, адчуваючы сябе поўнасцю ізаляванай ад навакольнага свету, я зачытвалася ўзахлёб прыгодамі казачных герояў — Беласнежкі, Чырвонага Каптурыка, Бураціна і многіх-многіх іншых. Я жыла быццам бы недзе ў Залюстрэччы і вярталася адтуль дахаты толькі ў выключных выпадках. Той выдуманы казачны свет абуджаў маё ўяўленне, я любіла яго і ягоных насельнікаў. Яны, гэтыя героі, былі маімі сябрамі (тымі, якіх не было ў сапраўднасці). Дык чым жа вабіў мяне той «літаратурны» свет — свет дзіцячай літаратуры?

Відаць, тым, чым прываблівае і кніжка В. Куртаніч, — адсутнасцю нуднай павучальнасці, «правільнасці». Любоўю да фантазіі і фантастычнага. Павагай да ўяўлення чытача (чытач таксама — быццам «люстэрка» для пісьменніка, для твора), якое павінна працаваць, актывізавацца ў часе знаёмства з літаратурным творам.

Адчуваюцца і досвед журналісцкай працы, вопыт работы ў галіне публіцыстыкі. Адсюль выбар «актуальных» праблем і тэм: «Славянская душа не складаная, яна бяспечная, яе бунтоўная сутнасць не што іншае, як прыдумка прыгнечаных істот»; «Любіць адно аднаго — гэта пэўнасць, любіць сябе — зусім іншае; кахаць, прапускаючы праз сябе сваю душу, мары, памкненні, праз свой боль, нарэшце, — гэта выпрабаванне, амаль геаічны ўчынак». І ў кожнай фразе, у кожнай думцы — парадокс: «У гэтай краіне неадаптаваных сялянскіх мігрантаў, соцень тысяч мігрантаў з гнілой крывёй не можа быць багацця для дурніцы, камп'ютэрнай наборшчыцы».

Ды як бы там ні было, магчыма, да нашых праблем трэба было б ставіцца хаця б крышачку лягчэй, успрымаць іх як нескладаныя, а не ўскладняць яшчэ больш. Тады будуць аднолькава цікавымі і Люстра, і Залюстрэчча… Не ведаючы адмоўнага, не зможаш спасцігнуць і па належнаму ацаніць дадатнае. Вось пра што кніга В. Куртаніч. Сумна толькі, што ў жыцці нашым так мала Люстранога і так шмат Залюстрэчча. Ці гэта толькі здаецца мне — узгадаванай на «Алісе» Л. Кэрала?

Ва ўсякім разе, вобраз Запозненага мог з'явіцца толькі ў нашай краіне і ў нашай літаратуры. Сапраўды, хто такі Запознены? Той, хто позна паразумнеў і зрабіўся дарослым. Збаяўся адказнасці і збег ад яе. Боязь адказнасці — таксама злачынства. Яно досыць цяжкае, паколькі ніколі не даруецца сумленнем. Аднак жа ў нас Запозненаму многія чамусьці даруюць усё, бо ён для іх зрабіўся кумірам, ідэалам. Але ж сказана: «Не ствары сабе куміра», таму што потым пашкадуеш. Тыя, хто некалі паверыў Запозненаму, цяпер, канечне, шкадуюць — ён падманваў і працягвае падманваць сваіх заўзятараў.

Як бачым, у В. Куртаніч атрымаўся своеасаблівы кактэйль з палітыкі і сексу, казкі і… Бог ведае, чаго яшчэ. Чытаецца з захапленнем, часам з хваляваннем. А гэта ўжо сведчанне таго, што кніга адбылася.







## ВАЛЕР ЯТРОВІЧ

### ПРАБЛЕМА

Я знаю, я не здольны быць Дантэсам,
А значыць — на мяне расце Дантэс...

Яшчэ гуляе недзе мой Дантэс...

*Павел Вераб'ёў*

Яшчэ, відаць, са школьнай парты
Уцяміў я, хоць быў малым, —
Яны заўжды бывалі парай —
Паэт з праціўнікам сваім.

Чакаў праціўнік той цярпліва,
Калі настане зручны час,
І на дуэль імчаў імкліва,
І забіваў паэта ўраз.

У асяроддзі нашым цесна,
Усе за славаю бягуць.
Дык дзе ж набрацца тых Дантэсаў?
Хоць станавіся ты ў чаргу...

### РАЗВІТАННЕ

А дні лятуць, сціраюць крылы мне:
Нядоўгі век у пчолаў, у паэтаў...

*Сяргей Панізнік*

Як пагляджу на даўгалыгіх,
Амаль што голенькіх дзяўчат,
На дзецюкоў, што «гары» лыгнуць
І крыюць мат ды перамат,

Дык разумею, што дарэмна
Свае гады я марнаваў.
Жыццё пражыў зусім нікчэмна,
Не помню нават, што пісаў.

### ЗРАЗУМЕЎ!

Перахварэць бясплоддзем лепей,
Калі не родзіць у душы...

Па халтуры спраўляю хаўтуры...

*Мікола Трафімчук*

Было бясплодна у душы,
Ды гвалціў я сябе ў душы.
Я марыў горача найперш,
Каб нарадзіўся нейкі верш.

Затраціў я даволі сіл,
І Усявышняга прасіў.
Разоў мо сто я прапацеў,
Пабыць з Паэзіяй схацеў.

І зразумеў на дзень-другі:
Калі не можаш — «не магі».
І як не родзіць у душы,
Халтуру лепей не пішы.

## *МІКОЛА ТОНКІ*

### ДВА ПАЭТЫ

Адзін з натхненнем творыць бурным.
Другі — «выплёўвае» радкі.
Шкада, што гэтыя «пляўкі»
У друк трапляюць, а не ў урну.

### НЕ ПЕРАСТАРАЙСЯ

Шліфаваць радок паэт павінен,
Каб не стаў верш бразгалкай пустой.
Ды, бывае, толькі пілавінне
Застаецца ад шліфоўкі той.

### ПАРАДА

Ты, паэт, з пакутаю паплач,
Над паэмай галаву ламаючы,
Каб пасля не задрамаў чытач,
Мудрасць у радках тваіх шукаючы.

Нашы індэксы:
індывідуальны – 74985
ведамасны – 00141

**Чытайце ў наступным нумары:**

**Анатоль Грэкаў**
***Публіцыстыка***

**Ягор Конеў**
**АМЕРЫКАНСКАЯ ІДЫЛІЯ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ**
***Аповесць /пачатак/***

**Мар'ян Дукса**
**Віталь Гарановіч**
**Соф'я Шах**
***Вершы***

**Міхаіл Лермантаў**
***да 190-годдзя з дня нараджэння***
**/пераклад В. Жуковіча/**

**Васіль Старычонак**
**"Я ПАВЯДУ СВАЮ ХАДУ**
**ПРАЗ ПАЧУЦЦЁ, ЦЕРАЗ ЖЫЦЦЁ"**

ISSN 0130–8068